

Вясна, як заўсёды, прыносіць ажыўленне на будаўнічыя пляцоўкі. Сігнальшчыца Паша Трушнова на будаўніцтве інтэрната для студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта кіруе двума вежавымі кранамі.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

5 (75)

Май.

1959.

Год выдання VII.

У НУМАРЫ:



Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы $70 \times 108^{1}/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 9.200 экз. Цана 4 руб.
АТ 02790. Здадзена ў набор 1.IV.59 г. Падпісана да друку 5.V.59 г. Зак. 233.

Газетна-часопіснае выдавецтва, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.





Артур ВОЛЬСКІ

# ВЯСНОВЫЯ НАСТРОІ



Вясна, відаць, стамілася,
Крыху прыгрэўшы нас.
У хмары неба ўкрылася
Зусім не ў час.

Намок асфальт на вуліцы.
Што ж гэта будзе,
што ж? —
Са святам не стасуецца
Маркотны дождж.

Ды ўранку
Над сасоннікам,
Барвовым ад зары,
Ўзышло нарэшце сонейка
І паплыло ўгары.

Ты,
сонца,
маеш рацыю:
Плыві да нас,
свяці!
Бо як
на дэманстрацыю
Нам без цябе ісці?..

Хіба не бачыш,
ветлае,
Што мэта ў нас адна:
Каб радасная,
Светлая
Да ўсіх прышла вясна...

А вуліцы вясёлыя
Гарацъ у кумачы, —
Мы хочам
гэтым полымем
Вясне дапамагчы!

* * *



Растаў апошні след завей,
Зімой пакінуты ў ядлоўцы.
Сваёю песняй салавей
Не дасць зусім заснуць сяброўцы.

Усё прыціхла навакол.
А недзе спее навальніца,
І неба валіцца на дол,
Каб разам з ім нарэшце зліцца.

Скаціўся месяц з вышыні
І даў нырца ў ваду густую.
Там, дзе шалеюць акуні,
Ён сам да ранку нерастуе.

Плыве, плыве вясновы чад,
Настойным хмелем сэрцы поіць
І сарамлівы смех дзяўчат
Мяне таксама непакоіць.

І нават яблыні старой
На золку сніцца сон трывожны,
Нібыта ёй пчаліны рой
Нясе пылок на песцік кожны.

* * *



Я заўсёды радуюся маю —
сонцу ў небе,
хвалям на рацэ
і дзяўчыне гэтай,
што трымае
тонкую галінку
у руцэ.



Назнарок
спытаўся мімаходам,
як да нейкай вуліцы прайсці.
А самому
мне галінкі шкода,
што магла б
яшчэ сто год расці.

Першыя дрыготкія лісточкі,
ледзь ажыўшы,
пачалі ўжо тлець.
А ў дзяўчыны вочы —
аганёчкі,
Ім, гарэзным,
доўга не сталець.

Ёй насустрач
хлопец прыдзе сёння,
нечакана вымавіць:
— Люблю!..
І галінка
з цёплае далоні
выпадзе
пад ногі,
на зямлю.

... Кожны раз я радуюся маю,
як чамусьці новаму ў жыцці...
Ні адной
галінкі
не зламаю —
на зямлі павінна ўсё цвісці.

Іван **КАЛЕСНІК**

* * *



Пра бацькоў,
Што бой вялі упарта,
Помнім мы з юнацкае пары.
Толькі зараз
Нагадаць мне варта
Аб адным,
Харошыя сябры.

Вечарамі матчыны дакоры
Чуў не раз я:
— Верцішся ўюном!..
Я ж прасіў:
— Пра партызан Дукоры
Раскажы, матуля, перад сном.

Маці, быццам казку, пачынала
Песню-быль
Расказваць хлапчуку
І вяла,
Пакуль не засынала,
Палажыўшы рукі пад шчаку.

З тою быллю,
Даўняй і суровай,
Я выходзіў
У вялікі свет;
Раскладаў кастры каля дубровы
І збіраў густы ліповы цвет.

Ды вайна загрукала,
Над краем



Чорным распасцёрлася крылом.
Сцежка партызанская за гаем
Клікала пакінуць матчын дом.

Праз лясы,
Імглістыя азёры
Я пайшоў ад роднага сяла.
Быль пра мужных партызан Дукоры
На яву паўстала, ажыла.

Я нідзе яе не забываю,
Ні ў слаце, ні ў пыле бальшакоў,
Бо жыве ў ёй слава баявая,
Слава неўміручая бацькоў.

## КАЛІ ПРЫХОДЗІЦЬ МАЙ...



Ледзь дагарэлі раннія пралескі,
Зазелянелі паплавы, узлескі,
Ён к нам прышоў, расквеціў зноў зямлю,—
Цябе за гэта, май, люблю!

А вечарам пад вішняй ці рабінай
Смяецца хлопец з любаю дзяўчынай —
— Што ў сэрцы ёсць, пароўну падзялю...
Я за прызнанні май люблю!

За веснавую, зыркую маланку,
Што хмары кроіла ўсю ноч да ранку,
За водгулле грымот, што з радасцю лаўлю,—
Цябе бясконца, май, люблю!

За тое, што аселіцы на золку
Адбілі ў росах чыстую вясёлку,
Пчале адкрылі кветкі і чмялю, —
Цябе пяшчотна, май, люблю!

За тое, што жаўрук у небе звоніць,
Што баразну да сонца трактар гоніць,
Каб зерне падала з сяўні ў раллю, —
Цябе ад сэрца, май, люблю!



Мал. Л. Дубара.

Рыгор **НАБАТАЎ**

# ОБАЛЬСКАЯ АПОВЕСЦЬ

### Першае знаёмства

1

Фруза накінула на галаву цёплую хустку і выйшла на ганак. Наўкол, як згледзець вокам, усё было пакрыта свежым, пушыстым снегам.

Ужо колькі дзён ён падаў і падаў, зацярушваючы, здавалася, усё на свеце. А ўчора падняўся вецер, загудзеў, і закруціла мяцеліца.

Вецер, злосны і ўпарты, аж шалее, круцячы сняжынкі ў страшэннай завірусе...

Фруза самотна пазірала на вастраверхія, у рост чалавека, гурбы, што выраслі ля хат, на дарогу, якую яна магла цяпер толькі ўгадаць.

Снегу, колькі снегу!..

Аднавяскоўцы не вельмі рвуцца расчышчаць дарогі: баяцца — яшчэ наскочаць фашысты... Нават да вуліцы і то не ўсе разграбалі снег, адмятуць яго ад ганку — і годзе.

Фруза хвалявалася. А што, калі не прыдуць тыя, як дамоўлена?.. У такі час хіба каго лёгка выгнаць з хаты, ды яшчэ на холад? Няўжо ўсё можа сарвацца?

Яна збегла па сходках і зачэрпнула жменю снегу. Ой, які ён халодны! Стала церці рукі, грэць іх...

Нейк змяніўся настрой, аднекуль прыйшло супакаенне:

— Прыдуць, абавязкова прыдуць... — прашаптала яна.

Паправіўшы хустку, паднялася на ганак, абмяла венікам снег з валёнак і падалася ў хату.

Ужо шмат разоў дамаўлялася Фруза з сяброўкамі сабрацца, ды ўсё што-небудзь перашкодзіць: то ва Ушалы стала часцей з'яўляцца паліцыя, што забірала цёплую вопратку для гітлераўцаў, то вось непагадзь разгулялася.

Яны былі ўжо ўсё падрыхтавалі, заставалася толькі падаць вестку хлопцам у суседнія вёскі, як нечакана знік галоўны Фрузін памочнік — брат Мікалай, рухавы і разумны хлопец, з такімі ж, як у сястры, светла-зялёнымі вачыма. На правай шчацэ ў яго ледзь прыкметны шрамок — памяць свавольнага дзяцінства.

Яшчэ раней Фруза стала заўважаць, што брат возьме ды і знікне з дому. Але пройдзе якія два-тры дні, ён зноў з'явіцца, паціху, нібы нічога і не адбылося.

— Дзе ты прападаў, разбойнік? — спытала яна аднойчы.

— Як дзе? У сяброў, вядома.

Мікалай працаваў да вайны трактарыстам, і ўсюды ў яго былі таварышы.

Ён моўчкі глянуў на сястру, затым прапанаваў:

— Хочаш, я раскажу табе адну навіну?

І Мікалай расказаў пра тое, што ён бачыў сваімі вачыма ў вёсках, якія былі кіламетраў за пяць-шэсць ад Ушалаў.

— Кузьму Лаўрэнцева ведаеш? З Лявонава што. Ён крыху накульгвае. Дык вось... Уляцела да яго ў хату салдатня. Абабралі начыста. Нават Аўдоцін фартух і той панеслі. Кузьма як закрычыць: «Грабіцелі!..» Фашысты, вядома, раззлаваліся, рынуліся на яго, падабралі пад сябе. Іх чацвёра, а ён адзін і ўсё крычыць: «Грабіцелі вы!..» Моцны чалавек, праўда?

— Моцны, гэта так... — адказала Фруза і задумалася. — Людзі цяпер не схіляюць галаву. Змагаюцца.

Калі Фруза гаварыла так, яна не магла і падумаць пра тое, што здарыцца з яе братам праз некалькі дзён. Яна толькі выказала ўголас тое, што можа быць даўно ўжо накіпела на душы і нарэшце ўзяло ды вырвалася. Яна не чакала, што брат з яе слоў зробіць такі вывад. А ён узяў ды і пайшоў у партызаны.

Фруза яшчэ ніколі не была такой адзінокай. Брату яна давярала ўсё. Дзялілася патаемнымі думкамі, марамі. З кім жа цяпер пагаварыць пра іх? Каму расказаць, што робіцца на душы? Хіба маці? Толькі не ёй. Яна не зразумее. Яшчэ крычаць пачне. Мо' схадзіць да сяброўкі, Марыі Дзяменцевай? Але што тая магла сказаць? Вось каб усім разам сабрацца ды пагаварыць пра ўсё, смела, не баючыся.

Рашэнне прыйшло неяк само: сабраць вячоркі.

За некалькі дзён перад гэтай мяцеліцай да Фрузы прыйшла былая суседка, сямікласніца Валя Шашкова. У светлым бярэціку, з-пад якога выбіваліся кудзеркі.

— Добры вечар! — галасок у Валі быў звонкі, задорны.

— А-а... Вечар добры, весялуха... Што, засумавала? Нешта цябе і відаць не было?

Маці Фрузы, якая цыравала ля печы панчоху, неяк уся насцеражылася, падалася ўперад. Цяжка было зразумець, задаволена яна прыходам «весялухі» ці не.

Пасля таго, як Мікалай падаўся ў партызаны, Марфа Аляксандраўна старалася ўсяляк берагчы дачку, каб, божа барані, тая пад чым-небудзь уплывам не зрабіла тое самае.



— Добры вечар, добры вечар... — ветліва сустрэў Валю Фрузін бацька, Савелі Міхайлавіч, шыракаплечы, мажны мужчына год пад пяцьдзесят, з вялікімі рукамі рабочага: ён шмат год працаваў на торфазаводзе. Седзячы ля сцяны, Савелі падшываў валёнак.

Валя прайшла ля яго і спынілася побач з Фрузай. Промні вячэрняга сонца ружовілі іх твары.

— Я так рада, што ты прыйшла, — пачала Фруза. — Мне трэба з табой пра нешта такое пагутарыць...

— Са мной? Пра што?

— Як ты думаеш, калі сабраць вячоркі, як тады вунь, памятаеш?

— Ой, Фрузка, як добра!.. Як гэта добра... А то ўсё адны і адны... Цяжка зносіць... — у голасе Валі адчуваўся сум.

— А як ты думаеш, дзяўчаты згодзяцца?

— Ой, Фрузка, чаму ж не?.. Каму не ахвота павесяліцца... Няўжо ты яшчэ сумняваешся?

— Не... Але ж цяпер час ведаеш які... Надумаеш адно, а выйдзе зусім другое. — Фруза ўздыхнула. — Хоць бы гадзінку якую-небудзь разам. Спяем, а мо' і патанцуем. А хлопцы, як думаеш, прыдуць?

— Во, нашы, ушалаўскія, абавязкова, — упэўнена сказала Валя. — Хлебам іх не кармі, а дай патанцаваць. Пра обальскіх не скажу. Далекавата, ды і мяцеліца вось круціць.

— Добра, Валька. Давай мы гэтак зробім. Ты схадзі да Езавітавых у Зуі. А я падамся ў Масцішча, да Мані Дзяменцевай. Скажаш тым, што мы чакаем у нядзелю. Па вёсцы гэта хутка разляціцца.

Валя ўстрапянулася.

— А пра галоўнае я дык і не спытала. Дзе ж будзем збірацца?

Фруза забылася, што размова вялася пры бацьках, і выпаліла:

— Самая большая хата наша. У нас!

Марфа Аляксандраўна пры гэтым сярдзіта зірнула на дачку:

— Знайшлася гаспадыня распараджацца. Не, дзевачкі, толькі не ў нас... На мяне вунь і так пальцам тыцкаюць: «Дзе твой Мікалай?»

— Дык мы ж, мама, вячоркі надумалі... — старалася яе супакоіць Фруза.

— Заві гэта, як хочаш, ворагу ўсё адно. Ён не дурань, яго не абманеш...— Марфа Аляксандраўна выцерла вільготныя ад слёз вочы ражком хусткі. — Не дай божа, здарыцца з табой, дачка, што-небудзь, не перажыву...

А Фруза стаяла за сваё:

— Кажу, нічога не здарыцца і ўсё. Мы ж будзем толькі спяваць, ну, танцаваць, адным словам, вечарынку наладзім. Хіба гэта каму забаронена?

Марфа Аляксандраўна добра ведала характар дачкі і разумела, што перашкодзіць ёй амаль нельга, але ў той жа час неяк хацела стаць упоперак дарогі, сэрца так падказвала.

Зірнуўшы на мужа, які ў гэты час яшчэ спрытней стаў корпацца ў валёнку, Марфа са злосцю спытала:

— А ты чаго маўчыш? Ці твая хата з краю?.. Знайшоўся хітрун. Маўчыць. Бацька ты ёй ці не?

Яна, напэўна, доўга б яшчэ ўпікала мужа, каб той, махнуўшы рукой, не перапыніў яе:

— Ды адчапіся ты, Марфа! Прыліпла, як смала. Чуеш, што справу парашылі ўжо. А чаго нам умешвацца, перашкаджаць. — Ён лагодна зірнуў на дачку, маўляў, хай будзе па-твойму, і, уздыхнуўшы, дадаў: — Вось і ўся гаворка.

Фруза падышла да яго, прыхінулася да пляча. Яна ведала, што бацька яе падтрымае.

Марфа, нічога не сказаўшы, прытулілася спіною да печы і яшчэ больш заўзята пачала цыраваць панчоху.

## 2

Вечарам Фруза сустракала хлопцаў, што прыходзілі па аднаму, а то і гуртам. Многіх, што з далёкіх вёсак, яна ледзь пазнавала.

— Федзька?.. Ты глядзі, як вырас... — гаварыла яна, звяртаючыся да каржакаватага, круталобага хлопца ў кепцы, якая хутчэй нагадвала блін.

— Ды і ты, Фрузка, змянілася быццам...

— У лепшы бок?

— Вядома, — адказаў Федзя, разглядваючы па-святочнаму апранутую дзяўчыну.

Фруза была ў сіняй шарсцяной спадніцы складачкамі, у каляровай крэпдэшынавай кофце з моднай брошкай. Цёмна-русыя локаны акуратна прыцісkaліся з двух бакоў прыколкамі, і лоб выдаваў таму вельмі высокім.

— Але, ужо скора тры гады, як мы не бачыліся, — уздыхнуў Федзя. — А помніш, Фрузка, я праводзіў цябе? Ты тады ў Віцебск у ФЗН ад'язджала...

Дзяўчына не паспела яму адказаць. У дзвярах з'явіўся малады чалавек сярэдняга росту, у кароткім кажушку, у галіфэ колеру хакі і высокіх ботах.

— Дзяўчаты!.. Сустракайце самага лепшага кавалера... Гэта ж Валодзька Езавітаў, першы танцор у обальскай акрузе!.. — так рэкамендавала Фруза новага госця з вёскі Зуі, што каля станцыі Обаль.

Валодзя, прывітаўшыся з усімі за руку, спакойна прайшоў на другую палавіну хаты, дзе хлопцы і дзяўчаты сядзелі на лавах і, відаць, чакалі пачатку вечарынкі.

У гэты час Фруза са словамі: «Манечка!.. Дарагая!..» кінулася насустрач новай сяброўцы, і яны тут жа на парозе абняліся і моцна пацалаваліся. Толькі хацелі пайсці да ўсіх, як зноў адчыніліся дзверы.

— Добры вечар, гаспадыня... Прывітанне ўсёй кампаніі!.. — весела кінуў з парога малады хлопец, з крыху дзявочым тварам. — Ён працягнуў Фрузе руку, тая памкнулася прывітацца, але ў гэты час з-за яго спіны выглянула зусім маленькая дзяўчынка з дзвюма кароткімі, закінутымі наперад касічкамі. Яна з цікавасцю разглядала Фрузу і ветліва ёй усміхалася.

— Прымай госця... — хлопец прапусціў дзяўчыну наперад.

— Зіна... — яна першай назвала сваё імя.

— Фруза... — гаспадыня сённяшняга вечара паціснула кароткія, шорсткія пальцы дзяўчынкі, пасля доўга разглядала яе моўчкі. Фрузе падабалася ў ёй усё: і светла-блакітныя вочы пад густымі вейкамі, і ямачкі на шчоках, і даверлівая, крыху сарамлівая ўсмешка. А Зіна глядзела на Фрузу і думала: «Жэнька не дарма расхвальваў яе... Вочы якія... Гарэзлівыя, цёплыя...»



Калі Фруза прывяла гасцей на другую палавіну хаты, Фёдар Слышанкоў ужо канчаў апавядаць пра нешта цікавае.

— Я яго, значыць, на лапаткі. Ударыў раз... А ён, зараза, здачы дае. Эх, думаю, гад!.. Мала табе Федзька ўсыпаў... Ды трэсь яму ў вісок — і хана! Заўважце, і гэта пры маім хворым сэрцы.

Хлопцы гучна рагаталі. Смяяліся і дзяўчаты.

— Шкада, спазніліся, — засмуцілася Зіна. — А што ж яшчэ будзе?.. — дзяўчынка першы раз трапіла на вячоркі і не магла ўтаіць сваёй цікаўнасці.

Валя Шашкова памылялася, калі запэўняла Фрузу, што ўшалаўскіх хлопцаў хлебам не кармі, а дай патанцаваць. Пра танцы нешта ніхто і не думаў.

Фруза нават пачала сарамаціць хлопцаў:

— Чаго вы седзіцё, бы мухамораў наеўшыся? Танцуйце!

Але ахвотнікаў не знаходзілася, і мусіць таму, што не было гарманіста. А пад гітару якія могуць быць танцы?.. Асабліва гэта падкрэсліваў Валодзя.

— А я нават люблю пад гітару, — запярэчыў Фёдар Слышанкоў.— Ведаеш, спакайней, больш рытмічна.

Ён з сур'ёзным выглядам выйшаў на сярэдзіну пакоя і зрабіў некалькі крокаў.

— Не звяртай увагі на яго, Фруза, ён у нас з гадоў вырас. Амаль дзед... — хіхікнуў нехта з хлопцаў.

— Ну-ну... Не пляці абы чаго, — агрызнуўся Слышанкоў, пачырванеўшы. — Бо...

— Супакойся, Фёдар, — Фруза па-сяброўску паклала яму руку на плячо. — Схадзі лепш пакуры...

Фруза стала разглядаць прысутных. Яе позірк спыніўся на дзяўчыне з тоўстай касой і блакітнай стужкай у ёй. Упарты падбародак у яе выдаваўся крыху ўперад. Гэта была латышка Ніна Азоліна. Без Ніны не адбывалася ні адна вечарынка. Яна добра іграла на гітары, спявала. Голас у яе быў не моцны, але мяккі, прыемны.

Фруза падышла да Ніны, села побач. Нічога не сказала, але па аднаму яе позірку Ніна зразумела, што трэба павесяліць моладзь.

«Добра», — адказала яна таксама вачыма і ўзяла гітару. Хата напоўнілася гучнымі пераборамі.

Ніна заспявала, змоўклі хлопцы і дзяўчаты. Стаіўшы дыханне, слухалі песню пра тое, як «за ракой пеў салавей...»

У песні было нешта сумнае, было і вясёлае, што ўзнімала настрой.

Раптам Ніна змоўкла, але ніхто не азваўся. Усе чакалі нечага яшчэ. І тут Ніна, злёгку крануўшы струны, заспявала сваю любімую:

«Орлёнок, орлёнок, взлети выше солнца...»

Спачатку зусім ціха, затым усё гучней і гучней пела Азоліна. Голас яе мацнеў, набіраўся сілы, а гітара гаманіла, як бурлівы паток. Песню падхапілі. Яна загучала магутна, упэўнена.

Даўно так не спявала моладзь.

Калі закончылася песня, Фруза падсела да Зіны.

— Ну як, спадабалася?

— Але ж!.. У цябе гэтак добра... — Зіна ўскінула вочы. — Я вельмі люблю пець. І ведаеш, што я люблю яшчэ? Іграць у спектаклях. — Дзяўчынка загаварыла цішэй. — Я ж выступала ў школьным спектаклі «Чырвонае і блакітнае». Запытайся ў Лёні. Ты ведаеш Лёню?

— Не, не ведаю.

— Гэта мой стрыечны брат. З Ленінграда.

— А сама ты адкуль?

— Адтуль жа. Жыву за Нарвскай заставай. Чула пра яе? — І, не дачакаўшыся адказу, прадаўжала: — І тата, і мама ў Ленінградзе. Працуюць. Вярней, працавалі там да вайны, а цяпер — не ведаю. Там жа блакада. — Зіна заціхла на момант. — Я, разумееш, прыехала да бабулі і засталася тут. Ты ведаеш маю бабулю? Ефрасіння Іванаўна, Яблыкава. У Зуях жыве.

— Ведаю, ведаю, чаму ж не, — ёй усё больш і больш падабалася гэта дзяўчынка з кароткімі косамі.

У жыцці бывае і так. Сустрэнеш чалавека ўпершыню, пагутарыш і адразу неяк сыйдзешся з ім, стане ён табе блізкім, патрэбным.

— Ведаеш, Зінка, — сказала Фруза, — давай сябраваць?..

— Добра... — згадзілася Зіна.

— А ў наступную нядзелю прыдзеш?

— У гэту, што будзе? — спытала Зіна, штосьці прыпамінаючы. — Я, відаць, у нядзелю пайду з Жэняй у Клеччына. Там таксама збіраюцца. Толькі не ў хаце, як у цябе, а ў калгасным клубе.

Вечар бег неўзаметку. Неўзабаве да хлопцаў падышоў Савелі Міхайлавіч.

— Ну, сыны, павесяліліся трохі, пагаманілі, а цяпер час і дадому. А то, ведаеце, паліцаі п'яныя і ноччу, бывае, шнырають па вёсках. Чаго добрага, падстрэляць яшчэ каторага. Яны ж, сабакі, гатовы смаліць па кожным...

## 3

Канца-краю няма беларускім лясам. Яны цягнуцца на сотні кіламетраў у любым кірунку.

Вёска, дзе жыла Фруза, падыходзіла да самага лесу, дзе раслі невялікія елачкі ўперамешку з бярозамі. Туды, далей за імі, узвышаліся магутныя сосны, нават дубы і ясені. Гэта пачыналіся обальскія і шашанскія лясы, якія цягнуліся па левы бок чыгункі, што вяла з Віцебска на Полацк, і злучаліся з Каз'янскімі.

У тую ноч, калі моладзь сабралася ў хату Саўкі на вечарынку, па занесеных снегам дарогах ад лініі фронта рухалася Каз'янскім лесам да дома аб'ездчыка невялікая група людзей.

Наперадзе, правальваючыся ў снег, крочыў чалавек у афіцэрскім шынялі, у цяжкіх ботах, з невялікім рэчавым мяшком за плячыма. Ён часта спыняўся, прыслухоўваўся, разам з ім, як па камандзе, спыняліся і яго сябры.

— Далёка яшчэ, Барыс Кірылавіч? — паціху пыталіся ззаду.

Ён, не паварочваючыся, адказваў:



— Хутка, за павароткай.

Неўзабаве з цемені выглянуў домік аб'ездчыка. Барыс Кірылавіч, падышоўшы, тры разы ціхенька пастукаў у акно. У сенцах затупалі. Бразнула засаўка, нібы затвор вінтоўкі. З сянец выйшаў гаспадар, пажылы мужчына, у бялізне і валёнках.

Спачатку ён прыглядаўся моўчкі да тых, што прышлі, затым, звяртаючыся да чалавека ў афіцэрскім шынялі, сказаў:

— Заходзьце, людзі добрыя, пагрэйцеся...

— Дзякую, бацька, — сказаў Барыс Кірылавіч і, атросшы з вопраткі снег, першы ступіў у сенцы...

Праз колькі часу ў хату з воблакамі пары ўваліўся рослы мужчына ў кароткай ватоўцы, у ботах. Калі ён здароўкаўся з кожным, дык доўга ўглядаўся ў твар. Паціскаючы руку Барысу Кірылавічу, ён радасна ўсміхнуўся:

— Увесь, як маці...

Сакратар Сіроцінскага падпольнага райкома партыі Антон Уладзіміравіч Сіпко доўгі час працаваў старшынёй райвыканкома, і яго ўсе ведалі. Ён быў добра знаёмы з бацькам Маркіянава, старшынёй аднаго з лепшых калгасаў у раёне. Сустракаўся ён да вайны і з Барысам Кірылавічам, слухаў не раз яго на сходах раённага актыву.

— Ну, таварыш Маркіянаў, дакладвай! — сказаў Сіпко і, выцягнуўшы з кішэні блакноцік велічынёю з запалкавы карабок, падрыхтаваўся запісваць. — Дык з чым прышлі?

Маркіянаў хацеў ужо быў пачынаць расказ, як нечаканы выпадак рассмяшыў усіх.

Пад сталом ляжаў сабачка. Убачыўшы многа чужых ног, ён спачатку завурчэў, затым ускочыў на лаву, з лавы на стол, ды як забрэша на ўсю хату.

— Гэта што яшчэ за падпольшчык? — здзівіўся Сіпко.

А сабачка аж заходзіўся. Прышлося паклікаць гаспадара.

Варта было лесніку крыкнуць з парога: «Цыц, Шарык!», як сабачка змоўк і, падцяўшы хвост, пацяснуўся ў вугал.

— Ну і Шарык... Напалохаў дык напалохаў, — смяяўся Антон Уладзіміравіч, выціраючы ад смеху слёзы. — А цяпер давай, таварыш Маркіянаў... — і ён яшчэ раз паглядзеў у той бок, дзе прыціх і насцярожыўся Шарык.

— Прыбылі мы па спецыяльнаму заданню, Антон Уладзіміравіч,— Маркіянаў дастаў з планшэта канверт і падаў яго Сіпку. — З палітупраўлення. Тут пра ўсё сказана.

Сіпко падступіўся бліжэй да лямпы, прыўзняў калматыя бровы і пачаў чытаць.

— Так-так, — гаварыў ён пасля, барабанячы пальцамі па стале. — Аператыўная група. Падмацаванне нам. Добра... — твар яго на хвіліну прасвятлеў, заіскрыліся вочы, затым зноў сталі суровымі, праніклівымі.

— У пісьме гаворыцца пра баявыя дзеянні. А з кім іх будзеце праводзіць? Людзі ў вас ёсць?

— Вядома, — падняўся малады хлопец год дваццаці, член аператыўнай групы. — Людзі ў лесе.

— Дзе, дзе?

— У лесе...

Маркіянаў штурхануў яго локцем, але ўжо было позна.

— У лесе... — іранічна ўсміхнуўся Сіпко. — А што робіцца ў нас, ведаеце?

І тут Антон Уладзіміравіч расказаў пра абставіны ў раёне.

— Вы прышлі, таварышы, у самы цяжкі час. Не буду таіць ад вас — хуткае прасоўванне фашысцкіх войск і адступленне нашай арміі пасеяла сярод некаторай часткі насельніцтва нашага раёна трывогу. У лесе людзей вельмі мала. Не хапае зброі, боепрыпасаў. Трэба фарміраваць атрады. Вось тут вы нам можаце моцна памагчы.

— А чым іменна? — спытаў Маркіянаў.

— Калі мы думаем па-сапраўднаму весці народную вайну ў тыле ворага, трэба звязацца з людзьмі, сабраць іх. Раскажыце людзям, што партыя з імі. — Сіпко абвёў усіх позіркам і прадаўжаў: — Трэба, каб раён быў наш. Хто наша апора? Савецкія людзі. Асабліва моладзь. Так, так. Моладзь — наш галоўны рэзерв. З яе трэба і пачынаць.

Маркіянаў памкнуўся пра нешта спытаць, але Антон Уладзіміравіч жэстам перапыніў яго.

— А дзейнічаць ёсць дзе, — Сіпко сказаў гэта ціха, як бы самому сабе. — Паглядзіце сюды. — Ён расхінуў акуратна складзеную карту, абвёў каляровым алоўкам невялікі ўчастак, які ўключаў пяць-шэсць населеных пунктаў каля Обалі. — Тут у фашыстаў моцныя гарнізоны. На гэтай тэрыторыі — вельмі важная для ворага, я б сказаў, артэрыя, нават дзве: чыгунка і аўтастрада. А наўкол Обалі — заводы, патрэбныя фронту, электрастанцыя, чыгуначная станцыя. Гэта — ваенныя аб'екты, і фашысты моцна іх вартуюць. Відаць, наша задача будзе такой,— Сіпко як бы чаканіў кожную фразу,— пранікнуць у Клеччына, Обаль, у вёскі Ушалы, Масціўшча, Зуі. Наладзіць сувязь з рабочымі, калгаснікамі, моладдзю. Падняць іх на барацьбу. Добра было б стварыць падпольную камсамольскую арганізацыю.

Маркіянаў падняўся.

— Я хачу спытаць...

— Калі ласка. Для гэтага мы і сустрэліся тут. Усё трэба высветліць да канца. Ніякай недагаворанасці... Калі мы яшчэ ўбачымся вось так адзін-на-адзін, хто ведае...

— Я магу ведаць два-тры прозвішчы? Для сувязі.

— Можна будзе.

Антон Уладзіміравіч назваў некалькі імён надзейных людзей, што засталіся ў падполлі, расказаў, як з імі сустрэцца.

— Ага, чуць было не забыўся. Наш сувязны Іван Яблыкаў перадаў, што ва Ушалах, Клеччыне і іншых вёсках моладзь часта збіраецца на вечарынкі. Цягне хлопцаў пабыць разам. Вось там і пазнаёміцца можна з многімі.

Сіпко папярэдзіў членаў апературнай групы, што дзейнічаць трэба асцярожна, каб не выклікаць ніякага падазрэння. Паклаўшы на стол аловак, які дагэтуль увесь час трымаў у руках, ён некаторы час моўчкі разглядваў карту. Потым закурыў і, павярнуўшыся да членаў групы, спытаў:

— Калі прыступіце да работы?

Прысутныя, відаць, не чакалі такога пытання. Перахапіўшы разгублены позірк члена групы Цімафея Нікіценкі, Маркіянаў адказаў:

— Калі трэба, хоць заўтра.

— Вось гэта па-дзелавому, правільна. Ну, таварышы, жадаю вам поспехаў. Аб ходзе работы інфармуйце мяне праз сувязных. — І як бы просячы прабачэння, дадаў: — Мне трэба заглянуць яшчэ ў адно месца.



Сіпко падняўся, развітаўся і, злёгку прыгнуўшы галаву, выйшаў з хаты. Яго рослая постаць хутка расплылася ў перадранішняй імгле.

## Няпрошаныя госці

### 1

Неўзабаве домік аб'ездчыка пакінуў і Маркіянаў са сваімі спадарожнікамі.

Ішлі лесам у кірунку вёскі Клеччына, прабіраліся хмызнякамі. Маркіянаў зьнячэўку крануў адну нізкую яловую галінку, і снег сыпнуў аж за каўнер.

— Бр-р-р...

У вышыні свяціў месяц, бледна-бледна, і ад гэтага рабілася яшчэ больш холадна.

Лес без канца; дрымучы лес. Нават таму, хто тут бываў не раз, лёгка заблудзіцца. Не відно ніякай дарогі, усё зраўняла снегам.

З кірунку збіваліся два разы. Першы раз выйшлі да возера, якога на карце не было. Абагнуўшы яго, наткнуліся на чыгунку. Другі раз ледзь было не напароліся на варожую засаду. Добра, што здалёк заўважылі агеньчыкі ад папярос. Неасцярожныя салдаты смела курылі ўначы.

Ішлі паціху, часта спыняліся. Халодны вецер кідаў у твар жмені снегу. Было зябка. Холад дабіраўся да спіны яшчэ таму, што вораг быў тут, побач, і на яго можна знянацку наскочыць...

Толькі на золку дасяглі мэты, змораныя, не чуючы пад сабою ног.

Лес парадзеў, і хутка паказалася Клеччына.

Угледзеўшы на ўскрайку хату з агародчыкам, падарожнікі звярнулі да яе па сцяжынцы. Тут жыў Мірон Кузьміч Малашонак, калгасны брыгадзір.

Спакойны, не схільны да гутаркі, ураўнаважаны, ён быў пакінуты партыйнай арганізацыяй для работы ў падполлі. У яго хаце і пасяліўся спачатку Маркіянаў, так яму параіў сакратар падпольнага райкома.

Сіпко гаварыў тады Барысу Кірылавічу:

— З Кузьмічом трымайся адкрыта. Гэты не падвядзе. Убачыш Анюту, перадай ад мяне паклон...

«Хто такая?» Незнаёмае імя ўразіла было Маркіянава. Ён не ведаў, што Малашонак не меў жонкі, а Анюта была яго дачка, смуглае шаснаццацігадовае дзяўчо, з чорнымі, як у цыганкі, вачыма. Анюта не была падобна на бацьку. Непаседлівая і вясёлая, яна цэлымі днямі недзе прападала, а вечарамі прыносіла бацьку розныя навіны. Мірон Кузьміч не на жарт празваў яе «апошнімі паведамленнямі».

Маркіянаў хацеў аднойчы даведацца, куды яна знікае, дзе бывае, але Анюта, усміхнуўшыся, коратка асекла:

— Будзеш, дзядзька, многа знаць, хутка старым станеш...

Але навінамі з ім яна дзялілася ахвотна. Прыдзе ад сябровак, сядзе побач і пачне расказваць, каго з Клеччына і з другіх вёсак фашысты пагналі ў Нямеччыну, з кім, непакорлівым, учынілі адразу расправу. Расказвае, а ў самой слёзы на вачах.

Аднойчы вечарам, падышоўшы да Маркіянава, Анюта ціха сказала:

— А ў нас у клубе сход будзе...

— Які?— недаверліва спытаў Маркіянаў.— Хто збіраецца?

— Маладзёжны. А нашто? Прыходзьце, даведаецеся... — павярнулася і паволі адышлася.

«З моладзі і пачынаць», — прыпомніліся раптам Маркіянаву словы сакратара райкома.

— Ну што ж, Антон Уладзіміравіч, пачнем, — сказаў ён уголас. — Пачнем. Нам не ўпершыню.

Да вайны Маркіянаў быў сакратаром камсамольскай арганізацыі Обальскай сярэдняй школы. Не раз даводзілася яму кіраваць сходамі моладзі. Тады ён зусім не хваляваўся. А цяпер не можа сябе стрымаць. Чаму гэта? Мо' адвык?

Барыс Кірылавіч парашыў наведаць вечарам клуб не адзін, а з таварышамі. Дамовіліся так: пры выпадку Маркіянаў спрабуе звярнуцца да моладзі з кароткім словам.

Калі Маркіянаў і яго таварышы зайшлі ў памяшканне, на іх ніхто не звярнуў увагі: моладзь танцавала.

— Глядзі... Даюць дыхту!. — штурхануў Маркіянава локцем Аляксей Люцікаў, малады хлопец.

Маркіянаў толькі ўсміхнуўся. Яго адразу ж неяк захапіў той спакой, што панаваў тут, сярод маладых вяскоўцаў.

Апəратыўнікі адразу разышліся ў розныя куткі, каб не быць у кучы і не кідацца ўсім у вочы. Але адзін з хлопцаў усё-такі адразу пазнаў Маркіянава. Гэта быў Валодзя Езавітаў.

Калі скончыўся вальс, Валодзя паклікаў да сябе Яўгена, таксама Езавітава, і шапнуў таму:

— У нас Маркіянаў!

Яўген утаропіўся на яго, нічога не разумеючы.

— Які Маркіянаў?

— Паглядзі вунь туды, у куток. Памятаеш сакратара нашага, Барыса?..

Яўген стаў уважліва разглядаць маладога чалавека, што сядзеў цяпер непадалёку. Лямпа асвятляла таму твар. Яўген заўважыў паўваенны гарнітур і новыя валёнкі.

— Цікава, адкуль ён з'явіўся? Федзька, ідзі сюды! — паклікаў ён Слышанкова, што сядзеў побач з Зінай Партновай недалёка ад музыканта. — Бачыш у кутку ваеннага? Пазнаеш?

Слышанкоў зморшчыў лоб.

— Дык гэта ж наш камсамольскі сакратар. Вось якая арыфметыка... А што ён тут мае рабіць? Давай спытаем.

Валодзя прытрымаў яго за рукаў.

— Пачакай! А мо' ён сам па справе прышоў?

— Што пляцеш! Якая тут справа? Проста так.

Маркіянаў таксама пазнаў былых школьных таварышаў, але не падаваў выгляду і перасеў бліжэй да Люцікава.



Да Яўгена падышла Зіна.

— Пра што вы шапталіся?

— Таварыш па школе наш з'явіўся. Ты яго не ведаеш. Вунь сядзіць...

Зіна абыякава паглядзела на Маркіянава. Ён ёй нічым не кідаўся ў вочы.

А Маркіянаў, як і ўсе аперірупаўцы, нічым не выдаваў сябе. Сядзеў, прыглядаўся. Разы два падыходзіла да яго Анюта, старалася загаварыць, але твар таго быў суровы, строгі, і яна таксама зрабіла выгляд, што незнаёма з ім.

У перапынку паміж танцамі Маркіянаў выйшаў і стаў пасярод хаты.

— Таварышы! Хвіліну ўвагі...

Хлопцы і дзяўчаты насцеражыліся. Яны даўно ўжо не чулі слова «таварыш» ад чужых людзей. А гэты так смела іх называе...

Маркіянаў гаварыў спакойна:

— Я хачу павіншаваць вас, сябры, з перамогай! З вялікай радасцю! Пад Масквой разбіты фашысцкія арміі...

Прысутныя лавілі кожнае слова. Гэта ж немцаў разбілі. Тыя цэлымі суткамі крычаць у эфіры, што ўзялі Маскву, што фюрару адчынены вароты ў Крэмль... А тут — разгром!.. Ды які яшчэ!..

Калі Маркіянаў прывёў у прыклад лічбу: восемдзесят пяць тысяч забітых фашыстаў, пачуліся воклічы:

— Так ім і трэба!

А Маркіянаў гаварыў і гаварыў. Упэўнена, гучна, цвёрда.

— Таварышы! Справа толькі пачалася. Вораг паранены, але не дабіты. А недабіты можа ачуняць. Дык давайце ж біць фашыстаў так, каб ім нідзе не было спакою, каб хутчэй вызваліць усе нашы гарады і вёскі...

У гэты момант у хату ўляцелі паліцэйскія, закрычаўшы яшчэ з парога:

— Што за зборышча?!.

— Хто дазволіў?!.

— Р-р-ра-а-зыйдзіся!..

Але ніхто не скрануўся з месца.

Маркіянаў прадаўжаў гаварыць, як бы нічога і не адбылося. Яго спакой перадаўся і другім. Кароткую інфармацыю аб становішчы на фронце ён закончыў заклікам:

— Блізка, таварышы, час, калі наша Беларусь стане свабоднай. І тады кожнага з нас спытаюць: «А што ты зрабіў, чым памог разбіць ворага?..»

У хаце ўсталявалася такая цішыня, што быў чуваць кожны шорах. Усе чакалі, што будзе далей. Паліцыянты ў парозе перашэптваліся між сабой, відаць, не рызыкавалі сунуцца далей.

Анюта хацела, каб чым-небудзь памагчы прамоўцу, і, вышаўшы на сярэдзіну хаты, стала побач з ім.

А голас Барыса Маркіянава грымеў на ўвесь клуб:

— Рыхтуйцеся, таварышы! Блізка вясна. Хутка зазелянее лес. Мы чакаем вас там. Мы...

Ля дзвярэй вылаяўся п'яны паліцыянт:

— А ну, выходзь па аднаму! Паглядзім, хто тут у лес агітуе!

Моладзь захвалявалася. Дзве дзяўчыны, відаць, палахлівыя, кінуліся на выхад. Валодзя, Яўген, Фёдар і Зіна падышлі да Маркіянава.

— Памагчы вам трэба, — сказаў Валодзя, вітаючыся з ім за руку.
— Айда за мной! — прапанаваў Фёдар Слышанкоў. Ён адвёў Маркіянава да акна і сказаў: — Зараз разаб'ю... Бяжы!
— Дзякуй, Федзя! — адказаў Маркіянаў. — Але мне нельга ўцякаць. Што скажуць тады хлопцы? «Балбатаць ён мастак, а як туга прышлося, — драпануў. Баязлівец...»
Яны вярнуліся ад акна да сваіх.
Да Маркіянава праз натоўп праціснуліся члены аператыўнай групы. Люцікаў спытаў:
— Што? Дадзім бой? Іх усяго трое. П'янаватыя...
— Раззброіць... І без бою... — Маркіянаў рашуча падаўся да выхаду. — За мной!
У дзвярах паліцаі, лаючыся, выганялі з клуба хлопцаў. Слышанкоў схапіўся з паліцыянтам, які штурхнуў яго. Вочы ў Федзі сталі злоснымі і калючымі, шапка ссунулася аж на патыліцу.
— Ну, ты лягчэй, бо як суну!..
— Чаго вочы вытрашчыў? — асклабіўся паліцай. — Праходзь жвавей, не затрымлівай!
Крутнуўшыся, Слышанкоў раптам схапіў паліцая за грудзі...
— Ціхоненка! Селезень! Сюды! — закрычаў той перапалохана.
— Не крычы, хлопец! Не натужвайся! Пячонка лопне... — Слышанкоў страсянуў паліцая яшчэ раз.
На выручку спяшалі двое другіх паліцаяў. Маркіянаў з таварышамі выкарысталі гэтую замінку. Прарваўшыся да выхаду, яны скамандавалі:
— Рукі ўгору!
Паліцаі ўраз працверазіліся. Убачыўшы дулы пісталетаў і раззлаваныя твары, яны зразумелі, што літасці не будзе.
Люцікаў адабраў у іх карабіны.
— А што будзем рабіць з гэтымі? — спытаў Маркіянаў.
Хвілін колькі ўсе маўчалі.
— Што ж, сядайце. Народ вас судзіць будзе, — загаварыў Маркіянаў абяззброеным паліцаям. Тыя стаялі, нізка апусціўшы галовы.
На сярэдзіну вынеслі лаву. Паліцыянты селі. Расказалі па чарзе, як фашысты наймалі іх на службу.
— Казалі нам, што мы будзем склады вартаваць, мы і пайшлі, — апраўдваліся паліцыянты.
— А кім вы сталі? Здраднікамі! — падкрэсліў Люцікаў.
— Мы нікога не выдавалі, спытайце ў хлопцаў...
— Гэта праўда, — пацвердзіла Анюта. — Яны нашы, клеччынскія. Нікога не зачапілі.
— Праўда́, таварышы? — звярнуўся да моладзі Маркіянаў.
— Анюта не маніць. — хорам адказала некалькі галасоў.
— Што ж, добра. Але што вы скажаце ў апраўданне яшчэ? — спытаў паліцыянтаў Маркіянаў.
Усе трое далі слова, што служыць фашыстам больш не будуць. Маркіянаў папярэдзіў няпрошаных гасцей:
— Ідзіце і запомніце: трапіцеся яшчэ — не прасіце літасці.
Зіна, не разабраўшыся, відаць, у тым, што адбываецца, шэптам спытала ў Яўгена:
— А за што ім даравалі? Яны ж паслугачы.
— Так трэба. Цяпер яны ў нашых руках. — Яўген сказаў гэта такім тонам, нібы Маркіянаў дзяліўся з ім сваімі планамі і меркаваннямі.



Развітаўшыся з усімі, Маркіянаў і яго таварышы выйшлі на вуліцу. Пастаялі крыху, закурылі і паціху накіраваліся да доміка на ўскрайку.
Пазней стала вядома, што тыя трое паліцыянтаў перайшлі да партызан.

## 2

Непадалёку ад Клеччына, за бальшаком, была вёска Масцішча. Гутарачы з Аляксеем Люцікавым, Маркіянаў пашкадаваў, што з гэтай вёскай няма сувязі, а там жа жывуць многія яго школьныя сябры.
— Дык у чым замінка? — спытаў Люцікаў. — Узяў ды працягнуў туды нітку...
— Дзіўны ты, Алёша, — паківаў галавою Маркіянаў. — Думаеш, гэта проста?..
— Мне толькі скажы. Я заўсёды гатовы наладзіць з імі сувязь... — і Люцікаў адсалютаваў па-піянерску.
Праз некалькі дзён, яны з'явіліся вечарам да ўдавы Антаніны Антонаўны Лузгіной. Маленькая, худзенькая, але гаваркая, Лузгіна сустрэла іх вельмі радасна.
— Добры дзень, — усміхнулася яна Маркіянаву, бо ведала таго некалі яшчэ вучнем. Ходзячы ў Обаль у старэйшыя класы, Маркіянаў пражыў тры гады ў Масцішчах, па суседству з Лузгіной.
Антаніна Антонаўна зварыла бульбы, падала на стол солі.
— Не крыўдуйце, чым багаты, тым і рады.
— Дзякуем. Цяпер і бульба ласунак...
Маркіянаў і Люцікаў селі за стол. Яны ўсё ж такі прагаладаліся.
— Эх, сынкі... Абабралі нас ворагі, як ліпку...
Пакуль Маркіянаў апавядаў гаспадыні пра лёс яго бацькоў і знаёмых, Люцікаў разглядаў розныя рэчы, якімі быў застаўлены камод.
Амаль без скрыпу адчыніліся дзверы, і ў хату разам з холадам убегла расчырванелая на марозе дзяўчына год семнаццаці, у кароткім кажушку і валёнках — дачка гаспадыні.
Пазнаўшы Маркіянава, яна ўзрадавалася:
— Барыс!.. Адкуль? А я думала, што ты на фронце.
Яна памятала Барыса як сакратара школьнай камсамольскай арганізацыі і ніяк не магла ўявіць, што той можа аказацца не на фронце.
— А няўжо тут не фронт, Марыя? — Маркіянаў глядзеў ёй проста ў вочы, шэрыя, з блакітам.
— Як табе сказаць?.. — яна адчула ніякаватасць, бо ўбачыла, як схуднеў Барыс. У яго нават кругі пад вачыма. І дадала: — У лесе, вядома, фронт...
— Ну вось... Знаёмся. Мой сябар, Аляксей, — паказаў Маркіянаў у бок Люцікава. — З ім можаш гаварыць пра ўсё. Свой. Ну, сядай з намі. Раскажы, як жывеш.
Марыя правяла гасцей на другую палавіну хаты, бо не хацела пра многае гаварыць у прысутнасці маці.
— Як жыву? Як гарох пры дарозе... Ды правaліліся б яны ўсе да аднаго... Каб магла, я б іх... — дзяўчына не закончыла сваёй думкі і невыразна махнула рукой.

— Адным энтузіязмам іх не возьмеш. Падмацаваць яго трэба чым-небудзь... важкім, — сказаў Люцікаў.

— А чым іменна? — Марыя прыкінулася, што нічога не разумее.

Люцікаў перш, чым адказаць, зірнуў на Маркіянава і, відаць, заўважыўшы, што той такой жа думкі, смела сказаў:

— Зброяй! Разумееш? Зброяй! Нам, як паветра, патрэбны цяпер вінтоўкі, патроны, ды і другое што-небудзь згадзілася б.

Марыя маўчала колькі хвілін і ні пра што не распытвала. Яна ўжо ведала, адкуль і чаго прышоў у Масцішча Маркіянаў, той самы Барыс Маркіянаў, чые камсамольскія даручэнні яна так ахвотна выконвала ў школе. «А няўжо цяпер я не магу яму памагчы?»

— Ведаеце, што я вам скажу, — звярнулася да сваіх гасцей Марыя. — Я дам вам... Я вам дам... кулямёт.

Калі б Маркіянаву і Люцікаву ў гэты момант сказалі, што іх акружылі немцы, яны б, мусіць, так не здзівіліся. Жарты сказаць: кулямёт!

Дзяўчына заўважыла, якое ўражанне зрабіла на гасцей яе прапанова, і зразумела: ёй не даюць веры.

— Думаеце, я жартавала? Апранайцеся тады. Пойдзем са мной.

Марыя прывяла іх гародамі да хлява. Там у кутку была навалена куча саломы. Пад саломай стаяла скрынка — уверх дном, а пад ёй — чысценькі, афарбаваны ў ахоўны колер кулямёт. Маркіянаў нагнуўся і ўважліва агледзеў яго: ні адной драпінкі, ні адной плямкі.

— Дзякуй, Марыя. Вялікае дзякуй! — Маркіянаў моцна пацiснуў ёй руку.

Скрынку зноў перавярнулі ўверх дном і завалілі саломай.

Вярнуўшыся ў хату, Маркіянаў пацікавіўся:

— А дзе ж ты яго здабыла?

— Купіла.

— Ну, не жартуй, Марыя...

— А вось слухайце.

І дзяўчына расказала пра тое, як у яе апынуўся кулямёт.

Калі адступалі савецкія войскі, ля хаты Лузгіных спынілася грузавая машына. Кончылася гаручае. З кабіны тады выскачылі двое: лейтэнант і шафёр.

— Разгружайся! Не марудзь! — загадаў лейтэнант. — Немцы блізка...

— А як з машынай? — спытаў шафёр, са смуткам глянуўшы на паўтаратонку, разумеючы, што з ёй прышла пара расстацца.

— Вельмі проста. Спаліць! Не пакідаць жа ворагу.

Шафёр адчыніў левы борт і крыкнуў параненаму байцу, што сядзеў ля станкавага кулямёта:

— Цімох, дай руку, памагу злезці.

— Я то сам злезу, — адказаў баец, падсунуўшыся на край кузава. — Пааажы вось гэтую штучку зняць.

— Таварыш лейтэнант, а дзе мы яго дзенем? — у нерашучасці стаяў шафёр ля знятага з машыны кулямёта.

І тут, убачыўшы Лузгіну, лейтэнант спытаў:

— Скажы, дзяўчына, ці ёсць дзе паблізу рэчка?

— Да рэчкі ад нас далёка...

— А студня дзе будзе?





— А вось побач, праз хату.

— Утапіць яго ў студні! — загадаў лейтэнант.

Марыя моўчкі назірала за гэтым. І тут у яе з'явілася думка.

— Аддайце мне. У нас ёсць камсамольцы. Схаваем, што сам чорт не знойдзе.

Лейтэнант завагаўся, але думаць яму, відаць, не было калі, і ён махнуў рукой:

— Забірай! Толькі хутчэй.

Лейтэнант і салдаты спяшаліся. На бліжэйшым узлеску рваліся снарады і недзе там трашчалі аўтаматы.

Разам з Марыяй яны занеслі кулямёт у хлеў і схавалі ў салому...

Выслухаўшы Марыю, Маркіянаў задумаўся: як перакінуць кулямёт у партызанскую зону. Пад крысо не схаваеш, гэта ж не абрэз...

А ці магла б ты, Марыя, дастаць дзе каня? На дваццаць чацвёртае лютага. Я ў гэты дзень буду ў Масцішчах.

— А дзе ж я яго вазьму? Нашага даўно забралі, — уздыхнула дзяўчына.

— Схадзі да Уладзіміра Лузгіна. Ён дасць. Скажы, што авечку купляць паедзеш, і што стары казаў...

Гэта быў пароль. Па тону, якім ён быў сказаны, дзяўчына пераканалася, што госці маюць сувязь з партызанамі.

24 лютага раніцай конь шпарка імчаў да Заходняй Дзвіны шырокія сані, набітыя сенам. Пад ім быў схаваны кулямёт. Разам з Марыяй ехаў і Барыс Маркіянаў.

Дарога была ўезджаная, і розвальні лёгка парыпвалі палазамі. Стаяў ціхі марозны ранак.

Мінулі вёску. Раптам Марыя, уся збялеўшы, схапіла Барыса за руку.

— Суціш каня!

Насустрач нёсся, бы на крылах, раскідваючы капытамі камякі снегу, шэры ў яблыках рысак.

— Сатана едзе... — шапнула дзяўчына.

Маркіянаў не зразумеў:

— Што, што? Які сатана?

— Экерт... — уздыхнула Марыя.

Маркіянаў сцішыў каня, уступаючы дарогу начальніку обальскай паліцыі.

— Параўняўшыся з ім, Экерт нацягнуў лейцы:

— Тпру-у-у... Сто-о-й!

Было відаць, што ён выпіў. Марыю пазнаў адразу, як толькі павярнуў у яе бок свой азызлы твар:

— О-о-о... Люзгіна! Куды так рана? — Экерт размаўляў з латышскім акцэнтам.

Ён ведаў не толькі Марыю, але і ўсю іхнюю сям'ю, бываў не раз у іх доме.

— Па авечку еду, пан начальнік, — весела адказала яна, ледзь стрымліваючы дрыжыкі.

Экерт правёў мутнымі вачыма Маркіянава:

— Хто гэта?

— Мой жаніх. З Чарнячонак...

— А-а-а... жаніх, — працягнуў Экерт задаволена. — На вяселле паклічаш?

— Абавязкова, пан начальнік. Майце ласку... Ну, паехалі! — штурханула яна Маркіянава.

Экерт у гэты час тузануў лейцамі, і яго рысак рвануў з месца ў галоп.

— Маладзец, Марыя! Добра ў цябе атрымалася. А я ўжо ўсяго чакаў. — Барыс выняў руку з кішэні, дзе ляжаў пісталет, і азірнуўся назад.

— Супакойся. Экерт ужо далёка.

— Ёсць такая прымаўка: бойся сабакі спераду, каня — ззаду, а дурнога чалавека — з усіх бакоў...

## Дзяўчына з косамі

### 1

Зіна сядзела ля акна, падпёршы шчаку рукою, і глядзела, як пасля заходу сонца цямнела далёкае пунсовае неба.

Пагасла вячэрняя зара. Апусцела вуліца ў Зуях. Ні душы.

Зіна ведала, чаму ўсе пахаваліся, як мышы ў норы. Праз дарогу, якраз насупраць бабчынай хаты, на свірне вісела аб'ява. Кожнае слова ў ёй ведалі ў Зуях усе — старыя і малыя.

«Хто з'явіцца на вуліцы без пропуска каменданта пасля заходу сонца — смерць, перад заходам сонца — таксама смерць».

Выйдзі, пакажыся туды ў такую пору!..



У небе засвяціліся зоркі — вялікія, яркія. Вось адна адарвалася і, прамільгнуўшы, знікла ў цёмнай бездані недзе ў кірунку станцыі.

Цішыню парушыў гудок, востры, несціханы. Было чуваць, як цяжка задыхаў паравоз, напомніўшы Зіне пра яе ад'езд з Ленінграда.

Здарылася гэта восем месяцаў назад. На вакзал прыйшлі бацькі, аднакласнікі. Яе і маленькую сястрычку Галю праводзілі на летнія канікулы ў Ваўкавыск да цёткі Ірыны. Цётчын муж працаваў там на чыгунцы.

Вясёлыя сяброўкі смяяліся, жартавалі, падносілі падарункі. Хто кнігу, хто хустачку, а хто каляровыя адкрыткі.

— Бяры, Зіначка! На памяць.

Перад самым адыходам цягніка з рэпрадуктара данеслася песня: «Любімы горад». Зіна тады падхапіла песню, а маці чамусьці заплакала.

— Чаго ты, мама? — зашаптала Зіна, прытуліўшыся да маці. — Я ж не назусім. Паглядзі на мяне. Я ж не плачу. Прашу цябе, усміхніся... Ну, любая... Вось так...

І Анна Ісакаўна ўсміхнулася скрозь слёзы.

Вось і пара падняцца ў вагон.

Зіна хуценька абняла маці, развіталася з усімі і лёгка ўскочыла на падножку.

— Не сумуй, мамачка! Бывайце, дзевачкі!..

Перон застаўся ззаду, а яна ўсё стаяла на пляцоўцы вагона і махала рукой:

— Бывайце, родныя!.. Бывай, любімы горад!..

Восем месяцаў бацькі нічога не ведаюць пра яе і Галю.

«Яны мо' думаюць, што мы даўно загінулі»... — дзяўчына ўздыхнула. Яна не пачула, як хтось падышоў да яе. Адчуўшы на плячы нейчую руку, яна ўздрыгнула. Перад ёй стаяў дзядзька Іван. Высокі, хударлявы. Твар у яго скуласты. Позірк калючы, строгі. Як і пляменніца, ён прыехаў у пачатку чэрвеня ў Беларусь на адпачынак, і тут, у Зуях, яго застала вайна. Дагэтуль ён працаваў на Кіраўскім заводзе ў Ленінградзе.

— Што? Не спіцца? — ціха спытаў ён, сеўшы побач. — А ноч якая прыгожая, га?.. Зоркі так і мігцяць...

Зіна моўчкі глядзела ў акно.

— Усё марыш?

— А чаму і не? Люблю памарыць.

— Пра што?

— Пра дом усё. Як там цяпер?

Немцы распускалі чуткі, што Ленінград удалося акружыць, што жыхары яго памерлі з голаду. На душы ў дзяўчыны было неспакойна.

— Не сумуй, Зіна. Ад гэтага лепш не стане. Папомні маё слова: ленінградцы вытрымаюць, абавязкова. Бачылі яны на вяку не гэта... — Памаўчаўшы, ён дадаў: — Шкада, што ты не ведаеш таго...

— Памыляешся, дзядзька! — у яе голасе была крыўда. — Тата мне пра ўсё расказваў. І пра голад і пра тое, як да Пулкава падышоў быў Юдзеніч і як яго разбілі...

— А пра пуцілаўскі браняпоезд?

— Таксама ведаю. Пра яго мне расказаў не тата, а кранаўшчык Пётр Зянькоў, што з медніцкай майстэрні. Ты яго ведаеш?

— Але ж... Працавалі разам. Разумны хлопец, гаваркі, слухай толькі.

— У нас, на Балтыйскай, — прадаўжала Зіна, — сабралася аднойчы кампанія: тата, кранаўшчык Зянькоў і Коля Шпакаў. Сядзелі позна. Мама прыняла ўжо і закуску са стала, а яны і не кратаюцца. Спрачаюцца, гарачацца. Тут я як накінуся на іх: «Ды хопіць вам! Хоць бы пра цікавае што-небудзь, а то ўсё пра цэх...»Тата паглядзеў на мяне сярдзіта. Ён яшчэ не бачыў ніколі, каб я была такая злосная. «Ты чаго, дурненькая?»—пытае. А я яму ў адказ: «Сорам мне, тата, перад сяброўкамі. Ты трыццаць гадоў працуеш на Кіраўскім, а што я ведаю пра вашых герояў? Пра каго з іх я магу напісаць сачыненне?» Зянькоў з бацькам пераглянуліся. Зянькоў і гаворыць мне: «Хочаш, Зіначка, я раскажу табе пра браняпоезд «Чырвоны пуцілавец»?» «Вядома, хачу. Раскажыце, дзядзька Пеця»... Назаўтра ў нашым VI «Б» было сачыненне...

— Цікава, што ён табе расказваў?

— Не перабівай, а то я забываюся... Было гэта на фронце. Браняпоезд прарываўся да сваіх. Белыя замініравалі пуць. Што рабіць? Байцы нічога не маглі прыдумаць. Але знайшоўся сярод іх адзін чалавек. Смелы такі быў. Папоўз па снезе і зняў з рэек міны. Раніла яго ў грудзі, але ён выжыў. Ты ведаеш, хто гэта?

— Газа, — адказаў дзядзька Іван. — Я яго ведаў. Ён быў сакратаром парткома нашага Кіраўскага. З душой чалавек. Стары бальшавік.

— І тата мне гэта казаў. Сачыненне нават раіў пра яго напісаць.

— І ты напісала?

— А як жа? На выдатна, — горда сказала Зіна.

Гутарка Зіны з дзядзькам Іванам, напэўна, зацягнулася б, калі б бабка не гукнула з печы:

— Хопіць вам гаманіць ноччу. Спаць пара!

## 2

Зіна пасля гэтай гутаркі доўга не магла заснуць, варочалася на ложку з боку на бок. Перад яе вачыма ўзнікалі карціны нядаўняга мінулага.

...Урачыстая лінейка. Зіну прымаюць у піянеры. Перад строем аднакласнікаў ёй павязваюць чырвоны гальштук. Хвалюючыся, яна дае клятву быць вернай справе бацькоў, справе Леніна. Хіба гэта забудзеш?

Хутка ляціць час! Вось яна ў VI «Б». Побач з ёй за партай — Нюра Цярэшына. «Ведаеш, Зінка, — казала яна, — мне вельмі падабаецца твой сіненькі халацік з беленькім каўнерыкам. Ён так табе да твару». Нюра не ведала, што гэта мама сама пашыла Зіне такі халацік. Яшчэ Нюра гаварыла тады, што ёй падабаюцца Зініны косы з чырвонымі стужачкамі. Нават смешна цяпер гэта...

Зіна ў сёмым класе. Тады ёй было спачатку сумна, бо ў VI «Б» засталася яе любімая настаўніца Анна Пятроўна Татарэнка. Але пасля і там з'явіліся новыя сябры, любімыя настаўнікі. Зіна потым паступіла ў гурток мастацкай самадзейнасці пры Палацы культуры. Спявала, чытала вершы. На раённым аглядзе атрымала прэмію за лепшае выкананне ролі ў спектаклі «Чырвонае і блакітнае».



А дома Зіна сама наладжвала выступленні свайго лялечнага тэатра. Яна была і кіраўніком і выканаўцам. Збіралася глядзець дзетвара з усяго калідора і нават з другіх кватэр.

Светлы, утульны пакой на Балтыйскай. Зіна памятае яго такім, якім пакінула сёмага чэрвеня сорак першага года, у дзень ад'езду. Калі выходзіш з яго — направа Галін ложачак. Побач — канапа. Тут спала яна, Зіна. Ля акна стаяў невысокі столік. Гэта яе, Зінін. На ім ляжалі падручнікі, сшыткі і дзённік вучаніцы 385-й школы Кіраўскага раёна. Стаялі яшчэ на ім кветкі, ляжалі парожнія каробкі з-пад цукерак: Зіна любіла салодкае...

Пасярод стала — бюст Уладзіміра Ільіча. Гэта — прэмія за рэкорд у лыжных спаборніцтвах. Зіна была ў школе лепшай спартсменкай. Над сталом вісела пахвальная грамата за выдатныя поспехі і прыкладныя паводзіны. Гэта за сёмы клас, які яна скончыла сёлетняй вясной.

Добра і весела было ў пакоі, калі лілося святло з-пад залацістага абажура...

Зіна ўспамінала мінулае і ніяк не магла заснуць. Побач спала Галечка, скруціўшыся ў клубочак. Зіна папраўляла і папраўляла хустку, якой была накрыта сястрычка, а тая ўсміхалася некаму праз сон...

Зінінай бабцы Ефрасінні Іванаўне Яблыкавай за тыдзень да прыходу гітлераўцаў прапанавалі эвакуіравацца з вёскі, але яна адмовілася.

— Паеду — дык усіх пагубляю. А так, глядзі, усе мае птушаняты ў родным гняздзе...

Ефрасіння Іванаўна мела падставу.

Першым з'явіўся і застаўся дома сын Іван. А пазней да яе нечакана ўваліліся Зіна з Галяй, цётка Ірына з двума сынамі — Лёнем і Колем.

Вайна застала іх у Ваўкавыску. Адтуль яны шмат дзён прабіраліся праз Оршу і Віцебск у Зуі, да бабкі. Прыйшлі змораныя, запыленыя, з уцалелымі клункамі.

Ефрасіння Іванаўна ні пра што ў іх не распытвала. Яна радавалася гасцям, збілася з ног, частуючы іх, і такая стала рухавая, аж нельга было паверыць, што ёй восемдзесят шэсць год. Яна была яшчэ моцнай і сама ўпраўлялася з гаспадаркай.

— Ешце, родныя, ешце. Хопіць у нас і самім, і гасцям. Ды адпачніце, а пасля — лазню выпалю...

А ўжо на трэці дзень Зіна пачала заўважаць, што да дзядзькі Івана прыходзіць вельмі многа незнаёмых. Ні з кім яны не размаўлялі, апрача дзядзькі, і стараліся гэта рабіць непрыкметна.

«Што гэта за людзі? — не магла дадумацца яна. — У каго спытаць? Хіба ў малых? Яны могуць ведаць».

Зіна аднойчы спытала ў свайго дзесяцігадовага брата Колі:

— Не ведаеш, хто гэта?

— Чаму ж, ведаю...

— Хто?

— Прыйшлі з лесу, вось хто.

— Праўда?

— Буду яшчэ маніць табе, — пакрыўдзіўся Коля. — Сам чуў, як дзядзька Іван упамінаў Шашанскі лес. Адтуль яны і прыйшлі.

Госці былі ў другім пакоі. «Што ж яны там робяць?» Зіна зірнула праз шчыліну ў перагародцы.

Адзін з іх, маладзейшы, круглатвары і падстрыжаны пад вожыка, штосьці гаварыў дзядзьку Івану. Другі, старэйшы, сядзеў зусім нерухома, выставіўшы ўперад сваю залацістую бараду. Ён глядзеў на дзядзьку Івана і як бы тлумачыў: «Слухай майго таварыша. Ён хоць і спяшаецца, але добра гаворыць».

Вось круглатвары дастаў з кішэні невялікі скрутак і перадаў яго дзядзьку. Той, сціснуўшы скрутак двума вялікімі пальцамі — з фінскай вайны ў яго засталіся толькі вялікія пальцы, астатнія былі ампутыраваны — занёс паперы ў куток і схаваў за куфар.

Зіна, выглянуўшы, хацела была загаварыць з незнаёмымі, але яе апярэдзілі Галя і Коля, якія ўбеглі ў другі пакой.

— Здрасце! — зазвінеў голас Галачкі. — Вы адкуль, дзядзечка?

— Здалёку, дачушка... — ласкава адгукнуўся маладзейшы, той, што стрыжаны пад вожыка.

— Можа з Ленінграда?

— Не, дзяўчынка, бліжэй... Але ўсё адно не ўбачыш адгэтуль...

Зіна падышла і вывела сястрычку з пакоя.

Галя надзьмула вусны. Яна пакрыўдзілася, што ніхто не заўважае, як ёй сумна без мамы. Нават дзядзька Іван і Зіна. Толькі адзін Коля спачувае ёй: яна ўжо даўно яму адкрыла тайну, што збіраецца пайсці да маці ў Ленінград пехатой.

## 3

Зіна не чула, як у акно пастукалі аж тры разы. Дзядзька Іван хуценька ўскочыў, — ён спаў на падлозе, — накінуў на плечы паліто, надзеў валёнкі і паспяшаў у сенцы.

— Асцярожна, Барыс, не зачапі малых, разбудзіш...

Той, каго клікалі Барысам, распрануўся і лёг на падлозе разам з дзядзькам.

Зноў усё сціхла, і стала чуваць, як на печы храпла бабка.

Ужо зусім развіднела, калі нечаканы стук у дзверы і ўладны голас «Адчыняй!» паднялі ў хаце ўсіх на ногі.

— Немцы! — спалохана і глуха прагаварыла бабка і, перахрысціўшыся, стала злазіць з печы.

Усе прытаіліся і чакалі. Прыціхла і Галечка, якая спачатку была заплакала. Цётка Ірына спалохана глядзела на дзядзьку Івана і на таго, што прыйшоў ноччу. Яна, мусіць, ведала, хто гэта і адкуль.

Хвалявалася і Зіна. Яна пазнала Маркіянава і падумала, што гітлераўцы рвуцца ў хату, каб схапіць яго.

«Хто ж мог данесці?»

— За мяне не бойцеся, — спакойна сказаў Маркіянаў, ідучы з дзядзькам у другі пакой.

Затрашчалі дзверы пад ударам чагосьці цяжкага.



У хату ўскочыла чацвёра салдат з каратканогім тоўстым яфрэйтарам.

Ён трос паперай, на якой штосьці было напісана, і крычаў на ламанай рускай мове, звяртаючыся да бабкі:

— Чаму не аткрываль? Загад камманданцій знаеш? Дзе малько? Мільх?

— Не ўмею я чытаць, пан, — шаптала дрыжачымі вуснамі Ефрасіння Іванаўна. — Адкуль мне ведаць твой загад? — павярнуўшыся да дачкі, яна папрасіла: — Паглядзі, Ірыша, што там намалявана.

Цётка Іра не паспела і крануцца з месца, як Зіна ўжо была побач з яфрэйтарам і, задзёршы галаву, чытала:

«Загад камманданцій!

Кожны, каторы ў сябе ёсць адна карова, здай у сем гадзін адзін гаршчок з малако, здай у восем гадзін шклянку смятана.

Або ўсё здай акурат, або вашу карову забірайць.

Камманданцій».

Унізе была прыпіска: «Спяшыць прыносіць хутка».

Яфрэйтар з пагардай паглядзеў на прысутных і загадаў:

— Забірайць карову!

Тыя кінуліся выконваць загад.

— Стойце, што вы робіце? — закрычала Зіна.

Яфрэйтар піхнуў яе ў спіну, і яна адляцела да сцяны.

Накінуўшы на сябе, што трапілася пад рукі, на двор павыскоквалі бабка, Ірына і дзеці.

Салдаты выводзілі з хлява карову.

Ефрасіння Іванаўна кінулася да красулі.

— Не аддам!.. У мяне ўнукі!.. — яна паказала на малых, што плакалі, збіўшыся ў кучку.

— Марш з дарогі! — гарлаў не сваім голасам яфрэйтар. Вочы ў яго набеглі крывёю. — Я пакажу табе не выконваць загад арміі фюрара. Прэч! Страляць буду! — ён ускінуў карабін.

Галя ад перапалоху закрыла твар дрыготкімі ручкамі.

— Не бойся, Галінка, — суцяшала яе Зіна. — Ён толькі палохае...

Фашыст стрэліў, але прамахнуўся. Ефрасіння Іванаўна, відаць з перапалоху, асунулася на снег.

Зіна, нібы праз сон, бачыла, як цётка Ірына кінулася ў хату і закрычала:

— Ваня! Маме дрэнна!..

Дзядзька Іван і Маркіянаў выскачылі на двор. Салдаты ўжо былі на вуліцы.

Ефрасінню Іванаўну перанеслі ў хату, паклалі на ложак.

Цётка Ірына, стоячы на каленях, пырскала вадою ў пасінелы бабчын твар. Дзеці стаялі паблізу і плакалі.

Раптам бабка расплюшчыла вочы.

— Жывая! Жывая! — закрычала Зіна. — Пакліч дзядзьку, Галя! Чаго стаіш... Бяжы...

Дзядзька Іван і Маркіянаў вярнуліся з сенцаў у хату. Упэўніўшыся, што Ефрасінні Іванаўне лепш, яны пайшлі ў другі пакой. За імі падалася і Ірына.

Хутка Зіна пачула адтуль:

— Табе прыдзецца пайсці на работу...
— Куды? Да немцаў?..
— Так трэба, — дзядзька панізіў голас, але Зіна ўсё ж разабрала: — Загад з лесу...
Што гаварылі далей, Зіна не магла зразумець. Разабрала толькі яшчэ адзін сказ: «Лягчэй нанесці ўдар».
Гэта сказаў Маркіянаў. Яна пазнала па голасе, толькі не магла здагадацца, пра які ўдар ён гаворыць. Але затое цяпер яна ведала другое — дзядзька Іван і цётка Іра маюць сувязь з лесам.
Не пастукаўшы, яна зайшла ў другі пакой.
Ірына адразу ж спытала:
— Што табе, Зіначка? Мо' бабцы зноў дрэнна?
— Не. Я таксама хачу... загады выконваць... — дзяўчына глядзела ўпарта і рашуча.
— Якія загады? — пераглянуліся дарослыя.
— З лесу, — смела загаварыла Зіна. — Вы думаеце, я маленькая? Памыляецеся! Я знаю, усё знаю!..
Яе істота гарэла нянавісцю, якая гучала ў голасе і палала ў вачах.
«Скажы такой, што зрабіць, і яна не спыніцца ні перад чым», — падумаў Маркіянаў і сказаў:
— Добра, дзяўчына... Пакуль што — нікому ні гуку, — ён кіўнуў галавой у бок малых, што стаялі ля ложка, дзе ляжала бабка.
Развітваючыся, Маркіянаў пацiснуў Зіне руку, як і ўсім дарослым, і праз гароды накіраваўся па сцежцы ў лес.
Пра многае ў гэты дзень даведалася Зіна, пятнаццацігадовая ленінградская дзяўчына з кароткімі косамі, але адно было для яе яшчэ невядома: што дзядзька Іван Яблыкаў — сувязны падпольнага райкома партыі.

## Маладая гаспадыня

1

З таго часу, як Фрузін брат Мікалай пайшоў у партызаны, ад яго ўжо два разы прыходзілі весткі. Адзін раз іх прынёс Яблыкаў.
Іван Ісакавіч вяртаўся з Клеччына ад Маркіянава. У Масцішчах ён сустрэў Фрузу, якая хадзіла адведаць сваю сяброўку Марыю Дзяменцеву. Іван Яблыкаў расказаў ёй, што прыходзіў Мікалай у разведку, але дамоў заглянуць не ўдалося: трэба было тэрмінова прынесці звесткі ў партызанскі атрад пра размяшчэнне часцей обальскага гарнізона.
— Ты, не перажывай, — суцяшаў яе Яблыкаў. — Брат хутка наведаецца, і не адзін, а з госцем.
Фруза здзівілася: «Што за госць? Валодзька Езавітаў? Яўген? А можа Федзька Слышанкоў?», але распытваць не стала.
Другую вестку пра сына прынеслі самому бацьку.
Было гэта так.



Савелі Міхайлавіч пайшоў па дровы ў лес, што паблізу Ушалаў. Толькі ён узняў на плечы вязанку сукоў, як яго аклікнулі двое незнаёмых у ватніх куртках:
— Ты, дзядзька, часам, не з Ушалаў?
— Угадалі, — адказаў Савелі і насцярожыўся.
— Саўку Зянькова ведаеш?
— А што трэба?
— І дачку яго ведаеш? Маладую гаспадыню...
— І дачку ведаю. А што такое? — Савелі скінуў з плеч вязанку і здзіўлена глядзеў на незнаёмых, стараючыся адгадаць, хто б гэта мог быць.
— Справа тут, бачыш, якая... — замяўся адзін з незнаёмых. — Паклон ёй з Шашанскага лесу...
— Ад каго? Ці не Коля, сынок, шле?
— Дык ты яго бацька?! Вось дык трапілі...
— А як ён там?..
— Як усе, так і ён. Адным словам, добры хлопец. У нядзелю сам прыдзе, чакайце.
І сапраўды, у нядзелю вечарам Мікалай з Маркіянавым прабраліся лесам ва Ушалы.
— Мір хаціне!.. — весела прывітаўся Мікалай з бацькам, які адчыніў хату. — Здароў бацька... Як жывём-маемся?..
— Дзякуй, сынок! Добра жывём, дай бог лепшага! — Савелі прывітаўся з сынам за руку, затым абняў яго. Паглядзеў строга на Маркіянава: — А гэта хто?
— Мой сябар. Не бойся. Поўны парадак...
— Калі ласка,— прыветна сказаў Савелі Міхайлавіч.
Мікалай узяў Барыса Маркіянава пад руку і правёў у другі пакой. Свяціла вісячая лямпа. На лавах сядзелі хлопцы і дзяўчаты. Відаць, толькі што закончыўся танец, бо на табурэтцы важна сядзеў чубаты хлопец у вышытай кашулі і перабіраў лады гармоніка, а дзяўчаты махалі хустачкамі, адпачывалі. Па кутках паблісквалі цыгаркі.
Мікалай хутка пазнаёміўся з некім і ўжо прасіў у таго:
— Дай, браток, пакурыць...
Маркіянаў прысеў у цямнейшым кутку і назіраў. Пра маладую гаспадыню вечара Фрузу яму многа расказваў Мікалай. Ад яго ён даведаўся, што дзяўчына працавала на швейнай фабрыцы, потым вучылася ў тэхнікуме, камсамолка.
Пахваліў Фрузу і Яблыкаў:
— Уся, як бацька. Простая і любіць праўду. Толькі да танцаў вельмі ахвочая...
— А што тут дрэннага?
Барыс Кірылавіч не бачыў у гэтым ніякага граху. Фруза са сваімі равеснікамі перажывала самую вясёлую пару — маладосць. У гэты час у кожнага ёсць сіла і для працы, і для геройства, і для смеху, жартаў, весялосці. Хай спяваюць, танцуюць, але не забываюць пра другое — самае галоўнае. Нездарма гавораць: «Песню пой, а с ней— и в бой!»
Маркіянаў увесь вечар прыглядаўся да Фрузы.
А яна з'яўлялася то ля адной купкі дзяўчат, то ля другой, і ўсюды яе ветліва сустракалі. Яму падабалася, што Фруза можа гаварыць

з усімі. Адчувалася, што яна жыла ў вялікім калектыве і любіла людзей.

Тут яна ўвесь вечар клапацілася, каб моладзі не было сумна. Вось падышла да гарманіста і штосьці шапнула яму. Той усміхнуўся, падміргнуў і, расцягнуўшы мяхі, запеў звонкім голасам:

«А Лявоніху Лявон палюбіў,
Леванісе чаравічкі купіў,
Леваніха — душа ласкавая,
Чаравічкамі палясківала...»

Маладыя галасы падхапілі песню. Пары закружыліся ў танцы.

Фруза крадком таксама назірала за Барысам Маркіянавым. Мікалай не сказаў ёй, хто гэта і чаго прышоў. Пасля танца, калі моладзь разышлася з кругу перадыхнуць, Фруза падышла да Маркіянава:

— Малады чалавек, запрашаю вас на наступны танец. Не пярэчыце?..

— З радасцю. Толькі, шчыра кажучы, я дрэнны танцор.

Зайгралі «Бярозку». Маркіянаў і Фруза закружыліся ў вальсе. Але Барыс усё збіваўся з такту.

— Вось бачыце, які з мяне танцор... — апраўдваўся ён.

— Нічога, навучыцеся. Нельга ж сядзець увесь час і сумаваць, як вы...

— Па характару я сумны... Мо' потым хіба павесялею... Як трава зазелянее...

«Пра што гэта ён?» — падумала Фруза, а Маркіянаў прадаўжаў:

— Хіба не бачу я, як вы баіцёся лішні раз усміхнуцца адзін аднаму. Кожную ж хвіліну можа ўварвацца немец. Не, Фруза, мы хочам жыць так, як раней, вольнымі... І будзем...

— Я згодна з вамі... — адказала Фруза. — Вясной вам весялей будзе. Зімой не кожны хоча пусціць у хату, а хавацца цяжка.

— А ты не забаялася б?

— Не! На ўсё пайшла б...

Закончыўся танец, і яны, адышоўшы ў куток, разгаварыліся.

— Сяброўка расказала мне пра адзін выпадак, — успамінала Фруза. — Жанчына схавала параненага нашага байца. Пранюхалі пра гэта гестапаўцы. Арыштавалі яе і катавалі. Не вытрымаўшы, яна прызналася.

— А як бы ты, вытрымала?

— Але. — Яна глядзела ўпэўнена і цвёрда.

— А калі б моцна катавалі?

— Усё адно. Нізашто б не прызналася.

Цяпер ёй было зразумела, чаму ён задае такія пытанні: правярае.

— Слухай, Фруза... — пачаў быў ён. Дзяўчына падалася ўся ўперад, чакаючы, што ж ён скажа, але зайграў гармонік.

— Пасля скажу...

— Што ж, думайце, а я патанцую...

Вечарынка закончылася апоўначы. Калі ўсе пачалі разыходзіцца, Маркіянаў паклікаў Фрузу:

— Вялікае дзякуй!



— Можна падумаць, што вам было тут вельмі весела...

— Не ў гэтым справа, Фруза. Людзі ў вас добрыя. — Ён запрасіў яе сесці побач. — Давай пагутарым.

— А можна паклікаць маю сяброўку, Валю Шашкову?

— Не варта. Пра сяброўак пасля... Цяпер пра другое. Чула апошнія паведамленні?

Маркіянаў гаварыў ціха, абдумваючы кожнае слова. Ён расказваў больш за ўсё пра абставіны на фронце.

Дзяўчына напомніла яму пра сяброўак.

— Што ж, можна будзе ў наступную нядзелю пагутарыць і з тваімі сяброўкамі. І хлопцаў, дарэчы, пакліч. Камсамольцаў. Знойдуцца такія?

— А колькі трэба?

— Чалавек пяць-шэсць.

— Збяром, будзьце ўпэўнены.

— Вось і добра.

У наступную нядзелю Барыс Маркіянаў зноў прышоў з Мікалаем. Іх чакала чалавек дзесяць хлопцаў і дзяўчат. Сярод іх былі: Зіна Партнова, Марыя Дзяменцева, Яўген Езавітаў, Фёдар Слышанкоў.

Мікалай выйшаў на вуліцу, праверыў, ці ўсё ў парадку, памог сястры завесіць вокны ад лішніх вачэй.

Маркіянаў паведаміў пра ўсё, што ведаў аб падзеях на фронце і ў савецкім тыле. Расказаў пра пакуты людзей пад фашысцкай акупацыяй.

— Пакуль на нашай зямлі гітлераўцы, няма жыцця. Хай гэта думка паліць вашы сэрцы, не дае спакою. Прысеў за стол — памятай: фашыст есць твой хлеб, а твая сястра галодная. Кладзешся спаць — памятай: фашыст катуе ноччу твайго брата-партызана. Прачнуўся — помні: няма мірнай Беларусі, фашысты прынеслі ёй гора. А мы хочам жыць па-людску.

Савелі Міхайлавіч у гэты час ціха пакашліваў на печы ды пыхкаў «казінай ножкай». У хаце чуўся моцны пах самасаду.

Маркіянаў закончыў прамову заклікам да моладзі памагчы Чырвонай Арміі біць ворага. Пасля яго гаварыла Фруза.

— Я ведаю, чым мы можам памагчы. Ва Ушалах, у Зуях, у Масцішчах многія прыхавалі вінтоўкі, патроны, гранаты. Ды і па лесе іх шмат параскідана. Трэба падбіраць...

— І перадаваць нам, — перапыніў яе Маркіянаў. — Можна яшчэ заносіць у бліжэйшыя вёскі лістоўкі. Хоць тут ёсць вялікая цяжкасць: лістоўкі трэба перапісваць ад рукі.

— А калі пазнаюць почырк? Што тады? — спалохана спытала адна з дзяўчат.

— Не трэба быць разявай, не пападзешся. І ліха тады не будзе, — раіла Фруза. — А наогул вось што: нічога тут страшнага няма. Мы будзем абменьвацца лістоўкамі. Праўда, дзяўчаткі?

Калі ўсе разышліся і Маркіянаў застаўся адзін з Фрузай, ён спытаў:

— Ты ведаеш, хто я?

Яна ўсміхнулася:

— Вы чамусьці не назвалі сябе. Але я здагадалася. Мікалай потым гаварыў пра вас. Добры вы чалавек, Барыс Кірылавіч.

— Я, Фруза, не пра тое. Ведаеш, што я прышоў да цябе па даручэнню падпольнага райкома партыі?

— Не, не ведаю... — І раптам усхвалявана загаварыла: — Барыс Кірылавіч... Маю да вас вялікую просьбу. Вазьміце мяне ў атрад. Я ўмею страляць...

— Жаданне ў цябе добрае, але... — Маркіянаў усміхнуўся. — Бачыш... Навучыцца страляць можа кожны. А вось змагацца на вачах у ворага — гэта не кожнаму пад сілу.

Маркіянаў расказаў, якую надзею ўскладвае падпольны райком партыі на моладзь тых вёсак, што знаходзяцца вакол Обалі.

— З многімі хлопцамі я асабіста знаёмы. Смелыя таварышы, не сядзяць без справы. Але вораг з кожным днём усё больш умацоўваецца ў раёне. Пусціў у ход некаторыя заводы, электрастанцыю. Праз Обаль, як і ў мірны час, ходзяць цягнікі, але з варожымі салдатамі і зброяй. Трэба на кожным кроку падрываць сілы ворага.

Маркіянаў паведаміў рашэнне райкома партыі стварыць падпольную камсамольскую арганізацыю.

— Як ты думаеш, калі мы будзем цябе сакратаром рэкамендаваць?..

Дзяўчына аж ускочыла з месца.

— Мяне?

— Але. Ты ж на фабрыцы была камсоргам. Значыць, маеш вопыт, людзей ведаеш.

Фруза задумалася.

— Баюся я, Барыс Кірылавіч, брацца за такую справу — не спраўлюся. У цэху ўсе разам былі, а тут... Адзін у Клеччыне, другі ў Зуях, трэці ў Масцішчах. Збяры іх!..

— Нічога, збяром. Было б для чаго...

Але Фруза стаяла на сваім:

— Не, Барыс Кірылавіч. Не здолею я... — Яна чырванела, баючыся, што Маркіянаў можа няправільна яе зразумець. — Не думайце, што я супраць стварэння арганізацыі. Я памагу вам, што будзе мне пад сілу. Але сакратаром...

— Што ж, не буду падганяць цябе з адказам. Абдумай усё добра.

Барысу Маркіянаву спадабалася, што дзяўчына падыходзіць да справы сур'ёзна.

— Я хутка буду,— сказаў ён на развітанне.

Калі Маркіянаў пайшоў, Фруза яшчэ доўга хвалявалася: такі давер ёй аказвае падпольная партыйная арганізацыя, ёй, дзяўчыне!..

## 2

Калі ў Віцебску прагучала першая паветраная трывога, Фруза здавала экзамен у швейным тэхнікуме. Вечарам адразу ж была сфарміравана каманда МППА. Фруза запісалася самая першая.

Калі фашысты акружылі Віцебск, байцы МППА пакінулі горад у ліку апошніх і прымкнулі да групы бежанцаў, што ішлі на Смаленск і Ярцава.

На чацвёрты дзень яны прышлі на чыгуначную станцыю. Тутэйшыя жыхары расказалі, што адразу за станцыяй у лесе зроблены завалы. Правей дарогі ідзе супрацьтанкавы роў.

«Недзе там, мусіць, лінія абароны,— падумала Фруза.— Трэба падацца туды».

Раптам на дарозе пачуўся шум. Зафыркалі матацыклы. Загарланілі салдаты. Гэта фашысты перарэзалі дарогу. Фруза з сяброўкай парашылі вярнуцца назад. Двое сутак прабіраліся лесам да Віцебска. На трэція, абышоўшы балота, незаўважна выйшлі на шашу.

Недалёка ад круглага возера дзяўчаты напаткалі групу ваеннапалонных. Байцы — худыя, абадраныя, абросшыя — ледзь перасоўвалі ногі.

У прыдарожнай канаве ляжала некалькі рассыпаных мяшкоў мукі. Яны былі пасечаны, відаць, асколкамі або кулямі. Мука, як пыл, ляжала на траве. Чырвонаармеец, які ішоў уперадзе, спатыкнуўся, упаў у канаву, пасля прыўзняўся на калені і, зачэрпнуўшы прыгаршчамі, стаў прагна есці муку. Рукі яго дрыжалі.

З калоны адлучылася яшчэ некалькі байцоў. Яны таксама кінуліся ў канаву.

— Хальт! Хальт! — закрычалі канваіры, адкрыўшы страляніну.

Упаў прастрэлены баец... Фруза не магла больш глядзець. Яна дастала з клуначка кавалак хлеба і кінула ў натоўп.

— Лавіце, таварышы!

Фашыст падскочыў да яе і стаў лупцаваць плёткай. Фруза страціла прытомнасць і ўпала. Фашыст спіхнуў яе ў канаву.

Усю ноч праляжала яна ў канаве. Калі апрытомнела, сонца было ўжо высока. Ныла цела, балелі рукі і ногі.

Над галавой плылі шэрыя воблакі. Стала зябка, падступіліся дрыжыкі.

«Дзе ж Наташа?»

Сяброўкі нідзе паблізу не было. Яе, відаць, пагналі з ваеннапалоннымі. У канаве ляжаў салдат, той, што накінуўся на муку. Фруза падпаўзла да яго. Твар у таго распух і пачарнеў за ноч.

Яна выбралася з канавы, каб прабрацца ў кірунку лесу.

Доўга паўзла яна, а ў вушшу ўсё чуўся грубы голас фашыста-канваіра.

Ноччу Фруза зноў страціла прытомнасць. Калі яна расплюшчыла вочы, у небе міргалі зоркі. Над бліжэйшай сасной вісеў цьмяны месяц.

Фруза хацела піць. Горка было ў роце. І яна зноўку папаўзла, глытаючы халоднае перадранішняе паветра. З цяжкасцю прыўзнімалася, аглядвалася. Метраў за сто ад дарожкі заблішчэла вада. І адкуль узяліся сілы!.. Фруза паднялася і памаленьку пайшла да возера. Піла доўга, пакуль не адчула, што можа захлынуцца. Адарваўшыся ад вады, яна апусцілася на камень.

У сваю вёску Фруза прышла аж на сёмыя суткі пад вечар.

Заходзіла сонца, і яго промні фарбавалі ў золата застылыя аблокі.

Фруза спынілася на ўзлеску, што падступаў аж да гародаў, прыслухалася. Наўкол было ціха, толькі дзесь далёка брахалі сабакі.

Фруза рушыла ў кірунку дома, але адчула, што не можа ісці далей: падкошваліся ногі.

А што, калі дома няма нікога?

Яна пастаяла яшчэ крыху і паволі рушыла ў вёску.

Першай яна ўбачыла маці. Марфа Аляксандраўна, такая ж, як і заўсёды, гаспадарлівая, расстаўляла пасуду, рыхтуючы вячэру.

— Мама!..

Марфа Аляксандраўна пляснула рукамі.

— Дачушка мая... Любая...

Фруза падбегла да маці і ўпала ёй на грудзі

Яны селі на лаву, прытуліліся ў абдымках. Выслухаўшы дачку, Марфа Аляксандраўна павохкала, паплакала, потым супакоілася і сказала:

— Што ж, дачушка, слязьмі гору не паможаш. Адпачнеш дома, паправішся і забудзецца тое ліха...

— Не, мама. Няма калі цяпер адпачываць. Не да гэтага.

— Чаму гэта? — устрывожылася маці.

— Пакуль нічога, мама. Не бойся.

У сенцах скрыпнулі дзверы. Пачуліся цяжкія крокі. Неўзабаве ўвайшоў Савелі Міхайлавіч. Заняты сваімі думкамі, ён моўчкі зняў з цвічка ручнік і накіраваўся да ўмывальніка.

І тут Марфа не вытрымала і залілася слязьмі.

— Ты чаго гэта, маці? — Савелі Міхайлавіч павярнуўся і толькі цяпер убачыў на лаве незнаёмую.— Хто гэта?

Марфа Аляксандраўна загаласіла яшчэ мацней.

— Гэта я, тата...— загаварыла Фруза і паднялася насустрач.

Савелі Міхайлавіч парывіста працягнуў рукі, абняў дачку і прыхінуў да грудзей.

— Дачушка... Як яны цябе спаласавалі...

Ён выпрастаўся і сціснуў кулакі.

І дома Фрузе не было спакою. Сталі часта паяўляцца немцы. Грабілі, збівалі.

З хаты калгасніка Ягора Малашанкі фашысты выкінулі на вуліцу посуд, вопратку, абутак. Дачка Ягора, семнаццацігадовая Таня, не вытрымаўшы, крыкнула:

— Бандыты!.. Што вы робіце?!

Падскочыў фельдфебель і ўдарыў яе па твары. Але дзяўчына крычала:

— Бандыты! Зладзеі!..

Фашыст ударыў яе яшчэ раз, у грудзі:

— Маўчаць! Я табе пакажу, руская свіння, як зневажаць армію фюрара. Забраць!

Таню штурхнулі ў легкавую машыну і павезлі. Так яна больш і не вярнулася ва Ушалы.

«Вось які ён, «новы парадак»,— раздумвала Фруза.— Сёння забралі Таню, а заўтра могуць і мяне. Не, падлюгі, не выйдзе. Я вам не дамся...»

У канцы сакавіка Маркіянаў зноў сустрэўся з Фрузай. На гэты раз яна цвёрда сказала:



— Я ўсё абдумала, Барыс Кірылавіч. Згодна.

— Я гэтага і чакаў. Ты не магла зрабіць інакш,— і ён моцна паціснуў ёй руку.— А цяпер слухай...

Гаварылі больш гадзіны, падрабязна абмяркоўваючы ўсё да дробязей.

— Перш за ўсё табе трэба будзе добра прыглядзецца да хлопцаў. Падбяры ў арганізацыю лепшых, самых лепшых. Не кожны зможа працаваць у падполлі. Нам патрэбны самыя надзейныя і смелыя.

— А зброя будзе? — спытала Фруза.

— Вядома. Толькі ў падпольшчыкаў яна асобая. Лістоўкі. Газеты. Ну і яшчэ... міны, тол...

На гэты раз Барыс Маркіянаў перадаў Фрузе пачак газет, перасланых з-за лініі фронта. Затым з бакавой кішэні ватоўкі дастаў некалькі лісткоў з рукапісным тэкстам.

— Газеты падкіньце ў хаты. Але будзьце асцярожнымі, каб вас не заўважылі. А гэта,— ён працягнуў Фрузе лістоўкі,— трэба размножыць. Схадзі ў Масцішчы да Марыі Лузгіной. Скажаш, што «стары прасіў» Гэта наш пароль. Яна зробіць.

## Лістоўкі і газеты

### 1

Вясна на Віцебшчыне ў сорак другім годзе была ранняй. Неяк непрыкметна зазелянелі палі і лугі, з'явіліся першыя кветкі. У сярэдзіне красавіка дружна зацвілі сады.

Хораша сустракаць вясну ў лесе, у полі, у садзе, дзе цёплае пахучае паветра хмеліць галаву. А Зіне і Яўгену ў гэтыя дні прыходзілася глытаць перагар бензіну, дарожны пыл. Але што зробіш... Схаваўшыся ўдзень па абочынах дарогі, яны чакалі, калі да кіламетровага слупа ўдасца прыклеіць лістоўку.

Па шашы ў абодва бакі імчалі машыны. Зіна прыслухалася: доўга яны будуць шнырыць ці не? Ёй не цярпелася хутчэй выканаць заданне Фрузы.

Пад вечар дарога прыціхла. Зрэдку праскочыць грузавік, і зноў спакойна.

Зіна штурханула Яўгена локцем:

— Ці не пара?..

Ён асцярожна выйшаў на дарогу, агледзеўся:

— Давай хутчэй!..

Зіна выскачыла з кювета, трымаючы падрыхтаваную лістоўку. Момант — і лістоўка прыклеена да слупа. Першы радок на ёй заклікаў падарожніка:

«Знішчай фашысцкіх гадаў!»

Ад шашы яны накіраваліся на зуеўскія могілкі. Па дарозе Яўген спытаў:

— Шмат яшчэ засталося?

— Дзве газеты і адна лістоўка.— Зіна працягнула руку Яўгену.—

На! Гэта для Санчука.— Вочы яе гарэлі гордасцю: яна выконвае сапраўднае заданне.

Назаўтра, сустрэўшыся з Фрузай Зяньковай у сясцёр Лузгіных у Масцішчах, што недалёка ад Зуёў, Зіна расказала ёй пра тое, што адбылося ў хаце былога калгаснага рахункавода Санчука.

— Заходзім мы да Васіля Кузьміча, як ты і казала. Прывіталіся. Пагаварылі пра тое, пра сёе. Улучыла я такую хвілінку і працягваю яму лістоўку і газету. Лістоўку ён прачытаў, а газету вярнуў назад, усміхнуўся: «Мяне, дачка, агітаваць не трэба. Я сам разбіраюся ва ўсім, граматны. Хлопцы пра мяне паклапаціліся ўжо. Дзякуй ім!» — і паказвае нам «Звязду». З-за абразоў дастаў. «Схадзіце, — кажа, — лепш да Трахіма Селязнёва, да брыгадзіра. Туды варта схадзіць».

— І ты пайшла?

— А як жа! Пагаварылі мы з дзядзькам Трахімам. Прачыталі яму газету. Ведаеш, што ён сказаў? «Не бойцеся, кажа, смялей працуйце. Немец цяпер не той, што летась. Біты ўжо. Вось чытайце...»

І дзядзька Трахім падаў нам лістоўку пра разгром немцаў пад Масквой. Яму нехта прынёс яе яшчэ ў студзені. Ад рукі таксама напісана. А ўнізе подпіс: «Твае сябры».

Фруза слухала Зіну і думала: «Такой лістоўкі я не давала нікому. Адкуль яна ўзялася? І што гэта за «твае сябры»?

Яна не заўважыла, як пераглянуліся, пачуўшы гэта, Марыя і Яўген.

— А ты, Зіна, даўно ўжо тут? — спытала Фруза.

— Прышла з Яўгенам пасля паўдня. Марыя нам свае вершы чытала.

Фруза ведала, што Лузгіна ў школе пісала вершы, і спытала:

— І цяпер пішаш?

— Зрэдку.

— І ўсё пра каханне ды салаўёў?

Дзяўчына не адказала. Яна падышла да ложка, дастала з-пад сянніка тры тоўстыя сшыткі і падала іх Фрузе.

Зянькова прачытала некалькі вершаў і нахмурылася:

— Гэта не пра тое, не пра наш час. Цяпер нам трэба такія вершы, каб стралялі. Слова — наша зброя.

Марыя ціха адказала.

— Ёсць і такія.

Адсунуўшы ад сцяны ложак, яна дастала недзе з-пад шпалераў спісаныя лісткі і падала іх Фрузе.

Тая хуценька прабегла вачыма першыя радкі:

«Ночь дождлива была, не сияла луна,
Лишь в лесочке костёр разгорался.
И фашистский обоз полетел под откос,
Вражий поезд на минах взорвался...»

— А што ты робіш з імі? — зацікавілася Зянькова. Вершы ёй спадабаліся.

— Перапісваю і раздаю сяброўкам.

— А мне можна некалькі ўзяць?

— Бяры вось гэтыя. Я ведаю іх напамяць.

Фруза, хаваючы лісткі з вершамі ў кішэні, нібы між іншым сказала:

— У мяне да цябе справа ёсць. Прасіў стары...

Марыя глядзела ёй у вочы, чакала, што ж далей скажа Зянькова.

— Вось лістоўка. Яе трэба размножыць.



— Калі вярнуць?

— Заўтра к вечару.

— Добра.— Марыя моцна пацiснула Фрузе на развітанне руку.

Раніцай Антаніна Антонаўна прыбірала пакой. У доме, акрамя яе, нікога не было: абедзве дачкі, Марыя і Таня, пасля снедання пайшлі да сяброўак.

Гаспадыня памачыла ў вядры венік і стала падмятаць падлогу.

Вясновае сонца залівала пакой. Промні падалі на падлогу, запаўзаючы пад ложак. Антаніна Антонаўна ўбачыла там смецце. «Нядобра, дачушкі», — паківала яна галавой і ўзялася вымятаць.

Разам са смеццем гаспадыня выгарнула з-пад ложка спісаны лісток паперы. «Мабыць, старое Таніна пісьмо»,— падумала яна. Таня працавала да вайны на Віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыцы «КІМ» і часта пісала дадому. Пачка яе пісем і цяпер ляжала пад сяннікам.

Антаніна Антонаўна падняла спісаны лісток. Першы радок чамусьці быў напісаны справа, уверсе: «Прачытай і перадай другому!»

«Што гэта?» Дрыжачымі рукамі яна трымала лісток. Потым, надзеўшы акуляры, стала павольна чытаць:

«Таварыш!

Слухай навіну: пад Масквой пабілі немцаў. Ды як пабілі! У Падмаскоўі валяюцца дзесяткі тысяч варожых трупаў... Фрыцам так далі каленам пад зад, што яны ледзь паспяваюць драпаць...»

Антаніна Антонаўна прысела на ўслон і прадаўжала чытаць:

«Вашывыя ваякі льюць кракадзілавы слёзы, праклінаючы рускую зіму. Нічога, вясной іх чакае яшчэ не гэта...

Таварыш! Блізка дзень гібелі фашыстаў...

Смерць нямецкім акупантам!

Твае сябры».

— Хто ж гэта нам падкінуў? — зжахнулася Антаніна Антонаўна. Яна перабрала ў памяці ўсіх, хто заходзіў у апошнія дні да Марыі і Тані. Яўген? Валодзя? Зіна? Фруза? І раптам яна ўспомніла, што малодшая дачка Марыя кожны раз заседжваецца да поўначы і штосьці піша. То адна, то з Зінай або з Яўгенам. Яна спалохана агледзелася. «Хай толькі прыдзе дадому, я ёй пакажу...» Ды і Таня таксама добрая: ведае і нічога не скажа.

Гнеў, які толькі што ўспыхнуў, паступова растаў у сэрцы маці. «Я ва ўсім вінавата. Навошта дазволіла ім зімой умешвацца ў тую гісторыю з лыжамі»,— думала цяпер яна.

Адбылася тая гісторыя ў позні зімовы вечар. Як заўсёды, Зіна Партнова і Яўген Езавітаў заседзеліся ў Марыі і на гэты раз. Раптам пачуўся стук у акно. Антаніна Антонаўна спалохалася: «Ці не паліцыя?»

Пастукалі яшчэ мацней.

— Каго там нясе? — раззлавалася Зіна Партнова.— Хто там такі?

Марыя выйшла ў сенцы; адчыніўшы дзверы, яна асцярожна выглянула на двор і зжахнулася: перад ёй стаяў чырвонаармеец. У вушанцы, у кажушку, з аўтаматам на шыі.

— Уваходзьце, хутчэй...— Толькі і змагла яна прагаварыць.

А Зіна, убачыўшы чырвонаармейца, узрадавалася. «Можа, з Вялікай зямлі? Вось хто раскажа навіны».

Марыя прапанавала госцю пераапрануцца. Зброю і абмундзіраванне вынесла ў хлеў і схавала пад саломай.

Баец расказаў пра сябе. Ён дэсантнік. Разам з адзінаццаццю іншымі быў пасланы ў тыл са спецыяльным заданнем. Вецер аднёс іх парашуты далёка ўбок. Дарога снежная, трэба лыжы, а іх няма.

— Ці не можаце памагчы? — звярнуўся ён да дзяўчат. — Дванаццаць пар...

Сяброўкі і Яўген пераглянуліся. Што рабіць? Калі б адна пара — яшчэ туды-сюды. А то дванаццаць! Дзе іх узяць? Ды яшчэ позна вечарам. Даўно настаў камендацкі час.

Добра Яўгену. Валодзя дастаў яму пропуск, з якім можна хадзіць пасля адбою. А што рабіць дзяўчатам? Іх адразу схопіць патруль...

— Падумаем, браце,— адказаў за ўсіх Яўген.— Пастараемся...

Марыя ў гэты час звярнулася да маці:

— У нас засталося што-небудзь у печы?

— Зараз падам. Сядай, сынок, за стол,— запрасіла маці байца.

Зіна прысела да чырвонаармейца.

— Расказалі б нам, што чуваць пра Ленінград? Возьмуць яго немцы ці не?

— Каго? Ленінград? — баец усміхнуўся. — Зубы паломяць!

— А як там цяпер? — не супакойвалася Зіна.

— Добрага мала. Голад, Холад. Абстрэл. Бамбёжка. Але трымаецца. Мяне толькі з месяц, як перакінулі адтуль на Волхаўскі фронт.

Чырвонаармеец падзякаваў за вячэру, закурыў і пачаў кляваць носам.

— Э-э, браток, — схамянуўся Яўген. — Ды ты ж зусім знясілеў...

Спаць байца палажылі на печ.

Раіліся між сабой, што рабіць. Перабралі ўсіх сяброў і сяброўак. У лепшым выпадку, у Масціішчах можна было знайсці пар шэсць-сем лыжаў. А дзе ўзяць яшчэ? Байцоў жа дванаццаць.

Яўген прапанаваў:

— Я збегаю ў Зуі.

— І я з табой, — падхапілася Зіна.

— А пропуск?

— Калі сустрэнецца патруль, скажаш, што вядзеш мяне да фельчара. Захварэла.

— Трэба хутчэй, пакуль не ляглі спаць.

Было цёмна, калі выбраліся ў лес, дзе дэсантнікі чакалі свайго таварыша. Атрымаўшы лыжы, яны з удзячнасцю паціскалі рукі Яўгену, Марыі, Зіне і Тані.

Вярнуўшыся дадому, Марыя адразу ж пачала абдумваць змест новай лістоўкі і ўвесь час пытала Зіну:

— Ты запомніла, як ён назваў вышыні, дзе затрымалі немцаў?

— Пулкаўскія.

— А далёка гэта ад горада?

— Кіламетраў дваццаць.



Усю ноч Марыя пісала. Зіна некалькі разоў папраўляла напісанае, перапісвала начыста. На наступны дзень на будынку Обальскай школы з'явілася лістоўка:

«Прачытай і перадай другому.

Таварыш!

Табе пратрубілі вушы, што немцы ў Ленінградзе. Не вер. Ворагі няхай хлусяць, а ты трымай вуха востра! Чырвоная Армія спыніла фашыстаў пад Ленінградам, каля Пулкаўскіх вышынь, і лупіць іх, як сідараву казу!

Блізка локаць, ды не ўкусіш. Блізка Ленінград, усяго дваццаць кіламетраў, ды немцам яго не ўзяць.

Таварыш, вышэй галаву!

Скора фашыстаў пагоняць з-пад Ленінграда, як пагналі іх з-пад Масквы. І не сабраць ім тады касцей сваіх паганых.

Смерць нямецкім акупантам!

Твае сябры».

Вярнуўшыся ад Лузгіных, Фруза доўга ўспаміпала сваіх сяброў. Колькі разоў яна сустракалася з кожным з іх, размаўляла, спрачалася. Цяпер яна думала пра адно: ці здольны яны працаваць у падполлі?

Давяраючы ёй, яны, не таячыся, выказвалі свой настрой. Яна ведала, што некаторыя з іх гатовы выканаць любое заданне, рызыкуючы жыццём. Але ці асцярожныя яны? Ці ўмеюць захоўваць тайну?

Фруза да вайны сябравала з Марыяй Дзяменцевай, вучаніцай Обальскай школы, белагаловай дзяўчынкай з разумнымі цёмна-шэрымі вачыма. Бацька яе служыў у Чырвонай Арміі.

«Схаджу да Марыі», — вырашыла Фруза.

Прыход сяброўкі не здзівіў Дзяменцеву. Фруза і раней заходзіла да яе. Павіталіся. Марыя заўважыла, што сяброўка нечым заклапочана, і спытала з трывогай у голасе:

— Што здарылася?

— Зноў прыходзіў чалавек...

— З лесу?

— Ага.

— Дык што?

— Нічога, быў і пайшоў...

— Ды гавары ты, Фруза, толкам. — Марыя пачала злавацца. — Хто прыходзіў? Чаго? — Яна разумела, што так сабе з лесу не прыходзяць. Значыць, справа сур'ёзная.

А Фруза ў гэтую хвіліну думала, як расказаць сяброўцы пра тое, што гаварыў Маркіянаў, і не сказаць лішняга.

— Не злуйся, Манечка! Мы ж сяброўкі... Паслухай... Чалавек сказаў, што гэта даручэнне райкома партыі... Стварыць падпольную камсамольскую арганізацыю... І мне сакратаром прапанавалі быць.

— А ты згодна?

— Ну, згадзілася.

— Тады і я з табой. Давай, Фруза, разам. Вось мы ўжо і арганізацыя. Толькі, што ж атрымліваецца? Арганізацыя з дзвюх дзяўчын. А дзе ж хлопцы?

— Ты можаш каго-небудзь параіць?

— Магу. Валодзя Езавітаў з Зуёў.

Фруза спалохана зірнула на сяброўку.

— Звар'яцела ты, ці што? Ведаеш, хто яго бацька? Бургамістр!

Якая ты, Маня, неасцярожная... Рэкамендаваць у тайную арганізацыю сына бургамістра?

— А ты не хвалюйся. Эх, Фрузка! Ведала б ты, які гэта хлопец!

— Манечка, дарагая, гэта ж не вечарынка...

— А ты яго правер, — настойвала Дзяменцева. — Сама ўбачыш.

Фруза ўстала, працягнула руку.

— Добра, Манечка! Праверу.

## Езавітавы

### 1

Фруза разумела, як важна для падпольнай камсамольскай арганізацыі мець сваіх людзей у Зуях. «Вёска побач з Обаллю, — разважала яна. — А там у немцаў самы вялікі гарнізон».

З прыёмам Валодзі не спяшаліся. Фруза сустракалася з ім, гаварыла, але варта было яму ўспомніць, што бацька яго бургамістр, як яна пачынала сумнявацца. А што, калі Марыя памыляецца?

Фруза ўжо раз памылілася, калі вось так даверылася адной сяброўцы...

Здарылася гэта ў пачатку вайны. Разам з байцамі каманды МППА Зянькова пакінула Віцебск.

Ноччу ў лесе зрабілі прывал.

Фрузе, якая вырасла ў вёсцы, было не ўпершыню начаваць каля агню. Але на гэты раз ёй чамусьці не спалася. Ноч была ціхая, ясная. Мігалі зоркі.

Сон прышоў на досвітку, і спаць давялося нядоўга. Раптоўны грукат разбудзіў усіх. Узнімаючы дарожны пыл, з-за павароткі дарогі вынырнулі фашысцкія танкі.

— Хутчэй у лес, — закрычала Фруза сяброўкам. Але адна з іх, Вольга Лабановіч, раптам запярэчыла:

— Нікуды не крануся. Немцы ўсё роўна зловяць.

— Што з табой? — здзівілася Зянькова. — Спалохалася?

— Не. Але куды мы ідзём? Я не веру, што знойдзем сваіх...

— Сціхні! Не мялі абы чаго, — умяшалася Наташа.

Вольга, збянтэжыўшыся, адвярнулася. Выцягнуўшы з кішэні скамечаную паперку, яна працягнула яе Зяньковай.

— На, чытай! Я знайшла ў лесе.

Фруза прабегла яе вачыма і перадала Наташы. Тая, хутка прачытаўшы, парвала нямецкую лістоўку на шматкі.

— Дарэмна... Гэта пропуск.

— Ці не думаеш ты пайсці да немцаў? — рэзка спытала Фруза.

— А што? Магчыма...

— Ды што ты? Звар'яцела? — закрычала Фруза. — Куды ты пойдзеш? Да вылюдкаў гэтых, фашыстаў?

— Дадому пайду. У Віцебск. Там маці ў мяне адна.



— Маці ў цябе адна, гэта праўда. А Радзіма? Хіба яна не адна? — з горыччу сказала Фруза.

— Пакінь гэта. Нечага агітаваць. Не на сходзе. Хочаце ісці, ідзіце. А я...

Схапіўшы з зямлі клунак, Вольга падалася на шашу.

— Эх ты, прадажная... — гідліва крыкнула ўслед ёй Зянькова і павярнулася да Наташы: — Пойдзем!..

Фруза ўспомніла, што пра Валодзю Езавітава лепш за ўсіх ведае яго дзядзька Іван Яблыкаў. Маркіянаў неяк гаварыў:

— Калі табе што-небудзь спатрэбіцца, а мяне не будзе, смела звяртайся да Івана Яблыкава. Ён наш сувязны.

Зянькова накіравалася ў Зуі. У хаце Яблыкава ёй насустрач кінулася Зіна.

— Фруза! Як добра, што ты прышла.

— У мяне справа, Зіначка.

— Да мяне?

— Не. Ты не скажаш, дзе дзядзька Іван?

— Толькі што пайшоў у Клеччына. Сказаў, вернецца пасля абеду.

— Шкада. Ён мне вельмі трэба...

— А ты пабудзь у нас. Хочаш, я пазнаёмлю цябе з Галачкай.

У другой палавіне хаты проста на падлозе забаўлялася з лялькамі дзяўчынка год васьмі. Убачыўшы Фрузу, пра якую яна ўжо чула ад сястры, Галя ўстала і працягнула ёй ручку.

— Давайце будзем гуляць,— яна падала Фрузе і Зіне па ляльцы.

Але на парозе ў гэты час з'явіўся Яўген.

— Прывітанне госцю! — памахаў ён рукой Фрузе. — Надоўга да нас?

— Да абеду, мабыць, пабуду.

— Цудоўна! — узрадаваўся ён. — Пойдземце тады да Валодзі. У яго такая вялікая навіна...

— Якая? — зацікавілася Зіна.

— Пра што хочаце, скажу. А пра гэта — і не прасіце.

— Ну, тады пайшлі! — рашуча сказала Фруза. — Не люблю тайны.

У хату Івана Гаўрылавіча Езавітава, обальскага бургамістра, Яўген правёў Фрузу і Зіну са двара.

Валодзю засталі знянацку. Ён заканчваў зборку радыёпрыёмніка. Кругом былі раскладзены дэталі.

«Дык вось якая гэта навіна!», — зразумела Фруза, як толькі ўбачыла, чым заняты Валодзя.

У кутку Фёдар Слышанкоў размотваў провад для антэны. Заўважыўшы Фрузу, ён кінуў на падлогу провад і так сціснуў ёй руку, што дзяўчына нават ускрыкнула:

— Мядзведзь!..

Валодзя, не адрываючыся ад занятку, таксама павітаўся.

— Прабач, Фрузачка! Я зараз. Толькі пастаўлю кандэнсатар. Сядай! — Ён паказаў рукой на лаву, дзе сядзеў яго стрыечны брат Ілья.

Усе моўчкі назіралі, як Валодзя браў з рук Слышанкова дэталь, здзьмухваў з яе нябачны пыл і асцярожна ставіў на сваё месца.

Нарэшце, усё было зроблена. Валодзя павярнуў ручку. З рэпрадуктара вырваўся моцны гул, які хутка змяніўся яшчэ мацнейшым трэскам.

— Чаму гэта? — Валодзя разгублена паціскаў плячыма.

— Можа націснуў дзе не тую кнопку! — пажартаваў Яўген.

Валодзя быў ужо зусім страціў надзею знайсці прычыну няспраўнасці, як нечакана пачуўся тонкі віск. Потым, заглушаючы ўсё ў эфіры, завішчэў на высокай ноце голас дыктара.

— Шпрэхен зі дойч?— Федзя нахіліў галаву да Фрузы.— Яволь?

— Не, я толькі па-руску, — адказала яму Зянькова. — Цішэй, Федзя, не перашкаджай.

Яна сапраўды не разумела, што кажа нямецкі дыктар, але яе радавала ўжо адно тое, што прыёмнік працуе. Значыць, скора загучыць з рэпрадуктара і руская мова.

Раптам дыктар змоўк. Мусіць, закончыў. Некалькі мінут было ціха. Валодзя ўжо збіраўся змяніць хвалю, як выразней пачалі даносіцца знаёмыя пазыўныя.

— Масква! — аж крыкнуў Валодзя. Усе заціхлі.

Перадавалася зводка Савінфармбюро:

«Пад Растовам-на-Дану нашы войскі...»

Фруза з Зінай стараліся запісаць хоць бы самае галоўнае.

— А цяпер будзем размнажаць зводку, — Яўген выдаў усім па аркушы паперы. — Фруза — ва Ушалах, я аднясу ў Масцішча Лузгіным і Дзяменцевай. А табе, Зіна, давядзецца схадзіць у Обаль да Колі Аляксеева. Ён прачытае зводку чыгуначнікам.

Зянькова перапісвала зводку, а сама ў той жа час здзіўлялася: «У хаце бургамістра слухаюць Маскву. Проста дзіва!»

Фруза сабралася ўжо выходзіць, як яе аклікнула Зіна:

— Куды ты? А дзядзька Іван? Ты ж хацела яго пабачыць.

Яўген таксама ўгаворваў Фрузу застацца да вечара. Тады адкрыецца бібліятэка.

— Чыя бібліятэка? — не разумела Фруза.

— Наша. Для моладзі. І заўваж, Фруза, гэта з дазволу каменданта. — Яўген хітравата падміргнуў. — Зразумела? Заставайся.

Зяньковай хацелася хутчэй расказаць аднавяскоўцам пра навіны на франтах, і яна заспяшалася.

— Не магу. Сёння некалі. Лепш заўтра прыду.

2

Назаўтра раніцай Зянькова зайшла да Яблыкавых і застала дома дзядзьку Івана.

— Табе паклон ад старога, — сказаў ён, усміхаючыся. Фруза здагадалася, што гэта ад Маркіянава. — Цікавіцца, як у цябе справы?

— Пакуль нішто сабе. Але я, Іван Ісакавіч, да вас за парадай...

— Зіна казала, што ты была ўчора.

— Маня Дзяменцева рэкамендуе ў падпольную арганізацыю Валодзю Езавітава.

— Ну, дык што?



— Як што? Бацька яго бургамістр... Што скажуць другія, даведаўшыся?

— І гэта ўсё? — Яблыкаў задумаўся. — Бургамістры таксама бываюць розныя, Фруза. Іван Гаўрылавіч — наш чалавек.

— А вы ўпэўнены?

— Раз кажу, значыць, упэўнены. Сядай.

Больш дзвюх гадзін гутарыў з ёй сувязны падпольнага райкома партыі, адкрываючы ёй іншыя бакі дзейнасці партыйнай арганізацыі.

— Ты вось гаварыла пра бургамістра. А ведаеш, як яго выбіралі? Не, не ведаеш!

Яблыкаў скруціў цыгарку, прагна зацягнуўся.

— У нас вакол Обалі таксама выбіралі старастаў, — прадаўжаў ён. — Заставалася знайсці толькі обальскага бургамістра. Яму ж павінны падпарадкоўвацца старасты шасці вёсак. Немцы спрабавалі паставіць на гэтую пасаду каго-небудзь з тых, хто раней не мірыўся з савецкай уладай. Я прысутнічаў на сходзе ў Зуях... Камендант назваў прозвішча нейкага Канюшэўскага, былога кладаўшчыка нарыхтоўчага пункта ў Полацку. Канюшэўскага многія ў нас ведалі. Ён быў асуджаны на дзесяць год за крадзеж. Камендант загадвае галасаваць, але ніхто не падымае рукі. Не хочуць Канюшэўскага. «Каго ж вы хочаце, чорт вас вазьмі?»— узлаваўся камендант. І раптам чуваць нейчы нягучны голас: «Езавітава Івана Гаўрылавіча».

— І Гаўрылавіч згадзіўся?— перабіла Фруза.

— У тым і справа, што — не згадзіўся. Тройчы прыходзілі да яго з камендатуры. Угаворвалі, пагражалі канцлагерам, а ён упёрся, як бык. Трэба табе сказаць, што Іван Гаўрылавіч для гэтага самы падыходзячы чалавек. Спакойны, разважлівы, умее трымацца з людзьмі. Лепшай кандыдатуры не знойдзеш... Але ж Езавітаў адмаўляецца. Што рабіць? І народ за яго, і камендант націскае, а ён — ні блізка. Прышлося ўмяшацца падпольнаму райкому партыі... А наконт Валодзі не турбуйся. Смелы, разумны. Скончыў дзесяцігодку ў Обалі і збіраўся ў Маскву ехаць паступаць у Баўманскі інстытут. Ты яшчэ, мабыць, не ведаеш, што Валодзя зрабіў у бацькавай хаце? Там у яго бібліятэка для моладзі. Частку кніг ён перацягнуў са школы, а частку сабраў у знаёмых. Тры разы на тыдні, вечарамі, пад выглядам абмену кніг тут праводзяцца гутаркі. Валодзя ў курсе ўсіх падзей: ён слухае радыёперадачы Масквы...

Фруза вярталася дадому ў добрым настроі.

## Юныя мсціўцы

1

Пасля таго, як у арганізацыю прынялі Валодзю, Марыя Дзяменцева рэкамендавала і яго стрыечнага брата Ілью.

Аднойчы Фруза сустрэлася з Ільёй у хаце Езавітавых. Ён сядзеў каля акна і слухаў радыё, сумны, маркотны. Зянькова не ведала, што Ілья перажыў вялікае гора і таму быў такі маўклівы.

Бацька Ільі, абходчык чыгункі, доўгі час не ішоў на працу да нем-

цаў, прытварыўшыся хворым. Але камендант патрабаваў ад усіх былых рабочых заняць свае ранейшыя месцы. Не з'явішся, забяруць у канцлагер. Прышлося пайсці, хаця Васілю Гаўрылавічу было пяцьдзесят шэсць год.

Праз колькі дзён ён вярнуўся дадому ўвесь пабіты. Начальніку аховы чыгуначнага маста не спадабалася, як стары прыбірае свой участак. А праз месяц Васіля Гаўрылавіча мёртвага знайшлі на чыгунцы. Старога нехта стукнуў цесаком ззаду па галаве.

Хутка сям'ю Васіля Езавітава выгналі з хаты, нехта данёс, што старэйшыя браты Ільі — Яўхім і Фёдар — служаць у Чырвонай Арміі. Прышлося перабрацца да дзядзькі — Івана Гаўрылавіча, бургамістра.

Калі Ілья даведаўся, што ў бацькоўскай хаце размясцілася палявая радыёстанцыя, ён вырашыў падпаліць дом. Але Валодзя адгаварыў:

— Не трэба. Наклічаш незнарок бяду. І без цябе павешаных хапае.

Тады Ілья надумаўся пайсці ў партызаны. Дзве вінтоўкі, гранаты і патроны ён схаваў у хляве, у яме. І нікому не сказаў пра гэта.

Сходы падпольнай камсамольскай арганізацыі праводзіліся не ў вёсцы. Збіраліся каля трыццаціметровай тапаграфічнай вышкі-маяка, за паўкіламетра ад Ушалаў. Да яе трэба было дабірацца багністым балотам, па сцяжынцы. Потым калі арганізацыя разраслася і навічкі пыталі, як бліжэй прайсці да вышкі, ім жартам адказвалі:

— Ідзі смела балотам, знойдзеш: святло нашага маяка бачна здалёку.

Цяпер, на сходзе каля маяка, Ілья выглядаў весялейшым. Зянькова задавала яму пытанні:

— А што ты будзеш рабіць, калі цябе немцы забяруць у Германію?

— Уцяку да партызан,— прызнаўся хлопец.

— А хіба ты ведаеш, дзе яны?

— Пакуль не ведаю, але трэба будзе, дык знайду.

Фруза задала Ільі яшчэ адно пытанне:

— Ці гатовы ты выканаць даручэнне арганізацыі пры любых умовах, нават калі будзе пагражаць смерць?

Ілья толькі бліснуў вачыма. Голас яго прагучаў глуха, але рашуча:

— Для гэтага я сюды і прышоў.

Ілья быў прыняты ў арганізацыю, якая складалася тады ўсяго з трох чалавек: Фрузы Зяньковай, Марыі Дзяменцевай і Валодзі Езавітава.

Праз тыдзень зноў сабраліся каля маяка. У арганізацыю ўступала Зіна Партнова. Яна выглядала зусім дзяўчынкай. Але ў яе постаці, у ясным і ў той жа час вострым позірку блакітных вачэй адчувалася ўпартасць і рашучасць.

Фруза спытала:

— А чаму, Зіна, уступаеш у арганізацыю?

Зіна пастаяла мінуту, задумалася.

— Хто я такая, вы ўсе ведаеце. А для чаго ўступаю ў арганізацыю? Я многа думала пра гэта. Іншага шляху не бачу.

Пасля гаварыў Ілья. Ён расказаў, як Зіна распаўсюджвае лістоўкі і газеты. І закончыў:

— Смелая, вельмі смелая, нічога не скажаш.

Зіну прынялі аднагалосна.

— А цяпер, сябры, — сказала Зянькова, звяртаючыся да Ільі і Зіны, — вось вам заданне. Трэба даведацца, якія часці размяшчаюцца ў Зуях і ў пасёлку цагельнага завода. Колькі салдат. Весткі перадайце сувязному.



Фруза паведаміла час, месца «яўкі» і паролі.

— Калі што зменіцца, — папярэдзіла яна, — пад паваленай бярозай будзе закапана бутэлька з запіскай.

Пасля сходу Ілья, нібы між іншым, сказаў:

— У мяне ёсць дзве вінтоўкі з патронамі. І дзве лімонкі схаваны.

— Вось табе і на! — ускрыкнуў Валодзя. — А чаму ты мне не сказаў?

— Табе? А ты хто такі? Радня? На адным сонцы анучы сушылі? Гэтага, брат, мала. Цяпер — іншая справа. Мы — члены адной арганізацыі.

Валодзя пакрыўдзіўся:

— Скажы, калі ласка, я ўжо яму чужы стаў...

— Не злуйся, Валодзя! Ты мне таксама не сказаў, што маеш зброю...

Не толькі Валодзя і Ілья хавалі зброю. Зіна Партнова, збіраючы ў лесе ягады, знайшла дзве скрынкі з патронамі. Іван Яблыкаў перацягнуў патроны ў Зуі. Іх закапалі ў яме. «Прыдзе час, пераправім партызанам», — сказаў дзядзька Іван.

Фёдар Слышанкоў і Яўген Езавітаў сабралі ля Обалі, дзе ішлі баі, дзесяткі два гранат. І другія хлопцы хавалі ў надзейных месцах вінтоўкі, кулямётныя стужкі, абоймы з патронамі.

Праз некаторы час камсамольцы сабраліся зноў. Валодзя рэкамендаваў у арганізацыю Яўгена Езавітава, былога выпускніка дзевятага класа Обальскай школы.

Фруза не пярэчыла, яна добра ведала Яўгена, але ж Яўген паступіў нядаўна працаваць да немцаў на торфзавод.

— Можа, раслумачыш?

Яўген развёў рукамі: што ён можа пра гэта сказаць? І так усё зразумела.

— Не палохайся, Фруза, — умяшаўся Уладзімір. — А чаму яму не працаваць? У Германію не забяруць — раз, меней падазрэнняў — два. Я ручаюся за Жэню, як за сябе.

Пасля таго, як прынялі Яўгена Езавітава, Зянькова сустрэлася з сувязным райкома. Той спытаўся, чаму да гэтага часу не прымаюць у арганізацыю Ніну Азоліну.

Фруза заміргала вачыма:

— Азоліну? Яна ж працуе ў камендатуры.

— Гэта добра, Фруза, што ты асцерагаешся. Але за Ніну не бойся. Мы яе ведаем. Свая. Дарэчы, Фруза, і табе, і іншым членам арганізацыі трэба таксама пайсці працаваць. Лягчэй будзе выконваць заданні.

Раней, чым ісці ў разведку, Ілья і Зіна прадумалі, як ім дзейнічаць.

— Якія ў Зуях часці, можна падслухаць па радыётэлефоне, — падзяліўся Ілья сваімі меркаваннямі.

— А як ты гэта зробіш? — пытала Зіна.

— У нашай хаце размяшчаецца палявая радыёстанцыя і тэлефон... Пра тое-сёе можна даведацца.

— Але як дазнацца, колькі салдат? Такіх рэчаў па тэлефоне не перадаюць

Яны задумаліся.

— Пра гэта Ілья, я даведаюся.

— Як? — насцярожыўся Ілья.

— У пасёлку на плошчы цагельнага завода два разы на тыдні праводзяцца страявыя заняткі. Зганяюць амаль усіх салдат з гарнізона. Вось я і падлічу..

Калі патрэбныя звесткі былі гатовы, яны накіраваліся ва ўмоўленае месца.

Яны мінулі драўляны мост праз невялікую рачулку, звярнулі налева і, прайшоўшы па беразе дзесятак метраў, спыніліся.

— Ну, Ільюша, лезь на дрэва. Я тут падзяжуру, — сказала Зіна.

Праз колькі мінут зверху пачуўся голас:

— Віця, тут вялікае гняздо.

Гэта быў пароль.

Адразу ж павінен быў з'явіцца чалавек і адказаць: «Коля, не чапай гнязда. Я зараз сам палезу да цябе». Але нікога не было.

Чакалі больш гадзіны. Потым адшукалі паваленую бярозу, пад якой была схавана запіска: «Мяняю кватэру. Калі затрымаюся — чакайце».

Яны ўселіся на траве. Потым Зіна лягла, падпёршы рукамі падбародак. Думкі непрыкметна перанеслі яе ў родны горад, за Нарвскую заставу. Як там мама і тата?

— Ілья! Скажы, што такое шчасце? — раптам спытала Зіна.

— Шчасце? Я думаю, што калі зрабіць для людзей такое, аб чым яны і не мараць, — гэта і будзе шчасце.

— Ну, і сказаў жа... — усміхнулася Зіна. — А на меншае ты не згодзен? Зрэшты, чаму на меншае... «Нам для счастья нужно очень много, маленького счастья не возьмем», — прадэкламавала яна радкі з верша.

— І яшчэ я думаю, — ціха працягваў Ілья, — шчасце — гэта біць фашыстаў, якія гаспадараць на нашай зямлі...

Па вершалінах дрэў прабег вецер. Зіна глянула ўгору.

— Ільюша, чуеш? Гэта шуміць лес. А чаму шуміць, ведаеш? А я ведаю. Чуе нашу перамогу. Не глядзі так на мяне... Скора яна прыдзе. Я веру.

У гэты момант непадалёк тры разы свіснулі. Яны змоўклі, прыслухоўваючыся. Ілья, падняўшыся, крыкнуў:

— Віця, тут вялікае гняздо.

З балота адказалі:

— Коля, не чапай гнязда. Я зараз сам палезу да цябе.

Галінкі кустоў расхінуліся, і адтуль выглянуў знаёмы Зіне круглы твар таго самага партызана, які раней трымаў сувязь з дзядзькам Іванам.

— Зачакаліся? Гаварыце, што прынеслі, — адразу прыступіў да справы сувязны. — Для пачатку нядрэнна, — сказаў ён, прачытаўшы данясенне. — Толькі почырк невыразны, быццам курыца надрапала. Пытанняў няма? Новае заданне атрымаеце ў Фрузы. Бывайце! Спяшаюся.

Над урочышчам апускаўся вечар. Лясныя паляны і дрэвы ахутваў туман. Стала халаднавата. Ілья зняў з сябе пінжак і накінуў яго на плечы Зіне.



## 2

Летам сорак другога года ў арганізацыі было больш за трыццаць чалавек. Абралі кіруючы камітэт на чале з «Таняй» — Фрузай Зяньковай. Пачала жыць падпольная камсамольская арганізацыя «Юныя мсціўцы».

Акрамя Фрузы, у камітэт увайшлі Зіна Партнова, Уладзімір, Ілья і Яўген Езавітавы, Марыя Дзяменцева, Мікалай Аляксееў, Фёдар Слышанкоў, Марыя і Зінаіда Лузгіны, Аркадзь Барбашоў і Ніна Азоліна.

Фруза пашкадавала, што не здагадалася запрасіць на сход прадстаўнікоў падпольнага райкома. Яе непакоіла, ці ўдасца яшчэ раз сабрацца ўсім разам? Добра было б цяпер прыняць прысягу беларускіх партызан.

Калі сцямнее, да маяка павінен прысці сувязны. Тут, каля дубка, Фруза абменьвалася поштай: перадавала сувязным данясенні і атрымлівала новыя заданні, газеты, лістоўкі. Яшчэ напярэдадні яна падрыхтавала важныя звесткі. Дзяўчына была ў нерашучасці. Толькі ёй адной Маркіянаў дазволіў сустракацца з сувязным, а тут колькі вачэй... Вось дык тайная яўка!

Але ж ёй вельмі хацелася паказаць камсамольцам тых, хто, па даручэнню партыі, накіроўвае волю і дзейнасць юных мсціўцаў.

Зянькова параілася з членамі камітэта.

— Ты, Фруза, застанься тут, — прапанаваў Аляксееў. — А мы пяройдзем па аднаму ў пусты хлеў за гародамі. Там і пачакаем.

Так і парашылі.

Зянькова падалася ў лес. На невялікай паляне затрымалася. Тут многа кветак. І рамонкі, і незабудкі, і званочкі... Як яна любіла іх!

Дзесьці зусім блізка двойчы кракнула качка. Фруза прыслухалася, падала сігнал, як было дамоўлена. Хутка з кустоў выйшаў Мікалай. Фруза кінулася насустрач брату, але, убачыўшы яшчэ чатырох чалавек, спынілася.

— Падыходзь бліжэй, не бойся! — і Маркіянаў першы працягнуў ёй руку. — Што, не пазнала?

З партызанамі прышла дзяўчына. Фруза бачыла яе ўпершыню. На ёй была гімнасцёрка, падпяразаная рамянём. Збоку вісеў рэвальвер. На плячы — аўтамат. З-пад бярэта выбівалася на лоб светла-русая пасма. На чыстым ілбе, між тонкімі бровамі, залегла маршчынка.

— Знаёмся, Фруза! Сакратар райкома камсамола.

— Герман! — назвалася дзяўчына ў бярэце, падаючы руку.

Фруза перадала камісару партызанскага атрада звесткі і, атрымаўшы новае заданне, расказала пра сход, пра гарачае жаданне юных мсціўцаў сустрэцца з партызанамі, каб прыняць прысягу.

Барыс Маркіянаў выслухаў яе. Твар яго стаў змрочным.

— Колькі вас сабралася?

— Прышлі ўсе як адзін. Трыццаць восем! — прамовіла з запалам Фруза, думаючы, што камісар узрадуецца.



— Вось дык канспіратары! Хіба можна збірацца гуртам? А калі хто-небудзь вас прасачыў?.. Што ж, не вернеш назад, — з горыччу сказаў Маркіянаў. — За памылку ў нас хаця і б'юць, але з ног не збіваюць. Давай, Фруза, дамовімся: у будучым збірайцеся разам толькі па самых неадкладных справах. І толькі члены камітэта... А трыццаць восем — гэта ўжо сіла, Фруза. Больш пакуль прымаць не трэба. І час узяцца за справу. За сапраўдную справу. Мы прынеслі вам зброю, міны, тол. Дадзім сігнал, пачнеце...

— А цяпер сходзім да хлопцаў. Засумавалі, мабыць... — сказаў ён сваім таварышам.

Сцяжынкай яны прайшлі да клуні.

Убачыўшы партызан, узброеных аўтаматамі і гранатамі, хлопцы ўсхапіліся з месцаў і кінуліся да іх. Кожны хацеў пацiснуць ім рукі, паглядзець сапраўдную зброю.

Маркіянаў загадаў паставіць вартавых, агледзеў прысутных. Некаторыя хлопцы былі яму знаёмыя, але многіх ён бачыў упершыню. Аблупленыя насы, вымазаныя ягадамі твары, бліскучыя вочы. Здагадайся, хто яны, аб чым думаюць... Можа, тут ёсць і такія, што спалохаюцца цяжкай дарогі падполля?

Маркіянаву захацелася шчыра пагутарыць з імі.



— Хлопцы! Вы добраахвотна выбралі цяжкі і небяспечны шлях барацьбы. Вы ж яшчэ зусім маладыя. А на шляху можа сустрэцца рознае...

Хлопцы ў адказ зашумелі:

— Дайце заданне!

— Выпрабуйце!

Маркіянаў падняў руку.

— Баявыя мае сябры! Прывітанне вам ад падпольнага райкома партыі і камандавання партызанскага атрада. Мне даручана сказаць вам, што ўсе юныя мсціўцы, члены арганізацыі, залічваюцца байцамі партызанскага атрада імя Варашылава. Віншую вас, таварышы!

Стаяла напружаная цішыня. Маркіянаву здалося ў гэтую хвіліну, што людзі пасталелі.

— А цяпер будзем прымаць прысягу. Слова мае сакратар вашай арганізацыі Фруза Зянькова.

Настаў урачысты момант.

Фруза і два ўзброеныя партызаны выйшлі на сярэдзіну. Успыхнула святло ручнога ліхтарыка. Усхваляваная, дрыжачым голасам яна чытала тэкст прысягі:

— «Я, грамадзянін Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, верны сын гераічнага беларускага народа, прысягаю, што не пашкадую ні сіл, ні самаго жыцця для справы вызвалення майго народа ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і катаў...

Я не складу зброі да таго часу, пакуль родная беларуская зямля не будзе ачышчана ад нямецка-фашысцкай погані...»

Юныя мсціўцы ўслед за Фрузай паўтаралі прысягу, слова за словам.

## Блакітныя пятліцы

### 1

Аднойчы Ірына Ісакаўна, вярнуўшыся з афіцэрскай сталовай, сказала Зіне Партновай:

— А ў мяне ёсць для цябе навіна.

— Вестка з Ленінграда?.. — Зіна ні на хвіліну не пераставала думаць пра бацькоў.

— Не, Зіначка, — адказала цётка Ірына. — Я хачу сказаць, што ты пойдзеш заўтра на работу.

— Куды?

— На афіцэрскую кухню.

— А што я там буду рабіць?

— Усё, што загадаюць: абіраць бульбу, мыць пасуду...

— Значыць, буду разам з табой,— узрадавалася Зіна.— Як добра!

— Не зусім разам, — паправіла яе Ірына Ісакаўна. — Я ж абслугоўваю кліентаў у зале... — Яна акінула Зіну неспакойным позіркам.— Аб адным цябе прашу — будзь асцярожнай! Нічога не рабі без майго ведама...

— Не бойцеся, цётка! Я ж не маленькая. Разумею ўсё-ўсё...

Назаўтра дзяўчына пайшла разам з цёткай на цагельны завод.

У адным з будынкаў яго знаходзілася кухня афіцэрскай сталовай. З кухні ежа праз акенца падавалася ў залу.

Бульбу абіралі ў асобным пакоі, дзе не было вокан. Дзесяць гадзін дзяўчаты сядзелі тут, не разгінаючы спіны. Ім нават не дазвалялася гучна размаўляць. Варта толькі было каму-небудзь павысіць голас, як адразу ж чуўся вокрык:

— Маўчаць!

Спачатку Зіна прыходзіла дадому зусім знясіленая. Але міналі тыдні, і дзяўчына пачала прывыкаць. Ёй здавалася, што спіна ўжо ные не так, як раней. Ды і рукі сталі цярплівейшымі.

Немцам спадабалася маленькая дзяўчына з касічкамі. Ёй адной дазвалялі ўваходзіць на кухню. Яна насіла сюды ваду, дровы.

Зіна згодна была цягаць усё, абы толькі быць бліжэй да катлоў, у якіх гатавалася страва...

Галя сядзела на лаве ў кутку пакоя. Яна прычасала сваёй любімай ляльцы валасы, завязала чырвоны бант і пасадзіла побач з сабой.

— Сядзі, Леначка, спакойна! Я пакажу табе зараз малюнкі. Хочаш?

Дзяўчынка працягнула руку па кніжку, але ў гэтую хвіліну ў пакой увайшла Зіна.

— Чаму так рана?— здзіўлена спытала Галя.

Яна прывыкла да таго, што сястра вяртаецца позна ўвечары.

— Так трэба, Галінка, — адказала Зіна, нечым заклапочаная.

Яна выняла з мяшка невялікую бляшанку і паставіла яе на крэсла. Галі кінуўся ў вочы малюнак з чэрапам і скрыжаванымі касцямі.

— Хочаш, Галінка, я пашыю табе ляльку?

Дзяўчынка хацела запярэчыць: «Лялек і так повен куток», але, зірнуўшы на сур'ёзны твар сястры, згадзілася.

Зіна адразу ж пачала шыць, а Галя моўчкі сачыла за ёю, высунуўшы кончык языка.

Скора лялька была гатова. Галя паглядзела на яе і засмяялася. Якая пацешная! Галава абвязана жоўтай хусткай з чорнымі крапінкамі, жывот вялікі, ногі крывыя. На шыі вялізны бант. У Галі яшчэ ніколі не было такой непрыгожай лялькі.

— А гуляць з ёй можна?

— Не, Галінка. Хай яна стаіць спакойна ў кутку. Не чапай яе.

Сярод Галіных цацак новая лялька нічым не вылучалася, і гэта адразу неяк супакоіла Зіну. У яе нават весела прыўзняліся бровы. Яна ўсміхнулася: «Бляшанка схавана...»

Ёй трэба было яшчэ схадзіць да Фрузы, і яна, развітаўшыся з сястрычкай, знікла за дзвярыма.

Дзень быў спакотны. У празрыстым паветры над зямлёй дрыжалі срэбныя павуцінкі.

Зіна застала Фрузу на гародзе. Тая капала бульбу.

Падышоўшы да сяброўкі, Зіна ціха сказала:

— Усё ў парадку. Схавала...



— Добра. Чакай далей. Перадай Ніне Давыдавай, каб трымала сябе асцярожна, асабліва з афіцэрамі.

— Добра. Я якраз іду ў сталовую.

Фруза зноў узялася за працу і не заўважыла, як з боку лесу з'явіўся чалавек.

— Добры дзень! — сказаў ён, наблізіўшыся.

Фруза падняла галаву. Перад ёй стаяў зусім незнаёмы хлопец. На ім былі шырокія штаны навыпуск і танны пінжачок. У руках ён трымаў палатняную торбу.

— Давай знаёміцца. Цярэня. Завуць Юрам.

«Што яму трэба? — падазрона агледзела хлопца Фруза і адступілася.— Ці мала хто прычэпіцца».

— Стой, куды-ты? — збянтэжыўся хлопец, які не чакаў, відаць, гэтага.— У мяне да цябе справа.

— Я занята. Бачыш, капаю бульбу.

— Я ад Маркіянава і Наташы. Трэба пагутарыць.— І тут хлопец назваў пароль.

— З гэтага б і пачынаў.— Фруза з палёгкай уздыхнула.— А то Цярэня... Юра... Адкуль я ведаю, хто ты?.. Ніхто не папярэджваў. А наконт размовы, сам бачыш, месца нязручнае. Пойдзем у хлеў.

Цярэня быў другім сакратаром падпольнага райкома камсамола. Ён прышоў са спецыяльным заданнем. З цэнтральнага штаба партызанскага руху атрымана радыёграма. Паведамляюць, што з Рыгі выйшаў і пройдзе праз Полацк эшалон з авіябомбамі і запаснымі часткамі для самалётаў. Ні ў якім выпадку яго нельга прапусціць.

Ні Юра Цярэня, ні Фруза Зянькова не ведалі тады падрабязнасцей пра падзеі, якія адбыліся пад Сталінградам. У паведамленнях Савінфармбюро, якія прымаліся партызанамі па радыё, пра гэта гаварылася вельмі коратка.

Між тым, Сталінград пераходзіў у контрнаступленне. Вораг перакідваў туды новую жывую сілу і тэхніку. З Усходняй Прусіі праз Прыбалтыку рухаліся на паўднёвы ўсход варожыя эшалоны.

Цярэня азнаёміў Фрузу з планам дыверсіі, які быў распрацаваны ў штабе партызанскага атрада.

— На станцыі Лоўша партызаны разбяруць чыгунку. Састаў затрымаецца на ноч у Обалі. А тут — справа за вамі. Трэба ўзарваць эшалон.

Фруза слухала Цярэню, а сама думала: каму даручыць?

— Ведаеш што, Юра, пабудзь у нас дзень. Трэба пагутарыць з членамі камітэта. Сцямнее, пойдзем у Масцішча і ў Зуі. Наведаем Езавітавых. Там, дарэчы, і пераначуеш.

Увечары сабраліся ў Валодзі. Цярэня паўтарыў заданне.

— У мяне ёсць падыходзячая кандыдатура. Крэмень....— Валодзя стукнуў абцасам па падлозе.

— Хто? — спытаў Цярэня.

— Ты яго не ведаеш.

— Валодзя, не марудзь. Кажы, хто? — настойвала Фруза.

— Коля Аляксееў. Стрэлачнік. Цяпер працуе за змазчыка, бо той хварэе.

Абмеркаваўшы кандыдатуру, камітэт даручыў Уладзіміру схадзіць да Мікалая і пагутарыць з ім.

Позна ўвечары Валодзя прабраўся гародамі да хаты Аляксеева, якая стаяла непадалёку ад станцыі. Мікалая не застаў — той мыўся ў лазні. Валодзева сястра Ганна згатавала чай. «Толькі без цукру»,— папярэдзіла яна брата.

Пакуль пілі чай, прышоў і Мікалай — гаспадар хаты. Пасядзелі, пагутарылі пра сямейныя справы. Хутка Ганна выйшла і занялася гаспадаркай.

Валодзя тады адразу ж коратка расказаў пра заданне.

— Возьмешся?

Мікалай адказаў не адразу.

Сярод юных падпольшчыкаў ён быў самым старэйшым. Яму пайшоў дваццаць трэці год. Быў ён сціплы і сарамлівы. Рэкамендаваны Валодзем Езавітавым у члены арганізацыі, Мікалай выконваў розныя заданні, але ў душы марыў пра тое, што зробіць нешта асаблівае ў сябе на чыгунцы, і рыхтаваўся да гэтага. Цяпер ён старанна абдумваў заданне. Вузлаватыя, са слядамі мазуту і масла, яго вялікія рукі то сціскаліся ў кулакі, то разнімаліся, калі ён моўчкі крочыў па пакоі. Нарэшце сказаў толькі адно слова:

— Згодзен!— і, некалькі пачакаўшы, дадаў:— Заўтра я якраз дзяжуру...

Валодзя перадаў яму пяць круглых мін замаруджанага дзеяння.

— Не забудзь разлічыць час... — папярэдзіў яго Валодзя.

— Сам ведаю...

## 2

Наступнай ноччу адзін за другім прыбылі на станцыю два воінскія эшалоны. Саставы загналі на першы і другі пуці, амаль да семафора. «Які ж з авіябомбамі?» — хваляваўся Аляксееў.

Дакладней за ўсё гэта можна было вызначыць па колеру пятліц у вартавых, якія хадзілі ўзад і ўперад між саставамі. Але як іх разгледзіш у цемры?

Аляксееў з маслёнкай у руках прайшоў уздоўж састава і, вярнуўшыся назад, затрымаўся ля цыстэрны з бензінам. Толькі паспеў падняць накрыўку буксы, як яго аклікнуў вартавы.

— Вэр іст ду?..

— Гэта я... я... змазчык.— Мікалай адчуў, як яго кінула ў пот.

— Шнэль! Шнэль! — Вартавы павярнуўся да цыстэрны.

«Трэба хавацца, — падумаў Мікалай, — а то яшчэ падстрэліць».

Старанна заліваючы масла ў гняздо буксы, Аляксееў выразна пачуў за спіной крокі. Яны набліжаліся. «Хаця б, д'ябал, не спыніўся». Але салдат, як быццам на зло, затрымаўся і раптам спытаў:

— Эй, рус! Запалка ёсць?

Мікалай выняў з кішэні карабок.

— Калі ласка, пан начальнік, закурвайце.

Салдат чыркнуў запалкай і паднёс яе да сігарэты. Агонь асвятліў блакітныя пятліцы. Мікалай уздрыгнуў: «Гэты састаў».





Закурыўшы, салдат і не думаў адыходзіць.

— Слухай, рус! А дарога тут добрая? Бандыты ёсць?

Мікалай вясёлым голасам адказаў:

— Тут іх ніколі не было.

— Баяцца нас?

— Вядома! Ну, пан салдат, бывайце.

Аляксееў рушыў у працілеглы бок, спыніўся каля трэцяга ад цыстэрны вагона. Нагнуўшыся, адкінуў накрыўку, наліў трохі масла і тут жа непрыкметна апусціў у гняздо буксы міну замаруджанага дзеяння. Тое ж зрабіў і з астатнімі чатырма мінамі. Потым падаўся ў дзяжурку.

Дадому Мікалай вярнуўся пад раніцу, але спаць не клаўся.

— Ты чаму не спіш? — пытала Ганна. Кладзіся, даўно пара.

— Не спіцца чамусьці,— адказаў ён, паглядваючы на стрэлкі ходзікаў: без чвэрткі восем! А механізм у мінах пастаўлен роўна на восем, гэта ён добра памятаў.

Стрэлкі павольна паўзлі ўгору. З кожнай мінутай Аляксееў непакоіўся ўсё болей і болей. А раптам эшалон з авіябомбамі пойдзе са станцыі і ўзарвецца ў дарозе? Шкада, уцалее другі састаў...

Роўна а восьмай гадзіне пачуўся моцны выбух, пасля загула, застагнала зямля: пачалі рвацца бомбы... Выбухі не сціхалі да двух гадзін дня...

Былі знішчаны ўшчэнт два эшалоны.

Разварочаныя пуці на станцыі наладзілі толькі праз дзень.

Начальнік гестапа капітан Краўзэ шалеў ад злосці, але фашысты так і не дазналіся, хто зрабіў дыверсію. Ля станцыі быў хмызняк. Гітлераўцы рашылі, што партызаны праніклі на станцыю адсюль. Сагналі людзей, прымусілі высерабіць кусты і абнесці станцыю агарожай.

## Дыверсія

1

Уночы Галю разбудзіў моцны стук дзвярэй. Расплюшчыўшы вочы, яна заўважыла, як цётка Іра разам з Нінай Давыдавай і Зінай прайшлі ў другі пакой.

Галя хацела падняцца, але пачуліся крокі. Нехта прабіраўся ў куток, дзе ляжалі яе лялькі.

Дзяўчынка схавалася пад коўдру з галавою. Але ўсё было чутно.

— А ці не многа? Можа, адсыпаць? — гэта гаварыла цётка Іра.

Зіна злосна адказала:

— Нічога. Болей здохне.

Нарэшце, пайшла Ніна Давыдава, і ўсё сціхла. Цётка і Зіна леглі спаць. Заснула і Галя.

За дзень да дыверсіі Зіна адвяла Галю ў вёску Чарнечанкі. Фашысты бывалі тут рэдка і то толькі днём: баяліся партызан. Зіна ўгаварыла сястрычку застацца там у сваякоў.

— Заўтра прыду па цябе.

Але не прыйшла. У дзень дыверсіі Зіна замяняла пасудніцу, якая захварэла. Гэта дало ёй магчымасць наблізіцца да катлоў са стравай, хаця шэф-повар і яго памочнік пільна сачылі за ёй. Зіне здалося, што яны здагадваюцца пра яе намер, і таму ацiраюцца ўвесь час на кухні.

Дзяўчына хвалявалася і старалася не глядзець у той бок, дзе стаяла двое тлустых фашыстаў.

Да снедання не ўдалося нічога зрабіць. Зіна з нецярплівасцю чакала, калі пачнуць закладаць у катлы прадукты на абед.

Афіцыянткі накрывалі сталы. Расстаўлялі кветкі, раскладалі прыборы. Цётка Іра і Ніна Давыдава некалькі разоў падыходзілі да Зіны па чыстыя талеркі. Бачачы яе сумны твар, яны разумелі, што зрабіць ёй пакуль нічога не ўдалося.

Цётка Іра вырашыла выручыць Зіну.

— Трэба выклікаць галоўнага ў залу,— шапнула яна Ніне.—Прыдумай прычыну.

Пачаўся абед. Зіна бачыла, як хутка запаўнялася сталовая. Афіцэры займалі месцы за сталамі, спяшаліся афіцыянткі.

За адным сталом раптам узняўся шум. Афіцэр у акулярах, з прышчаватым тварам пачаў крычаць на Ніну Давыдаву, што тая падала дрэнна падсмажаныя катлеты.

— А я тут пры чым? — са слязамі ў голасе апраўдвалася афіцыянтка.— За страву, пан обер-лейтэнант, адказвае галоўны повар.— На твары Ніны выступілі чырвоныя плямы. Вочы гарэлі нядобрым агнём.

— Пакліч яго сюды! — патрабаваў афіцэр.

Ніколі Ніна не бегала яшчэ так хутка, як цяпер. Адзін момант — і шэф-повар стаяў перад прышчаватым обер-лейтэнантам.

Зіна засталася на кухні з памочнікам повара, непаваротлівым яфрэйтарам Кранке. Пакуль ён круціўся каля пліты, дзе смажыліся катлеты, яна падышла непрыкметна да катла з супам і высыпала туды парашок.



— Эй, пасудніца! Талеркі! — пачула яна за сваёй спіной сіпаты голас Кранке.

На секунду ў яе пацямнела ў вачах. Яна адышла ад катла аслабелая, думаючы толькі пра адно — як бы не зваліцца: у яе падкошваліся ногі.

2

Галя ўсё чакала ў Чарнечанках сястру. Мінуў і другі дзень, і трэці, а Зіны ўсё не было.

Вяртаючыся ўвечары з лазні, дзяўчынка яшчэ ў сенцах пачула жаночыя галасы, што даносіліся з хаты праз незачыненыя дзверы.

Цётка расказвала суседцы:

— Які жах, Матруна, я табе скажу. Уначы іх забралі... Абедзвюх адразу.

— Далёка павезлі?

— Не ведаю. Кажуць, Ніна зламала нагу. Выскачыла ў акно. А Ірына...

Цётка нешта зашаптала, і Галя нічога больш не разабрала.

Усю ноч яна варочалася з боку на бок. Падслуханая размова ўсхвалявала яе. «Куды забралі цётку Ірыну і Ніну? А што ж з Зінай?»

Нарэшце, дачакалася світання. Калі ўсе пайшлі на работу, дзяўчынка сабрала свае рэчы, і зашчапіўшы дзверы, паклыпала пешшу ў Зуі.

Раніца дыхала свежасцю. Скрозь шэрыя воблакі нясмела выглядала сонца.

Дарога то выбягала на поле, то гублялася ў лесе, дзе на траве і на маладых елачках блішчэла раса.

Галя прыслухоўвалася. То хрусне пад нагой галінка, то ўпадзе сухая шышка, то забулькоча ручай.

Так яна прайшла кіламетраў пяць-шэсць. Наперадзе за паваротам бліснула рака.

На беразе каля лодкі корпаўся мужчына з невялікай торбай за плячыма. Па барадзе і вачах Галя адразу пазнала яго. Ён наведваў зімою дзядзьку Івана.

— А я вас, дзядзечка, ведаю,— сказала яна, і шэрыя вочы яе ўсміхнуліся.

— Ты, прыгажуня, адкуль? — мужчына з цікаўнасцю разглядаў яе, намагаючыся ўспомніць, чыя ж гэта дзяўчынка.

— А вы, дзядзечка, мяне ведаеце. Толькі не прызнаецеся. Я — Галачка...

Барадаты нахмурыў бровы.

— Іван Яблыкаў — мой дзядзька. Вы прыходзілі да яго...

Мужчына яшчэ больш нахмурыўся.

— Дзядзечка, перавязіце на той бераг,— папрасіла Галя, баючыся, што гэты чалавек не пазнаў яе і не паможа.

Барадаты моўчкі пайшоў у кусты, дзе былі схаваны вёслы, адвязаў лодку і перавёз Галінку на другі бераг.

— Ну, далей не заблудзіш? — і ён растлумачыў, як бліжэй прайсці ў Зуі.— Перадавай сваім паклон!

— Дзякуй, дзядзечка!

Бабуля, плачучы, сустрэла Галю. Дзяўчынка спалохалася: здарылася нешта страшнае.

— Забралі, Галачка, цётку Іру,— выцірала слёзы Ефрасіння Іванаўна.

Галя хацела пайсці ў сталовую, да Зіны, але бабуля пачала адгаворваць.

— Зіна сама прыдзе скора па малако.

Позна вечарам прышла Зіна. Галінка кінулася да яе на шыю і расплакалася.

— Чаму ты не прышла па мяне?

— Не пытай лепш, Галінка...

Сястра расказала, як ноччу ў хату, дзе яны жылі ў апошні час, увархваліся паліцаі, схапілі цётку Іру і Ніну Давыдаву і павезлі ў Обаль.

— А за што, дачушка, не ведаеш? — пытала яе Ефрасіння Іванаўна.

— Немцы атруціліся. Кажуць, многа іх паздыхала.

— А Ірына і Ніна пры чым тут?

— Не ведаю, бабуля.

— Ты б, дачушка, збегала да Івана. Ён у Езавітавых. Іван заступіцца за Ірыну,— упэўнена сказала Ефрасіння Іванаўна.

— Трэба, бабуля, пачакаць.

Зіна не хацела ёй гаварыць, што паліцаі вось ужо другі дзень шукаюць дзядзьку Івана.

Галя не зразумела, чаму трэба пачакаць, але не стала распытваць. «Калі Зіна гаворыць, значыць, так трэба...»

3

Пасля арышту Ірыны Ісакаўны і Ніны Давыдавай сябры да Зіны не паказваліся. Затое стала часта наведвацца суседка, худая жанчына, год трыццаці, немка па паходжанню.

— Я заходжу да цябе, галубка мая, як добры сусед,— казала яна, а ў самой вочы так і бегалі ва ўсе бакі.

Галі не спадабалася яна.

«І чаго гэта, калі няма Зіны, яна перагортвае яе кнігі?...»

У фашыстаў не было доказаў супраць Зіны. Баючыся адказнасці, шэф-повар і яго памочнік сцвярджалі, што яны і блізка не падпускалі да катлоў са страваю дзяўчыну, якая падмяняла пасудніцу.

На ўсякі выпадак, гітлераўцы прымусілі яе пакаштаваць атручаны суп. «Калі адмовіцца,— вырашылі яны,— значыць, яна ведае, што страва атручана».

Зіна здагадалася, у чым справа. Яна, як ні ў чым не бывала, узяла з рук шэф-повара лыжку і спакойна зачэрпнула суп.

— Клейнэ медхен, капут... капут...— ускрыкнуў памочнік повара, непаваротлівы яфрэйтар Кранке.

Зіна зрабіла некалькі невялікіх глыткоў.

Яе адразу ж пачало нудзіць.



— Гут, гут,— хваліў яе шэф-повар, хлопаючы па плячы.— Марш нах хаузэ....

З цяжкасцю Зіна дабралася да Зуёў. Выпіла ў бабулі два літры сыроваткі. Трохі палегчала.

Ад бабулі Зіна вярнулася ноччу. Яна шмыгнула да Галі ў ложак і расказала, што яе затрымалі па важнай справе ў Обалі.

— А чаго ты так часта стала хадзіць у Обаль?

— Ты, Галінка, яшчэ маленькая. Нельга табе ўсё ведаць. Давай дамовімся: надыйдзе час, я сама табе ўсё раскажу. А пакуль ні пра што не пытайся.

Ніне Азолінай, члену камітэта, якая працавала ў камендатуры, ад свайго чалавека стала вядома пра лёс Ірыны Ісакаўны і Ніны Давыдавай.

— Перадай сваім,— сказаў гэты чалавек,— што ўчора іх расстралялі. Яны трымалі сябе, як сапраўдныя савецкія людзі. Выцерпелі жорсткія катаванні, але не выдалі нікога... Яшчэ перадай: ёсць данос на Зіну Партнову. Суседка падазравае яе ў сувязі з партызанамі, але даказаць не можа. Зіну пакуль што не чапаюць, хочуць высачыць, хто да яе ходзіць.

Стаяў ціхі, цёплы верасневы вечар. У змроку да хаты бургамістра ў Зуях адзін за адным прайшлі некалькі чалавек. Гэта былі члены камітэта падпольшчыкаў.

Ніна Азоліна паведаміла ўсё, што ёй стала вядома. У глыбокім маўчанні ўшанавалі памяць расстраляных — Ірыны Ісакаўны і Ніны Давыдавай...

Пасля Фруза прапанавала падпольшчыкам, якім пагражае арышт, рыхтавацца да адыходу ў партызанскую зону, як дамоўлена з камандаваннем атрада.

Уночы партызаны адвялі ў лес Зіну, Лёню і Галю.

## Вогненнае кола

1

У цяжкі час прышлі да партызан Зіна, Лёня і Галя. Калі б яны спазніліся на некалькі гадзін, нікога ў лагеры не засталі б.

Апусцелі зямлянкі. Патухлі вогнішчы.

— А дзе ж людзі? — усё пытала Зіна ў сувязнога.

Сувязны стаяў моўчкі і прыслухоўваўся. Чулася, як булькоча ручай. Сувязны расхінуў кусты. З заімшэлага пня з лёгкім шумам выбівалася амаль нябачная крыніца. Пільнае вока партызана заўважыла памятае нагамі лісце. Сляды вялі да возера.

— Пачакайце тут...— сказаў сувязны.— Далёка адысці яны не маглі.

Ён залез на дрэва, агледзеў наваколле. Над лесам, што лявей возера, заўважыў дым.

— Ну, што? — абступілі яго ўсе, калі ён злез на зямлю.

Сувязны выказаў думку, што партызаны, мусіць, каля возера і што трэба падацца туды.

Рушылі. Неўзабаве бліснула на сонцы азёрная роўнядзь. Зіна ўбачыла на паляне запрэжаных коней.

Каля партызанскай заставы іх затрымалі. Праверылі пропуск.

— Куды вядзеш? — строга запытаў вартавы ў сувязнога.

— Загадана да камісара.

— Ідзі прама. Другая фурманка.

Маркіянаў узрадаваўся іх прыходу. Даведаўшыся пра апошнія навіны, ён папярэдзіў, што тым, хто застаўся ў вёсцы, будзе цяпер цяжкавата. Часова, магчыма, абарвецца сувязь з імі.

Напярэдадні камандаванне партызанскага атрада атрымала ад бургамістра Езавітава звесткі аб тым, што з обальскага і лявонаўскага гарнізонаў збіраецца выйсці карная экспедыцыя. Фашыстаў чакалі з мінуты на мінуту.

— Размова з вамі кароткая,— сказаў камісар.— Спірыдонаў, выдай ім вінтоўкі і па дзве абоймы...

— Есць, выдаць,— абазваўся чалавек, які стаяў каля суседняй фурманкі.

Зіна глядзела журботнымі вачыма на Маркіянава.

— Ну, што яшчэ? — спытаўся ён са здзіўленнем.

— А як жа Галінка?..

— Я і забыў пра яе, прабач,— Маркіянаў задумаўся.— Самае лепшае — аддаць яе пад нагляд маёй маці. Яна на санітарнай фурманцы... Паклічце Наталлю Дзмітраўну, скажыце, я паслаў...

Да пары да часу фашысты лічылі, што лістоўкі, газеты, дыверсіі ў обальскім гарнізоне — гэта справа рук партызан, якія размяшчаліся ў Шашанскім лесе. Яны ніяк не маглі ўявіць, што да гэтай справы маюць адносіны ўчарашнія вучні, амаль яшчэ дзеці. У камендатуры СД былі ўпэўнены: варта толькі ачысціць лес ад «бандытаў», як спыняцца ўсе няшчасці.

Да Шашанаў нямецкае камандаванне падцягнула рэгулярныя вайсковыя часці. Для кіраўніцтва карнай экспедыцыяй прыехаў з Віцебска зондарфюрар службы бяспекі Карл Борман, брат вядомага гітлераўскага саноўніка і ката Бормана.

Камандаванне партызанскага атрада выбрала рубеж для абароны. Спераду яго прыкрываў густы лес. На прасеках і сцяжынках зрабілі завалы. Направа — возера. Яно добра праглядалася і прастрэльвалася.

Адзіная лясная дарога трымалася пад агнём мінамётаў і кулямётаў. Злева, праз лес, праходзіў глыбокі роў. Адсюль можна было абысці партызан з фланга. Таму ў некалькіх месцах дно рова і асабліва выхады з яго былі замініраваны.

Вораг меў перавагу ў жывой сіле: у экспедыцыі ўдзельнічала больш дзвюх тысяч салдат.

Першы ж бой паказаў зондарфюрару Борману, што разграміць партызан не так лёгка. Два дні фашысты, не зважаючы на страты, безупынна атакавалі пазіцыі партызан, але вымушаны былі адысці. З цяжкасцю салдаты пераадольвалі лясныя завалы, траплялі на міны. Але гэта яшчэ не ўсё . Варта было фашыстам вырвацца на палянку — іх сустракаў знішчальны шквал агню. Дзе ж тут можна было замацавацца!

Зіна і Лёня ўпершыню трапілі ў такое становішча. У Зуях і Обалі яны кожны дзень сустракаліся тварам у твар з ворагам, але ён не страляў у іх з гармат і кулямётаў. А тут кругом свішчуць кулі, рвуцца снарады.



Мала, мабыць, знойдзецца маладых салдат, якія могуць сабе растлумачыць, чаго так неспакойна б'ецца сэрца ў першым баі. Зіна і Лёня палохаліся пры кожным разрыве снарадаў, нерваваліся, калі за сто метраў ад сябе бачылі гітлераўцаў, іх ашчэраныя твары ў насунутых на лоб касках...

На трэці дзень абароны агонь з партызанскіх акопаў нечакана аслабеў...

Маркіянаў падбег да начальніка штаба атрада Пятра Дзмітравіча Пузікава, невысокага чалавека з панурым тварам.

— Справа дрэнь, Пятро! Канчаюцца патроны!.. Дзе наш рэзерв?

— На базе. Адсюль кіламетр, не больш. Але як даставіш іх?

— Ведаеш што,— прапанаваў камісар,— вазьмі дзесятак партызан і ідзіце на базу. Мы пакуль што пратрымаемся.

Сярод маладых байцоў, якія выказалі жаданне пайсці з Пузікавым, быў і Лёня,— ён ужо прывык, асвойтаўся.

Зіна таксама не вытрымала, падышла да Маркіянава.

— Дазвольце і мне, таварыш камісар...

Пузікаў павярнуўся на яе голас:

— Малая ты...

— Гэта яе рост такі...— заступіўся Лёня.— Вазьміце яе. Яна — смелая.

Але Пузікаў маўчаў.

— Добра, пойдзеш з імі,— сказаў Маркіянаў Зіне.— Толькі хутчэй вяртайцеся.

Добраахвотнікі паспелі адпаўзці даволі далёка, калі фашысты зноў пайшлі ў атаку,— чацвёрты раз у гэты дзень.

Партызаны не стралялі.

— Берагчы патроны! — перадавалі па ланцугу.

Немцы — побач. Яны бягуць, падаюць, зноў падымаюцца і бягуць на акопы.

«Хоць бы хапіла патронаў...» — з трывогай думаў Маркіянаў.

Гітлераўцы не дабеглі да акопаў метраў на трыццаць, як застракаталі кулямёты і грымнулі партызанскія гарматы...

Атаку адбілі, але ў партызан засталося вельмі мала патронаў.

Цяжка даводзілася камісару ў гэтыя хвіліны. Яго не пакідала адна думка: «Толькі б пратрымацца, пакуль вернуцца таварышы з патронамі!»

## 2

Партызаны прабіраліся ў пакінуты нядаўна лагер. Кругом рваліся варожыя снарады.

Каля адной высокай сасны спыніліся. Раскідалі ламачча, што прыкрывала ўваход у падземны склад боепрыпасаў.

Знайшлося восем скрынак патронаў і сто пяцьдзесят гранат-лімонак.

— Забірайце хутчэй! Пакіньце мне адну скрынку. А табе, Зіна, пакладзем у мяшок дзесяткі тры лімонак.



— I сотню патронаў,— дадала Зіна.

— Не спрачайся! Хопіць табе і гранат. Цяжкія.

Назад вярталіся яшчэ павольней, чым на базу. Уперадзе з мяшком за спіной паўзла Зіна, за ёй — Лёня, ззаду — астатнія. Замыкаў групу Пузікаў.

Лясную сцяжынку, па якой рухаліся партызаны, перасякаў роў.



— Немцы!— прашаптала Зіна, падпоўзшы да рова, і падала знак астатнім: «Спыніцца!»

Да яе падпоўз Пузікаў:

— Што здарылася?

Справа, метраў за дзвесце адсюль, пераходзілі праз роў фашысты.

Пузікаў зразумеў, што атрад акружаюць.

— Таварыш Ягоранка! — загадаў ён пажылому партызану, які быў бліжэй за іншых. — Хутчэй да камісара. Скрынку перадай Мікалаю Зянькову. Бяжы ў абход...

Толькі Ягоранка паспеў перадаць скрынку, як да Пузікава падскочыла Зіна.

— Таварыш начальнік... Я хутчэй спраўлюся...

— І я з ёй, — далучыўся Лёня. — Заадно захопім частку патронаў.

— Дазвольце і мне, — папрасіўся Мікалай Зянькоў.

— І мне...

— І мне... — гучалі наперабой галасы.

Пры іншых абставінах Пузікаў, магчыма, не адпусціў бы больш нікога, акрамя Зіны і Лёні, але зараз вырашаўся лёс атрада, і ён дазволіў:

— Бяжыце, у вас ногі маладыя...

## 3

Адбіўшы чарговую атаку, Маркіянаў сабраў камандзіраў рот, загадаў раздаць байцам апошнія гранаты і папярэдзіў:

— Без загаду не адступаць.

Новая атака пачалася ўраганным аўтаматным агнём фашыстаў.

Адзін за адным выходзілі са строю партызаны. Ва ўсіх на вачах куля прабіла грудзі камандзіру першай роты Міхаілу Аржвінікаву...

Партызаны адбіваліся толькі гранатамі: берaглі апошнія патроны. У другой роце зрэдку сакатаў яшчэ кулямёт.

«Дзе ж Пузікаў? — думаў Маркіянаў. — Што з ім?»

Пётр Дзмітравіч быў кадравым афіцэрам Чырвонай Арміі. Скончыўшы танкавае вучылішча, ён у пачатку вайны атрымаў прызначэнне ў танкавы батальён мотастралковай дывізіі. У раёне Магілёва на Дняпры дывізія трапіла ў акружэнне. Два месяцы танкісты вялі баі ў тыле ворага, наносячы яму цяжкія страты, а пасля невялікімі групамі пачалі прабівацца ў партызанскую зону...

У лістападзе 1941 года, пасля трыццацісутачнага пераходу, Пётр Дзмітравіч дабраўся, нарэшце, да роднай вёскі Падоры Сіроцінскага раёна.

Сабраўшы моцную баявую групу, якая ўлетку сорак другога года ўлілася ў партызанскі атрад імя Варашылава, Пётр Пузікаў вось ужо колькі часу граміў ворага.

Маркіянаў не сумняваўся, што Пузікаў не падвядзе. Раптам ён убачыў, як з бліжэйшых кустоў, ад возера, выпаўзлі двое: хлопец і дзяўчына. Яны прабіраліся да акопаў першай роты. Камісар пазнаў Зіну і Лёню.

— А ну, хлопцы, на выручку! — крыкнуў ён двум байцам.

Усе добраахвотнікі шчасліва дабраліся да сваіх.

Патроны і гранаты адразу ж раздалі байцам.

— Таварыш камісар, — звярнулася Зіна да Маркіянава, — начальнік штаба загадаў далажыць, што немцы акружаюць атрад. Мы самі бачылі, як яны пераходзілі роў. Вось запіска.

Камісар яшчэ раз сабраў камандзіраў рот.

— Становішча, таварышы, ускладняецца. Фашысты білі ў лоб, не выйшла. Яны рашылі акружыць нас. Прапаную рушыць да сваіх праз балота. Як вы думаеце?

Камандзіры маўчалі. Яны ведалі, якое гэта гіблае балота...

— Інакшага выхаду няма, — адказаў камандзір другой роты.

— Правільна, таварыш Нікіцін! Але ты з намі не пойдзеш... Твая рота застанецца прыкрываць адыход. Пасля — адарвешся і дагоніш...

— Зразумела, таварыш камісар. Падкіньце патронаў...

— Падкінем. Праб'емся да сваіх — патроны будуць...

...На захадзе дагарала вячэрняя зара. Гарызонт усё больш ахутваўся туманам. Ён хаваў людзей, што прабіраліся між кустоў да балота.

Пераход прадаўжаўся ўсю ноч. Прывал зрабілі перад світаннем на паляне ў невялікім хмызняку, які падступаў да балота.

Удзень пераправіліся праз Заходнюю Дзвіну і рушылі далей, у глухія мясціны Каз'янскіх лясоў, дзе знаходзіўся штаб партызанскай брыгады імя Леніна. Сустрэў атрад камісар брыгады Уладзімір Антонавіч Сіпко.

Апоўдні прышла рота Нікіціна. З ёю быў і Пузікаў.

## Канец Карла Бормана

### 1

У обальскай камендатуры скончыўся рабочы дзень. Перакладчыца Бранфельдт, немаладая, сухарлявая жанчына, у акулярах на вострым носе, з пасівелымі валасамі, неахайна сабранымі на патыліцы, павольна накіравалася да выхаду. Праходзячы міма сакратарскага стала, зірнула ў бок Ніны Азолінай — гэта быў умоўны знак: «Сустрэнемся на рагу».

Ніна сабрала са стала паперы, паклала іх у жалезную скрынку, што стаяла побач на табурэтцы, і выйшла на вуліцу. Хутка яна ўбачыла ўперадзе перакладчыцу. Дагнала яе ўжо каля павароту на Зуі. Далей пайшлі разам. Пакінуўшы ў баку белы двухпавярховы будынак школы, яны па мосце перайшлі цераз раку Обаль на працілеглы бераг і пачалі, не спяшаючыся, узнімацца на пагорак, дзе скрозь рэдкія елкі віднеліся крыжы зуеўскіх могілак.

— Ёсць навіна, — сказала перакладчыца. — З мінуты на мінуту чакаецца важны госць, зондарфюрар Карл Борман... Біянік наш нервуецца...

Азоліна яшчэ раніцай звярнула ўвагу на ажыўленне, якое панавала сярод паліцаяў: яны шнырылі ўсюды, прымушалі падмятаць вуліцы, прыбіраць двары. Была ўзмоцнена ахова станцыі, пасёлка, шасейнай дарогі. Камендант Біянік мітусіўся, як ніколі... «Дык вось гэта чаму», — падумала цяпер Ніна.

Не паспелі Бранфельдт і Азоліна падняцца на пагорак, як з боку шашы Віцебск — Полацк, метраў за сто пяцьдзесят ад іх, бліснуў чорным лакам лімузін. Праз дзве-тры мінуты ён ужо быў побач. Каля крутога спуску шафёр выключыў газ, і машына пакацілася ўніз да ракі.



Побач з шафёрам сядзеў, ганарліва задраўшы галаву, афіцэр у форме СД.

Ззаду, адхінуўшыся на спінку сядзення, драмала дзяўчына з пышнай моднай прычоскай.

— Зноў яна тут, — прашаптала абураная Бранфельдт. — Мінулы раз прыязджала з капітанам, а цяпер з гэтым гусем. Распусніца...

— Хто гэта, Тэрэза Отаўна?

— Я ж сказала: распусніца. Нейкая Оля... Лабановіч... З Віцебска...

Справа і злева ля дзяўчыны сядзелі два афіцэры.

Машыну суправаджалі ўзброеныя матацыклісты.

— Борман вяртаецца з экспедыцыі. Вось ён, люты звер! — сказала Бранфельдт, калі знікла машына, і тут жа спытала:— Ты даўно бачыла сувязных Сачыўку або Майсейку?

— З імі сустракаецца Таня.

— Убачыш яе, перадай, што дакументы для райкома даўно гатовы. Хай забіраюць.

З мясцовых жыхароў толькі двое — бургамістр Езавітаў і Ніна Азоліна ведалі, што Бранфельдт, якая многа год да вайны выкладала нямецкую мову ў Обальскай школе, звязана праз Івана Яблыкава з падполлем. Сын яе служыў у Чырвонай Арміі і ваяваў на фронце, а яна, рызыкуючы жыццём, памагала ў тыле партызанам.

Падпольнаму райкому Тэрэза Отаўна даставала бланкі пашпартоў, а юным мсціўцам — пропускі на праход у межах раёна ў любую пару сутак. Гэта ад яе бургамістр Езавітаў даведваўся аб чарговых карных экспедыцыях і тут жа праз сына Валодзю перадаваў Фрузе Зяньковай...

Обер-лейтэнант Біянік курыў, стоячы ля акна, і ўвесь час назіраў за паваротkай дарогі з вёскі Зуі ў пасёлак. Яго калаціла. Не памагалі і тры кілішкі каньяку...

«Калі Борман будзе правяраць толькі паліцыю, то гэта не так страшна, — разважаў камендант. — Тут можна адыграцца на партызанах. А чаму гестапа іх не вылоўлівае? Вось і шкодзяць».

Дарэмна ён пераконваў сябе, што прыезд зондарфюрара нічым яму не пагражае, дрыжыкі выдавалі яго неспакой.

Біянік механічна прыгладжваў рэдкія валасы, акуратна зачасаныя на прабор. Раптам у яго ўзнікла новая палахлівая думка: «А што, калі Борман пачне корпацца ў аперацыях з ільном? А што, калі хто данёс, што я зарабіў на ільне мільён марак?»

У яго аж затросся падбародак.

Сын буйнага фабрыканта і ўладальнік мануфактурнай фірмы, Біянік за кароткі тэрмін здолеў сабраць у Обалі круглы капітал. Асабліва цікавіў яго беларускі лён. Прадукцыя Обальскага ільнозавода незразумелымі шляхамі трапляла ў Вену, на тэкстыльныя фабрыкі, якія належалі бацьку.

Обальскі камендант не марыў пра ваенную кар'еру. Ён ахвотна ўступаў чыны і ўзнагароды іншым. Обер-лейтэнант быў задаволены сваім сціплым службовым становішчам: паменш бы толькі трывожылі госці. А то, чаго добрага, разбяруцца яшчэ ў яго махінацыях з ільном...

На павароце паказалася машына Бормана. Камендант тужэй пераціснуў адвіслы жывот шырокім рамянём, пастаяў яшчэ трохі каля акна і пайшоў сустракаць начальства.

2

Азоліна расказала членам камітэта ўсё, што яна даведалася ад перакладчыцы пра зондарфюрара. Пакуль у камендатуры віталі высокага госця, юныя мсціўцы, сабраўшыся ў доме Езавітавых, вырашалі яго лёс.

— Шкадаваць падлюгу няма чаго, — спакойна гаварыла Ніна.

— Борману за расстрэлы ў Віцебску сам Гітлер прыслаў жалезны крыж.

— А мы яму падорым драўляны... — гэта гаварыў Фёдар Слышанкоў.

І тут з месца падняўся Яўген Езавітаў.

— Я прапаную ўзарваць машыну.

Яго падтрымала Азоліна.

— Узарваць! Абавязкова ўзарваць. Ага, я зусім забылася... З ім прыехала нейкая Оля Лабановіч...

Фруза ажывілася.

— А як яна выглядае?

Ніна расказала пра яе знешні выгляд.

— Гэта яна, — ціха сказала Фруза. — Мы разам вучыліся ў тэхнікуме. Да чаго ж дайшла... Гадзіна! —і, перайшоўшы зноў на больш спакойны тон, яна спытала: — Каму даручым?

У Валодзі загарэліся вочы.

— Даручыце мне. Я зраблю. Думаю, што машыну трэба ўзарваць у дарозе.

— Замініруем дарогу? — спытала Фруза.

— Не! Навошта? На гэта спатрэбіцца многа мін, а іх трэба берагчы. Я прабяруся ў гараж.

— Правільна, Валодзя, — ухваліў яго план Яўген. — Пакладзі міну пад сядзенне.

— Я так і зраблю. Але як даведацца, калі Борман будзе ад'язджаць? Валодзя звярнуўся да Азолінай.

— Зможаш, Ніна, удакладніць час?

— Вядома. Толькі позна ўвечары.

— А раней і не трэба.

Праз Бранфельдт Азоліна высветліла, што зондарфюрар паедзе а дванаццатай гадзіне дня. Яна паведаміла пра гэта Валодзю. Той, захапіўшы міну замаруджанага дзеяння, накіраваўся да гаража.

— Усяго добрага! — крыкнула яму наўздагон Ніна.

Валодзя прабраўся гародамі да хлява, дзе стаяў «Опель-капітан». Пры святле месяца было відаць, як ад вугла да вугла ходзіць вартавы. Ён зрэдку спыняўся, прыслухоўваючыся да начных шолахаў.

Валодзя назіраў за вартавым і аглядаў падыходы да гаража. Ён зразумеў, што трапіць сюды праз вароты нельга. У задняй сцяне, злева, было невялікае аконца, забітае фанерай.

«А што, калі паспрабаваць залезці праз акно?»

Юнак падпоўз да сцяны, выняў з кішэні ножык і, засунуўшы пад фанеру лязо, хацеў адагнуць край, але ў гэты час пачуў блізкія крокі і ўпаў у траву.



Так ён праляжаў больш гадзіны, пакуль да яго не пачалі даносіцца галасы. «Змяняюцца вартавыя»,— зразумеў ён. Не трацячы часу, Валодзя падняўся, хутка прасунуў лязо нажа пад фанеру, адарваў яе і, падняўшыся на руках, ледзь-ледзь праціснуўся ў хлеў. Адразу ж наткнуўся на машыну. Навобмацак пачаў арыентавацца... Адкрыў дзверцы, выцягнуў з кішэні міну, падняў сядзенне і паклаў яе пад ніз.

Цяпер трэба было непрыкметна выбрацца адсюль. Езавітаў ціхенька наблізіўся да акна, прыслухаўся, ці няма паблізу вартавога, і, зноў падцягнуўшыся на руках, вылез з хлява.

Засланіўшы фанерай акно, ён адпоўз у кусты, а адтуль выйшаў гародамі на дарогу, што вяла ў Зуі.

3

Ні Бранфельдт, ні Азоліна не былі на прыёме, наладжаным у гонар зондарфюрара. Яго размовы з ваенным камендантам і начальнікам паліцыі засталіся для іх тайнай.

Раніцай, прыйшоўшы на працу, яны засталі начальнікаў ужо ў камендатуры. З кабінета Біяніка даносіўся хрыплаваты голас Бормана. Ён дзякаваў за гасціннасць.

— Я, паны, не спадзяваўся ўбачыць у гэтым далёкім кутку Остланда такіх гасцінных гаспадароў, — прызнаваўся зондарфюрар. — Я абяцаю наведваць вас часцей.

Борман, вядома, не расказаў прысутным, што гадзіну таму назад ён шантажыраваў Біяніка і вырваў у яго трэць прыбытку ад аперацый з ільном. Гэта была іх агульная тайна.

Без чвэрткі дванаццаць у прыёмны пакой камендатуры ўвайшлі зондарфюрар, афіцэры, Вольга Лабановіч, ваенны камендант Біянік, гаспадарчы камендант лейтэнант Крывянік і начальнік паліцыі Яніс Экерт.

— Гер оберст, машына чакае каля пад'езда! — далажыў шафёр.

— Выдатна, Шпілер! Зараз паедзем. — Госць быў у цудоўным настроі.

Развітаўшыся з прадстаўнікамі мясцовай улады, Борман накіраваўся да машыны.

Тым часам Валодзя падкраўся Зуёўскім ровам да скрыжавання дарог за ракой Обаль. Было роўна дванаццаць гадзін. Юнак чакаў машыну з мінуты на мінуту. Здаецца, усё было зроблена, як трэба, а Езавітаў хваляваўся: раптам адкладалі паездку. Чым менш заставалася часу да выбуху, тым мацней узрастала трывога.

З-за павароту вынырнуў, нарэшце, лімузін. Ён не паспеў праімчаць і кіламетра, як узляцеў у паветра. Валодзя Езавітаў добра бачыў з узгорка слуп агню і дыму...

**Працяг будзе.**

*Пераклад з рускай мовы.*

**Юрась СВІРКО**

## СЛЯДАМІ БАЦЬКОЎ



Праходжу я не першы па зямлі,
Ісці мне лёгка светлымі шляхамі:
Тут да мяне мае бацькі прайшлі,
І я трапляю крочыць іх слядамі.

Бяру я ў жменю чорную раллю—
Бацькі ж яе, сагнуўшыся, аралі;
Гляджу я на шчаслівую зямлю—
Бацькі яе грудзямі прыкрывалі.

Яшчэ тады, у той суровы час,
Яны для нас зрабілі вельмі многа,
Каб нам не прачынацца па начах,
Аглушаных паветранай трывогай.

Бацькам маім не лёгкі выпаў лёс:
Яны ў баях нам здабывалі волю,
Каб толькі мы хадзілі на ўвесь рост,
Каб толькі мы не гнуліся ніколі.



Анань Верабей нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Мястэчка Маладзечанскай вобласці.

Цяпер працуе дырэктарам Чыжахскай сямігадовай школы Бярэзінскага раёна і завочна вучыцца ў Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага.

Вершы А. Вераб'я друкаваліся ў рэспубліканскіх часопісах і газетах.

**Анань ВЕРАБЕЙ**

## РАНАК



Журавель нясмела праскрыпеў,
Пацягнула з фермы сырадоем,
І нясе над свежаю раллёю
Вецер звонкі веснавы напеў.

Заззінелі ў небе жаўрукі,
Узмахнуў усход крылом барвовым,
Быццам нараджаўся дзень наш новы
Пад чырвоным сцягам трапяткім.

* * *



Я знаю: не лёгка ў полі
Усё лета расціць калоссі,
Затое ўдвая смачнейшым
Хлеб чорны здаецца ўвосень.

Нявесела, знаю, ў разлуцы
Правесці асенні вечар,
Затое ўдвая цяплейшай
Чаканая будзе сустрэча.

Хоць і стаміўся сягоння,
І рукі і ногі натрудзіў,

Затое ўдвая багацейшым
Заўтрашні дзень наш будзе.

А мы ж і калоссі росцім,
І ведаем смутак разлукі,
Пад вечар здаюцца чужымі
Здранцзелыя ногі і рукі.

Заўжды на краі пярэднім
Ідзём мы пад ношай цяжэйшай,
Таму і жыццё, напэўна,
Здаецца ўдвая даражэйшым.

## ІНВАЛІД



На тратуары цяжка ён ступае,
Чуваць далёка, як пратэз скрыпіць.
Яму *старыя і малады ў трамваі*
Заўжды спяшаюць месца уступіць.

*Не стогне ён,*
не праклінае долю,
Калі ж пачуе слова аб вайне—
Дык выпрастае плечы мімаволі
І ўспыхне у вачах глыбокіх гнеў.

Ён шле праклён таму,
хто зноў жалезам
Грукоча, каб зямлю ахутваў дым...
Хадзіць яму
нялёгка на пратэзах,
Затое глеба цвёрдая пад ім.

* * *



Я тваймў багаццю не зайздрошчу,
Хоць *ты ў шоўку з галавы да ног.*
Што—убор,
калі глядзеў у вочы
І знайсці ў іх шчырасці не змог...

У мяне—рабочая ватоўка,
Пыл на ёй і пляма не адна...



Безумоўна, што убору з шоўку
Мой убор—далёкая радня.

Я не супраць дарагіх убораў,
Толькі згодзен з думкаю такой:
Што ватоўка з плямамі—не сорам
Чалавеку з чыстаю душой.



Кастусь ЦВІРКА

# ІДЗЕ ПАЛЯМІ АГРАНОМ



Па светлай руні за сялом
Дыміцца ледзь раса.
Ідзе палямі аграном—
Чарнявая каса.

Тут—баразна за баразной—
Я крою свой разлог.
А гляну: зноў перада мной
Хусцінкі белай рог.

Ідзе палямі аграном.
Прыцішыць крок ля град,
Над дружным схіліцца ільном,
Папрявіць грушак рад,

Агледзіць кожны клін кругом,
Мне ўсміхнецца ўслед...
Ідзе палямі аграном —
І харашэ свет!

# ЛОДАЧКІ



Я надзела, хоць шкада,
Новенькія лодачкі.
Пройдзеш хатай—любата:
Зіхацяць, як сподачкі.



Пэўна, гляне ўжо не так
На мяне Міхасік мой,
Калі ў клубе тупну ў такт
Тоненькім абцасікам.

А прышлося: і ў мой бок
Не глядзіць ніколечкі.
Бачу: вышаў у садок
З старшынёвай Волечкай...

Дайце ж круг і размах
Мне, малодачкі:
Няхай б'юцца ў пух і прах
Мае лодачкі!

* * *



Зямля—аркестр. Ты да зары
Пайдзі ў прастор і скрозь
Пачуеш, як ледзь-ледзь вятры
Спрабуюць струны лоз.

А толькі скіне подых дня
З палеткаў змрок, і ўжо
Відаць, як дуб галіны ўзняў,
Бы рукі дырыжор.

І вось пад воблака з раллі
Жаўрук занёс званок,
За ім ад горада ў палі
Здалёк гукнуў гудок,

Затым—другі, а там—ізноў,
І ўжо—чуваць здаля—
У горны новых камінoў
Іграе ўся зямля!

Васіль Макарэвіч нарадзіўся ў 1939 годзе ў сям'і калгасніка ў Крупскім раёне. Пасля заканчэння сярэдняй школы некаторы час працаваў на лесанарыхтоўках у Архангельскай вобласці. Цяпер вярнуўся ў Беларусь і працуе рабочым у саўгасе «Ухвалы» Крупскага раёна.



**Васіль МАКАРЭВІЧ**

## ДУБ



Яго ламалі гнеўныя віхры.
Хвасталі ліўні. Перуны крышылі.
А ён стаіць асілкам на бугры,
Да сонца ўзняўшы пышную вяршыню.

Кара застыла цвёрда,
Як браня.
Камель, нібы з граніту,
Ў тры абхваты.
Сукі на ім — такая таўшчыня! —
У мускулах напяты вузлаватых.

Вясною ён у лісці маладым,
А восенню, дыхне ледзь вецер з поля,
Сыпне на дол буйныя жалуды,
Нібыта кулі, з жоўтага прыполу.

Калі ж у гневе бура наляціць,
Ён выпрастае плечы, грудзі выпне,
Карэнне ад натугі заскрыпіць
І ў грунт сухі ўразаецца 'шчэ глыбей.

Ён хмары разразае галавой...
Нішто яму не страшна ў свеце цэлым,
Бо зросся з роднай ён навек зямлёй
Сваім карэннем і магутным целам.



* * *



Не здраджваў аніколі я сябрам,
Глядзеў адкрыта шчырай праўдзе ў вочы,
Дзяліўся з дружбакамі папалам
Апошнім хлебам і наперад крочыў.

Нідзе спакою, цішы не шукаў.
Экзотыкай не час быў захапляцца...
На поўначы далёкай гартаваў
Пад гул пургі суровае юнацтва.

Мне ў твар балюча вецер шротам сек,
Да пят густыя ліўні абдавалі.
Пераплываў віры лядзяных рэк
І замярзаў на стомленых прывалах.

Ды я адолеў цяжкасцей сцяну.
Рубцоў нямала ў сэрцы засталося...
Затое знаю я жыцця цану
І горды, што спазнаць яе прышлося.

## ЛЕТА



Згарэлі ў сонцы веснавыя дні.
Прыціх вясёлы спеў сям'і птушынай.
За вёску выйдзі ў далячынь зірні, —
Сплялася там грудамі канюшына.

Як возера, разліўся сіні лён,
Канца яму няма ва ўсім прасторы.
Працоўных рук руплівы дбайны плён —
Ён золата увосень жмені дорыць.

Жытоў калоссе вісне над зямлёй...
Пара гарачых дзён і сенакосу...
Ідуць касцы вясёлаю гурбой,
Маланкамі блішчаць у травах косы.

Куды ні кінеш позірк малады, —
Усюды шум і подых працы спорнай.
У садзе долу сучча гнуць плады
І яблыкі застылі на падпорках.

Набгом пчала ад смагі прагна п'е
Салодкі мёд з збанкоў набраклых кветак...
Звініць, гудзе, красуе і пяе
Чароўнае і сонечнае лета.

## ВАСІЛЬКІ

Рассунеш жыта спелае ў бакі,
А з гушчыні і пільна і адкрыта
У вочы глянуць ціха васількі,
Напоўненыя смуткам і блакітам.

Прыгожыя!.. Чаго ім сумаваць
І мучыцца маўкліваю трывогай?..
Яны да болю хочуць штось сказаць,
Ды ў немаце сваёй ніяк не могуць.

* * *

Мы удваіх вяртаемся дамоў
Са сходу камсамольскага ці з танцаў...
Гамоніць вечар сотняй розных моў,
І так шкада з табой мне расставацца.

Мне б зазірнуць у бездань цёмных воч,
Ўглядацца ў рысы дарагога твару...
Ты ж ведаеш — да слоў я не ахвоч...
Дзівак!.. Мне гэтак хочацца памарыць.

Нам зразумела ўсё: ідуць гады,
Мне даражэй штодзень твая усмешка!
О, як хацеў бы я, каб назаўжды
Жыццёвыя сышліся нашы сцежкі...

Не трэба крочыць шчасцю наўздагон,
Глядзі, яно вакол нас карагодзіць.
Падай жа мне гарачую далонь,
Плячом к плячу з табой удалеч пойдзем.

І ад мяне ты не адводзь вачэй,
Хай сэрца не заходзіцца ад болю...
Ў любой дарозе мне з табой лягчэй,
Любую цяжкасць я гатоў адолець.



*Нашы інтэрв'ю*

## У НАРОДНАГА ПІСЬМЕННІКА

Перад намі — пісьмы чытачоў. Юнакі і дзяўчаты настойліва просяць расказаць пра творчыя планы вядомых пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, пра іх думкі наконт блізкіх ім жанраў.

І вось мы ідзём па калідорах Акадэміі навук, каб пагутарыць з народным пісьменнікам Беларусі, віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР Кандратам Кандратавічам Крапівой.

Урачыстая цішыня. За кожнымі дзвярыма вырашаюцца важныя надзённыя праблемы. Хто ведае, можа ў гэты самы час нараджаецца новае адкрыццё ў навуцы. Таму нам крыху няёмка. Мы выглядаем, як тыя турысты, што заўсёды адрываюць людзей ад работы. Але ж адмовіць

цікаўным юнакам і дзяўчатам нельга. Ды, шчыра кажучы, гутарка ўжо ўзгоднена па тэлефоне.

Кандрат Кандратавіч адклаў убок аркушы паперы, на якіх акуратна выпісаны роўныя радкі слоў (рукапіс беларуска-рускага слоўніка), адсунуў кнігі. Знікае першая няёмкасць. Кандрат Кандратавіч вельмі тактоўна і шчыра пытаецца пра тое, што цікавіць чытачоў. На пачатак мы просім расказаць пра работу над п'есай «Людзі і д'яблы».

— Мне хацелася, — кажа Кандрат Кандратавіч, — да саракавой гадавіны Савецкай Беларусі напісаць твор, у якім расказаць аб барацьбе беларускага народа супраць прыгнятальнікаў. Яшчэ ў часы Айчыннай вайны я пільна сачыў за разгортваннем партызанскага руху ў Беларусі. Пасля таго, як былі вызвалены Мінск, я не раз сустракаўся з многімі актыўнымі ўдзельнікамі падпольнай барацьбы супраць фашысцкіх захопнікаў, з кіраўнікамі і арганізатарамі партызанскага руху. Пастунова выявілася немалаважная для пісьменніка акалічнасць. Барацьба гэтая адбывалася ў надзвычай цяжкіх умовах. Тысячы людзей штодзённа рабілі сваю справу, на першы погляд нязначную, будзённую, за якую, аднак, расплачваліся дарагой цаною — жыццём. Гэта было масавае праяўленне гераізму.

П'еса «Людзі і д'яблы» — гэта памяць аб барацьбе і гераізме простых савецкіх людзей. Амаль кожны герой п'есы мае свайго прататыпа, а некаторыя факты ўзяты з дзейнасці Мінскага падполля. Але не трэба забываць і на тое, што пісьменнік заўсёды ўносіць вельмі шмат свайго, па-свойму падаючы вобразы, якія захапляюць яго.

Дарэчы, напісанне п'есы — гэта толькі палова справы. Пасля таго, як яна пачынае сваё сцэнічнае жыццё, даводзіцца ўносіць шмат паправак, улічваць заўвагі рэжысёраў, акцёраў — непасрэдных выканаўцаў роляў. А гэта надта вялікая работа. Вось толькі што атрымаў тэлеграму з Якуцкага тэатра, які зацікавіўся маёй п'есай. Трэба рыхтаваць варыянт і для гэтага тэатра, гэта значыць, зноў працаваць над п'есай.

Мы просім расказаць чытачам аб моцных і слабых баках беларускай драматургіі апошняга часу.

— Драматургічныя творы нашых дзён моцныя сваёй тэматыкай. Пісьменнікі імкнуцца адлюстраваць важнейшыя падзеі сучаснасці, паказаць высокія маральныя якасці савецкіх людзей. У гэтым дадатная якасць нашай драматургіі. Іншая справа, што п'есы розныя па маштабнасці, па свайму мастацкаму ўзроўню. У кароценькай гутарцы нельга вырашыць усіх праблем, а пералік недахопаў тых ці іншых п'ес мог бы выклікаць толькі нараканні.

Вядома, што канфлікт, — аснова драматургіі. Няўменне знайсці востры сучасны канфлікт прыводзіць некаторых пісьменнікаў да таго, што ў аснову сваіх твораў яны кладуць нязначныя супярэчнасці, нейкія прыватныя здарэнні. Калі дадаць, што такія творы не надта дасканалыя ў мастацкіх адносінах, дык будзе відавочна, што пісьменнік стварыў не зусім тое, што ад яго патрабуецца.

Якія ж канфлікты прыгодныя для п'ес? Тыя, у якіх вырашаюцца важнейшыя пытанні сучаснасці. Для пісьменніка тут ёсць свае цяжкасці, і перамагаць іх не толькі трэба, але і неабходна.

Цяпер аддаецца найвялікшая ўвага мастацкай самадзейнасці. У рэспубліцы арганізаваны першыя Народныя тэатры. Стварэнне аднаактавых і «малагабарытных» п'ес на надзённыя тэмы — такая задача паўстае перад беларускімі драматургамі. У нас пакуль мала такіх п'ес.

Праўда, у друку часам з'яўляюцца аднаактоўкі. Але ў большасці з іх — надуманыя канфлікты, а ідэі такія дробныя, што іх нават цяжка заўважыць. Дробнатэм'е, штучнасць сітуацый — бяда драматургіі малых формаў.



Слова для пісьменніка мае велізарнае значэнне. Асабліва яго павінны адчуваць драматургі. Нядаўна мне давялося прачытаць аднаактавую п'есу М. Алтухова. У аўтара ёсць адчуванне сцэнічнасці. Але мова п'есы шэрая і канцылярская. М. Алтухоў неахайна ставіцца да мовы.

Для «малагабарытных» п'ес трэба браць такія тэмы, якія б асвятлялі актуальныя пытанні сучаснасці. Гэта тым больш важна, што кожная аднаактавая п'еса знаходзіць масавага гледача ў самых далёкіх кутках рэспублікі.

— Кандрат Кандратавіч, раскажыце, калі ласка, над чым вы працуеце зараз?

— За гэтым сталом я сяджу з 9 гадзін раніцы да 4-х дня. Імкнуся зваліць навалу асноўнай работы, каб потым можна было ажыццявіць свае задумы. Хутка павінна быць закончана работа над беларуска-рускім слоўнікам прыблізна на 80 тысяч слоў. Частка слоўніка ўжо здадзена ў выдавецтва.

Як члену рэдакцыйнай калегіі, даводзіцца знаходзіць час на рэдагаванне збору твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. У сёлетнім годзе выйдзе з друку звод правілаў беларускай мовы. Хутка выйдзе з друку «Курс сучаснай беларускай мовы», яго другая частка — сінтаксіс. Усё гэта неадкладныя справы. Апрача таго, нямала ў апошні час быў заняты грамадскай работай як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і член прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі. Нарады, сустрэчы, пасяджэнні — глядзіш, дзён дзесяць у месяц і патраціў. Таму, прызнаюся шчыра, зараз хапае часу толькі на тое, каб, прышоўшы з работы, прачытаць газеты, часопісы. Аднак думаю хутка распачаць працу над новай тэмай.

— Гэта будзе п'еса?

— Так.

— На сучасную тэму?

— Так. Пакуль гэта толькі задума.

— Вы не збіраецеся вярнуцца да баек?

Кандрат Кандратавіч скупа ўсміхаецца.

— Драматургія надзвычай моцна трымае. Апошнюю байку я, здаецца, напісаў у 1949 годзе. Але думаю, што да гэтага жанра яшчэ вярнуся.

Мы просім Кандрата Кандратавіча падзяліцца сваімі думкамі наконт сучаснай байкі.

— Байка — жывое, цікавае, фабульнае апавяданне, напісанае афарыстычнай мовай. У байцы даецца вялікае абагульненне. Нават без маралі-вываду чытач павінен зразумець, што хацеў сказаць пісьменнік.

Бясспрэчна, самым моцным байкапісцам у нас з'яўляецца Уладзімір Корбан. Шэраг яго баек адпавядае асноўнаму патрабаванню гэтага жанра. Але ў многіх вершаваных творах, якія называюцца байкамі, даецца дробны прыклад, нейкая прытча і вывад. Гэта, вядома, не байка. Ды і мова такіх вершаў шэрая, неахайная. Хварэюць на гэта не толькі маладыя байкапісцы, але часамі і сталыя, такія як Уладзімір Корбан, Эдуард Валасевіч. Размова аб байцы вельмі наспела. Яе трэба павесці грунтоўна.

На пачатку гутаркі мы абяцалі доўга не адрываць Кандрата Кандратавіча ад работы, абмежавацца пятнаццаццю хвілінамі. Але прайшло тройчы па пятнаццаць хвілін, а мы ўсё яшчэ задаем пытанні. Між тым, «навала работы» ад таго не змяншаецца. І хоць нам вельмі не хочацца пакідаць гасціннага гаспадара, развітваемся.

Далейшую гутарку мы, — ды і не толькі мы, а ўсе нашы чытачы, — будзем весці тады, калі з'явіцца ў друку новая п'еса. Бо чытанне новага твора пісьменніка — гэта своеасаблівая масавая сустрэча чытачоў з пісьменнікам.

## Алесь МАТУСЕВІЧ

# НАША ЗБРОЯ

### З успамінаў журналіста

### Праз 35 гадоў

Шпарка імчацца гады. Было гэта, здаецца, зусім нядаўна. Вярнуўшыся з ворыва за Тхарніцай, я павячэраў і, умасціўшыся на лаве за сталом, пачаў пісаць свой першы ліст у газету. Колькі было радасці, калі ў «Белорусской деревне» — дадатку да «Звязды» — з'явіўся гэты мой першы допіс!..

І так — я селькор. Заметкі з Тхарніцы, Мачан і Галіцы, з Бяларуч, Брадка і Астрашыцкага Гарадка ўсё часцей пачалі з'яўляцца на старонках «Маладога аратага» і «Савецкай Беларусі». «Звязда» надрукавала мае замалёўкі пра абуджэнне вёскі да новага жыцця. А яшчэ праз некаторы час, улетку 1924 года, быў апублікаваны і мой першы нарыс «Цуда на балоце». Нарадзіўся ён у выніку паездкі з сялянамі — членамі ЦВК БССР — на палі асушанага Камароўскага балота пад Мінскам.

З тае пары прайшло больш трыццаці пяці гадоў. Колькі падзей адбылося за гэты час у краіне, сведкамі якіх ты быў сам, як змянілася абліччa роднай Беларусі, якім прыгажуном стаў наш цудоўны Мінск, межы якога некалі канчаліся Серабранкай, Пярэспай і Камароўскім балотам.

Успамінаюцца першыя гады станаўлення савецкай улады, калі рэдакцыі мінскіх газет туліліся ў невялікіх памяшканнях на два-тры пакоі, калі маленькія, толькі што нацыяналізаваныя друкарні былі раскіданы па ўсім горадзе. Друкарань было многа, але яны ўсе разам не мелі і дзесятай часткі таго, што ёсць цяпер у Доме друку, збудаваным у перадваенныя гады на самай паўночнай ускраіне Мінска, на месцы старога бору. Цяпер ад гэтага збудавання другой пяцігодкі да новай паўднёвай ускраіны горада — каля дзесяці кіламетраў. Так разраслася наша сталіца.

Разам з ростам краіны расла культура савецкіх людзей, узбагачаўся самымі разнастайнымі формамі сваёй работы і наш бальшавіцкі друк. Ужо ў тыя першыя гады станаўлення савецкай улады на старонках рэспубліканскіх газет пачалі з'яўляцца сталыя аддзелы: «Рабочае жыццё», «Жыццё



вёскі», «Жыццё моладзі», у якіх змяшчаліся шматлікія пісьмы рабочых і сельскіх карэспандэнтаў, водгукі на самыя разнастайныя праявы новага жыцця.

Рэспубліканскія газеты пачалі выдаваць літаратурныя і грамадска-палітычныя дадаткі. Пры «Звяздзе», напрыклад, выходзіла літаратурна-гумарыстычная «Дубінка», для піянераў выдаваўся «Юны будаўнік». Рэдакцыя «Савецкай Беларусі» выпускала літаратурна-мастацкі дадатак «Радавая рунь», а «Беларуская вёска», тыраж якой у 1928 годзе дасягаў 60 тысяч экземпляраў, выходзіла ў 8-мі выданнях. Рэдакцыяй гэтай сялянскай газеты выдаваўся і рассылаўся падпісчыкам двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак «Чырвоны сейбіт», а таксама газеты «Спажывецкая кааперацыя», «Паляўнічы Беларусі», «Пчаляр», бібліятэчка па сельскай гаспадарцы.

У рэдакцыях з любоўю і павагай ставіліся да кожнага ліста рабочага і сялянскага карэспандэнта. Лісты не толькі друкаваліся ў вялікай колькасці на старонках газет, яны пасылаліся для рэагавання ва ўстановы і арганізацыі, скарыстоўваліся ў аглядах на самыя разнастайныя тэмы. Вельмі часта на падставе іх прымаліся адпаведныя рашэнні і праводзіліся тыя або іншыя ўрадавыя мерапрыемствы.

Вялікую школу жыцця прайшлі за гэты час многія з рабселькораў тых дзён. Адны на ўсё жыццё увайшлі ў журналістыку, другія сталі пісьменнікамі і паэтамі, трэція — майстрамі ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы. І калі ў снежні 1957 года юныя карэспандэнты сабраліся ў Мінск на свой рэспубліканскі злёт, я з ахвотаю расказаў ім пра пачэсную і самаадданую працу колішніх рабселькораў, пра свой жыццёвы шлях ад селькора да рэдактара падпольнай партызанскай газеты «Мы адпомсцім».

Вышаў я на трыбуну, глянуў у вясёлыя твары юнкораў, і нейкае радаснае хваляванне агарнула ўсяго. Прыгадалася няўрымслівая моладзь першых гадоў савецкай улады, селькоры, энтузіясты, якія не баяліся пісаць у газету, нават калі ім пагражаў кулацкі абрэз. Такімі былі Рыгор Жлобіч з Навасёлак Пухавіцкага раёна, Даніла Фалько з-пад Фаніпаля Дзяржынскага раёна і многія іншыя. Гэта яны вялі праз друк бязлітасную барацьбу са старым, аджываючым светам. Невыпадкова іх ахрысцілі ў тыя дні крылатымі словамі — вочы і вушы савецкай улады на вёсцы.

### Аднойчы ў рэдакцыі

Як тыя ручаінкі, што поюць водамі вялікія рэкі, рабселькоры жывяць сваімі допісамі наш савецкі друк, дапамагаюць кожнай газеце яшчэ лепш выконваць свае пачэсныя абавязкі арганізатара мас.

Калі я быў селькорам, пісаць даводзілася на самыя разнастайныя тэмы: і пра недахопы ў рабоце сельскага савета, і пра рост савецкага актыву ў вёсцы, і пра такую важную справу, як першы ў нашай мясцовасці народны дом у Бяларучах. Заметкі, надрукаваныя ў газеце, дапамагалі выкрываць злоўжыванні з водпускам лесу сялянам, крытыкавалі п'яніц, абібокаў, людзей, нячулых да патрэб сялянскай беднаты.

Прынёс я аднойчы ў рэдакцыю невялічкі вершык «Беражыце лясы». Саромечыся сваіх першых нясклaдна выказаных думак, я падышоў да Змітрака Бядулі і нясмела падаў яму рукапіс. Ён прачытаў, паглядзеў мне ў твар і з нейкай абнадзейваючай усмешкай сказаў:

— А нішто ў цябе выходзіць! І тэма цікавая: «Беражыце лясы». Трошкі падпраўлю і пусцім. Надрукуем, браток!

Ці многа «падправак» было ў тым вершыку, не памятаю, аднак праз тры дні яго апублікавалі ў газеце. Для селькора — вялікая радасць. Яшчэ з большай радасцю сустрэў я паведамленне, што мяне выклікаюць на работу ў рэдакцыю.



**Ф. Задарожны.** «Саната».



**В. Жолтак. «Вяртанне».** (З выстаўкі да 40-годдзя Беларускай ССР і КПБ).



**Інжынера-канструктара Мінскага шарыкападшыпнікавага завода С. Канапацкага кожны дзень пасля работы можна сустрэць у спартыўнай зале. Ён — майстар спорту, чэмпіён рэспублікі па штанзе і зараз старанна рыхтуецца да II Спартакіяды народаў СССР.** (Гл. заметку на стар. 153).

Фота А. Дзітлава.



**Драматычная трылогія Мікалая Пагодзіна: *«Чалавек з ружжом»*, «Крамлёўскія куранты» і «Трэцяя патэтычная» — удастоена Ленінскай прэміі. Заключную частку яе — «Трэцюю патэтычную» — увасобіў нядаўна на сваёй сцэне Беларускі Дзяржаўны Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. *У ролі* У. І. Леніна выступіў народны артыст СССР Б. Платонаў, ролю рабочага Проні выконвае малады акцёр Г. Аўсянікаў.**

Фота А. Дзітлава.

Было гэта, успамінаю, у 1923 годзе. Прыехаў я ў Мінск і зайшоў у рэдакцыю «Маладога аратага». Знаходзілася яна тады, як падсуседзь «Чырвонай змены», па Камсамольскай вуліцы, у доме № 25, дзе размяшчаўся і Цэнтральны Камітэт камсамола Беларусі.

Заходжу ў памяшканне. У невялікім пакоі рэдакцыі «Чырвонай змены» стаіць асобны столік для «Маладога аратага». Некалькі юнакоў горача спрачаюцца наконт «шапкі» ў газету. З цікавасцю лаўлю кожнае слова новай для мяне тэрміналогіі.

— Ну, што там парабляе моладзь у Тхарніцы? — падняўся з-за стала каранасты хлопец. — Праўда, што вас бяруць на работу ў «Звязду», у газету «Белорусская деревня»?

І вось я, селькор-вылучэнец (існавала тады такая форма папаўнення рэдакцыі свежымі сіламі), залічаны на пасаду рэпарцёра. Пачуў я гэтае слова, а што яно азначае — сам не ведаў.

— Будзеш хадзіць па ўстановах, збіраць для газеты цікавыя весткі для вёскі, — растлумачыў мне мае функцыі выконваючы абавязкі рэдактара «Белорусской деревни» Барыс Каменскі. — Два разы на тыдзень будзеш наведваць рынак і гандлёвую палату: у газеце ўводзіцца новы аддзел «Рынак і цэны».

У гэтым дадатку да «Звязды» працавала ў той час толькі два чалавекі. Газета выходзіла на двух старонках два разы на тыдзень, і рабілася яна пераважна з дапамогай нажніц і інфармацый РОСТа. Артыкулы і інфармацыі вырэзваліся не толькі з цэнтральных газет і часопісаў, але і з гомельскай «Новой деревни», якая лічылася адной з лепшых сялянскіх газет.

У сакавіку 1924 года «Белорусская деревня» пачала выдавацца на беларускай мове. З дадатку да «Звязды» яна ператварылася ў самастойную адзіную на шэсць паветаў рэспублікі сялянскую газету «Беларуская вёска». Работы ў рэдакцыі стала больш. І вось на выручку двум яе супрацоўнікам з'явіўся з Цімкавіч невысокі юнак, які ўжо тады добра ведаў жыццё селяніна, яго мову. Гэта быў Мікалай Карлавіч Раманоўскі — у будучым вядомы беларускі пісьменнік Кузьма Чорны. Яго залічылі перакладчыкам. Так і склалася аснова рэдакцыі. Тры чалавекі, з якіх двое былі пачынаючымі журналістамі, рабілі газету, што выходзіла на чатырох старонках два разы ў тыдзень.

## На сустрэчы з М. І. Калініным

Канец сакавіка 1924 года. У Мінск на VI Надзвычайны з'езд Саветаў Беларусі прыехаў Усесаюзны стараста, як называлі тады Старшыню Прэзідыума Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта СССР, Міхаіл Іванавіч Калінін. Даведаліся мы, што Міхаіл Іванавіч збіраецца асобна пагаварыць з сялянамі — членамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР. Сустрэча мелася адбыцца ў клубе імя Прафінтэрна, што знаходзіўся на другім паверсе Дома працы, на Плошчы Свабоды.

— Нам абавязкова трэба быць на гэтай сустрэчы, — сказаў мне выконваючы абавязкі рэдактара Барыс Каменскі.

І на лістку службовага блакнота «Звязды» ён коратка напісаў: «Просім прапусціць рэпарцёра нашай газеты тав. Матусевіча А. Л. на сустрэчу Міхаіла Іванавіча Калініна з сялянамі — членамі ЦВК БССР».

З прыўзнятым настроем бягу я ў Дом працы, падымаюся на другі паверх і падаю запіску вартавому міліцыянеру.

— *Калі ласка!* — сказаў вартавы і, ступіўшы крок назад, даў мне дарогу.

Гарачымі воплескамі сустрэлі сяляне дарагога госця з Масквы. Гутарка цягнулася каля двух гадзін. Міхаіл Іванавіч звяртаўся да пажылых сялян і прасіў іх смялей выступаць, расказваць пра набалелыя пытанні з жыцця вёскі. А пасля Міхаіл Іванавіч Калінін выступіў сам. Гаварыў, што сяляне павінны дапамагаць умацоўваць савецкую ўладу на вёсцы, што трэба паляпшаць работу сельскіх Саветаў і камітэтаў ўзаемадапамогі. І зноў пачаў распытваць, як у беднаты з дровамі, з лесам на хаты, якія ў людзей думкі наконт сельскагаспадарчага падатку.

Я ў захапленні слухаў гэтую простую і шчырую гутарку кіраўніка дзяржавы з людзьмі з далёкіх беларускіх куткоў. А вярнуўшыся ў рэдакцыю, з натхненнем пачаў пісаць свой першы адказны рэпартаж.

На Случчыне ў вёсцы Ісерна і сёння жыве старая сялянка-пенсіянерка, колішні член ЦВК БССР і намеснік Народнага камісара сацыяльнага забеспячэння Беларусі Вольга Капацэвіч. Першае маё знаёмства з гэтым актыўным барацьбітом за савецкую ўладу і будаўніком новага жыцця на вёсцы адбылося на той жа незабыўнай сустрэчы беларускіх сялян з Міхаілам Іванавічам Калініным. Не так даўно я зноў сустрэўся з гэтым палымяным некалі актывістам. Вынікам гэтай сустрэчы праз 30 гадоў быў апублікаваны летась у «Звяздзе» нарыс «Шляхам жыцця».

## З ліку рабселькораў

Савецкі друк рос і шырыўся. І натуральна, што ў сувязі з гэтым наспявала пытанне падрыхтоўкі кадраў журналістаў. Каго было браць на работу ў газету або часопіс, калі спецыяльных школ і інстытутаў па падрыхтоўцы журналістаў яшчэ не было. Кадры для рэдакцый даваў моцны рабселькораўскі рух, які разгарнуўся ў гарадах і вёсках яшчэ ў першыя гады савецкай улады. На работу ў рэдакцыі вылучаліся лепшыя рабкоры і селькоры, людзі з «газетным нахілам», якія ў сваіх шматлікіх карэспандэнцыях паказвалі, што яны «могуць валодаць пяром».

Так было ў «Звяздзе» і «Беларускай вёсцы», так рабілася ў «Савецкай Беларусі», «Чырвонай змене», у «Калгасніку Беларусі» і ў многіх іншых выданнях.

Разгаварыліся мы неяк з Кузьмой Чорным наконт таго, што чатыром чалавекам цяжкавата выпускаць праз дзень чатырохпалосную газету.

— Добра было б узяць каго-небудзь з селькораў...

— Во, каб Пятра Глебку ці Паўлюка Труса да нас! О то б далі фаеру розным лайдакам і крутадухам!..

Але абодвы яны — актыўныя селькоры «Беларускай вёскі» — толькі што паступілі ў Мінскі белпедтэхнікум. Адрываць іх ад вучобы мы неяк не адважыліся.

— А што, калі ўзяць Макара Паслядовіча з Сарачынова? Актыўнейшы селькор, сельскую гаспадарку лепш за яго ніхто ў нас не ведае. Пісаць будзе...

— У-га! Яшчэ й як будзе! — кінуў сваю ўлюбёную фразу Кузьма Чорны.

Праз месяц Макар Паслядовіч быў ужо ў ліку штатных работнікаў рэдакцыі. Пасля такім жа шляхам прышлі ў газету і селькоры з Капыльшчыны Змітро Малевіч і Янка Шкадарэвіч. А яшчэ пазней уліўся ў рады маладых савецкіх журналістаў і селькор-юнак з вёскі Доўгавічы на Магілёўшчыне, сёння генерал Савецкай Арміі Алесь Аўсянікаў. З селькораў прышлі тады ў рэдакцыю і праявілі пасля высокія якасці савецкіх журналістаў Васіль Фясько, Сцяпан Нортман, Алесь Сечка, Мікола Сурначоў, Алесь Малевіч, Яўген Жук і многія іншыя работнікі беларускага друку.

## Тэмы нараджала жыццё

У невялічкім пакоі рэдакцыі «Беларускай вёскі» было заўсёды цесна. Сядзелі тут і хадакі па зямельных справах, і жалабшчыкі на лясніцтва, якое нібыта «лес адпускае толькі таму, хто дасць выпіць».

Ужо з раніцы ў пакоі шумеў самавар — шклянка чаю з кавалачкам цукру была для далёкага наведвальніка лепшым пачастункам і адзнакай гасціннасці.

Больш за ўсё нас наведвалі рабселькоры. Кузьма Чорны да таго быў прызвычаіўся да гэтых наведванняў, што мог наперад сказаць, калі хто прыедзе.

— Глядзі, братка, што сёння завітае дзядзька Бярнацкі. Два тыдні ўжо, як не паказваўся...

Або гляне ў акно на зацярушаны снегам двор і ў нейкім ажыўленні скажа:

— Санная дарога ўжо стала. Напэўна, прыедзе стары Атрашэвіч з-пад Заслаўя.

З прыезджымі ў работнікаў рэдакцыі завязвалася шчырая размова. Гутарылі на самыя разнастайныя тэмы з жыцця вёскі. Узнікалі спрэчныя пытанні, нараджаліся новыя тэмы для выступленняў на старонках друку.

У 1925—1926 гадах нашу рэдакцыю вельмі часта наведвалі Пятро Глебка і Паўлюк Трус. Зойдуць, бывала, і пачынаюць расказваць, што робіцца ў Каменцы і Нізку, як жывуць цяпер у Кухцічах і Стальбоўшчыне.

— Можа б вы які фельетончык далі ў газету? — прапаноўваў ім звычайна Кузьма Чорны.

— Напісаць то можна, — ажыўляўся ружавашчокі, кучаравы Паўлюк Трус, які хадзіў звычайна ў жоўтым кароткім кажушку. — Толькі тэму якую ўзяць?

— Тэмы знойдуцца... Паглядзіце, колькі лістоў атрымалі за тры дні. Толькі выбірай...

А бывала так, што Паўлюк Трус або Пятро Глебка самі прыходзілі з гатовай тэмай, узятай з жыцця ў тым жа Нізку ці Кухцічах. Або возьмуць з сабой некалькі карэспандэнцый з рэдакцыі, а праз тыдзень на старонках «Беларускай вёскі» з'яўляўся чарговы фельетон у вершах. Гэтыя фельетоны, насычаныя баявой публіцыстыкай, чыталіся і перачытваліся на сходах і вечарынках, іх дэкламавалі вучні на школьных вечарах.

У канцы 1924 года малады селькор і пачынаючы паэт Паўлюк Трус напісаў вершы: «Камітэты дапамогі ставяць беднага на ногі», «Калі хочаш, каб быў ураджай, дык жывёлу на рунь не пускай», «Каб малака было па вушы, выводзь карову з калатушы». Гэтыя крылатыя фразы — загалоўкі першых фельетонаў маладога паэта — вывешваліся пасля ў хатах-чытальнях і выконвалі важную ролю прапагандыстаў. Пятро Глебка таксама пісаў фельетоны па селькораўскіх пісьмах. Многія з іх ён падпісваў псеўданімам «Г. Асот».

Фельетоны і кароценькія апавяданні былі ў модзе і ў другіх пачынаючых пісьменнікаў і паэтаў. Гэта была дзейсная форма ўдзелу маладых літаратараў у перабудове вёскі на новы, сацыялістычны лад, доказ іх непарыўнай сувязі з журналістыкай, з савецкім друкам.

**«Ці ў вас так гавораць?»**

Мова — гэта зброя журналіста, як і пісьменніка. Яе прастаце і прыгажосці (у кожным нават маленькім дописе), літаратурнаму майстэрству селькораў у рэдакцыі надавалі важнае значэнне.

Амаль усе пісьмы, таксама як і вершы, апавяданні пачынаючых паэтаў і празаікаў, пісаліся, вядома, па-беларуску. Вельмі часта ў іх сустракаліся сапраўдныя залатыя крупінкі, якімі захапляўся нават такі майстар слова, як Кузьма Чорны. Аднак сярод шматлікіх карэспандэнцый трапляліся і такія, што былі напісаны сухой канцылярскай мовай, без пачуцця і хвалявання. Такая мова абурала Кузьму Чорнага.

— Трэба ўсё нанава перарабляць, — гаварыў ён у такіх выпадках. — Вот напісаў, дык напісаў, каб табе ручкі, як той казаў... Не раўнуючы, як даўней пісар у Цімкавічах...

Аднойчы ён сядзеў за невялікім, сціснутым між двух сцен, сталом і правіў заметку старога селькора з-пад Самахвалавіч — Міколы Лазарчыка. Правіць і злуецца.



— Сапсаваўся, сапсаваўся чалавек. Не думае, не пераживае таго, што піша. Мусіць, спісвае... Па стылю відаць...

Як на тое — адкуль і ўзяўся — зайшоў у наш пакой і сам селькор. Кузьма Чорны папрасіў яго бліжэй да стала і, падсоўваючы крэсла, з нейкай задуменнасцю паглядзеў яму ў твар.

— Ну, скажы, браток, ці ў вас так гавораць?

І пачаў перачытваць яму адну за другой сухія, штампаваныя фразы з пісьма.

— Сапсаваўся ты, браток, сапсаваўся. Быў Міколам Лазарчыкам, пісаў як чалавек, а стаў «Пралескай», і мову сваю страціў.

Кузьма Чорны вучыў селькораў шанаваць родную мову, раіў прыслухоўвацца да народнай гаворкі, запісваць асобныя словы і ўзбагачаць імі і сваю мову, і мову газет.

У «Паштовай скрынцы» літаратурна-мастацкага дадатку «Чырвоны сейбіт» ён адказваў адной з селькорак Жыткавіцкага раёна: «Сшытак запісаў народных песень перадаем у фальклорную камісію Інстытута беларускай культуры. Калі ў вас ёсць новыя матэрыялы, накіроўвайце іх у Інстытут».

Другому аўтару ён раіў:

«Мова твора павінна быць па-мастацку простай, жывою — гэтакай, якою яна жыве, а не прыдуманай. Адзін аўтар піша: «Вецер распаўсюджваў пах кветак». Рускае «распространять» у нас пішуць «распаўсюджваць» («распаўсюджваць газеты», «распаўсюджваць аблігацыі»). У інструкцыі, у пратаколе, нарэшце, — у артыкуле, дык гэтакая мова яшчэ — паўбяды, але ў мастацкім творы, дык гэта вельмі суха і непрыгожа. Куды прыгажэй было б напісаць проста — «пахлі кветкі», або «дзьмуў вецер і пахлі кветкі».

Некаторыя аўтары, захапіўшыся гэтакаю моваю і думаючы, што для кніг яна патрэбна, пішуць, напрыклад, «зачыніў вочы» замест «заплюшчыў вочы», і да гэтага падобнае. Трэба, каб творы пісаліся моваю жывою».

Бязлітасным быў Кузьма Чорны і да праяў мяшчанства і адгалоскаў так званай салоннай літаратуры ў некаторых пачынаючых паэтаў. Аднаму з такіх селькораў-паэтаў з Рудзенскага раёна ён адказваў:

«Што тычыцца прысланага верш, дык думаем, што ён да друку наогул не падыходзіць. Пачытайце самі:

«С тобою прошлою зимой
Сошлись мы в шумном маскараде,
И я безумно полюбил
Тебя в таинственном наряде».

Хто гэта ў вас у Рудзенску маскарады ладзіць?! Займецеся лепш па спецыяльнасці, бо «знойная пылкая страсть» з такім канцом, як у вашым вершы, можа давесці да аліментаў».

**На новым уздыме**

Шырыўся і мацнеў рабселькораўскі рух, павышалася арганізуючая роля савецкага друку. У 30-х гадах з'явіліся новыя формы работы: рэйды ўдарных брыгад, выязныя рэдакцыі на важнейшых будоўлях і вытворчых аб'ектах. У цэхах, на фабрыках і заводах, на будаўнічых пляцоўках і ў калгасах умацоўваўся нізавы друк. Выходзілі дзесяткі тысяч насценных газет, якія расцілі і выхоўвалі рабселькораў.

У канцы 1930 года ў Мінску пачала выдавацца газета «Рабселькор», пасля на змену ёй з'явіўся часопіс «Бальшавіцкі друк». Праведзеныя ў рэспубліцы з'езды рабселькораў яшчэ больш актывізавалі дзейнасць работнікаў нізавога, раённага і рэспубліканскага друку. На з'ездзе рабселькораў у Мінску ўпершыню ў практыцы такіх з'ездаў працавалі секцыі па самых разнастайных галінах прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Матэрыялы і рэзалюцыі работы з'езда і яго секцый былі апублікаваны. Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла се-

рыю кніг па пытаннях рабселькораўскага руху і журналісцкай практыкі. І як завяршэнне ўсёй гэтай вялікай работы па ўздыму рабселькораўскага руху, рэдакцыя рэспубліканскай газеты «Рабселькор» наладзіла завочную вучобу. Спецыяльныя друкаваныя лекцыі рассылаліся рабочым і сельскім карэспандэнтам ва ўсе раёны рэспублікі.

З таго часу прайшло больш 25 гадоў, аднак многае, што тады ўзялі сабе на ўзбраенне маладыя журналісты, яшчэ і сёння служыць ім на карысць журналісцкай працы. Хочацца, каб нашы сённяшнія рабселькоры і маладыя журналісты не грэбавалі гэтай спадчынай, каб яны ведалі і паважалі добрыя традыцыі бальшавіцкага друку і ўзбагачалі іх новым зместам у нашы велічныя дні будаўніцтва камунізма.

### Зброя журналіста

Гавораць, што журналіст павінен валодаць не толькі майстэрствам слова, але і мець элементарнае ўяўленне аб паліграфічнай базе, ведаць, як робіцца газета. Мне, напрыклад, вельмі спатрэбілася гэтае веданне паліграфічнай справы ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Прадвесне 1942 года. Па разбураных вуліцах Мінска снуюць эсэсаўцы. Яны ўрываюцца ва ўцалелыя кватэры і хапаюць мужчын. Адных кідаюць у турму, другіх адвозяць у трасцянецкі лагер смяротнікаў, трэціх адразу — на катаргу ў Германію.

Неспакойна стала і на Пушкінскім пасёлку. Штотыдзень арышты, праз ноч-дзве — раптоўныя праверкі ў кватэрах. Нарэшце гестапаўцы схапілі і «пракладчыцу» — нашу сувязную Іру.

Трэба быць гатовым да ўсякіх нечаканасцей. А тут карціць, каб як хутчэй дабрацца да шрыфтоў, узяцца за стварэнне падпольнай друкарні.

Нарэшце, доступ да наборных кас у Доме друку забяспечаны. Але як наладзіць паступовы і непрыкметны вынас шрыфту на пасёлак? Пры выхадзе з Дома друку стаіць узброены патруль, на лесвіцы ўсіх чатырох паверхаў снуе стары немец са свастыкай на рукаве. Калісьці, у 1916 годзе, ён трапіў у рускі палон, жыў у Сібіры і нядрэнна авалодаў рускай мовай. Цяпер ён сочыць і за намі, і за сваімі. Я двойчы заўважыў, як ён з чацвёртага паверху ўглядаўся ўніз лесвіцы, каб выявіць, хто з кім прыпыняецца і гутарыць, хто і што выносіць з друкарні.

Ціха, як той ліс, ён набліжаўся да вярстальных сталоў і непрыкметна ўслухоўваўся, пра што гавораць рабочыя.

— Страляны верабей, — глянуўшы на яго, сказаў мне Міхась Свірыдаў і неяк па-змоўніцку прыплюшчыў вока.

Зразумець было няцяжка — Міхась таксама адчуў у ім гестапаўскага наглядчыка.

— Воўка баяцца — у лес не хадзіць! — сказаў я.

І зноў працягваў красці і выносіць шрыфт. Назбіралася яго на Пушкінскім пасёлку больш, як трэба. Хопіць для выдання хоць трох падпольных газет. Шрыфты маскіруюцца ў надзейных месцах даваеннага дома «Звязды». Валікі, фарба, папера прызапашаны на другой вуліцы.

Цяпер задача: як вывезці гэтую дарагую маёмасць за межы горада. А тут яшчэ хочацца захапіць з сабой хоць пару наборных кас. Але як іх вынесці з Дома друку на вачах у немцаў?

Кемлівыя браты Свірыдавы і тут не разгубіліся.

— Дзядзька Алесь! Я надумаў, — шапнуў мне ледзь не на вуха Міхась. — Паліва ў нас цяпер ніякага не даюць. Кожны рабочы нясе дадому то дошчачкі, то старую фанеру. Я так думаю: днём разбяру касы, звяжам іх са старой фанерай, а вечарам вынесем пад выглядам паліва.

Неяк у жніўні 1942 года я зноў сустрэў на Пушкінскім пасёлку крыху знаёмага яшчэ да вайны маладога журналіста Рыгора Страшко.

— Збіраюся пакідаць Мінск, — сказаў я яму. — А пакуль, ці не мог бы ты дапамагчы мне ў адной справе? Калі і што ад цябе будзе патрэбна, я паведамлю.

Рыгор даў згоду, папярэдзіўшы:

— Толькі з умовай, што я пасля пакіну Мінск разам з табою.

Але да развітання з Мінскам было яшчэ далёка. Неабходна было выконваць іншыя даручэнні падпольшчыкаў, прымаць сувязных, падтрымліваць кантакт з партызанамі Манылскіх лясоў.

Рабіць гэта ў доме, дзе на гарышчы захоўваліся шрыфты і іншае друкарскае абсталяванне, было небяспечна. Ды і з брыгады «Штурмавая», якая размяшчалася на адлегласці 35 кіламетраў ад Мінска, пачалі падганяць:

— Кідай ты горад і вязі друкарню. Трэба наладжваць выпуск партызанскай газеты.

Яшчэ раз сустрэў Грышу Страшко і спытаў яго:

— Ці не занудзіўся ты без нашай падпольнай газеты? Цяпер ужо хутка... Будзем граміць фашыстаў і зброяй слова.

У Доме друку я дамовіўся з Нінай Палонскай і Басяй Чарняк, каб яны па першаму сігналу пакідалі Мінск і ішлі ва ўмоўленае месца. Схадзіў у вёску Мачаны і дамовіўся з стрыечным братам Васілём Дзядзюлем, калі яму прыязджаць да мяне на кані.

Усё было напагатове. І калі прыехаў Васіль, першае, што мы зрабілі, — пачалі грузіць на воз нейкую мэблю, каб тым самым пацвердзіць загадзя пушчаную пагалоску: «Я пакідаю Мінск і еду працаваць настаўнікам пад Баранавічы». А потым пазасоўвалі між мэблі мяшкі са старой вопраткай. У сярэдзіне ў іх замаскаваны былі шрыфты.

Ужо было з паўдня, калі мы ўдвух рушылі за нагружаным возам на Ціхую вуліцу. Толькі ўз'ехалі на брук, як перад намі паказаліся дзве групы немцаў. Мы зрабілі абыякавы выгляд і, параўнаўшыся, казырнулі салдатам. Наша старая мэбля на возе не выклікала ў іх ніякіх падазрэнняў.

Праз тыдзень я зноў быў у горадзе. Рыхтавалася важная аперацыя па знішчэнню буйнага фашысцкага агента на Беларусі, і трэба было яшчэ раз удакладніць склад яго групы, дзень яе прыезду ў Мінск і месца прыпынку. Калі ўсё было зроблена, я сустрэў Рыгора Страшко і сказаў:

— Цяпер пакуль усё. Паедзем у Карпілаўку выдаваць партызанскую газету. А наконт нашай новай задумы прыдзецца пачакаць. Той фашысцкі верхавод, які нам патрэбен, пакажацца ў Мінску толькі ў лютым...

### Адпомсцім!

Карпілаўка — радзіма беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш. На яго сядзібе яшчэ стаяць некалькі старых, здзічэлых яблынь, а гумно і прысады зруйнаваны фашысцкімі вылюдкамі яшчэ ў першыя дні блакады партызанскага краю. Адсюль рукой падаць да Акопаў, дзе некалі правёў свае маладыя гады Янка Купала. Вось у гэтай маляўнічай Карпілаўцы, на ўскраіне Манылскага лесу, і пачала працаваць наша падпольная партызанская друкарня.

Успамінаецца позняя восень 1942 года. Заціхла і замерла ўсё жывое ў палях. На вуліцы Карпілаўкі нікога, акрамя дружынніка-вартавога, не відаць. А ў хаце Тадора Сліжука і яго суседа — гоман і шум. Тут камплектуюцца і запаўняюцца шрыфтамі наборныя касы нядаўна вывезенай з Мінска друкарні. Ля касаў — Рыгор Страшко, Рая Матусевіч і Ната Матусевіч. Работа адказная — заўтра павінна выйсці першая лістоўка «Весткі з радзімы». І партызаны, якія толькі тыдзень таму назад пачалі авалодваць новай прафесіяй друкара, спяшаюцца.

Трымаць друкарню ў вёсцы, у пяці кіламетрах ад вялікай дарогі, было небяспечна. Па даручэнню камандавання брыгады партызанскія цесляры пачалі будаваць для сваёй друкарні спецыяльны домік ля ракі Удранка. Ён быў настолькі замаскаваны, што застаўся някранутым нават у дні блакады вясной 1943 года.

Як нейкае свята і сваю перамогу, адзначалі партызаны выхад першага нумара газеты. Яе назвалі баявым клічам усіх народных мсціўцаў — «Мы адпомсцім!»

Фашысты не раз спрабавалі разграміць партызанскую газету, зруйнаваць яе паліграфічную базу. Але як толькі набліжалася блакада, партызанскія друкары хутка здымаліся з месца і, перабраўшыся ў новы раён, удала маскавалі друкарню ў зямлі і лазовых зарасніках. Заканчвалася блакада, і зноў аднаўлялася работа рэдакцыі і друкарні. Праз дватры дні разведчыкі зноў атрымлівалі свежыя нумары газеты і везлі яе ў партызанскія вёскі, перапраўлялі сваім людзям ў Лагойск і Мінск.

Паўтара года праіснавала наша газета, народжаная ў агні партызанскіх баёў на радзіме народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. Паўтара года яна несла святло праўды ў вёскі акупіраваных раёнаў, заклікала ўвесь народ на свяшчэнную вайну за чэсць, свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы. «Мы адпомсцім!» — святою клятвай партызана гучалі яе заклікі да народа. «Мы адпомсцім!» — неслася ў адказ водгулле з бароў і пушчаў, з вёсак і гарадоў усёй Мінішчыны.

* * *

Слаўныя традыцыі ўстанавіліся ў работнікаў савецкага друку. Штогод 5 мая мы адзначаем Дзень друку. У гэты дзень кожны з нас аглядаецца на пройдзены шлях, каб запытаць самога сябе: «А ці ўсё я зрабіў, што мог зрабіць, ці ўсё даў, што мог даць для нашага савецкага друку?» Старыя журналісты ўглядаюцца ў глыбіню пройдзеных дзесяцігоддзяў, моладзь мроіць пра новыя нарысы і кнігі.

Мне хочацца, каб гэты гарачы запал маладых дапаўняўся добрай практыкай старажылаў газетнай паласы. Каб мы, углядаючыся далёка ўперад, не лунаці недзе ў паднябессі і не зракаліся сваіх звычайных добрых традыцый, каб у нашай журналісцкай сям'і заўсёды адчувалася творчая дружба. І не толькі ў Дзень друку, а на працягу ўсіх 365 дзён года.



# ДАКУМЕНТЫ АПАВЯДАЮЦЬ

У гады Вялікай Айчыннай вайны беларускія партызаны ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі праявілі масавы гераізм, смеласць, знаходлівасць. Аб гэтым сведчаць шматлікія дакументы, нарысы, вершы, малюнкі, літаратурна-мастацкія часопісы, насценныя газеты, якія беражліва захоўваюцца ў архівах і музеях рэспублікі.

Нядаўна ў партыйным архіве ЦК КП Беларусі знойдзена дзевятнаццаць малюнкаў з баявога жыцця партызан, зробленых невядомым мастаком. Неўзабаве быў знойдзен невялікі сшытак з запіскамі — «Два эпізоды партызанскай барацьбы ў тылу ворага». Подпісу не было, але ўнізе стаяла прыпіска, што яны напісаны камісарам партызанскага атрада імя Кірава брыгады імя Панамарэнкі Брэсцкага злучэння. Подпіс: «Памочнік камісара па камсамолу З. Ф. Абакумаў».

Навуковыя супрацоўнікі архіва прыйшлі да вываду, што і малюнкі і запіскі расказваюць пра адны і тыя ж падзеі. Трэба было знайсці аўтара запісак. Пачаліся пошукі. Неўзабаве быў адшуканы аўтар запісак, камісар атрада Пачабутаў. Праз яго даведаліся, што апісанымі аперацыямі па захопу цягнікоў кіраваў малады падрыўнік ураджэнец вёскі Мохра Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці Аляксандр Самуйлік, які зараз працуе ў Камянцы. У яго групу ўваходзілі Абакумаў, Уладзіміраў, Анна Рудзько, Логінаў і іншыя.

Рабіў малюнкі партызанскі мастак Шайшал, грузін па нацыянальнасці, які загінуў ля вёскі Яніна Ружанскага раёна. Ім была напісана яшчэ і вялікая карціна, якая знаходзіцца ў музеі Айчыннай вайны.

Ніжэй мы змяшчаем знойдзеныя і падрыхтаваныя да друку старэйшым навуковым работнікам партыйнага архіва А. Кузняевым запіскі Пачабутава і малюнкі мастака Шайшала.

## I

На двары восень. Лістапад. Гразь, слота. Надвор'е нікуды не вартае, а галоўнае — не спрыяе нам. Раніцай разведка ўстанавіла, што з горада Любешава ў горад Камень Кашырскі цягнік возіць прадукты. Адсюль яны перагружаюцца ў эшалоны і адпраўляюцца ў Нямеччыну.

Дыверсійная група вырашыла захапіць гэты цягнік і знішчыць яго. 4 лістапада 1942 года група адправілася пад горад Любешаў. Назаўтра раніцай партызаны былі на раз'ездзе чыгунак на Любешаў, Камень Кашырскі і Іванава. Зрабілі засаду ў прыдарожных хмызняках. Чакалі цягніка. Прайшоў дзень, а яго няма. Ліў дождж, вопратка прамокла наскрозь. Настрой у хлопцаў стаў падаць. Але заданне трэба выканаць. Тут за справу ўзяліся два лепшыя камсамольцы — Абакумаў і Бяссонаў. Асабістым прыкладам, гарачым словам яны ўгаварылі партызан не пакідаць месца засады.

6 лістапада затрымалі чыгуначніка. Ад яго даведаліся, што цягнік пройдзе ў Любешаў у трынаццаць гадзін.

Цягнік ішоў пусты. Камандзір загадаў прапусціць яго, дачакацца, калі ён пойдзе назад гружаным. Гадзіны праз дзве цягнік вяртаўся ў Камень Каширскі. Дзесяць адважных нечакана налятаюць на поезд, спыняюць і замест Камень Кашырскага накіроўваюць яго ў Іванава.



Каб мясцовае насельніцтва ведала, каму належыць цягнік, паравоз упрыгожылі сцягамі. «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!» — напісана на іх. Гэта прыдумаў камсамолец Абакумаў. Ён жа ехаў на паравозе спераду.

Сувязь парвана. Шлях вольны. Цягнік паданы на лінію ў кірунку Іванава. Гучыць каманда:

— Па месцах! Логінаву на паравоз. Поўны ход!

І цягнік, упрыгожаны чырвонымі сцягамі і лозунгамі, наімчаўся па рэйках.



На станцыі Любязь цягнік спыніўся. Насельніцтва палічыла, што прыбыла Савецкая Армія. Усе беглі да цягніка, радасна вітаючы чырвоныя сцягі.

Хутка высветлілася, што гэта партызаны. Але радасць не змяншалася. Дваццаць хвілін стаяў на станцыі цягнік, потым пайшоў далей. Людзі цёпла праводзілі яго. Пакуль поезд не схаваўся за паваротам, яны развітальна махалі хусткамі і шапкамі.



Цягнік хутка імчаўся наперад. Здзіўленае насельніцтва вёскі Шлапань высыпала на вуліцу. Па акупіраванай зямлі, якую немцы лічылі пакоранай, ходзяць цягнікі з савецкімі сцягамі. Гэта не толькі здзіўляла, але і радавала.

На шляху — станцыя Дольск. Там размяшчаўся нямецкі гарнізон. Поезд прашыбаваў без прыпынку паўз збянтэжаных акупантаў.



У вёсцы Калена Іванаўскага раёна партызаны спынілі цягнік, выгрузілі ўсе прадукты, што нарабавалі немцы. Былі тут пасылкі ў Нямеччыну з беларускім палатном, салам і маслам, куры, гусі, яйкі. Захоплены былі і нямецкія дакументы, якія везлі фрыцы ў паштовым вагоне.

Не паспелі як след разгрузіць цягнік, як прыбег сувязны. Ён паведаміў, што ў вёску Мохра прыехала нямецкая кавалерыя. Хлопцы зноў захваляваліся. Некаторыя гаварылі, што далей не паедуць. Яны раілі падарваць паравоз, а самім ісці ў лагер. Але цвёрдая воля камандзіра, яго настойлівасць прымусілі палахлівых выконваць заданне.

Прадукты пагрузілі на павозкі, і з імі накіравалі чацвярых партызан. Шасцёра астатніх вырашылі ўтапіць цягнік у рэчцы Піне. Наперадзе была вёска Мохра. У ёй — нямецкая кавалерыя. Партызаны падрыхтаваліся да бою. Немцы займаліся сваімі справамі: некаторыя кавалі коней, астатнія шнырылі па вёсцы. Убачыўшы цягнік з савецкімі сцягамі, немцы, што кавалі коней, здзіўлена пагледалі, нічога не разумеючы.



Вось і рэчка Піна. Камандзір загадвае машыністу Логінаву даць поўны ход, а самому скакаць з паравоза. Наперадзе немцы, але ўсе адыходзяць без страт.

Немцы спрабавалі спыніць цягнік. Але хутка ён урэзаўся ў бераг і зваліўся ў раку.

Выканаўшы заданне, шасцёра смелых вярнулася на базу.

Ля вогнішча сабраліся партызаны, каб паслухаць адважных падрыўнікоў.

II

Удача з першым цягнікам натхніла на новыя подзвігі. Камандзір групы (Самуйлік А. І. — **Рэд.**) папрасіў камандаванне зноў адпусціць яго на чыгунку. Ён ведаў, што цяпер чыгунка ўзмоцнена ахоўваецца, але нішто не магло спыніць яго.

Зіма. Люты. Навокал снягі. Прыціскае мароз. Але партызаны не зважаюць на гэта. Закапаўшыся ў снезе, яны чакаюць цягнік. Праходзяць чатыры гадзіны. З-за павароту выпаўзае паравоз. Наперадзе пляцоўка, а на ёй — танкетка. Усе ўражаны і збянтэжаны. Але загад выконваць трэба. Залп, цягнік спыніўся. Як жа здзівіліся партызаны, калі замест танкеткі ўбачылі на пляцоўцы звычайную веялку.



Усё гатова да адпраўкі. Два партызаны прызначаны выкідваць на хаду мяшкі са збожжам. Сяляне падбіралі потым мяшкі і дзякавалі партызанам за іх клопаты.



Ля вёскі Любязь цягнік спынілі, пасажыраў высадзілі. Як і раней, цягнік ішоў да ракі Піны. У вёсцы Вулька вагоны былі набіты саломай. Камандзір загадаў: салому запаліць і паравоз пусціць пад адхон.

Загад быў выкананы дакладна.



Зіновi ІЛЬЕЎСКІ

# СЦЯГАНОСЦЫ БУДУЧЫНІ

## Нарыс

### 1

Неба праяснілася і ззяла чыстым блакітам. Ранішняе сонца залівала ўсё навокал залацістым святлом.

Поезд імчаўся хутка, мінаючы кіламетр за кіламетрам. І здавалася, канца-краю не будзе гэтай сталёвай стужцы, якая ў далечыні злівалася ў срабрысты ручай.

Крыху высунуўшыся з акна паравознай будкі, Фёдар звыкла, адным позіркам, прыкмячаў усё: і закрыты стракатым шлагбаумам пераезд, ля якога згрудзіліся машыны і фурманкі, і напяты лёгкім ветрыкам зялёны сцяжок пуцявога абходчыка, і цыбаты семафор, які адкрываў шлях наперад.

Цягнік, які вёў цяпер Фёдар, быў зборны. Гэта работа «курортная», кажуць у такіх выпадках машыністы. Развозь сабе па лінейных станцыях вагоны і платформы з грузам, маняўруй. Іншая справа, калі вядзеш цяжкавагавік...

Фёдар выцер спацелы лоб і, ссунуўшы шапку на патыліцу, звярнуўся да качагара — высокага стройнага хлопца з акуратна падстрыжанымі чорнымі вусікамі:

— Як думаеш, Фелікс, падкінуць нам груз у Бярозе? Учора дык мы каля чатырох тысяч тон даставілі з Янава!..

— І сёння, напэўна, будзе не менш, Фёдар Рыгоравіч, — падграбаючы вугаль, адказаў Фелікс.

Фелікс Ярмоленка прышоў у дэпо месяцаў сем таму назад, пасля заканчэння дзесяцігодкі. Папрацаваўшы крыху на адным паравозе, Фелікс перайшоў у брыгаду Фадзеева.

— Ну што ж, хлопча, будзеш качагарыць, — коратка сказаў тады брыгадзір. — Сам ведаеш, справа гэта не лёгкая. І яшчэ: брыгада наша камсамольская, так што ты падумай...

Фелікс адказаў, што цяжкасцей ён не баіцца і што даўно меў жаданне пайсці працаваць на транспарт...

— Гэта добра, што з ахвотай ідзеш да нас, — пахваліў яго Фадзееў. — А цяпер хадзем да паравоза. Якраз мой напарнік Валодзя Мартынюк вяртаецца з паездкі.

Цераз пуці яны пайшлі насустрач цягніку. У вочы Феліксу кінуліся словы «Камсамольскі паравоз» і нумар — ЭР — 17 75001. Металічны жэтон на паравозе: «Лепшай камсамольскай паравознай брыгадзе ад ЦК ЛКСМБ і Упраўлення чыгункі». Пазней Фелікс даведаўся, што ганаровым знакам кожны квартал узнагароджваецца лепшая брыгада Беларускай чыгункі. Ад машыны патыхала цеплынёй. Хлопец міжволі падумаў: «Якая ж яна вялікая і магутная».




Старшы машыніст дэпо Брэст-усходні Фёдар Фадзееў.
Фота В. Германа (БЕЛТА).

Стаўшы качагарам у комплекснай брыгадзе Фадзеева, Ярмоленка зразумеў: машына — машынаю, а галоўнае — сам чалавек, які ўмее ўзяць ад яе ўсё, што яна можа даць. На думку качагара, такім чалавекам быў Фёдар Рыгоравіч Фадзееў і яго сябры машыністы Уладзімір Мартынюк і Уладзімір Чыканаў. Па іх раўняліся ўсе цяжкавагавікі дэпо Брэст-усходні. Зразумеў Фелікс і другое: каб навучыцца вадзіць цягнікі, як Фадзееў, трэба накапіць шмат вопыту і ведаў.

— ...Вось і Бяроза, — прагаварыў Фадзееў. — Прыбылі раней графіка на 15 мінут. Я да дзяжурнага ў дэпо загляну, а ты, Фелікс, агледзь гаспадарку.

Ярмоленка добра ведаў, што гэта азначае. Яму трэба праверыць падшыпнікі вядучых колаў, змазаць іх, пацікавіцца, ці хопіць у баку вады. Машыніст на прыпынках сам уважліва правяраў усё гэта, але прывучаў да акуратнасці і сваіх напарнікаў. І цяпер, перш чым пайсці ў дэпо, ён падбіў клін буксавага падшыпніка, праверыў паршнявую сістэму. Упэўніўшыся, што ўсё ў парадку, пайшоў у кантору.

У маленькім канторскім пакойчыку Фадзееў адразу ж падступіў да дзяжурнага з пытаннямі: ці будзе груз, колькі яго і калі прыбудзе цягнік з Баранавіч?

— Пачакай, Федзя, — усміхнуўшыся, прагаварыў дзяжурны, — Чаму гэта ты заўсёды такі напорысты, не даеш перадыхнуць нікому? — А потым сур'ёзна дадаў: — Наконт грузу ў дыспетчара спытай, а баранавіцкі цягнік прыдзе праз 42 мінуты.

Фадзееў пазваніў дыспетчару. Потым, паклаўшы тэлефонную трубку на рычаг апарата, задаволена ўсміхнуўся:

— 1 800 тон! Ды яшчэ тут у вас забярэм усё, што ёсць. Каля трох тысяч будзе. Нішто сабе...

...Праз гадзіну мы выехалі зноў на Брэст. Гэта ўжо была не «курортная работа»: Фадзееў вёў цяжкавагавы састаў.

Акінуўшы позіркам доўгую змейку цягніка, машыніст загадаў качагару:

— Падкінь, Фелікс, лепшага вугалю, хутка пад'ём...

Ярмоленка ўскочыў на тэндар, і на невялічкай пляцоўцы паравоза, якую Фадзееў жартам назваў «сваім кабінетам», адразу папрастарнела. Машыніст усё гэтак жа ўважліва глядзеў наперад

і, мінаючы пераезды ці станцыі, вітаўся з імі басавітым гудком.

Чорны, паліты вадою вугаль няспынна падаваўся з тэндара на латок, а адсюль хутка знікаў у ненажэрнай пашчы топкі. Памочнік машыніста Пятро Зданевіч — выдатны майстар сваёй справы. Ён умее трыма-чатырма шуфлямі раўнамерна пакрыць усю шырокую, аж на пяць метраў, гарачую паверхню. А гэта вельмі важна — умець завіхацца ля печы.

Мінулі Аранчыцы. Фадзееву дастаткова было толькі паглядзець на Пятра, каб той адразу здагадаўся, што трэба паднялегчы. Набліжаліся да пад'ёму — такога месца, дзе, як кажуць машыністы, «комін з небам гаворыць» і дзе трэба трымаць пару высока, на 14—15 атмасферах.

Праз кожныя дзве-тры хвіліны Пятро кідаў шуфлі вугалю. Адзін, два, тры... пяць... восем. Кожны раз, як толькі бліскучы вугаль знікаў у вірлівым полымі, дзверцы топкі хутка зачыняліся, а праз 5—10 секунд зноў адчыняліся, каб глынуць новую порцыю паліва. Нясцерпная гарачыня абдавала Пятра. На яго разгарачаным твары блішчалі буйныя кроплі поту. Час-ад-часу ён з прагнасцю глытаў з чайніка цеплаватую ваду і сачыў за манометрам.

— Ну, вось і адолелі пад'ём, — уздыхнуўшы, прагаварыў Фадзееў.

— Глядзі, Рыгоравіч, каб цябе гэты «каверзнік» не падвёў, — заўважыў памочнік машыніста. — Хуткасць жа — усе 70 кіламетраў!

Перахапіўшы наш запытальны позірк, Фадзееў з усмешкай паказаў на запламбіраваны апарат з нейкімі металічнымі стрыжнямі:

— Гэта і ёсць наш «каверзнік». Нічога ад яго не ўтоіш. Не апрабуеш тармазы, перавысіш хуткасць — і ён адразу ж адзначыць на паперы, а калі вернешся з паездкі, усе твае грахі відаць, як на далоні...

Вечарэла. Веснавое паветра бруілася свежасцю. Адолеўшы пад'ём, цягнік спакойна імчаўся па роўнядзі. Цяпер можна крыху адпачыць. Фелікс заняўся ўборкай, Пятро сеў злева ад машыніста і скруціў цыгарку...

Крыху памаўчаўшы, Фёдар Рыгоравіч загаварыў:

— А наогул, гэта добрая штука. «Каверзнікам» мы яе, вядома, жартам называем. Цяпер паміж паравознікамі і пуцейцамі менш непаразуменняў. Не тое, што было раней, калі адзін на другога віну звальвалі. Цяпер апарат з усім разбярэцца, і разбярэцца правільна.

Непрыкметна гаворка зайшла пра будучае, калі паравоз саступіць месца цеплавозу.

— Сямігодка патрабуе вялікіх хуткасцей, — задумліва прагаварыў Фёдар Рыгоравіч, — а цеплавоз — гэта ж яшчэ больш магутная машына. Наша комплексная брыгада сёлета пачне вучыцца, каб лепш асвоіць новую тэхніку і яшчэ хутчэй вадзіць цяжкавагавыя саставы.

Цяжкавагавікі!

Фёдар прыгадаў нядаўняе мінулае.

У паравозным дэпо Брэст-усходні ўжо два гады таму назад было нямала смельчакоў, якія вадзілі цягнікі з перавышэннем вагавых норм: замест двух тысяч тон бралі па 3 500—3 600 тон. Аднойчы Васіль Шаталовіч даставіў з Ковеля цяжкавагавы састаў у 3 700 тон. Гэта быў вялікі поспех.

У той час камуніст Фёдар Фадзееў і надумаў вялікую справу — узяць двайную норму грузу, каб цалкам вызваліць ад паездкі другі паравоз. Ён пагаварыў з членамі сваёй брыгады і, сустрэўшы іх адзінадушнае адабрэнне, папрасіў дыспетчара станцыі Ковель сфарміраваць цягнік на 4 000 тон. Паездка была нялёгкай. Але ўсё абышлося добра. Перамаглі вопыт, гарачае імкненне дамагчыся поспеху. А ў ноч з 7 на 8 ліста-





**Пасля рэйсу. Фёдар Фадзееў і сакратар партбюро паравознага дэпо І. Я. Кротаў.**

пада 1957 года Фадзееў устанавіў новы рэкорд — даставіў па прызначэнню цяжкавагавы састаў у 4 546 тон.

Цяпер у машыністаў дэпо Брэст-усходні ваджэнне двайных саставаў стала звычайнай з'явай.

## 2

Здаўшы паравоз свайму напарніку Уладзіміру Чыканаву, Фадзееў накіраваўся ў дэпо. У канторы было шумна. Двое рабочых, акружаныя «балельшчыкамі», заўзята рэзаліся ў шашкі. У другім пакоі, дзе знаходзіўся дзяжурны, няспынна званіў тэлефон — ішла перадача зводак.

Як толькі Фадзееў пераступіў парог, яго адразу акружылі рабочыя дэпо:

— Ну, як з'ездзілася? Колькі даставіў? — пасыпаліся пытанні.

Адчувалася, што ўсе жыва цікавяцца справамі старшага машыніста камсамольскага паравоза, кіраўніка першай у дэпо комплекснай брыгады, якой прысвоена званне калектыву камуністычнай працы.

Фадзееў, адказваючы на запытанні, падышоў да дошкі паказчыкаў, што вісела на сцяне, і з задавальненнем пачаў чытаць лічбы: «Мартынюк — 8 цяжкавагавікоў, Чыканаў — 8».

— Малайцы, хлопцы! Вось што значыць працаваць па-камуністычнаму! — вырвалася ў Фадзеева.

Амаль у канцы спісу ён знайшоў сваё прозвішча: «Фадзееў — 10 цяжкавагавікоў».

Працаваць па-камуністычнаму...

Гэта пачалося ў тыя незабыўныя дні, калі Фадзееў вярнуўся з Масквы, вярнуўся з такім настроем, што, здавалася, мог бы горы варочаць. У Вялікім Крамлёўскім палацы, як і сотні іншых дэлегатаў, ён слухаў даклад Першага сакратара ЦК Камуністычнай партыі Мікіты Сяргеевіча Хрушчова аб сямігодцы. Фёдару Фадзееву здавалася, што іменна да яго, старшага машыніста дэпо Брэст-усходні, звяртаўся Мікіта Сяргеевіч, калі гаварыў аб вялікіх планах, аб тым, як трэба зараз працаваць і жыць, каб хутчэй увайсці ў камунізм.

Вярнуўшыся ў Брэст, Фадзееў зайшоў да сакратара партбюро дэпо Кротава. Гэты чулы, уважлівы чалавек быў для машыністаў старэйшым таварышам. Не аднойчы сумесна вырашалі яны складаныя вытворчыя пытанні.

— Іван Ягоравіч, — сказаў Фёдар, — думаю, што нам трэба ўзяць абавязацельствы: датэрмінова выканаць сямігодку.

— Гэта ты правільна надумаў. А з хлопцамі параіўся?

— Дык я іх зараз паклічу, — кінуўся да дзвярэй Фадзееў.

— Чакай, — спыніў яго сакратар, — спачатку давай самі прыкінем. Сядай.

Яны прагаварылі больш гадзіны. Параўналі вынікі работы брыгады за апошнія гады. Выходзіла, што ў мінулым, 1958 годзе брыгада перавезла звыш нормы 225 тысяч тон грузаў.

— Калі такімі тэмпамі будзем працаваць, то сямігодку зможам выканаць за чатыры з палавінай гады, — сказаў Фадзееў. Яго твар расчырванеўся ад хвалявання, а вочы гарэлі жывым, гарачым бляскам.

Але Кротаў — вопытны, разважлівы кіраўнік — крыху ахаладзіў машыніста:

— Ці ўсё ты ўлічыў, Фёдар? Не заўсёды ж могуць быць вялікія перавозкі. Сам ведаеш, як часам бывае... Значыць, трэба ўсё прадугледзець, улічыць усякія нечаканасці. Слова даць не цяжка, куды цяжэй — стрымаць яго.

— Гэта праўда, Іван Ягоравіч, — згадзіўся Фадзееў. — Давайце яшчэ раз падлічым.

Зноў і зноў рабілі падлікі. Пагадзіліся, што сямігадовае заданне брыгада зможа выканаць за чатыры з паловай — пяць год.

А праз некалькі дзён у парткоме сабралася амаль уся брыгада.

— Галоўнае — дысцыпліна, сумленнасць у рабоце, — строга выгаворваў тады Фёдар маладому качагару Феліксу Ярмоленку за тое, што той загадзя не папярэдзіў нарадчыка і ледзь не сарваў паездку.

Дасталася таксама і памочніку машыніста Віктару Філіпуку за тое, што не дагледзеў буксавы падшыпнік. Чырванеў за сваю памылку Віктар, няёмка адчуваў сябе Фелікс, але паміж хлопцамі не было непрыязнасці, злоснічання. Кожны ўспрымаў блізка да сэрца промах таварыша. Так нараджалася пачуццё ўзаемавыручкі, жаданне дапамагчы адзін аднаму.

— Ну што ж, хлопцы, — узняўся з месца Фадзееў, — слова даём моцнае, перад усёй краінай, перад партыяй... Так што цяпер спаць у шапку нельга!

У цесным пакойчыку запанавала нейкая ўрачыстая цішыня. Камсамольцы глядзелі на свайго важака, свайго старэйшага таварыша і друга. А ён, перасіліўшы хвалянне, праніклёна загаварыў:

— Вось яно як, хлопцы. Водзім мы з вамі саставы і не заўсёды ўяўляем сабе, што грузы, — няхай гэта будзе вугаль, дрэва ці станкі, — вельмі неабходныя нашай народнай гаспадарцы. Моцна адчуў я гэта, калі быў на з'ездзе, калі слухаў Мікіту Сяргеевіча...

Позна заседзеліся хлопцы тады ў сакратара парткома. Аб усім было перагаворана. І аб рабоце, і аб вучобе, і аб тым, як трэба сябе паводзіць у калектыве, на людзях. І трэба не толькі пра сябе дбаць, а і пра таварыша, не маўчаць, калі бачыш, што ён сябе паводзіць нядобра.

Аб многім перагаварылі. А калі разыходзіліся, у кожнага ў сэрцы было адно жаданне: высока несці ганаровы сцяг калектыву камуністычнай працы.

### 3

— Ты, Рыгоравіч, не забыў, што табе заўтра трэба выступіць перад моладдзю?

— Як жа аб гэтым забудзеш? — з некаторай крыўдай у голасе адказаў Фадзееў. — Нібы не ведаеш, што двойчы нам не паўтараюць.

Так, сакратар камсамольскай арганізацыі дэпо Франц Паўлюць аб гэтым добра ведаў. За Фадзеева, за яго брыгаду камсамольскі сакратар мог заўсёды цвёрда паручыцца. Любое заданне малады камуніст выконваў добрасумленна, з запалам, з агеньком.

Выйшаўшы разам з Фадзеевым з дэпо, Паўлюць пачаў распытваць яго аб справах, аб тым, як хлопцы вучацца, адпачываюць.





**Дэлегат XXI з'езда КПСС Ф. Фадзееў, вярнуўшыся з Масквы, сустрэўся з моладдзю Брэста.**

Фёдар хітравата прыжмурыўся:

— А то ты, Франук, быццам не ведаеш... У цябе ж усё ўзята на заметку.

Сапраўды, пытаў Франц больш дзеля парадку. У яго блакноце ўжо даўно ўсё было занатавана — хто чым заняты, хто дзе вучыцца.

Валодзя Мартынюк наведвае дзевяты клас вячэрняй школы. Вядома, што для машыніста-цяжкавагавіка, калі дзень пры дні знаходзішся ў паездках, гэта не лёгка. Але Мартынюк, апрача ўсяго гэтага, яшчэ і баяніст. Ён наведвае музычнае вучылішча. Інакшыя інтарэсы ў памочніка машыніста Міколы Арціховіча і качагара Фелікса Ярмоленкі. Абодва яны — футбалісты, і нядрэнныя. Не так даўно дэпоўская каманда перамагла гомельскі «Лакаматыў». А вось качагары Антось Мікалайчук і Аляксей Хіль больш захапляюцца самадзейнасцю. Антось — адзін з лепшых танцораў, Аляксей — іграе ў духавым аркестры. Завочнікамі маскоўскага інстытута чыгуначнага транспарту з'яўляюцца Пятро Зданевіч і Віктар Філіпук.

...На аўтобусным прыпынку Паўлюць і Фадзееў развіталіся. Франц вярнуўся ў дэпо, а Фёдар паехаў дадому. Ехаў ён з радасным пачуццём чалавека, які добра папрацаваў.

Ледзь пачуліся бацькавы крокі ў калідоры, як насустрач Фадзееву кінулася яго пяцігадовая дачушка. Яе карыя вочкі ззялі радасцю:

— Татка прыехаў, татка прыехаў!..

— Цішэй, дачушка, — супакойвала яе маці Ірына Яфімаўна. — Малую разбудзіш...

— Ну як яна? — адразу падышоў да калыскі бацька. — Як наша меншанькая?

— Добра, — адказала жонка. — Пакуль ты ездзіш, дык мы тут расцём...

Фадзеевы жывуць дружна. Дзеці, а іх трое, на кожным кроку адчуваюць бацькоўскія клопаты і цеплыню. Самы старэйшы, Сярожа, вучыцца ў трэцім класе.

Пасля абеду Фёдар прылёг адпачыць. Неўзабаве яго разбудзіў тэлефонны званок. Ён падышоў да апарата і адразу ж пазнаў голас Кротава.

— Рыгоравіч! Чуеш мяне?

— Чую, Ягоравіч!

— Віншую цябе, віншую і моцна абдымаю, — і пачаў чытаць толькі што атрыманую тэлеграму з Упраўлення чыгункі. Фёдар Фадзееў за выдатную работу ўзнагароджан значком «Ганаровы чыгуначнік». Далей у тэлеграме ішлі пажаданні новых поспехаў брыгадзе камуністычнай працы.

— Дзякую, Ягоравіч, за добрую вестку...

Увечары Фёдар праглядаў свежы нумар «Гудка». Яго зацікавіў артыкул, дзе гаварылася аб

40-годдзі першага камуністычнага суботніка на Маскоўска-Казанскай чыгунцы, названага У. І. Леніным вялікім пачынам. Фёдар задумаўся: сорак год назад чыгуначнікі першымі адгукнуліся на заклік партыі працаваць па-рэвалюцыйнаму. А цяпер таксама па закліку партыі чыгуначнікі і шахцёры, будаўнікі і металургі — увесь народ уключыўся ў спаборніцтва за тое, каб працаваць, жыць і вучыцца па-камуністычнаму, за тое, каб хутчэй і лепш выканаць вялікі план сямігодкі.

...Раніцай з доміка, што па вуліцы Менжынскага, з саквояжам у руках выходзіць рухавы, сярэдняга росту чалавек у чыгуначнай форме. Лёгкай хадою ідзе па знаёмай дарозе ў дэпо. А праз некаторы час лакаматыў старшага машыніста першага класа Фёдара Фадзеева накіроўваецца ў чарговы рэйс. На магутных грудзях паравоза палымнеюць словы: «Брыгада камуністычнай працы».

Наперад, да новых вышыняў нясуць гэтыя крылатыя словы сцяганосцы будучыні!

*Дарогамі сямігодкі*

# НА ЎСКРАІНЕ МАГІЛЁВА

**Рэпартаж**

Высокі бераг Дняпра. Паўднёвая ўскраіна Магілёва — адзін з яго індустрыяльных раёнаў. А некалі ж на гэтым месцы была пустка. У гады першай пяцігодкі рукамі савецкіх людзей тут былі збудаваны прасторныя карпусы завода штучнага валакна.

У пасляваенныя гады завод быў аднаўлены, рэканструяваны. Побач са старымі карпусамі выраслі новыя, у якіх размясціліся цэхі другой чаргі. Сёлета павінна ўступіць у строй трэцяя чарга, каб вырабляць шырока вядомае ўсім штапельнае валакно — новы для Беларусі від прадукцыі, неабходны для вырабу штучнай воўны.

Над будоўляй, якая доўгі час знаходзілася ў прарыве, узяў шэфства камсамол. Пры Магілёўскім абкоме ЛКСМБ створаны штаб кантролю за ходам будаўніцтва прадпрыемства хімічнай прамысловасці. Старшынёй яго прызначаны другі сакратар абкома камсамола Фрыдрых Ярмак, а намеснікам — сакратар камсамольскай арганізацыі будаўнічага трэста № 12 Уладзімір Шаўцоў. На будаўнічых пляцоўках створаны камсамольскія кантрольныя пасты.

— З таго часу, як наша будоўля стала ўдарнай камсамольскай, мінула менш трох месяцаў, — расказвае старшы прараб Дзмітры Ільіч Шчапяцільнікаў. — Людзі ў нас тыя ж, што працавалі і дагэтуль,аднак справы пайшлі інакш. Камсамольцы паказваюць прыклад у працы і з'яўляюцца лепшымі памочнікамі ў арганізацыйных справах. З іх дапамогай мы паспелі зрабіць многае...



Вось гарачую размову па тэлефоне вядзе камсамольскі пост муляраў, на чале якога стаіць брыгадзір Васіль Анастасьеў (справа). На будоўлі здарыўся перабой з цэглай.

— Ці ёсць у вас сумленне? — пытаюцца будаўнікі, выклікаўшы па тэлефоне цагельны завод.



...Гэта звычайны вежавы кран. Ён з'явіўся на будоўлі дзякуючы намаганням камсамольскага штаба і быў змантыраваны ў рэкордна кароткі тэрмін.

На камсамольскай будоўлі працуюць па-ўдарнаму. За першынство ў спаборніцтве змагаюцца 44 маладзёжныя брыгады, з якіх 12 спаборнічаюць за званне брыгад камуністычнай працы. Першымі сярод першых ідуць брыгады муляраў Анастасьева, Плешунова, Зюзіна.

Многія муляры працуюць так, што імі міжволі залюбу-

ешся. Вось, напрыклад, Генадзі Давейніс (на здымку — злева). За змену ён можа ўкласці да пяці кубаметраў цэглы. Канстанцін Плешуноў (справа) падвёў да яго Якава Салагубава.



— Хоць ты, Яша, і добра валодаеш кельмай, але ў Генадзя ёсць чаму павучыцца.

Працуючы, многія камсамольцы і вучацца — хто ў сярэдняй школе, хто ў тэхнікуме, а хто проста на будоўлі, пераймаючы вопыт таварышаў. Так у многіх паявілася па дзве прафесіі, а то і больш.

Анатоль Круталевіч працуе бетоншчыкам. Але ў любы момант ён можа сесці за руль аўтамабіля, узяцца за рычагі экскаватара, замяніць бульдазерыста. Неяк прараб спытаў у яго:

— А што ты яшчэ можаш, Круталевіч?

— Жартаваць магу! — не задумваючыся, адгукнуўся Анатоль.



І гэта праўда. На будоўлі ведаюць Анатоля, як вясёлага хлопца і добрага работніка.

Імкненне моладзі закончыць будаўніцтва ў тэрмін знаходзіць сваё праяўленне ў разгортванні рацыяналізатарскага руху. У гэтай справе асабліва вызначыўся малады інжынер Сяргей Цюшкевіч, начальнік аднаго з палігонаў, дзе вырабляюцца жалезабетонныя дэталі для новых карпусоў. Адна з яго прапаноў прызнана лепшай на рэспубліканскім конкурсе маладых рацыяналізатараў.

— Як жыццё, дзядзька Федзя? — пытаецца ў часе абеду малады муляр Мікалай Сувораў.

— Крутое, як гэты вар! — адказвае ветэран, наліваючы з «тытана» чай. — Здаем свой корпус датэрмінова. А вы?





— І мы пастараемся не адстаць.

Вось Сяргей Цюшкевіч падышоў да зваршчыцы Ларысы Новікавай. Ён раіць ёй, што зрабіць, каб работа пайшла яшчэ хутчэй (здымак справа).



Калі гутарка заходзіць пра поспехі маладых будаўнікоў, заўсёды называецца імя ...дзядзькі Федзі. Так па-свойску ўсе завуць старэйшага рабочага — Фёдара Андрыянавіча Быціна. Нямала моладзі, працуючы побач з Фёдарам Андрыянавічам, набыло будаўнічыя прафесіі. Многія ўжо сталі брыгадзірамі.

Нядаўна ў Магілёве адкрыўся вячэрні ўніверсітэт культуры. Яго слухачамі сталі і маладыя будаўнікі.

На здымку ўнізе — сакратар камітэта камсамола Уладзімір Шаўцоў (злева) знаёміць групу мантажнікаў з праграмай занягкаў. Веніямін Крышэўскі, Міхаіл Каган і Іван Мокры — высокакваліфікаваныя мантажнікі — з захапленнем слухаюць лекцыі аб выяўленчым мастацтве, глядзяць фільмы...

Шматграннае і яркае жыццё кіпіць на будоўлі. У маладых будаўнікоў яшчэ многа цяжкасцей. Вырастаюць сцяна за сцяной, корпус за корпусам будынкі трэцяй чаргі Магілёўскага завода штучнага валакна. І з кожным днём мужнеюць сэрцы юнакоў і дзяўчат, актыўных удзельнікаў усенароднага руху за хутчэйшае ажыццяўленне планаў сямігодкі.

**А. ДЗІТЛАЎ,**
**П. ШАСЦЕРЫКОЎ.**



# *Гары, камсамольскі аганёк!*

## У ПОШУКАХ СКАРБАЎ

У камітэце камсамола сабраўся актыў. Сакратар камітэта Валодзя Ярушэвіч паказваў усім аркуш паперы, на якім насупраць назвы кожнага цэха стаяла двухзначная ці трохзначная лічба. Толькі супраць зборачнага цэха быў прочырк.

— Так, таварышы, — сказаў Валодзя Ярушэвіч, — зборшчыкі нас падводзяць. Ніводнага кілаграма металалому не сабралі!

— Дык гэта ж добра, што ў нас няма металалому, — значыць, няма бракаваных дэталей, — апраўдваліся зборшчыкі.

Але Валодзя Ярушэвіч настойваў на сваім: справа не ў магчымасцях цэхаў, а ў ініцыятыве камсамольцаў. Трэба шукаць! На заводзе «Камінтэрн», дзе ёсць ліцейная вытворчасць, магчымасці для збору металалому велізарныя. А якія адыходы металу на прадпрыемствах лёгкай прамысловасці? Але і там камсамольцы збіраюць металічны лом.

Прайшло некалькі дзён. Сакратар камсамольскай арганізацыі зборачнага цэха Анатоль Рабушкін прыбег у камітэт.

— Знайшлі!.. Цэлы скарб знайшлі!

— Дзе? — здзівіўся Ярушэвіч.

— Тут, пад самым носам.

Анатоль павёў Уладзіміра ў склад нарыхтовак, які цяпер пераабсталёўвалі пад цэх. Пачалі ачышчаць завалы і знайшлі нямала лому. Аб знаходцы першымі даведаліся зборшчыкі з брыгады Станіслава Радзіеўскага. Яны і выйшлі на здабычу скарбу. Дружна працуюць юнакі рыдлёўкамі. І вось нагружана машына. Тры тоны! Зборшчыкі робяць першы ўклад.

Металічны скарб на заводзе, безумоўна, не выпадковасць. А дзе ж шукаць метал камсамольцам заводаўпраўлення? Яны ж таксама хочуць удзельнічаць у зборы металалому.

— Дайце нам толькі машыну. і я знайду сапраўдныя залежы, — прапануе інжынер ЖКА Міхаіл Шаўроў.

Машыну далі. Ствараецца спецыяльная брыгада. Яе ўзначальвае Уладзімір Ярушэвіч. Брыгада аб'язджае новыя дамы, дзе жывуць рабочыя завода. На дварах



**На Віцебскім заводзе заточных станкоў. За зборам металу брыгада нарыхтоўчага цэха (злева направа): Валянцін Вернер, Леанід Вашчанка, Рэма Анашчанка, Владлен Макарычаў.**

Фота Л. Клімава.



гэтых дамоў пасля будаўніцтва засталіся кавалкі труб, нягодныя батарэі і іншыя металічныя адыходы. Расце і расце гара сабранага лому. І вось зроблены падлікі: 5 тон!

Пошукі металічных скарбаў дапаўняюць тую работу, якая праводзіцца ў цэхах. А ў цэхах завода заточных станкоў усе металічныя адыходы знаходзяцца пад гаспадарскім кантролем камсамольцаў.

Яшчэ год назад дырэкцыя завода ў сваіх загадах адзначала засмечанасць цэхаў. Цяпер гэтага няма. Усё, што не патрэбна вытворчасці, — нягодны інструмент, бракаваныя дэталі, металічныя абрэзкі, стружка, — складаецца ў спецыяльныя скрыні. У кожным цэху выдзелены адказныя за збор металалому.

Стала правілам: кожныя тры дні вывозіць сабраны лом з цэхаў. Яго вывозяць на цялежках і электракарах на заводскі двор, дзе стаяць тры вялікія скрыні. Адна — для чорнага металу, другая — для каляровага, трэцяя — для металічнай стружкі. Як толькі збіраецца 2—3 тоны, машына адвозіць лом на склад. 53 тоны металалому сабралі і здалі камсамольцы завода за першыя тры месяцы 1959 года.

Камітэт камсамола прэміруе лепшых зборшчыкаў металалому. Шахматы, шашкі, валейбольныя мячы атрымалі камсамольцы першага і другога механічных, зборачнага, кавальскага, тэрмічнага і рамонтнага цэхаў. Выдзелены сродкі на набыццё спартыўнай формы другой футбольнай камандзе за выключную актыўнасць у зборы металалому.

— Будзем працягваць пошукі металічных скарбаў, — гаворыць Уладзімір Ярушэвіч. — Нядаўна я даведаўся аб завалах, якія ляжаць у адным яры яшчэ з часу вайны... Ды і наогул, справа гэта кожнаму па сіле, трэба толькі добра пашукаць.

**В. НОВІКАЎ.**

**г. Віцебск.**



**Група ткачых Мінскага тонкасуконнага камбіната. За дзесяць дзён яны сабралі 5 тон металалому.**

Фота А. Дзітлава.

## У ЗАЧЫНАЛЬНІКАЎ

На стале перад Валяй Чабанавай — стусік жоўтых тонкіх квітанцый. Там, дзе рука наборшчыка пакінула пропускі, праз капірку ўпісаны кароткія словы, некалькі лічбаў. З выгляду — нічога асаблівага: прыёмшчык выдаў звычайныя квітанцыі на звычайны металічны лом.

Недзе валяўся жалезны прут. Недзе іржавела пагнутая дзвярная ручка. Нехта некалі забіў у зямлю жалезную вось, абматаў яе калючым дротам і вырашыў, што лепшай агарожы і не можа быць...

Валі Чабанавай успамінаецца камсамольскі сход у ткацкім цэху. Прысутнічаюць дзяўчаты са змены «В». Яны слухаюць паведамленне аб тым, што адбылося ў іх сябровак — прадзільшчыц.

— Ці ўсе ведаюць аб закліку Мікіты Сяргеевіча Хрушчова абвясціць паход за збор металічнага лому? Ці ўсім зразумела значэнне меліяратыўных машын, якія будуць зроблены з «камсамольскага

металу»?.. Прадзільшчыцы змены «А» намецілі план: сабраць не менш пяці тон. Гэта першае ў рэспубліцы абавязацельства.

— А мы?

Камсорг цэха Насця Бандарэнка глядзіць на дзяўчат.

Хвіліны роздуму.

Снежань. Мароз закаваў зямлю ў ледзяны панцыр. Недзе ў сумётах ляжыць мёртвае жалеза. Яго трэба вярнуць да жыцця.

Нейчы голас ад акна:

— Прадзільшчыцы збіраюць ужо! А мы што ж?!.

Адразу ж пасля сходу камсамолкі ткацкага цэха змены «В» накіраваліся збіраць лом.

Было цяжка. Іншы раз жалезную бэльку даводзілася выцягваць з сумёту талакой. Але было нямала і радасці: ткачыхі ў ліку першых перавыканалі план. За дзесяць дзён яны сабралі 5 тон лому. А агульны вынік — уся камсамольская арганізацыя камбіната сабрала 28 тон.

На камбінаце працуе 260 камсамольцаў. План збору лому складаўся з разліку па 100 кілаграмаў на кожнага камсамольца. Значыць, трэба было сабраць 26 тон. За тых, хто ў гэты час быў хворы або знаходзіўся ў адпачынку, збіралі таварышы...

Вось усё гэта і ўспомніла Валя Чабанава, сакратар камітэта камсамола Мінскага тонкасуконнага камбіната, разглядаючы квітанцыі...

**А. ГАНЬКОЎ.**



**Вучні 10 «Б» класа 54-й сярэдняй школы г. Мінска камсамольцы Віктар Дано і Вячаслаў Малышкін прыступілі да збору металалому.**

## ЗА ПЕРШАЕ МЕСЦА

Гэта было ў канцы снежня мінулага года. Камсамольцы 10 «Б» класа 54-й школы г. Мінска знаёміліся з матэрыяламі Пленума ЦК КПСС.

Ціха было ў класе. Калі групорг Рыта Макарава прачытала тое месца з выступлення М. С. Хрушчова, дзе гаварылася пра неабходнасць узняць камсамол на збор металалому, усе заварушыліся, пачалі перашэптвацца.

Ды і ці можна было ўседзець спакойна? Тут ясна гаворыцца, што збор металалому — важная дзяржаўная справа. Дзяржаўная!

А як яшчэ зусім нядаўна яны адносіліся да яе?..

Кожнаму прыпомніўся мінулы навучальны год, калі беларускія піянеры кінулі кліч: «Збярэм металалом на пабудову 100 трактараў «Беларусь» для цалінных зямель!» І вучні 54-й школы актыўна адгукнуліся на гэты заклік. Нават першакласнікі, ідучы на ўрокі, цягнулі за сабой саначкі, напакаваныя старымі вёдрамі, прымусамі, розным ламаччам. А яны, у той час яшчэ дзевяцікласнікі, нават пальцам не варухнулі. Разважалі так: калона трактараў, маўляў, будзе называцца піянерскай, дык няхай піянеры і збіраюць той лом. А мы тым часам зоймемся іншымі, камсамольскімі справамі...

Атрымалася ж так, што ніякімі асаблівымі камсамольскімі справамі яны не заняліся, а проста ўхіліліся ад збору металалому.

Не, у гэтым годзе павінна быць інакш... З-за парты ўстаў Слава Малышкін:

— Можна два словы, Рыта?

— Што ў цябе?

— Я вось думаю, што нашаму класу, правільней, нашай камсамольскай групе, трэба зараз жа выступіць ініцыятарам збору лому на пабудову меліяратыўнай тэхнікі. Як думаеце?..

Слава паглядзеў направа, налева: як рэагуюць на яго прапанову таварышы? Тыя з адабрэннемківалі яму. Слава сеў. З месца падхапіўся Пятрусь Леўшуноў.

— І абавязацельства трэба ўзяць канкрэтнае, — горача сказаў ён. — Інакш што гэта за ініцыятары?

— Правільна! — у адзін голас загаварылі Валодзя Стронгін, Тамара Патапава, Ніна Серыкава.

Неўзабаве, параіўшыся з сакратаром камітэта камсамола школы Аляксандрай Пінчук, хлопцы з дзесятага «Б» разгарнулі бурную дзейнасць. У першую чаргу яны пазванілі акадэміку Мацапуру і спыталі, колькі металу патрэбна на адну меліяратыўную машыну. Аказалася, што паўтары тоны. Значыць, металу не на адну машыну можна сабраць.

Пасля зайшлі ў савет піянерскай дружыны.



**І вось групорг Рыта Макарава прынесла першую квітанцыю.**
Фота Ф. Чаховіча.



— Падтрымаеце?

— Канешне. Сёння ж раскажам ва ўсіх атрадах.

— А колькі зможам сабраць?

— Тон 10—15. Толькі самі пакуль што ўстанаўліваць канчатковую лічбу не будзем. Паслухаем, што скажуць піянеры.

Пасля ўрокаў быў сумесны сход камсамольцаў і піянераў. Цягнуўся ён нядоўга. І рашэнне вынеслі кароткае: сабраць металалому на пабудову пятнаццаці меліяратыўных машын. Звярнуцца да ўсіх камсамольцаў і піянераў рэспублікі з заклікам уключыцца ў гэтую важную справу.

І вось паход па жалезныя скарбы пачаўся. І ўранку, і ўвечары можна было бачыць, як юнакі і дзяўчаты, запрэгшыся ў саначкі, «ездзілі» з аднаго двара ў другі. Яны забіралі ўвесь метал, які давалі ім жыхары Іванаўскай, Саломенай, Пуліхава і іншых блізкіх да школы вуліц.

Некалькі разоў хадзілі талакой на завод імя Кірава і там збіралі адыходы металу.

Усе свае здабыткі прывозілі на школьны двор і складалі ў кучы. Ішло спаборніцтва, які клас збярэ больш.

Калі падвялі вынікі за тры месяцы, на першым месцы аказаўся 10 «Б». Ён сабраў металу, якога дастаткова, каб пабудаваць дзесяць меліяратыўных машын. А ўся школа сабрала 60 тон.

Здавалася б, на гэтым можна супакоіцца: слова стрымалі на выдатна з плюсам, першае месца заваявалі. Што больш трэба?

Але камсамольцам з 10 «Б» трэба больш. Яны вырашылі ў дні летніх канікулаў наведаць сваіх шэфаў — маракоў Балтыкі. А для гэтага патрэбны грошы. Таму паход па жалезныя скарбы не спыняюць.

**Я. КУРТО.**

# ЗАЛІЧЫЦЕ МЯНЕ Ў ДРУЖЫНУ...

Мноства цудоўных мясцін ёсць у нашай сталіцы. Паркі, скверы, бульвары, шырокія вуліцы — заўсёды мнагалюдныя, асабліва вечарамі, калі ўспыхвае мора агнёў і мінчане выходзяць адпачыць, палюбавацца прыгажосцю роднага горада, якую яны стварылі сваімі рукамі. Але ж як часамі робіцца прыкра, калі які-небудзь захмялелы гуляка сапсуе табе адразу настрой, зацягне брыдкую песеньку, ні за што аблае або штурхне... Праўда, нямнога ў нас такіх нікчэмных людзей, але ж яны яшчэ сустракаюцца.

...Ціхі, чысты скверык на адной з ускраін сталіцы. Позні вечар. Па вуліцы крочаць брыгадмільцы Мікола Налівайка і Леанід Тарасевіч. Раптам з боку скверыка даносіцца ледзь улоўны, прыглушаны крык. Хлопцы кінуліся на голас. Мікола заўважыў, як са скверыка выбеглі двое і сiганулі ў розныя бакі.

— Дагнаць таго, што з чамаданам, —крыкнуў сябру Мікола.

Злодзей быў спрытны і дужы. Каля двух кіламетраў беглі за ім брыгадмільцы. Ён кінуў чамадан, разлічваючы, відаць, на тое, што юнакі адстануць. Але яны, не адстаючы, беглі за ім, і вось ужо моцная рука брыгадмільца трымае злодзея. Злоўлены злодзей Яркові выдаў свайго саўдзельніка Катоўскага. Абодвух іх адвялі ў камсамольскі штаб, створаны на камбінаце буйнаблочных будаўнічых канструкцый. Чамадан з рэчамі вярнулі гаспадару.

Брыгадмільцы — смелыя і мужныя людзі, якія вядуць барацьбу з хуліганамі, дэбашырамі, п'яніцамі, —заваявалі сімпатыі і павагу сярод шырокіх працоўных мас.

Вось чаму ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР, ідучы насустрач пажаданням працоўных і ўлічыўшы вопыт работы камсамольскіх штабаў, брыгад садзеяння міліцыі, добраахвотных атрадаў, пастанавілі стварыць на прадпрыемствах і ва ўстановах, у калгасах і навучальных установах баявыя народныя дружыны. Задача такіх дружын — змагацца з усімі праявамі парушэння грамадскага парадку.

Ядром, касцяком народных дружын павінны быць, вядома, былыя брыгадмільцы, камсамольскія патрулі, якія ўжо маюць немалы вопыт барацьбы з хуліганамі і п'яніцамі. У радах дружыннікаў месца толькі сумленным, валявым, смелым людзям, якія па-сапраўднаму, па-камсамольску могуць несці гэтую ганаровую вахту.

І такія людзі ў нас ёсць, такія дружыны ў нас ствараюцца.

...Клуб камбіната буйнаблочных будаўнічых канструкцый перапоўнены. Камуністы, камсамольцы, рабочыя, работнікі Кастрычніцкага раённага аддзела міліцыі сабраліся на вечар, прысвечаны стварэнню народнай дружыны. Малодшы лейтэнант міліцыі Аляксандр Філановіч расказаў аб той дапамозе, якую аказваюць міліцыі камсамольцы камбіната. Ён называе прозвішчы лепшых брыгадмільцаў, і сярод іх — Мікалая Налівайкі і Леаніда Тарасевіча. Гэтым юнакам на вечары намеснік начальніка ўпраўлення міліцыі г. Мінска А. М. Прыбыткаў уручыў Ганаровыя граматы за мужнасць і адвагу ў барацьбе з хуліганамі.

Па-дзелавому была абмеркавана пастанова ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб удзеле працоўных у ахове грамадскага парадку». Загаманілі, загарэліся юнакі і дзяўчаты, выказваючы сваё жаданне стаць дружыннікамі. Да стала прэзідыума падыходзіць камсамолец Г. Наруцкі і ад імя сваіх таварышаў Т. Баранчука, Р. Стоцкага, Н. Кавалёва і многіх іншых падае калектыўную заяву з просьбай залічыць у рады баявой дружыны.

— Мы ўступаем у народную дружыну ўсёй сваёй групай, — заявіў майстар змены першага ўчастка камбіната В. Жадзінскі. — І заклікаем усіх камсамольцаў следаваць нашаму прыкладу.

— Мы будзем змагацца, — гаворыць сакратар камітэта камсамола камбіната Віталь Гамаюнаў, — каб у нашым раёне не засталося ніводнага хулігана і п'яніцы.

Адразу ж каля 60 чалавек падалі заявы з просьбай залічыць іх у баявыя народныя дружыны. Гэта — маладыя камуністы, камсамольцы, моладзь, усе тыя, хто жадае, каб у нас не было ніводнага парушальніка грамадскага парадку.

На вечары была створана ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі намеснік сакратара партыйнай арганізацыі камбіната Якаў Людчык, намеснік ЖКА камбіната камуніст Іосіф Кунцэвіч, сакратар камітэта ЛКСМБ Віталь Гамаюнаў, рабочыя Леанід Сантаровіч і Аляксей Капыцін. Члены групы ўважліва аднесліся да кожнай заявы і прынялі ў дружыну самых смелых, самых валявых і вытрыманых юнакоў і дзяўчат.

Цяпер дружыннікі з камбіната буйнаблочных будаўнічых канструкцый пільна стаяць на сваім пасту, ахоўваюць наш сацыялістычны парадак.

І так усюды — у многіх раёнах сталіцы, у шматлікіх гарадах і пасёлках рэспублікі створаны і ствараюцца народныя дружыны.

Вядома, што многія з хуліганаў, асабліва падлеткі, робяць непрыстойныя ўчынкі па сваёй несвядомасці. Такіх людзей можна перавыхаваць. Роля народных дружын у гэтым — асабліва адказная. Не так даўно ў камсамольскі штаб Мінскага трактарнага завода быў прыведзены малады рабочы Васіль Л., які ўчыніў у клубе дэбош. Ён паўстаў перад судом сваіх таварышаў. Сорамна было Васілю за свой учынак, але ён адкрыта паглядзеў сябрам у вочы і даў слова, што з ім такога больш не паўторыцца. Таварышы паверылі яму і не памыліліся.

Задача народных дружыннікаў зразумелая — ахоўваць грамадскі парадак. Але здаецца, што рамкі іх дзейнасці трэба расшырыць. Дружыннік павінен не толькі затрымаць злачынцу, папярэдзіць непрыстойны ўчынак, ён можа стаць пастаянным кантралёрам за работаю нашых магазінаў, сталовых і іншых устаноў і арганізацый, дзе сустракаецца яшчэ нямала недахопаў. У Ленінградзе, напрыклад, народныя дружыннікі маюць пасведчанні для кантролю за работай магазінаў, сталовых, яны выкрываюць розных хапуг, махляроў і прайдзісветаў. Такія пасведчанні трэба было б выдаць і дружыннікам нашай рэспублікі.

Дружыннік — імя ганаровае, пачэснае. Яно народжана самім нашым жыццём. Гэта і зразумела — мы будуем камунізм, і кожны з нас не хоча, каб па гэтай светлай дарозе разам з сумленнымі, працавітымі людзьмі ішлі дэбашыры, п'яныя гулякі і хуліганы.

**В. ХОРСУН.**

*Давайце пагаворым...*

*„Як вы ўяўляеце воблік маладога чалавека праз дзесяць год?“*

# ЧАЛАВЕК БУДУЧЫНІ

Мы жывём у час, поўны вялікіх падзей. XXI з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза распрацаваў велічную праграму развіцця народнай гаспадаркі і культуры нашай краіны на бліжэйшае сямігоддзе. Выканаўшы гэтую праграму, мы зробім яшчэ адзін вялікі крок *па шляху да камунізма*. І, вядома, кожнага з нас цікавіць, якім будзе нашае заўтра і якімі будуць людзі заўтрашняга дня. Таму зразумела тая цікавасць, якую выклікала разгорнутая на старонках часопіса «Маладосць» дыскусія аб маральным вобліку маладога чалавека.

Рэдакцыя атрымала дзесяткі пісьмаў ад людзей самых розных прафесій. Рабочыя Мікалай Козел (Маладзечна) і Рыгор Рабікаў (Гомель), калгасніца Валянціна Мядзведзева (Жлобінскі раён), студэнты Дзіна Шчарбінская (Мінск) і Ігар Петрыкавец (Гомель), настаўнік Іван Рабкоў (Крупскі раён), бібліятэкар Даір Слаўковіч (Уздзенскі раён) і многія іншыя — кожны па-свойму ўяўляе воблік *жыхароў камуністычнага заўтра*. І не бяда, што ўяўленні некаторых нашых чытачоў пра будучыню часам крыху наіўныя, празмерна рамантычныя. Каштоўнасць гэтых пісьмаў у тым, што яны шчырыя.

Быццё вызначае свядомасць — так коратка фармулюе марксісцка-ленінская філасофія залежнасць мыслення, светапогляду, маральнага вобліку чалавека ад умоў матэрыяльнага жыцця. Таму зусім заканамерна, што большасць удзельнікаў дыскусіі ў сваіх меркаваннях аб маральным вобліку заўтрашняй моладзі грунтуецца на гэтым палажэнні. Выканаўшы сямігадовы план, зацверджаны XXI з'ездам КПСС, праз 10 год мы будзем ужо ажыццяўляць новыя грандыёзныя задачы. М. С. Хрушчоў, заглядаючы далёка ўперад, у сваім дакладзе на юбілейнай сесіі Вярхоўнага Савета СССР 6 лістапада 1957 года гаварыў, што прыкладна праз 15 гадоў СССР будзе выплаўляць звыш 70 мільёнаў тон чыгуну, звыш 100 мільёнаў тон сталі, *збіраць звыш 11 мільярдаў пудоў* збожжа, выпрацоўваць каля 10 мільёнаў тон цукру... Матэрыяльнае багацце акажа добры ўплыў на маральны воблік кожнага савецкага чалавека. Цяжка сказаць, ці збудуцца праз 10 год мары Ігара Петрыкаўца, які хоча, каб у будучым усе людзі абавязкова былі маладымі, высокімі, з яснымі ўсмешкамі, у новых касцюмах... Відаць, будуць *і людзі нізкага* росту, не заўсёды яны будуць усміхацца *і смяяцца* (у сур'ёзных справах і ў будучым трэба быць сур'ёзным!), ды і касцюм не абавязкова заказваць штодзень новы. І не гэта ж галоўнае. Важна, што кожны з нас стане больш прыгожым фізічна, больш багатым духоўна, больш чыстым маральна.



Якім жа ўяўляе сабе наша моладзь маральны воблік маладога чалавека ў бліжэйшым будучым?

Вось што піша ў сваім пісьме ў рэдакцыю Дзіна Шчарбінская. «Можна гаварыць пра многія якасці, якія будуць уласцівы жыхарам будучыні. Аднак у першую чаргу, на мой погляд, трэба спыніцца на галоўным—на адносінах чалавека да працы, бо ад гэтага ў вялікай ступені залежыць усё астатняе». Праца *была і застаецца асновай чалавечага грамадства*, асновай прагрэсу. Усім вядомы галоўны прынцып камуністычнага грамадства: працаваць па здольнасцях, атрымліваць па патрэбах. Выступаючы на XIII з'ездзе ВЛКСМ, Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў падкрэсліў, што «не панскае жыццё, дзе гаспадарыць лянота і гультайства, будзе пры камунізме, а рабочае, працоўнае, культурнае і цікавае жыццё». Праца стане радасцю, патрэбай кожнага здаровага чалавека. Але яна застанецца і грамадзянскай справай, свяшчэнным абавязкам кожнага, хто карыстаецца матэрыяльнымі і духоўнымі багаццямі. Кожны чалавек, жывучы ў *камуністычным грамадстве*, будзе ўносіць частку сваёй працы ў будаўніцтва і далейшае развіццё гэтага грамадства. Цяпер цяжка сказаць, колькі гадзін у дзень будуць працаваць людзі на вытворчасці, але ва ўсякім разе нельга прызнаць колькі-небудзь рэальным уяўленне некаторых нашых чытачоў аб двухгадзінным рабочым дні і шасцігадзінным рабочым тыдні. Вядома, новыя машыны яшчэ больш аблегчаць працу людзей, скарацяць рабочы час, але для таго, каб ствараць матэрыяльныя каштоўнасці, каб забяспечваць далейшае развіццё грамадства, трэба будзе ўсё ж не проста паказвацца на вытворчасці, а *працаваць*, і *працаваць* грунтоўна.

Мы цяпер з'яўляемся сведкамі нараджэння брыгад *камуністычнай працы*, члены якіх бяруць на сябе павышаныя працоўныя абавязацельствы, пашыраюць *свае веды, павышаюць* культурны ўзровень. К 1970 году, відаць, усе брыгады, цэхі, прадпрыемствы пачнуць працаваць па-камуністычнаму. Мае рацыю Даір Слаўковіч, які сцвярджае, што першай і галоўнай патрэбай чалавека стане праца, імкненне прыносіць яе плён на карысць людзям. Нашы юнакі і дзяўчаты не будуць пагарджаць ніякай працай, не будуць падзяляць яе на «чыстую» і «брудную».

Людзі будучыні — гэта людзі з шырокім кругаглядам. Кожны з іх будзе няспынна і нястомна імкнуцца пашыраць і паглыбляць свае веды. «Камуністам, — гаварыў У. І. Ленін, — стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць веданнем усіх тых багаццяў, якія стварыла чалавецтва». Вырашэнне гэтай задачы запатрабуе ад кожнага featureнабаковых тэарэтычных і практычных ведаў. Несумненна, праў Ігар Петрыкавец, які падкрэслівае, што ў будучым маладыя людзі павінны не толькі добра арыентавацца ў *галіне сваёй прафесіі, але* і быць усебакова развітымі. Кожны малады чалавек абавязкова авалодае элементамі тэхнічнай граматы — навучыцца вадзіць аўтамабіль, абыходзіцца з рознымі прыборамі і машынамі, будзе разумець жывапіс, музыку і іншыя віды мастацтва.

Многія ўдзельнікі дыскусіі адзначаюць, што праз 10 год значна зменіцца культура паводзін моладзі. Аб гэтым пішуць Сямён Рамонік, Мікалай Козел і іншыя. І гэта зусім заканамерна: у тым, як чалавек паводзіць сябе на працы, дома, у гасцях, выяўляецца яго маральны воблік. У недалёкім будучым культурны воблік чалавека мы будзем уяўляць значна шырэй. У гэтае паняцце ўвойдзе вытрыманасць, ініцыятыўнасць, энергічнасць і многае іншае. Прыгожай стане душа чалавека, які будзе культурным перш за ўсё ўнутрана — сумленным, ветлівым, сціплым. «Быць культурным — значыць, быць ясным разумова, сумленным маральна, ахайным фізічна» — нам здаецца, што гэтае выказванне А. П. Чэхава і цяпер з'яўляецца правільным крытэрыем для вызначэння ступені культурнасці чалавека.

Вельмі цікавую думку выказаў Сямён Рамонік, які піша: «Калі я думаю пра будучыню, мне ўяўляецца чалавек *надзвычай чулай душы*. Камунізм не прыме чэрствых і раўнадушных». Правільна! У камуністычным грамадстве не знойдзецца месца людзям, якія думаюць толькі аб сабе, пра свой дабрабыт, якіх не цікавіць лёс таварышаў, не турбуюць іх няўдачы і промахі. Для эгаістаў закрыта дарога ў камунізм.

Многія аўтары пішуць аб узаемаадносінах паміж маладымі людзьмі, аб дружбе і сяброўстве, аб каханні і сям'і пры камунізме. Несумненна, адносіны паміж людзьмі стануць яшчэ больш прыгожымі і высакароднымі. Мацнейшай будзе дружба, больш цёплымі, таварыскімі стануць адносіны юнакоў і дзяўчат. Пяшчота, чуласць, уважлівасць — гэта не сентыментальнасць, а праяўленне шчырай павагі да чалавека.

«Ці будуць юнакі і дзяўчаты марыць?»—гэтае пытанне асабліва хвалюе некаторых чытачоў. Шэраг таварышаў лічыць, што пры камунізме здзейсняцца ўсе запаветныя мары чалавека і яму ўжо не будзе пра што марыць. З гэтым

згадзіцца нельга. Мары савецкай моладзі — гэта смелыя мары аб подзвігах, аб вялікіх высакародных справах. Імкненне да вялікага, яркага, гераічнага ў жыцці, прага подзвігу будуць уласцівы і нашым будучым паплечнікам. Яны, відаць, будуць марыць аб новых вялікіх адкрыццях, аб палётах на іншыя планеты, аб стварэнні значна большай колькасці матэрыяльных багаццяў, аб далейшым развіцці грамадства. І не толькі марыць, але і смела змагацца за тое, каб «рабіць казку явай».

Некаторыя чытачы лічаць, што ў камуністычным грамадстве ўсе павінны быць героямі, рабіць подзвігі на кожным кроку. Гэта не зусім правільна. Людзі ж не нараджаюцца і не будуць нараджацца героямі. Усе лепшыя іх якасці развіваюцца ў штодзённых справах, пачынаючы з самых маленькіх, з самых простых. Вядома, героем можа стаць кожны, калі з дня ў дзень папаўняць і паглыбляць веды, выхоўваць у сабе сілу волі, настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты, трэніраваць свае мускулы. Чалавек, які выпрацаваў у сабе такія якасці, здольны на подзвіг. Але ў чым заключаецца подзвіг? Многія лічаць, што подзвіг — учынак, звязаны з рызыкай. І сапраўды, часам гэта бывае так (напрыклад, выратаваць таварыша, рызыкуючы сваім жыццём). Але не ў рызыцы галоўнае. Важна, каб подзвіг быў грамадска значным учынкам, каб ён рабіўся не толькі і не столькі дзеля самой рызыкі або дзеля славы, а станавіўся вынікам жадання прынесці карысць людзям. Подзвіг — гэта не абавязкова імгненнае дзеянне. Подзвігам можа быць і шматдзённая, нават шматгадовая дзейнасць чалавека, у выніку якой ён робіць важнае адкрыццё, узбагачае навуку ці вытворчасць. Шматгадовая праца савецкіх інжынераў, канструктараў і іншых працаўнікоў, якія распрацавалі і запусцілі штучныя спадарожнікі Зямлі і штучную планету — гэта найвялікшы подзвіг. Подзвігамі з'яўляюцца і значнае павышэнне прадукцыйнасці працы рабочымі завода, і вырошчванне высокіх ураджаяў на калгасных палях. Думаецца, што іменна так будуць разумець сваю ролю ў жыцці маладыя людзі будучага.

Юнакі і дзяўчаты камуністычнага грамадства будуць людзьмі высокаідэйнымі. Яны, вядома, не стануць хадзячымі палітычнымі слоўнікамі або даведнікамі, як думаюць некаторыя. Заўсёды і ва ўсім, на любой пасадзе, у любой справе яны будуць сапраўднымі ленінцамі-рэвалюцыянерамі. Кожны будзе ўсведамляць, што ён нарадзіўся не толькі для таго, каб пражыць свае гады, а перш за ўсё дзеля таго, каб узбагаціць грамадства матэрыяльнымі або духоўнымі каштоўнасцямі.

Мы хочам бачыць сваіх будучых паплечнікаў і нашчадкаў людзьмі з перадавым, камуністычным светапоглядам. Вось чаму кожны з нас павінен удзельнічаць у фармаванні новага чалавека, паказваючы прыклад у працы, вучобе, адпачынку, выхоўваць у нашай моладзі працоўныя адносіны да камунізма.

**А. РЫЧАГОЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Навукова-даследчага інстытута педагогікі БССР.**

*На атэістычныя тэмы*

**Г. МАРЦІРОСАЎ,**
**дацэнт Гродзенскага педінстытута імя Я. Купалы**

# ШТО ТАКОЕ РЭЛІГІЙНАЕ СЕКТАНЦТВА?

Слова «секта» мае лацінскае паходжанне. У перакладзе на нашу мову яно азначае: «адрэзанае», «адлучанае». Здаўна сектантамі называюць людзей, якія адлучыліся ад пануючай царквы і прынялі новае веравучэнне.

Рэлігійнае сектанцтва ўласціва ўсім сучасным рэлігіям — хрысціянству, ісламізму і будызму. У кожнай з гэтых рэлігій налічваюцца дзесяткі буйных і сотні дробных сект.

* * *

Рух сектантаў мае сваю гісторыю, звязаную з класавай барацьбой. У ім знайшоў сваё праяўленне пасіўны пратэст сялянскіх мас і гарадской беднаты супраць эксплуататарскіх парадкаў. У. І. Ленін указваў, што палітычны пратэст пад рэлігійнай абалонкай — з'ява, уласцівая ўсім народам на пэўнай стадыі іх развіцця.

Пануючая царква мела велізарныя багацці і бязлітасна эксплуатавала прыгонных сялян. На Захадзе і ў Расіі царква валодала адной трэцяй часткай усіх зямель. Адзін толькі Троіцка-Сергіеўскі манастыр меў каля 100 тысяч прыгонных сялян. Невялікі жаночы каталіцкі манастыр у Гродна (Брыгіцкі), у якім было ўсяго 24 манашкі, меў 16 970 дзесяцін зямлі.

Царква вельмі скампраметавала сябе адкрытай падтрымкай улады памешчыкаў. Усімі сваімі асноўнымі дагматамі (сцвярджаннямі) яна абараняла інтарэсы эксплуататараў. Цяжкую паднявольную працу і беспраўе яна аб'явіла богаўстаноўленым парадкам. Ва ўзнагароду за жудасныя пакуты на зямлі царква абяцала шчасце ў замагільным царстве. Разыходжанне паміж царкоўнай прапаведдзю і жыццём было настолькі відавочным, што яно заўважалася нават самымі цёмнымі людзьмі. Прыхільнікі «ерасі» (секты) Мацвея Башкіна (Масква, сярэдзіна XVI ст.) з абурэннем гаварылі, што халопства і кабала ніяк не

стасуюцца з прапаведдзю «любі бліжняга свайго».

Гэтымі, галоўным чынам, акалічнасцямі і тлумачыцца тое, што антыфеадальны рух прыгнечаных мас станавіўся адначасова і антыцаркоўным.

Адыходзячы ад пануючага веравучэння, працоўныя траплялі пад уплыў новых, больш хітрых рэлігійных вучэнняў. Бяссілле ў барацьбе з эксплуататарамі, бязвыхадная нястача штурхалі іх на пошукі «божае праўды», «праўдзівай веры», «выратавання душы». Але нічога гэтага ў сектах яны знайсці не маглі. Рэлігійнае сектанцтва адводзіла масы ад актыўнай барацьбы за рэальнае зямное шчасце, драбіла і без таго раздробленыя, неарганізаваныя стыхійныя выступленні сялян.

Ці ёсць прынцыповая розніца паміж вучэннем сектантаў і царквы? Вядома, няма. Царква і секты разыходзяцца паміж сабой толькі выкананнем культу, тлумачэннем тых ці іншых дагматаў і палажэнняў «свяшчэнных кніг». Стараверы, напрыклад, прызнаюць двухперсны крыж і кнігі «старога пісьма». Але ж ад гэтага сутнасць справы не мяняецца. Стараверы, як і ўсе іншыя секты, прапаведуюць веру ў «божага збавіцеля», у цуды, у замагільнае жыццё.

Сектанцкая ідэалогія, як і ўсякая рэлігія, варожа навуцы, несумяшчальная з навуковым светапоглядам. Іменна таму сектанцтва, побач з пануючым веравучэннем, служыла, у канчатковым выніку, эксплуататарскім класам. Калі ў сектанцтве і ёсць нешта сваё, нейкая асаблівасць, дык гэта не простая набожнасць, а крайні рэлігійны фанатызм.

Побач з сектамі, якія адлучыліся ад рускай праваслаўнай царквы, у Расіі шырокае распаўсюджанне атрымалі рэлігійныя секты баптыстаў, евангелістаў, пяцідзесятнікаў, анабаптыстаў, адвентыстаў і іншыя, якія ўзніклі ў Заходняй Еўропе. Да таго часу, як пачалося іх распаўсюджванне ў Расіі, яны былі ўжо буйнымі, разгалінаванымі рэлігійнымі арганізацыямі, якія знаходзіліся пад апекай мільянераў Еўропы і Амерыкі.

Што ўяўляюць сабой гэтыя секты?

Першая баптысцкая абшчына паявілася ў Англіі ў XVII стагоддзі. Неўзабаве вучэнне баптыстаў пачало шырока распаўсюджвацца ў Паўночнай Амерыцы. Баптысты (ад грэчаскага слова «баптыдзейн» — хрысціць) не прызнаюць большасць хрысціянскіх таінстваў і абрадаў, яны лічаць, што хрышчэнне можна дапускаць толькі пры свядомых адносінах да веры, г. зн. у сталым узросце. Тут няма складанай царкоўнай службы, у абшчынах старанна падтрымліваецца паказное «братэрства»: баптысты называюць адзін другога «братам» і «сястрой»; служыцелі культу (прасвітары) фармальна выбіраюцца веруючымі.

Блізкімі да баптыстаў з'яўляюцца дагматы сект евангелістаў, пяцідзесятнікаў, адвентыстаў сёмага дня, якія сфармаваліся галоўным чынам у XIX стагоддзі. Адвентысты сёмага дня прызнаюць святочным днём не нядзелю, а суботу, сёмы дзень тыдня па біблії. Яны фанатычна вераць у блізкі канец свету і ў тое, што хутка Хрыстос сыйдзе на зямлю. «Адвентус» — слова грэчаскае, яно азначае — «прысце». Адсюль — і назва секты.

Адвентысты першага дня прызнаюць святочным днём першы дзень тыдня — нядзелю. Ва ўсім астатнім гэтая група падобна на секту адвентыстаў сёмага дня.

Сутнасць сектанцкай дагматыкі заключаецца, вядома, не ў абрадах малення ці хрышчэння. Галоўнае ў сектанцтве — прапаведзь класавага міру, згоды, выдуманага братэрства ўсіх людзей — і эксплуататараў і эксплуатуемых. Сектанцкія актывісты спрабуюць даказаць, быццам зямное жыццё — адна толькі дарэмшчына. Сэнс жыцця — ва «ўдасканаленні духу», у «непраціўленні злу». Не выпадкова, што ў



буржуазным грамадстве фактычнымі верхаводамі розных сектанцкіх арганізацый становяцца капіталісты, банкіры, міраеды-кулакі. У ЗША, напрыклад, баптыстамі сталі мільярдэры Ракфелеры, аўтамабільны кароль Форд. У царскай Расіі баптыстамі былі мільянеры Мазаевы, купцы і землеўласнікі Смірновы, многія буйныя купцы, скупшчыкі. «Братамі ў Хрысце» з'яўляюцца прадстаўнікі правячых рэакцыйных колаў ЗША ў нашы дні: Джон Фостар Далес, былы прэзідэнт ЗША Трумэн і інш. Мільярдэр Ракфелер-малодшы штогод траціць мільёны долараў на патрэбы баптысцкай і іншых рэлігійных арганізацый.

У Савецкім Саюзе царква і секта існуюць на аднолькавых прававых падставах — на аснове прынцыпу свабоды сумлення. Згодна з гэтым прынцыпам, кожны грамадзянін можа быць атэістам або прызнаваць якую хоча рэлігію. Выключэнне складаюць секты хлыстоў, скапцоў, егавістаў, пяцідзесятнікаў і некаторыя іншыя.

Абрады хлыстоў, скапцоў і пяцідзесятнікаў носяць дзікунскі характар, суправаджаюцца фізічным і духоўным калецтвам, несумяшчальным з савецкім гуманізмам. Секта егавістаў у нашай краіне забаронена таму, што яе дзейнасць варожая савецкаму грамадскаму і палітычнаму ладу. У гэтым можна пераканацца, калі звярнуцца да некаторых фактаў.

Секта егавістаў узнікла некалькі дзесяткаў год таму назад. Нейкі Шарл Русель, бізнесмен з Нью-Йорка, сфабрыкаваў з біблейскіх і іншых легенд «ультрасучасную рэлігію». Галоўным богам «новай» рэлігіі стаў стараяўрэйскі бог Іягова (ён жа Ягве). Па баблії, гэта самы помслівы, крыважэрны бог. Ён люта карае ворагаў сваіх, патрабуючы ад паслядоўнікаў пагалоўнага знішчэння ўсіх, з кім яны аказаліся ў варожасці. Вось гэты жорсткі да шаленства Ягве і стаў сімвалам новай секты.

Зараз цэнтр секты егавістаў знаходзіцца ў г. Брукліне (ЗША). Шматлікія матэрыялы паказваюць, што верхаводы «прыхільнікаў Іяговы» звязаны з амерыканскай разведкай, вядуць актыўную падрыўную дзейнасць супраць краін сацыялістычнага лагера і арганізацый прыхільнікаў міру.

Не так даўно ў пасёлку Копысь Аршанскага раёна быў выкрыты егавісцкі актывіст Бараноўскі. За супрацоўніцтва з паліцыяй у гады Айчыннай вайны Бараноўскі быў асуджаны савецкім судом. З месц зняволення ён вярнуўся «пасланнікам Іяговы». Яму ўдалося адурманіць некалькі даверлівых людзей, аблытаць іх усялякімі бязглуздымі ідэямі далёка не рэлігійнага, а варожа-палітычнага характару.

Егавісты ўзмоцнена распаўсюджваюць усялякія брашуры, лістоўкі, пісьмы рэлігійна-палітычнага характару, спецыяльна падабраныя тэксты з біблії і да т. п. У сваёй большасці гэтая пісаніна, як і часопіс «Вежа варты», мае выразнае заакіянскае паходжанне. У перапісцы егавісцкія «вестуны» (так сябе называюць актывісты гэтай секты) карыстаюцца заканспіраваным шыфрам, дзейнічаюць як прафесіянальныя палітычныя злачынцы.

Цераз усю прапагандысцкую літаратуру егавістаў праходзіць думка аб тым, што на зямным шары павінна завяршыцца знішчальная вайна, якая пачалася яшчэ ў 1914 годзе. У рэлігійна-міфалагічнай абалонцы прапаведуецца думка, што гэтая вайна пажаданая богу, бо пры дапамозе яе ён знішчыць ворагаў сваіх. Імкненні прагрэсіўнага чалавецтва ўстанавіць вечны мір на зямлі егавісты лічаць дарэмнымі, больш таго, злачыннымі. Барацьбіты за мір, на іх думку, робяць злачынства тым, што адцягваюць гадзіну «адплаты» — страшны суд. У вайне загінуць усе ворагі бога, застануцца жыць толькі «паслядоўнікі Іяговы». Міжнародныя арганізацыі абароны міру егавісты абвясцілі «саюзамі сатаны»,

«змовай супроць бога». Надзея на мір — «фальшывая», ніякая міжнародная арганізацыя не ўратуе людзей ад «страшнага суда», ад «боскай адплаты», — вось што сцвярджаюць егавісцкія прапаведнікі. Няцяжка заўважыць, што падобныя сцверджанні супадаюць з сапраўднымі намерамі палпальшчыкаў вайны.

Мы ўжо адзначалі, што большасць сектантаў — фанатыкі. Сектанцкія актывісты стараюцца пашыраць рады сектантаў. Пры гэтым яны звяртаюцца да ўсякіх дэмагагічных хітрыкаў.

Секты баптыстаў, евангелісцкіх хрысціян, адвентыстаў першага і сёмага дня знарок падкрэсліваюць дэмакратычны характар сваіх абшчын, спасылаючыся на тое, што ў іх няма духавенства, бо прасвітары выбіраюцца (фармальна кожны пісьменны сектант можа быць выбраны прасвітарам). Адвентысты, каб «скарыць гонар», лічаць неабходным узаемнае абмыванне ног. У іх спрошчаны абрады (адмаўляюцца пакланенні іконам, крыжу, мошчам, святым і г. д.). Паслядоўнікі гэтых сект не ўжываюць віно, тытунь, лічаць грахом гаварыць брыдкія словы. Адвентысты забараняюць ужываць у ежу свініну, а некаторыя з іх адмаўляюцца наогул ад мяса, чаю, кавы. Адмаўляючы багатыя рэлігійныя абрады, сектанты робяць упор на духоўнае, маральнае ўдасканаленне, — каб сэрцам і розумам пранікнуцца верай у бога.

Што значыць, напрыклад, «духоўная дасканаласць» з пункту гледжання сектанцтва? Гэта значыць, што малады чалавек не павінен наведваць кіно, тэатр, удзельнічаць у мастацкай самадзейнасці, займацца спортам, хадзіць на сходы і г. д. Адрыў ад грамадскага жыцця — вось што ставяць сабе за мэту сектанты. Для нагляднасці прывядзем некалькі прыкладаў.

У газеце «Магілёўская праўда» ад 24 мая 1957 года вучаніца Магілёўскага культасветвучылішча Е. Ільіна расказвала, як яна трапіла ў секту пяцідзесятнікаў. Яе ўсяляк запалохвалі жорсткай карай, калі яна не стане маліцца богу. На багаслужэннях прапаведнікі патрабавалі «не хадзіць у кіно, тэатр, таму што там нібыта сам д'ябал весяліць народ. Веруючым забараняецца чытаць мастацкую літаратуру, займацца грамадска-карыснай працай, уступаць у грамадскія арганізацыі, асабліва ў камсамол».

А вось другая, сапраўды трагічная гісторыя, якую расказаў калгаснік сельгасарцелі імя Леніна Нясвіжскага раёна, былы прасвітар М. Стрэчань.

Яшчэ ў 1925 годзе ў вёску Студзенкі стаў наведвацца нехта Краскевіч з-пад Шчорсаў, што на Навагрудчыне. Ён толькі што вярнуўся з Амерыкі. Вечарамі Краскевіч збіраў сялян, чытаў ім кніжкі, запалохваў іх. Пры гэтым усяляк расхвальваў веравучэнне пяцідзесятнікаў і амерыканскі лад жыцця.

Так утварылася абшчына пяцідзесятнікаў.

Мінулі гады. Адбылося ўз'яднанне працоўных Заходняй Беларусі ў адзінай Савецкай рэспубліцы. Усё змянілася навокал, засталося нязменным толькі сектанцкі фанатызм, ахвярай якога аказаліся М. Стрэчань і яго дзеці.

— У 1948 годзе, — расказвае М. Стрэчань, — прастудзіўся і захварэў на запаленне лёгкіх мой сын Уладзімір. Было яму тады семнаццаць год, ён вучыўся ў дзесятым класе. Не павёз я хворага да доктара, а пачаў яшчэ больш старанна маліцца... Але бездапаможным аказаўся бог, не падняў ён мне сына... У 1952 годзе ў мяне захварэла шаснаццацігадовая дачка Надзя, а праз некалькі дзён я пахаваў і яе...

Позна зразумеў сваю памылку М. Стрэчань. Калі б ён замест малітваў звярнуўся за медыцынскай дапамогай, то не страціў бы дзяцей.

У наш век грандыёзных поспехаў навукі і тэхнікі, у век пакарэння космасу, у век буйнейшых адкрыццяў ва ўсіх галінах ведаў, у тым ліку і ў медыцыне,



жудаснай з'яўляецца падмена ўрачэбнай дапамогі рэлігійнымі абрадамі. А падобныя выпадкі яшчэ сустракаюцца. Пад уздзеяннем сектанцкіх прапаведзей аб блізкім «канцы свету» веруючыя кідаюць работу, адмаўляюцца есці і рыхтуюцца да перасялення на «той свет». Аб адным такім выпадку, у прыватнасці, расказвае трактарыст з сяла Рачкі Брэсцкай вобласці А. Місюра ў артыкуле «Што падказала мне кінуць баптысцкую секту», які быў змешчаны ў абласной газеце «Зара» 4 снежня 1957 года.

Сектанцкім актывістам удаецца затуманіць галовы нямногіх маладых людзей, але нават калі пад іх уплыў трапляюць адзінкі, — гэта павінна выклікаць трывогу.

Не так даўно выйшла ў свет выдадзеная ў Маскве надзвычай цікавая кніга — «Чаму мы парвалі з рэлігіяй». Гэтая кніга складзена з расказаў людзей розных узростаў і прафесій пра тое, як яны вырваліся з путаў рэлігійнага цемрашальства. Асаблівую цікавасць уяўляюць расказы былых баптыстаў, пяцідзесятнікаў, адвентыстаў, егавістаў.

«Баптызм — гэта хлусня і фальш!» — піша работнік аўтатранспартнай канторы горада Усурыйска І. Н. Глушак. «Крыніца святла — у навуцы», — заяўляе шахцёр з Данбаса Л. Д. Ляпіхаў. Звяртаючыся да юнакоў і дзяўчат, «якія яшчэ і цяпер прыніжаюць сваю чалавечую годнасць у малельным доме», малады кухар Драгабыцкай вобласці былая баптыстка Ганна Братчук піша: «Не па дарозе вам з баптысцкімі прапаведнікамі і кніжнікамі». Яна дзякуе сваім маладым сябрам-камсамольцам за тое, што тыя дапамаглі ёй знайсці дарогу ў сапраўднае жыццё.

Савецкі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі будуе самае справядлівае грамадства на зямлі. Прыняты XXI з'ездам КПСС грандыёзны сямігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР з'яўляецца планам разгорнутага будаўніцтва камунізма. З'езд абавязаў партыйныя і камсамольскія арганізацыі звярнуць асаблівую ўвагу на фарміраванне камуністычнага светапогляду моладзі, выхаванне актыўных, свядомых будаўнікоў камуністычнага грамадства, якія беззаветна любяць сваю Радзіму, умеюць жыць і працаваць пакамуністычнаму.

Рэлігійнае сектанцтва — цяжкі перажытак мінулага. Надзённыя задачы камуністычнага выхавання патрабуюць, каб у нашай навукова-атэістычнай прапагандзе была звернута належная ўвага на барацьбу з гэтым шкодным перажыткам мінулага.

*Навука і тэхніка*

# ТВОЙ ДОБРЫ ПАМОЧНІК

Біп-біп-біп... Каго з нас не прыводзілі ў захапленне гэтыя радыёсігналы першых ў свеце штучных спадарожнікаў Зямлі, створаных рукамі савецкіх вучоных, інжынераў, рабочых! Такія ж сігналы даносіліся на Зямлю, пераадольваючы адлегласць у паўмільёна кіламетраў, з першай у гісторыі касмічнай ракеты, якая цяпер стала штучнай планетай. Іменна дзякуючы шырокаму выкарыстанню радыёсувязі і радыёэлектронных прыбораў ажыццёўлены запуск штучных спадарожнікаў Зямлі і касмічнай ракеты. Асабліва сур'ёзным выпрабаваннем радыёапаратаў з'явіўся запуск касмічнай ракеты. І гэтае выпрабаванне вытрымана паспяхова: савецкай радыёапаратурай устаноўлены сусветны рэкорд дальнасці двухбаковай сувязі — 500 тысяч кіламетраў! Гэта — яскравае сведчанне таго, якіх поспехаў дасягнула радыё. А між тым гэта адна з самых маладых галін навукі.

З дня нараджэння радыё прайшло ўсяго толькі 64 гады. 7 мая 1895 года вялікі рускі вучоны Аляксандр Сцяпанавіч Папоў сумесна са сваім памочнікам П. Н. Рыбкіным на пасяджэнні Рускага фізіка-хімічнага таварыства прадэманстраваў першы ў свеце радыёапарат — «навальніцаадметчык», названы так таму, што ён рэагаваў на навальнічныя разрады, якія адбываюцца ў атмасферы. За гэты параўнальна невялікі адрэзак часу радыё ад «навальніцаадметчыка» і прасцейшай іскравой перадаючай радыёстанцыі А. С. Папова развілося і вырасла да сучасных высакаякасных радыёпрыёмнікаў, і тэлевізараў, да магутнейшых сучасных радыёстанцый, якія перадаюць сігналы ва ўсе куткі зямнога шара, да ўнікальнейшых радыёперадатчыкаў і прыёмнікаў,



«Навальніцаадметчык» А. С. Папова.



Першы ў свеце радыётэлефонны прыёмнік А. С. Папова.

якія ўстаноўлены на борце савецкай касмічнай ракеты.

Савецкі ўрад у знак прызнання вялікай ролі радыё ў жыцці пастановай ад 2 мая 1945 года ўстанавіў Дзень радыё, які святкуецца 7 мая. У гэты дзень савецкая грамадскасць падводзіць вынікі новых дасягненняў радыётэхнікі і радыёпрамысловасці.

Цяпер, вядома, нікога не здзівіш радыёпрыёмнікам. Ён ёсць бадай у кожнай кватэры. Але вядома і тое, што нашых вучоных і вынаходцаў ужо не задавальняюць грувасткія, нязручныя сучасныя радыёпрыёмнікі, для работы якіх патрэбна значная колькасць электрычнай энергіі.

Да апошняга часу «царыцай» радыётэхнікі з'яўлялася радыёлямпа. Яна прызначалася для ўзмацнення слабых электрычных ваганняў, а таксама для атрымання гэтых ваганняў. На змену шкляным вакуумным радыёлямпам зараз прышлі паўправадніковыя ўзмацняльнікі і генератары электрычных ваганняў. Паўправадніковыя «лямпы» вельмі зручныя, даўгавечныя, маюць у сотні разоў меншыя размеры і патрабуюць для сваёй работы мізэрную колькасць электраэнергіі. Скарыстанне паўправаднікоў у радыётэхніцы ўжо цяпер дае магчымасць зрабіць радыёпрыёмнік велічынёй з напарстак, а ўвесь радыёперадатчык размясціць у корпусе наручнага гадзінніка. Выкарыстанне паўправадніковых «радыёлямп» дазваляе змяніць аблічча ўсіх сучасных радыёапаратаў. Напрыклад, сучасны тэлевізар, зроблены на паўправадніках, уяўляе сабой не груваструю скрыню з экранам звычайнага тэлевізара, а нешта накшталт люстэрка. Ззаду экрана прыстасаваны пры дапамозе так званай друкаванай схемы ўсе радыёдэталі і паўправадніковыя «лямпы». Такі тэлевізар можна павесіць на сцяне, як звычайную карціну або люстэрка.

Сэнс слова «радыё» цяпер далёка не вычэрпваецца радыёвяшчаннем, тэлебачаннем і радыёсувяззю. Радыёэлектронныя прыборы знайшлі выкарыстанне ў самых разнастайных галінах чалавечай дзейнасці.

Яшчэ ў XVII стагоддзі італьянскі фізік і фізіёлаг Луіджы Гальвані заўважыў, што пры скарачэнні мускулаў жабы ўзнікаюць слабыя электрычныя токі, так званыя біятокі. Гэтым быў пакладзены пачатак новай навукі — электрафізіялогіі. Зараз устаноўлена, што біятокі ў арганізме ўзнікаюць у час работы ўсіх унутраных органаў, а таксама ў выніку вышэйшай нервовай дзейнасці. Біятокі — гэта не пабочная з'ява. Яны з'яўляюцца адным з асноўных элементаў складаных фізіка-хімічных працэсаў, якія адбываюцца ў арганізме. Біялагічныя з'явы выклікаюць электрычны ток, а гэты ток прыводзіць да ўзнікнення новых біялагічных працэсаў. Велічыня і характар змянення біятокаў залежыць ад самаадчування і стану здароўя ўсяго арганізма жывой істоты. У цяперашні час пры дапамозе вывучэння біятокаў праводзіцца дыягностыка розных захворванняў. Для гэтай мэты выкарыстоўваюцца разнастайныя радыёэлектронныя апараты, якія дазваляюць рабіць своеасаблівыя «электраздымкі» дзейнасці розных органаў жывой істоты, уключаючы і чалавека. Сучасная медыцына, грунтуючыся на дасягненнях радыёэлектронікі, беспа-

мылкова распазнае сардэчныя, нервовыя і іншыя захворванні. Радыёэлектронныя прыборы, якія ўлаўліваюць біятокі мозгу, дазваляюць не толькі распазнаць настрой чалавека, але ў значнай ступені распазнаюць і яго думкі.

Калі на жывы арганізм уздзейнічаюць электрычным токам, які мае такую ж велічыню і форму змяненняў, як і яго прыродныя біятокі, то паляпшаецца жыццедзейнасць гэтага арганізма. Уздзеяннем электрычных токаў рознай велічыні, формы і частаты можна выклікаць розныя фізіялагічныя з'явы ў жывой істоце: бадзёрасць, сон, добры або дрэнны настрой. Лячэнне шматлікіх нервовых хвароб цяпер паспяхова праводзіцца пры дапамозе электрасну. Токамі высокай частаты вядзецца лячэнне гіпертанічнай хваробы. Высокачастотныя токі замяняюць хірургу скальпель: яны разразаюць тканкі цела, амаль не прычыняючы болю. Разрэзаныя пры гэтым тканкі не крывавяць, бо крывяносныя сасуды зварваюцца токам.

Ультрагукавая радыёапаратура дазваляе ўрачам рабіць «мікрамасаж» крывяносных сасудаў і нават асобных клетак, глыбокае праграванне тканак, вылечваць злаякасныя пухліны. Кожны, хто сядзеў у крэсле зубнога ўрача, ведае, якое непрыемнае адчуванне выклікае свідраванне зубоў звычайнай бормашынай. Ультрагукавое свідраванне рэзка змяншае вібрацыі, механічны ціск і награванне тканак зуба. Гэты спосаб не прычыняе боль.

Нярэдка ўрачу неабходна ведаць тэмпературу не толькі ўсяго цела хворага, але асобных яго частак, каб выявіць невялікія ачагі запалення тканак, зачаткі пухліны і іншае. На аснове развіцця паўправадніковай электронікі створаны «мікратэрмометры», якімі можна вымяраць, напрыклад, тэмпературу рагавіцы вока, тэмпературу асобных залоз і нават асобных клетак.

Кожнаму вядома, як гучыць раяль. Але вось перад вамі му-



Сучасны радыёпрыёмнік на паўправадніках.

зыкант, які ўдарае па клавішах, аднак вы чуеце гукі не раяля, а скрыпкі. Націскаецца кнопка збоку гэтага незвычайнага інструмента, і цяпер вы чуеце ўжо гукі не скрыпкі, а саксафона. Націснуты нагою педаль, і вы слухаеце гучанне сімфанічнага аркестра... Такі незвычайны раяль — гэта не што іншае, як электрамузычны інструмент, які называецца эмірытонам. Ён пабудаваны з тых жа дэталей, што і радыёпрыёмнік. Мяняючы тэмбр гуку, эмірытон прымушаюць гучаць так, як гучаць тыя ці іншыя музычныя інструменты.

Цяжка, бадай немагчыма, пералічыць усе галіны прымянення радыёэлектронікі і электронных прыбораў ужо ў цяперашні час. У будучым жа радыётэхніка атрымае яшчэ большае развіццё, яшчэ большы размах. У бліжэйшыя гады будзе ажыццёўлена комплексная аўтаматызацыя вытворчых працэсаў. Зараз мы не здзіўляемся, чуючы словы: «радыё гаворыць», «радыё паказвае», «радыё кіруе рухам самалёта» і гэтак далей. Хутка такімі ж звычайнымі стануць выразы: «радыё кіруе заводам», «радыё друкуе кнігі»... Так, так: радыё будзе друкаваць кнігі, прычым не з хуткасцю адну старонку ў дзве секунды, як гэта робяць сучасныя друкарскія машыны, а 25 старонак у секунду і больш. Радыё будзе весці цягнікі і аўтамабілі, рэгуляваць вулічны рух і забяспечваць электраэнергіяй самыя далёкія куткі нашай неабсяжнай Радзімы. Радыё дазволіць чалавеку хутчэй заваяваць сусвет і пранікнуць у таямніцы мікрасвету. Яно дапаможа ажыццявіць самыя смелыя мары чалавецтва.

**В. ВАЛЯЎКА,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі і матэматыкі АН БССР.**



# НА ЗАРЫ АТАМНАЙ ЭРЫ

Прайшло сто год з дня нараджэння выдатнага французскага фізіка П'ера Кюры — заснавальніка ядзернай фізікі, чые навуковыя адкрыцці абвясцілі пачатак атамнай эры і далі чалавецтву велізарныя магчымасці да пакарэння прыроды.

П'ер Кюры нарадзіўся 15 мая 1859 года ў Парыжы ў сям'і ўрача. Бацька яго Эжэн Кюры захапляўся рэвалюцыйнымі ідэямі. У часе гістарычных падзей Парыжскай Камуны ён у сваёй кватэры адкрыў амбулаторыю і лячыў раненых. У сям'і Кюры пастаянна падтрымліваўся культ навукі. Прывівалася любоў да навукі і дзецям. Вальнадумны бацька не прызнаваў ніякай рэлігіі. Сваіх двух сыноў — старэйшага Жака і малодшага П'ера — насуперак патрабаванням звычаю, ён не хрысціў і не прыпісваў ні да якой рэлігіі.

У такой сям'і выхоўваўся маленькі П'ер. Ён не атрымаў сістэматычнай адукацыі. Першымі яго настаўнікамі былі маці, потым бацька і старэйшы брат Жак. Да чатырнаццацігадовага П'ера быў запрошан настаўнік А. Базіль, які аказаўся выдатным педагогам. Выявіўшы здольнасці і схільнасці хлопчыка, Базіль здолеў прывіць яму любоў да матэматыкі і фізікі і прымусіць яго ўпарта працаваць. Дзякуючы стараннасці ў рабоце, шаснаццацігадовы П'ер Кюры здолеў здаць экзамены на ніжэйшую навуковую ступень бакалаўра прыродазнаўчых навук. Потым ён наведваў лекцыі ў Сарбоне і ўдзельнічаў у практычных занятках. Адначасова дапамагаў асістэнту ў лабараторыі прафесара Леру пры падрыхтоўцы заняткаў на кафедры фізікі. Адукацыя ішла так хутка, што праз два гады П'ер здаў экзамен на навуковую ступень ліцэнцыята, якая давала права чытаць лекцыі ў вышэйшых навучальных установах.

П'еру Кюры споўнілася 19 год, калі яго прызначылі асістэнтам Дэзена на фізіка-матэматычным факультэце Парыжскага ўніверсітэта. Сумесна з Дэзенам ён выканаў першую сваю навуковую работу аб інфра-чырвоных праменнях, якія вылучаюцца нагрэтымі целамі.

Тым часам яго брат Жак стаў працаваць асістэнтам у мінералагічнай лабараторыі Сарбоны. У гэтай лабараторыі П'ер разам з братам заняўся вывучэннем крышталяў. Іх сумесная работа была вельмі плённай. Валодаючы матэматычнымі здольнасцямі і цудоўным прасторавым уяўленнем, П'ер здолеў глыбока разабрацца ў складаных законах сіметрыі крышталяў. Яго разважлівы, удумлівы розум вельмі добра дапаўняў жывы і рашучы характар

брата. У першы перыяд сумеснай работы ім удалося адкрыць зусім новую з'яву — п'езаэлектрычнасць, якая заключаецца ў тым, што пад уздзеяннем сціскання па краях крышталічнай пласцінкі ўзнікаюць электрычныя зарады. Велічыня гэтых зарадаў вельмі малая, і патрэбен быў выключны эксперыментальны спрыт маладых вучоных, каб выявіць яе. У другі перыяд сваёй работы браты Кюры выканалі яшчэ больш тонкія эксперыменты, вывучыўшы адваротную з'яву. Яны даказалі, што калі да краёў крышталічнай пласцінкі прыкласці электрычнае поле, дык пласцінка дэфармуецца — выгінаецца. Пасля гэтымі з'явамі заняліся многія вядомыя вучоныя, такія, як Рэнтген, Кундт. П'ер Кюры выкарыстаў п'езаэлектрычную ўласцівасць крышталяў для пабудовы спецыяльнага вельмі дакладнага вымяральнага прыбора, які адыграў у далейшым вялікую ролю ў работах па радыёактыўнасці.

Цяпер п'езаэлектрычныя крышталі вельмі шырока прымяняюцца ў радыётэхнічных прыборах, мікрафонах, тэлефонах, у адаптарах электрапраігрывальнікаў, у вымяральніках ціску, вібрацыі машын і г. д.

Сумесная работа братоў Кюры прадаўжалася нядоўга. У 1883 годзе Жак Кюры паехаў на работу ў горад Монпелье. У той жа час П'ер Кюры быў прызначаны кіраўніком практычных заняткаў у толькі што заснаванай Вышэйшай тэхнічнай фізіка-хімічнай школе, дзе і прапрацаваў 22 гады. У першы час яму давялося правесці вялікую і карпатлівую работу па арганізацыі студэнцкай лабараторыі, па наладжванню там практычных заняткаў. Натуральна, гэта патрабавала шмат часу і намаганняў, што не магло не адбіцца на навуковай рабоце.

Неўзабаве П'ер Кюры пачаў самастойныя навуковыя даследаванні. Умовы работы былі вельмі дрэнныя: вучоны не меў не толькі ўласнай лабараторыі, але нават асобнага пакоя. Доследы прыходзілася рабіць непасрэдна ў студэнцкай лабараторыі, часам у калідоры. У такіх умовах ён выканаў другі цыкл сваіх работ, прысвечаных магнетызму. Былі вывучаны ўласцівасці вялікай колькасці рэчываў пры розных тэмпературах. П'еру Кюры ўдалося адкрыць новую з'яву, якая цяпер вядома як «закон Кюры» і «пункт Кюры». Гэтыя даследаванні сталі тэмай яго доктарскай дысертацыі, якую ён бліскуча абараніў у 1895 годзе.



П'ер Кюры.

У тым жа годзе адбылася яшчэ адна падзея, якая мела вялікае значэнне як у навуковым, так і ў асабістым яго жыцці. У 1894 годзе П'ер пазнаёміўся са студэнткай Сарбоны Марыяй Складоўскай.

Марыя Складоўская — полька, дачка выкладчыка фізікі ў Варшаве, скончыўшы гімназію, некаторы час працавала настаўніцай. Сабраўшы невялікую суму грошай, яна прыехала ў Парыж і паступіла ва ўніверсітэт, каб працягваць адукацыю. У 1895 годзе яна стала жонкаю П'ера Кюры. Найбольш буйныя і значныя работы, прысвечаныя радыёактыўнасці, выкананы мужам і жонкай Кюры сумесна.



У 1895 годзе французскі вучоны А. Бекерэль адкрыў невядомыя праменні, якія выпраменьваюцца солямі урану. Гэтая толькі што адкрытая новая з'ява, названая пасля радыёактыўнасцю, выклікала вялікую цікавасць фізікаў. Што гэта за праменні? Якія іх уласцівасці? Ці выпраменьваюць іх іншыя целы? Каб адказаць на гэтыя пытанні, патрабаваліся далейшыя даследаванні.

Іменна гэтыя пытанні выбрала сабе тэмай дысертацыі Марыя Складоўская-Кюры. Выбар яе адбыўся, безумоўна, не без удзелу П'ера Кюры, які прыкладна праз месяц далучыўся да яе работы. Тэма аказалася выключна цікавай. За кароткі час было даследавана шмат розных мінералаў і руд. Некаторыя з іх вылучалі невядомыя праменні, прычым многія ўранавыя руды мелі ненармальна высокую радыёактыўнасць. На падставе гэтага муж і жонка Кюры меркавалі, што руды маюць у невялікіх колькасцях нейкую вельмі актыўную дамешку. Сумесная работа ішла даволі хутка. Ужо праз 6 месяцаў, у 1898 годзе, яны абвясцілі аб адкрыцці новага радыёактыўнага элемента, названага ў гонар радзімы Марыі «палоніем», а ў снежні таго ж года аб адкрыцці яшчэ аднаго элемента — «радыю».

Для атрымання чыстых палонію і радыю неабходна было правесці вялікую, карпатлівую работу. Спатрэбілася перапрацаваць цэлыя тоны смаляной руды, дзе ў мізэрных колькасцях утрымліваліся гэтыя элементы. Гэтую руду можна было дастаць толькі ў Багеміі (Чэхаславакія). Для закупкі і дастаўкі яе патрэбны былі грошы, а для перапрацоўкі — лабараторыя. Нягледзячы на тое, што П'ер Кюры да таго часу ўжо быў прафесарам і вядомым вучоным, у яго не было ні грошай, ні лабараторыі. Толькі пры садзейнасці аднаго аўстрыйскага вучонага ім удалося атрымаць некалькі тон неабходнага матэрыялу. Выкарыстаўшы для работы напаўразбураны хлеў, які стаяў у двары школы, Марыя і П'ер Кюры прыняліся з усім запалам за навуковыя пошукі. Каб мець уяўленне аб тых умовах, у якіх яны працавалі, неабходна дадаць, што хлеў працякаў, а зімою ў ім было холадна. Толькі выключнае эксперыментальнае майстэрства П'ера і вялікая настойлівасць яго жонкі дазволілі давесці доследы да канца. Перапрацаваўшы сваімі рукамі тоны руды, яны атрымалі чыстыя солі радыю, радыёактыўнасць якога аказалася ў мільёны разоў большай, чым урану. Яны паказалі таксама, што праменні, якія вылучаюцца радыем у магнітным полі, падзяляюцца на тры часткі, названыя адпаведна альфа-, бэта- і гама-праменнямі. Адначасова было даследавана біялагічнае дзеянне радыю. У вялікіх колькасцях радый выклікаў апёкі, якія цяжка вылечваліся, а ў невялікіх — мог быць скарыстаны пры лячэнні такіх хвароб, як рак і ваўчанка. З навуковай мэтай П. Кюры падверг сваю руку працягламу ўздзеянню радыю і атрымаў апёк, які ўдалося вылечыць толькі праз некалькі месяцаў.

Асабліва выдатным адкрыццём мужа і жонкі Кюры было вылучэнне радыем цеплыні, выкананае пры ўдзеле А. Лабарда ў 1903 годзе. Каб выявіць гэтую з'яву, яны ўзялі два сасуды, у якія змясцілі па тэрмометру, і ў адзін з іх паклалі маленькі кавалачак соляў радыю. Аказалася, што ў сасудзе, дзе знаходзіўся радый, тэрмометр паказваў больш высокую тэмпературу. Адсюль напрошваўся просты вывад — радый вылучае цеплыню. П'ер Кюры разумеў вялікае значэнне гэтага адкрыцця. Па яго вымярэннях адзін грам радыю на працягу кожнай гадзіны вылучае колькасць цеплыні, дастатковую для таго, каб павысіць тэмпературу аднаго літра вады на 22,5 градуса.

Сам факт вылучэння цеплыні сведчыць аб тым, што радый павінен змяняцца. Адны атамы распадаюцца, ператвараючыся ў другія, і пры гэтым вылучаюць энергію, якую ўпершыню наглядаў П'ер Кюры. Цяпер мы яе называем атамнай энергіяй.

Навуковыя доследы мужа і жонкі Кюры прыцягнулі ўвагу шырокіх колаў грамадскасці. Іх імёны становяцца папулярнымі. Паездка ў Англію, каб атрымаць медаль імя Дэві, была для іх сапраўдным трыумфам. У 1903 годзе шведскай Акадэміяй навук Кюры і А. Бекерэлю прысуджаецца Нобелеўская прэмія. Аднак у сябе на радзіме, у Францыі, умовы іх работы заставаліся па-ранейшаму цяжкімі. У іх не было дастаткова сродкаў для работы, і, самае галоўнае, не было лабараторыі, без якой немагчыма працаваць фізіку-эксперыментатару. Нарэшце, дзякуючы патрабаванням некаторых вучоных, П'еру Кюры ўдалося атрымаць маленькую лабараторыю са штатам супрацоўнікаў у тры чалавекі.

Аднак трагічны выпадак перакрэсліў усё. 19 красавіка 1906 года, вяртаючыся са сходу Асацыяцыі прафесараў фізіка-матэматычнага факультэта, пры пераходзе вуліцы П'ер Кюры паслізнуўся і трапіў пад экіпаж. Удар у галаву быў смяротэльным. Так трагічна і недарэчна абарвалася жыццё гэтага выдатнага вучонага.

Справу, пачатую П'ерам Кюры, прадоўжылі яго вучні і шматлікія паслядоўнікі — спачатку жонка Марыя Складоўская-Кюры, а потым іх дачка Ірэн Жоліо-Кюры са сваім мужам Фрэдэрыкам Жоліо-Кюры — выдатныя вучоныя і грамадскія дзеячы.

Трэба адзначыць, што П'ер Кюры ніколі не абмяжоўваўся толькі тэарэтычным бокам сваіх адкрыццяў, ён заўсёды клапаціўся аб іх практычным прымяненні на карысць усяму чалавецтву. Ён першым зразумеў вялікае практычнае значэнне і разам з тым небяспеку, звязаную з адкрыццём радыёактыўнасці і атамнай энергіі. Пра гэта ён добра сказаў у сваёй прамове, калі яму ўручалася Нобелеўская прэмія.

«Няцяжка прадбачыць, што ў злачынных руках радый можа зрабіцца вельмі небяспечным. І вось узнікае пытанне, ці сапраўды карысна для чалавецтва ведаць сакрэты прыроды, ці сапраўды яно дастаткова сталае для таго, каб іх правільна выкарыстаць, ці гэтае веданне прынясе яму толькі шкоду? Прыклад зробленага Нобелем адкрыцця з'яўляецца ў гэтых адносінах характэрным. Магутныя выбуховыя рэчывы дазволілі людзям зрабіць шмат карыснага, і яны ж з'явіліся страшным сродкам разбурэння ў руках вялікіх злачынцаў, якія штурхаюць народы на шлях вайны. Я належу да ліку тых, якія ... лічаць, што ўсё ж новыя адкрыцці ўрэшце прыносяць чалавецтву больш карысці, чым шкоды».

Цяжка паверыць, што гэтыя словы былі сказаны больш чым 50 гадоў таму назад, калі перад вачыма вучонага была маленькая крупінка радыю.

За апошнія паўвека чалавецтва далёка пайшло наперад у справе выкарыстання зробленых П'ерам Кюры адкрыццяў. Асабліва вялікіх поспехаў у мірным скарыстанні энергіі атама дасягнулі савецкія вучоныя, збудаваўшы першую ў свеце атамную электрастанцыю, першы ў свеце атамны волат-ледакол «Ленін». Зараз вучоныя вядуць наступленне на тэрмаядзерную энергію, вышукваючы найлепшыя спосабы кіравання тэрмаядзернай рэакцыяй.

**П. АПАНАСЕВІЧ,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**
**А. ХАПАЛЮК.**



**Так будзе выглядаць плошча імя Леніна.**

# ТАКІМ БУДЗЕ МІНСК

Шмат цёплых слоў сказана ўжо пра сённяшні воблік беларускай сталіцы. Кожны, каму даводзіцца бываць у Мінску, не тоіць свайго захаплення цудоўнымі збудаваннямі, якія ўпрыгожваюць цэнтральную магістраль горада — праспект імя Сталіна.

М. С. Хрушчоў, наведаўшы сталіцу Беларусі двойчы, параўнаў яе цэнтральную вуліцу з Неўскім праспектам Ленінграда. Ён зазначыў, што Мінск цікава спланаваны і што над аднаўленнем яго добра папрацавалі архітэктары, будаўнікі.

І сапраўды, наш праспект імя Сталіна вельмі прыгожы. Роўны шэраг 5—6-павярховых жылых і грамадскіх дамоў афармляе галоўную яго частку — паміж вуліцай Свярдлова і Цэнтральнай плошчай. Ленінскі і Камсамольскі бульвары ажыўляюць гэтую забудову. Шырокая прастора плошчаў і паркаў характэрна для сярэдняй часткі праспекта — паміж вуліцай Энгельса і плошчай Якуба Коласа. Нарэшце, разнастайнасць архітэктурных прыёмаў, чаргаванне простых і складаных фасадаў, зялёных двароў і ландшафтных паркаў завяршаюць



Адзін з будучых жылых кварталаў на Сталінградскай вуліцы.

праспект аж да выхаду на Маскоўскую шашу.

Цудоўны Мінск сёння. Але яшчэ прыгажэйшым ён будзе заўтра.

* * *

Паспрабуем падняць заслону, якая хавае пакуль ад нас будучы Мінск. Нядаўна зацверджаны гарадскім Саветам генеральны план сталіцы Беларусі дазваляе нам заглянуць аж у 1980 год.

Мінск к таму часу значна зменіцца. Насельніцтва яго павялічыцца амаль удвая і дасягне 800 тысяч жыхароў. Новыя прамысловыя прадпрыемствы ў горадзе будаваць не будуць. Тыя заводы-гіганты, што ёсць цяпер, за кошт павелічэння прадукцыйнасці працы, прымянення новых дасягненняў тэхнікі, механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці значна павысяць выпуск прадукцыі. Новыя заводы і фабрыкі размесцяцца за межамі горада, у прыгараднай зоне, а каля іх узнікнуць невялікія рабочыя гарадкі.

Кожная сям'я атрымае асобную кватэру. Ужо цяпер архітэктары распрацоўваюць новыя, зручныя праекты такіх кватэр. Разам з канструктарамі яны вышукваюць спосабы хутчэйшага ўзвядзення жылых дамоў — пра-

пануюць не будаваць, а мантыраваць дамы з выробленых на заводах і палігонах блокаў. Найбольш рацыянальнымі з'яўляюцца блокі памерам у пакой, якія дазваляюць за некалькі дзён пабудаваць шматкватэрны дом.

Жыллёвае будаўніцтва ў бліжэйшыя гады намечана весці толькі вялікімі комплексамі — мікраараёнамі. Не асобныя кварталы, а вялікія раёны плошчай у 20—40—60 гектараў забудоўваюцца новымі жылымі дамамі адначасова. У кожным раёне будуць школа, дзіцячыя сады і яслі, бібліятэка, кінатэатр. Асаблівая ўвага аддаецца бытавому абслугоўванню працоўных, для чаго ў кожным мікраараёне прадугледжана адкрыццё сталовых і бытавых майстэрняў, магазінаў, індывідуальных гаражоў. Побач з жылымі дамамі размесцяцца спартыўныя базы. І ўсюды будзе многа зялёных насаджэнняў. Агульны жыллёвы фонд сталіцы да канца праектнага тэрміну дасягне амаль 10 мільёнаў квадратных метраў, — гэта ў чатыры разы больш, чым ён складае зараз.

Горад значна зменіць сваё архітэктурнае аблічча. На плошчы Леніна, насупраць Дома ўрада, ужо цяпер узнімаецца вялікі будынак галоўнага корпуса



Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. На ўсходнім баку плошчы, насупраць корпуса педагагічнага інстытута, вырасце гасцініца «Інтурыст» — адно з найбольш цікавых збудаванняў будучага Мінска.

Памяшканне гісторыка-краязнаўчага музея на паўночна-ўсходнім баку плошчы і вялікі корпус, які стане тварам да праспекта, завершаць арганізацыю Цэнтральнай плошчы.

Комплекс новых дамоў упрыгожыць плошчу Якуба Коласа — тут вырастуць Дом культуры і вялікі ўнівермаг. Пасярод плошчы будзе ўстаноўлен помнік народнаму паэту Якубу Коласу.

Перабудоўваецца Клінічны гарадок, дабудоўваецца новымі карпусамі сядзіба Політэхнічнага інстытута, новыя карпусы і жылыя дамы ўзнікнуць на тэрыторыі Акадэміі навук БССР. Усе гэтыя

збудаванні завершаць архітэктурнае афармленне праспекта імя Сталіна.

У канцы праспекта, каля парку Чалюскінцаў, раскінецца плошча імя Калініна. Стройныя рады шматпавярховых жылых дамоў акружаць яе. У цэнтры ўзнімецца помнік М. І. Калініну. Прыгожа будзе аформлены ўезд у горад з боку Маскоўскай шашы.

З цягам часу знікне тупік, у які ўпіраецца цяпер праспект пры сустрэчы з вуліцай Свярдлова. Шырокая паласа праспекта пройдзе праз плошчу Леніна, паўз вучэбны корпус універсітэта, і выйдзе да чыгункі. Тут, на Бабруйскай вуліцы, будзе пабудаваны пуцепровод, па якім праспект выйдзе на Маскоўскую вуліцу.

Значна расшырыцца плошча імя Мяснікова. У сярэдзіне яе будзе пастаўлен помнік аднаму з арганізатараў Савецкай улады на Бе-



Так сплакавана Паркавая магістраль з комплексам спартыўных збудаванняў.



Дамы будуць збірацца з буйных панеляў.

ларусі — А. Ф. Мяснікову. Намечана паставіць таксама помнікі М. В. Фрунзе, які знаходзіўся ў першыя гады Савецкай улады ў Мінску, і герою Вялікай Айчыннай вайны піянеру Марату Казею.

Па-новаму будзе выглядаць даліна ракі Свіслач. Закончацца работы па бетаніраванню яе берагоў, будуць створаны шырокія бульвары на ўсіх набярэжных. Новыя бетонныя масты перакінуцца праз раку ў розных мясцінах горада. Замест старых драўляных дамоў у трохкутніку Свіслач — вуліца Янкі Купалы — вуліца Куйбышава вырасце купал новага панарамнага кінатэатра, а крыху вышэй, у раёне плошчы 8-га сакавіка, раскінецца цэлы комплекс спартыўных збудаванняў: стадыён, крыты басейн, зала спорту, штучны каток.

Па тэрыторыі горада пройдуць дзве новыя магістралі, якія звяжуць праспект Сталіна з ускраінамі паўночна-заходняй часткі горада. Вуліца Леніна пойдзе на поўнач у выглядзе шырокай паркавай магістралі, якая адкрые выхад з цэнтральнай часткі горада да Мінскага мора. Гэта будзе самая маляўнічая магістраль горада, з якой адкрыюцца неаглядныя ландшафты па берагах Свіслачы і штучнага мора.

Цяжка расказаць пра ўсё тое, што складае змест перспектыўнага генеральнага плана сталіцы рэспублікі — аднаго з буйнейшых гарадоў Савецкага Саюза, у архітэктурным абліччы якога будуць увасоблены адметныя рысы гарадоў светлай будучыні камуністычнага грамадства.

**І. БЕЛАГОРЦАЎ.**



# ПРЫГОЖА І ЗРУЧНА

Гэта было падобна на наваселле.

У новы, толькі што пабудаваны дом ішлі і ішлі людзі. Яны разыходзіліся па кватэрах, абсталяваных новай мэбляю і, уважліва ўсё агледзеўшы, віншавалі гаспадароў. Але падарункаў не ўручалі. А наадварот, патрабавалі... кнігу водгукаў і пажаданняў.

Вось некалькі запісаў, зробленых у ёй:

«Лёгкая, прыгожая, зручная мэбля! Вельмі добра! У такой кватэры ад адной толькі мэблі будзе весела.

Супрацоўнікі Акадэміі будаўніцтва і архітэктуры».

«Малайцы беларусы!

Група архітэктараў».

«Увесь камплект мэблі робіць самае прыемнае ўражанне як па канструкцыі, так і па знешняму выгляду. Трэба лічыць, што ўсе прадметы абсталявання і ўсе навінкі неабходна як найхутчэй пусціць у вытворчасць. Мэбля, прадстаўленая Беларускай ССР, з'яўляецца лепшай мэбляю, якую мы бачылі на выстаўцы.

Архітэктар Абросаў (НДІ грамадскіх будынкаў Акадэміі будаўніцтва і архітэктуры СССР)».

Так, гутарка ідзе аб незвычайным наваселлі. У Маскве, у раёне, які носіць назву Новыя Чаромушкі, у доме, падрыхтаваным да здачы жыхарам, была арганізавана выстаўка мэблі. Гэта — фінал Усесаюзнага конкурсу, абвешчанага Дзяржаўным Камітэтам па справах будаўніцтва пры Савеце Міністраў СССР.

Перад канструктарамі была пастаўлена задача: распрацаваць узоры такой мэблі, якая найлепшым чынам адпавядала б новаму тыпу кватэр з аднаго, двух і трох пакояў. Трыццаць канструктарскіх арганізацый краіны паказвалі вынікі сваёй творчасці.

Нашу рэспубліку прадстаўляў калектыў праектна-канструктарскага бюро Упраўлення лясной, папяровай



Кватэра абсталявана мэбляй з набору, сканструяванага І. Харламавым і М. Котам.

і дрэваапрацоўчай прамысловасці Саўнаргаса, вопытны інжынер-тэхнолаг М. С. Спясіўцаў кіруе гэтым бюро. Значная частка беларускай мэблі, зробленай на мінскай, бабруйскай і гродзенскай фабрыках, прыбыла ў Маскву ў даволі незвычайным выглядзе. Калі да дома ў Новых Чаромушках пад'ехала першая машына з Мінска і з яе сталі здымаць стусы шчыткоў, якія знешне нічым не адрозніваліся ад звычайных паліраваных дошчачак, з натоўпу цікаўных пачуліся насмешлівыя выгукі:

— Дошак навезлі, а мэблю дома пакінулі!

— А можа ў іх такі звычай — на дошках сядзець?

— Шафамі беларусы таксама, відаць, не карыстаюцца.

Шафёр-мінчанін не вытрымаў:

— Чым кепікі строіць, дык вы лепш на выстаўку прыходзьце. Там паглядзіце, на чым мы сядзім і што ў шафах трымаем...

... Галоўную ўвагу работнікі нашага праектна-канструктарскага бюро сканцэнтравалі на распрацоўцы такога тыпу мэблі, якую можна было б рабіць на аўтаматычных і паўаўтаматычных лініях. Дэталей гэтых павінна быць не многа, яны павінны быць уніфікаваныя і лёгка злучацца ў розныя канструкцыі.

Стварылі дзве брыгады. Адну з іх узначалілі мастак І. Харламаў і канструктар М. Кот. На чале другой сталі мастак Б. Грубін і канструктар Я. Асятроў. Кожная з брыгад ішла сваім шляхам і дасягнула амаль аднолькавых вынікаў. Створаны два наборы дэталей — драўніна-стружачных шчыткоў, што атрымліваюцца з адыходаў прамысловасці. Пакупнік па свайму жаданню можа сабраць з гэтых дэталей мноства розных відаў мэблі для пакояў любога памеру.

Прыйшоўшы ў магазін, пакупнік набывае любую колькасць шчыткоў, у залежнасці ад таго, якія прадметы ён хоча з іх сабраць. Дома, збіраючы мэблю, ён раптам убачыць, што памеры стала або шафы маглі б быць павялічаны. І ён можа купіць да іх яшчэ некалькі шчыткоў.

Больш таго, з шафы, якая стала яму непатрэбна, уладальнік можа зрабіць стол, тумбачку, сервант і г. д. Аднаярусны сервант можна зрабіць якой хочаш вышыні. Паліца для кніг можа стаць столікам для тэлевізара. Колькасць такіх пераўтварэнняў практычна цяжка ўлічыць.



У гэтай кватэры мэбля з набору, сканструяванага Б. Грубіным і Я. Асятровым.





Група супрацоўнікаў праектна-канструктарскага бюро Упраўлення лясной, папяровай і дрэваапрацоўчай прамысловасці Беларускага саўнаргаса.

Можна падумаць, што для ўсяго гэтага трэба шмат шчыткоў розных памераў. Не, шчыткі будуць выпускацца ўсяго шасці памераў. Кошт зборна-разборнай мэблі на адну трэць ніжэй за кошт існуючай мэблі таго ж класа. За тры з паловай тысячы рублёў можна будзе абсталяваць кватэру з двух пакояў. Паглядзіце на фотаздымкі (стар. 127—128). Ці не правы былі аўтары запісаў у кнізе водгукаў, сцвярджаючы, што ў кватэры будзе весела ад адной толькі мэблі?

У зборна-разборныя камплекты мэблі ўваходзяць і мяккія прадметы: канапа, ложак, крэслы. Іх праектаваў С. Ляндрэс. Ён прымяніў шэраг новых матэрыялаў і стварыў вельмі арыгінальныя канструкцыі. Так, напрыклад, ложак яго канструкцыі стаў самым папулярным экспанатам выстаўкі.

У будаўнічай справе на няроўнасці падлогі існуюць пэўныя допускі. Зусім роўнай падлогі амаль ніколі не бывае. Пад ножкі многіх экспанатаў выстаўкі былі падкладзены кавалачкі кардону, тонкія дошчачкі і да т. п. Не было гэтага толькі ў беларускай мэблі. Ножкі яе маюць схаванае ад вока вінтавое прыстасаванне. Вышыню ножак можна рэгуляваць.

Не менш удала зроблены шафа для адзення і шафа-кладоўка для гаспадарчых рэчаў, якія ўбудоўваюцца ў сцены і такім чынам не займаюць ў кватэры месца. Над канструкцыяй іх працаваў мастак М. Рой. Абодва наборы мэблі і камплект шафаў атрымалі высокую ацэнку, прэміраваны і рэкамендаваны для масавай вытворчасці на мэблевых фабрыках Савецкага Саюза.

Выпуск новай мэблі мяркуецца пачаць ужо ў гэтым годзе.

**А. СЯРГЕЕЎ.**

# З НЕВЫЧЭРПНЫХ КРЫНІЦ

### Да 90-годдзя з дня нараджэння М. М. Чуркіна

Двое апранутых у віцмундзіры, разваліўшыся на крэслах, сядзелі ў небагата абстаўленым пакойчыку і з усмешкай глядзелі на гаспадара, які нетаропка ўкладваў свае няхітрыя рэчы ў дарожны мяшок.

— Зноў пацягнула цябе да тваіх лапцюжнікаў,— парушыў маўчанне адзін з іх.— І што ты знайшоў там цікавага?

— Не разумею я цябе, Мікалай Мікалаевіч,— дадаў другі.— Кожнае лета бадзяешся, ліха яго ведае дзе, водзіш знаёмства з мужыкамі, запісваеш нейкія песні, а нашай кампаніяй грэбуеш!

— Ды не грэбую я,— адказаў гаспадар,—але лічу, што свой адпачынак маю права выкарыстоўваць, як мне захочацца, тым больш, што экспедыцыі прыносяць мне не толькі задавальненне, але і карысць.

— Карысць!— зарагатаў першы з субяседнікаў.— Не смяшы ты нас, Мікалай Мікалаевіч! Ці многа ты грошай са сваіх «экспедыцый» прыносіш? Патраціш усё жалаванне, а потым ходзіш без капейкі... А мы тут і ў праферансік перакінемся, і сытыя заўсёды, ды яшчэ тое-сёе зберажэм на чорны дзень! Вось табе і карысць!

— Ды і начальства на цябе косіцца, — прамовіў другі.—Інспектар кажа, што не настаўніцкая гэта справа — сябраваць з мужыкамі, якія нават не ўмеюць як след перахрысціцца...

— Інспектар, інспектар! — павысіў голас гаспадар, і яго шэрыя вочы пацямнелі.— Ці ведае ён, твой інспектар, як гэты просты мужык, што з цямна да цямна гне спіну на працы, у вольны час расказвае казкі, з якой дасціпнасцю жартуе, якой глыбокай мудрасцю напоўнены яго прымаўкі, якая сумленная і чыстая ў яго душа! Такой, напэўна, не сустрэнеш у ніводнага «правасхадзіцельства». А спявае як! Песні, што я сабраў,— гэта ж найбагацейшы скарб!

— Скарб!— скептычна ўсміхнуўся адзін з гасцей.— Усяго і карысці з тваёго скарбу, што раз печку ім выпаліш. Няўжо ты думаеш, што гэтыя песні хоць раз пачуеш са сцэны ці здолееш выдаць?..

Калі госці, развітаўшыся, выйшлі, Мікалай сеў у крэсла і глыбока задумаўся. Няўжо яны маюць рацыю? Няўжо тое, што ён робіць, толькі марная трата часу? Не! Усім сэрцам ён адчуваў, што робіць патрэбную, карысную, хоць пакуль што і не надта ўдзячную работу. Асабліва дарагімі былі для яго запісы народных песень. Якія мелодыі! Вось хоць бы гэтая... І Мікалай, забыўшы ўсё на свеце, напаўголаса заспяваў. Песня абудзіла ўспаміны. Як жывая, паўстала ў памяці невялічкая сялянская хаціна ў каўказскім мястэчку Джалал-Оглы, дзе ён нарадзіўся, узнік перад вачамі вялікі горад Тыфліс, куды прыехаў дванаццацігадовым хлапчуком паступаць у ваенна-фельчарскую школу. Успомнілася і першае знаёмства са школьным



духавым аркестрам, з музыкай, якая запаланіла ўсю істоту...

Настаўнікі, якія працавалі ў гэтай школе, адкрылі ў ім здольнасці музыканта. Па іх агульнаму рашэнню Мікалай, скончыўшы школу, не пайшоў працаваць па спецыяльнасці а стаў кіраўніком школьнага аркестра.



**Народны артыст БССР кампазітар Мікалай Мікалаевіч Чуркін з унучкай.**

Фота А. Дзітлава.

Першым сапраўдным настаўнікам музыкі быў для Мікалая славуты кампазітар Іпалітаў-Іванаў, у класе якога ён вучыўся ў Тыфліскім музычным вучылішчы. Аднача́сова малады музыкант робіць першыя ўдалыя спробы ў жывапісу — сваёй другой прыхільнасці, якая потым дала магчымасць экстэрнам закончыць Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Дваццацітрохгадовым маладым чалавекам Мікалай Мікалаевіч Чуркін атрымлівае атэстат аб заканчэнні музычнага вучылішча, рэкамендацыі і накіроўваецца на работу ў горад Баку. Тут ён працуе выкладчыкам спеваў і малявання, становіцца кіраўніком самадзейных музычных калектываў і хораў студэнцкай моладзі і заводскіх рабочых. Гэта выклікала нездавальненне школьнага начальства. Што гэта за студэнцкія хоры і самадзейныя рабочыя гурткі? Аб чым могуць спяваць мурзатыя нафтавікі, і ці да твару «казённаму» настаўніку кіраваць імі? А тут яшчэ малады настаўнік неасцярожна выказаў свае адносіны да ўсемагутнага ў той час духавенства: ён аддаваў перавагу не спевам на клірасе, а «свецкім» самадзейным хорам.

Так вырашыўся лёс настаўніка: пасля адзінаццаці год работы ў Баку ён быў выкінуты на вуліцу.

Пакінуўшы абжытыя мясціны, Мікалай Мікалаевіч у 1903 годзе пераязджае на работу ў Беларусь і з тае пары назаўсёды звязвае з ёю сваё жыццё. Новая, яшчэ не чутая ім, простая і шчырая беларуская песня хутка знайшла шлях да сэрца музыканта. І, напэўна, іменна праз песню стала такой дарагой для яго Беларусь — яго новая радзіма.

Мікалай Мікалаевіч аддае ўвесь свой вольны час, свае сціплыя зберажэнні шматлікім фальклорным экспедыцыям. Вандруючы з вёскі ў вёску, з раёна ў раён, ён запісвае ўсё лепшае, што створана музычным геніем народа. Так збіраўся велізарнейшы скарб песеннай народнай творчасці — скарб народнай мудрасці.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі гэты скарб стаў невычэрпнай крыніцай творчасці для беларускіх кампазітараў, спевакоў, музыкантаў.

Змяніўся і лёс самога этнографа. Мікалай Мікалаевіч атрымаў магчымасць працягваць сваю высакародную працу і з новай энергіяй пачаў свае вандроўкі. Ён аб'ездзіў усе без выключэння раёны, усе вобласці нашай рэспублікі. Запісы яго папоўніліся новымі песнямі аб шчаслівым, радасным жыцці, калгасным ладзе, творчай працы. І яшчэ адзін бок таленту Мікалая Мікалаевіча раскрыўся ў савецкі час. Гэта — плённая кампа-

зітарская дзейнасць. Ужо ў 1923 годзе ён адным з першых кампазітараў Савецкага Саюза стварае оперу на рэвалюцыйную тэму «Вызваленая праца». Праз два гады кампазітар закончыў Першую сімфаньету «Беларускія малюнкі», у якой прадэманстраваў высокае прафесіянальнае майстэрства, умельства надзвычай тонка карыстацца народнымі тэмамі і багаты меладычны талент. Не менш шырокую вядомасць атрымаў і адзін з першых камерных твораў кампазітара — яго «Калыханка» для струннага квартэта, у аснову якой пакладзена вядомая беларуская народная дзіцячая песня «Прыляцелі гусі».

Немагчыма пералічыць усё створанае М. М. Чуркіным за гады яго творчай дзейнасці. Дастаткова сказаць, што ім напісаны дзве оперы, дзве музычныя камедыі, тры сімфаньеты, пяць сюіт, уверцюра «Памяці Янкі Купалы», «Рапсодыя», шмат твораў для Дзяржаўнага народнага аркестра, струнныя квартэты, буйныя інструментальныя творы, многа рамансаў, песень, хораў, апрацовак беларускіх народных песень і танцаў. Для ўсіх гэтых твораў характэрна шырокае выкарыстанне беларускай народнай песеннасці, яснасць формы, выдатнае кампазітарскае майстэрства і разам з тым шчырасць прастата, даступнасць,— тыя якасці, якія робяць творы кампазітара надзвычай папулярнымі і любімымі ў народзе.

Нямала зрабіў кампазітар і ў галіне фальклары́стыкі.

19 мая гэтага года грамадскасць Беларусі адзначае 90-годдзе з дня нараджэння народнага артыста рэспублікі Мікалая Мікалаевіча Чуркіна. Семдзесят з іх ён аддаў збіранню лепшых узораў народнай творчасці! Які цудоўны прыклад нястомнага бескарыслівага служэння народу, яго культуры і мастацтву! Кампазітар і зараз працягвае сваю плённую працу і мяркуе ў бліжэйшы час закончыць новую оперу «Раскіданае гняздо». Разам з гэтым час-ад-часу з'яўляюцца новыя творы кампазітара ў самых разнастайных жанрах. І па-ранейшаму ўсе яны вызначаюцца свежасцю, жыццерадаснасцю, маладосцю — той маладосцю, якую мастак чэрпае ў любві да свайго народа і якая сведчыць аб тым, што талент, які атрымаў усенароднае прызнанне, ніколі не старэе.

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ.**

*Размова аб майстэрстве*

Марына БАРСТОК

# АБ ДУХОЎНЫМ БАГАЦЦІ ГЕРОЯ

Тэма сучаснасці, аб якой многа і зацікаўлена гавораць цяпер на пісьменніцкіх з'ездах, на сходах творчай інтэлігенцыі, раскрываецца праз вобразы сучаснікаў, праз жывыя чалавечыя характары. Праўда, такіх герояў, якія сталі б у цэнтры важных гістарычных падзей і глыбока раскрывалі тыповае, характэрнае для нашага часу, у літаратуры апошніх год яшчэ не вельмі многа.

Вядома, што ў любым літаратурным жанры можна паказаць прыкметы часу, адлюстраваць новае ў жыцці і чалавеку. Не толькі раман, аповесць, паэма, але і невялікае апавяданне, верш, байка могуць з'явіцца мастацкім помнікам свайго часу. Аб гэтым сведчаць лірычныя героі твораў Ул. Маякоўскага, А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, А. Куляшова і іншых паэтаў.

Важнай падзеяй у літаратуры апошняга часу з'явілася невялікае па сваіх памерах, але глыбокае па зместу апавяданне М. Шолахава «Лёс чалавека». Яно хвалюе суровай прастатой і праўдай.

Андрэй Сокалаў, герой гэтага твора, вынес усе жахі і нягоды вайны. Ён вельмі многа страціў — сям'ю, дом, душэўны спакой і здароўе. Але ёсць у яго добрая дружба і падтрымка людзей, вера ў сябе і ў жыццё. Гэта вобраз моцнага і мужнага чалавека. які нязломным прайшоў праз усе жыццёвыя выпрабаванні. Чалавек з суровым, трагічным лёсам, Андрэй Сокалаў крочыць па зямлі з малым сваім прыёмным сынам, і ні скаргі, ні нараканняў на лёс не чуем мы ў яго голасе. Суровае жыццё не зрабіла яго неспагадлівым, жорсткім, чэрствым. Наадварот, душэўная мяккасць, сардэчнасць і дабрата раскрыліся ў ім яшчэ з большай сілай. Перад намі — чалавек вялікай духоўнай сілы.

У сэрцы пісьменніка-гуманіста, ды і ў сэрцах чытачоў, ён абуджае боль і ў той жа час вялікую гордасць за свайго суайчынніка, савецкага чалавека.

«І хацелася б думаць,— піша Міхаіл Шолахаў,— што гэты рускі чалавек, чалавек непахіснай волі, выстаіць, і каля бацькоўскага пляча вырасце той, які, падросшы, зможа ўсё выцерпець, усё пераадолець на сваім шляху, калі да гэтага пакліча яго Радзіма».

Бясспрэчным здабыткам савецкай літаратуры з'яўляецца раман Галіны Нікалаевай «Бітва ў даро-

зе». Твор гэты — наватарскі і сучасны па тэме, па вобразнай сістэме, па сваёй ідэйнай сутнасці.

У цэнтры ўвагі пісьменніцы — важныя сацыяльна-філасофскія праблемы аб шляхах развіцця нашай краіны, аб метадах кіраўніцтва прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, аб сапраўдным харастве савецкага чалавека, аб шчасці.

Галоўны герой рамана інжынер Бахіраў у сакавіцкую ноч — ноч смерці І. В. Сталіна — трывожна і пакутліва думае: «Пярэдадзень змен. Якіх? Што памрэ з гэтай смерцю? Што будзе жыць вечна?»

На гэта пытанне мы знаходзім адказ, супаставіўшы два цэнтральныя вобразы рамана. Бахіраў і Вальган — два антыподы. Між імі ідзе непрымірымая барацьба. Вальган — прадстаўнік старой тэндэнцыі, звязанай з культам асобы, а Бахіраў увасабляе тое жывое, творчае, што шукала і знайшло сабе выйсце, прабіўшы шкарлупу знешняй, паказной параднасці. Вобраз Бахірава як станоўчага героя нашага часу — сапраўдная ўдача аўтара. Бахіраў — поўная процілегласць «бліскучаму», паказному Вальгану, які з угодлівасцю кідаецца з адной крайнасці ў другую, толькі б выставіць сябе, толькі б забегчы наперад. Стаўшы галоўным інжынерам на буйным заводзе, Бахіраў спачатку трымае сябе насцярожана, марудна ўваходзіць у новую для яго справу. Многа, здавалася б, непераадольных цяжкасцей сустракаецца на яго шляху. Але ўпорны, таленавіты, увесь адданы рабоце, інжынер Бахіраў самааддана змагаецца за тэхнічны прагрэс, маючы на ўвазе далёкую перспектыву, выйгрывае бітву, і ў гэтым змаганні раскрываецца яго характар. Мы бачым яго ў працы, у дружбе, у разнастайных сувязях з людзьмі і навакольным светам, у роздуме, сумненнях.

Перад намі не ідэальны герой, не схема чалавека, а рэальны, жывы чалавек з усімі сваімі слабымі і моцнымі якасцямі. І гэты чалавек, сціплы, цягавіты, незадаволены сабой, перамагае ў нялёгкай барацьбе.

Не дзеля асабістай славы ці самаўзвелічэння праседжвае галоўны інжынер цэлыя ночы над чарцяжамі і разлікамі, дэталёва вывучае завод, адстойвае новыя метады работы, — ён гэта робіць дзеля агульнай вялікай справы росквіту айчыннай прамысловасці. У самыя цяжкія хвіліны свайго жыцця ён думае ў першую чаргу аб самой справе, аб інтарэсах прадпрыемства і ўсяго калектыву. «Глыба» — гаворыць аб ім Курганаў. «Уедлівы» — характарызуе яго інжынер, таварыш па рабоце. «Чубаты бегемот» — скрозь зубы цэдзіць Вальган. А Бахіраў ідзе сабе сваёю дарогаю. Рабочыя завода бачаць яго адданасць справе і гатовы ісці за ім, дапамагаць яму і адстойваць ад розных несправядлівых нападкаў. У Бахірава расце пачуццё агульнасці з гэтымі людзьмі, з рабочым калектывам. Стаўшы дырэктарам завода, ён адчувае сябе адказным і за асабісты лёс людзей.

Бахіраў жыве вялікімі планамі і вялікімі мэтамі. Ён увесь у напружанні, у імкненні наперад. Пісьменніца не аберагае яго ад жыццёвых нягод, а малюе ўсюды і заўсёды чалавекам, цэльным характарам, верным самому сабе.

Чытаючы раман, мы бачым, як з асноўных жыццёвых пазіцый знікаюць Вальган і яго прыхільнікі і як ажываюць і распраўляюць крылы Анна, Сугробін, Чубасаў, Курганаў, Грынін і разам з імі Бахіраў з яго высокімі імкненнямі і са сваімі чалавечымі слабасцямі, ад якіх ён будзе вызваляцца ў працэсе далейшага ўпартага змагання.

Яркія характары шырокага грамадскага гучання з'явіліся за апошні час у беларускай літаратуры. Гераічныя вобразы Канстанціна Заслонава і Мірона Іванавіча з рамана Міхася Лынькова «Векапомныя дні», Андрэя Касцевіча і Вольгі з рамана Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» — усё гэта характары значныя, цэласныя, прасякнутыя рамантыкай змагання. Падабаюцца чытачу апаэтызаваныя вобразы савецкіх жанчын у раманах Івана Шамякіна — настаўніцы Таццяны Маеўскай, працаўніцы калгаснага сяла Машы Кацуба, а таксама ўрача Наталлі Пятроўны, простай і чалавечнай, цесна звязанай з людзьмі, гатовай на працоўны подзвіг.



Наталля Пятроўна ідзе да людзей з любоўю, з ахвотаю і не толькі як урач, але і як чалавек з добрым і чулым сэрцам. Яна ніколі не адчувала сябе адзінокай. У яе было многа сапраўдных сардэчных сяброў у радасці і ў горы. «Яе клікалі на сустрэчу франтавіка, на вяселле — і яна танцавала там і спявала, шчыра радуючыся шчасцю людзей. Да яе прыходзілі жанчыны з вялікім горам сваім — паведамлялі аб смерці мужа ці сына, і яна плакала разам з імі і над іх і над сваім горам. «Наша Наташа», — гаварылі пра яе ласкава».

Але не толькі ў непасрэднай аўтарскай характарыстыцы выступае перад намі Наталля Пятроўна. Аўтар паказвае яе ў дзеянні, праз яе прафесіянальную, высока гуманістычную справу. Успомнім эпізод, дзе яна выратоўвае ад цяжкай хваробы адзіную дачку немаладых ужо Насці і Кліма. Ды і многія іншыя мясціны, што характарызуюць грамадзянскі воблік урача, напісаны пераканаўча і выразна.

Інжынер Бахіраў у Г. Нікалаевай і ўрач Наталля Пятроўна ў І. Шамякіна паказаны ў першую чаргу як людзі, як пэўныя непаўторныя чалавечыя характары. І раскрываюцца яны, акрамя ўсяго іншага, праз тую справу, якой самааддана служаць, — праз сваю прафесію. Гэта зусім натуральна.

«...У наш час, — пісаў А. Фадзееў, — нельга паказаць вучонага без непасрэднага ўваходжання ў сферу яго навуковай дзейнасці, стаханаўца без яго працы, палкаводца — без уваходжання ў сферу яго стратэгічнага і тактычнага розуму і вопыту, настаўніка — без метадаў яго выкладання».

**Ад таленту** пісьменніка залежыць як з'яднаць, зрабіць арганічным у героі сацыяльна-грамадскае, прафесіянальнае і псіхалагічнае.

У раманах «Бітва ў дарозе» Г. Нікалаевай і «Крыніцы» І. Шамякіна прафесія не засланяе чалавека, а наадварот, дапамагае раскрыць яго характар.

Акрамя Наталлі Пятроўны, у «Крыніцах» мы знаходзім і іншыя цікавыя вобразы. Гэта, у першую чаргу, настаўнік Лемяшэвіч, які ўсім нутром сваім адчуў першародную сілу жыцця і смела пайшоў у яго, выбіраючы для сябе найбольш цяжкую сцяжыну, а таксама старэйшы і малодшы Касцянкі, людзі сумленныя, актыўныя, якія імкнуцца стаць як мага бліжэй да жывых і чыстых крыніц жыцця.

У пасляваенныя гады мы зноў на старонках коласаўскай трылогіі сустрэліся з Андрэем Лабановічам, шукальнікам праўды веку, высокага сэнсу чалавечага існавання. Вобраз гэты сапраўды здзіўляе сваім ідэйным псіхалагічным і эмацыянальным зместам. Коласава майстэрства псіхалагічнага аналізу, уменне раскрыць чалавека знутры і паказаць мнагастайныя сувязі яго з навакольным светам з'яўляецца найлепшым узорам для маладога пісьменніка. «Лабановіч, — зазначае Якуб Колас, — быў хлопец крэпкі, моцна зросшыся з зямлёй і жыццём, любіў гэта жыццё, на парозе якога ён стаяў і росквіт якога для яго толькі што зачынаўся».

І гэты росквіт жыцця, душэўную сувязь з народам, з жывымі яго крыніцамі мы бачым у Лабановічу на працягу ўсёй трылогіі.

Многа новага і цікавага ў сэнсе тыпізацыі, адбору характэрных рыс чалавека можна бачыць і ў раманах П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі», Ул. Карпава «За годам год».

Самае цяжкае ў нялёгкай увогуле літаратурнай працы — гэта стварыць новы, запамінальны чалавечы характар, не падобны па свайму псіхалагічнаму малюнку на тыя характары, якія ўжо існуюць у літаратуры.

Талент, кажуць, пачынаецца з таленавітых адносін да жыцця, з умення адзначыць, заўважыць, адкрыць нешта новае ў жыцці і ў чалавеку. Новае ў сэнсе маралі і этыкі адкрывае ў маладым чалавеку нашага часу драматург В. Розаў у сваіх п'есах «У добры час» і «У пошуках радасці». Нялёгкі пачатак уступлення ў самастойнае працоўнае жыццё паказаў А. Кузняцоў у сваёй аповесці «Працяг легенды». Гэтыя творы сапраўды праблемныя. У іх жывуць, дзейнічаюць, пакутуюць, шукаюць сваіх дарог жывыя людзі, з жывымі страсцямі, пакутамі і радасцямі.

Асноваю ўсякага твора з'яўляецца па-свойму ўбачанае, з новага боку адкрытае пісьменнікам жыццё. Мастацкая літаратура мае мноства прыёмаў і спосабаў стварэння і раскрыцця чалавечых характараў. Майстэрства партрэта з вылучэннем адной або дзвюх характэрных дэталей, паказ зменлівасці самой псіхікі чалавека, уменне перадаць працэс мыслення і ўзнікнення пачуцця праз мову кожнага персанажа,— такія асноўныя рысы пісьменніцкага почырку Льва Талстога. Або ўзяць творы Якуба Коласа, К. Чорнага. Як многа там новых, сапраўды таленавітых заходаў у галіне раскрыцця чалавечай псіхалогіі, стварэння мастацкіх тыпаў! І вельмі шкада, што нашы маладыя пісьменнікі рэдка звяртаюцца да творчасці гэтых майстроў слова, праца якіх над сваімі творамі з'яўляецца сапраўднай школай пісьменніцкага майстэрства.

Калі чытаеш некаторыя творы маладых аўтараў, ствараецца ўражанне, што ім зусім невядомы «сакрэты» пісьменніцкага майстэрства і пакуты творчасці, што яны пішуць проста так, як пішацца.

Возьмем аповесць У. Шыціка «Назаўсёды». Аўтар задаўся мэтай паказаць рабочы калектыў аднаго з прадпрыемстваў. Асноўная задума аўтара, відаць, і заключалася ў тым, каб сцвердзіць думку, што «цэх — моцны калектыў». У беларускай літаратуры яшчэ не вельмі многа твораў, у якіх паказвалася б сапраўдная дружба, згуртаванасць рабочага калектыву. Але ж гэтая думка не знайшла ў творы У. Шыціка свайго мастацкага ўвасаблення. Жыццёвыя назіранні маладога пісьменніка вельмі небагатыя, ды і яны як след не асэнсаваны. Ён бачыць толькі знешні бок жыцця: жывуць, маўляў, на свеце людзі, працуюць, сустракаюцца, расстаюцца,— усё бывае. А заглянуць у глыбіню жыццёвай з'явы, даследаваць яе як след, знайсці яе вытокі і сувязі з іншымі праявамі жыцця аўтару аповесці не ўдалося.

Калі раней у некаторых творах вельмі многа ўвагі аддавалася паказу спецыфічна вытворчых працэсаў, то цяпер, наадварот, заўважаецца схільнасць да другой крайнасці: паказваць герояў толькі ў іх асабістым жыцці. У. Шыцік імкнуўся пазбегнуць гэтых крайнасцей, неяк спалучыць абодва гэтыя планы. Аднак спалучэнне гэтае атрымалася чыста механічным, нежыццёвым. Аўтар не выявіў у гэтай аповесці добрага ведання чалавека, яго псіхалогіі.

У аповесці многа паўтарэнняў, перапеваў. Здаецца, што ўсё гэта ўжо недзе чытана раней. Такі герой, як інжынер Быдзевіч, ужо многа разоў сустракаўся ў літаратуры: чалавек з подлай душой і прыгожай фразай на вуснах, ён лёгка распазнаецца з першых слоў. Толькі вельмі лёгкадумная дзяўчына магла паверыць у каханне Быдзевіча. Нічога новага не адкрыў аўтар і ў вобразе Віктара. Пляменнік прафесара, віднага выхадцы, марыць аб лёгкай кар'еры, аб раскошнай кватэры і ўласнай машыне.

Зусім інакшыя думкі і мары ў заводскай моладзі. Шчаслівыя ў каханні Валя і Аляксей выпісаны бледна. У маладога аўтара не хапіла фарбаў, каб раскрыць вялікую сілу кахання, паказаць, як узбагачае яно чалавека, робіць унутрана прыгажэйшым.

Вельмі спрошчана раскрывае У. Шыцік пачуцці сваіх герояў. Не



ўдалося Савелаву каханне, пачуў «не» ад любімай дзяўчыны, — што ж тут такога! Ёсць, моў, нядрэнны калектыў, ёсць парторг Філіпкоў... Гараваць нечага!

Размовы, якія вядуць героі аповесці «Назаўсёды», вялыя, нецікавыя, трафарэтныя. Смешнымі выглядаюць Сцяпан з Ігнатам, якія па волі аўтара на навагоднім вечары ў кругу дзяўчат загаварылі, як на вытворчай нарадзе:

«— Ты ведаеш, якія задачы стаяць перад намі па пяцігадоваму плану?» — дапытваўся ў сябра Ігнат.

Сцяпан дакладна не ведаў якія і змоўчаў:

«— Там сказана аб павышэнні прадукцыйнасці працы... Гэта азначае, што кожны рабочы павінен павышаць прадукцыйнасць працы, бо ад гэтага залежыць узняццё дабрабыту нашага народа. Але павышэнне прадукцыйнасці заключаецца не толькі ў тым, колькі мы выпрацоўваем, а і ў тым, як працуе наш станок. Грош цана мне будзе, калі я выканаю заданне на трыста працэнтаў, а праз тыдзень ці месяц мой станок трэба будзе паставіць на рамонт».

Пасля такіх не да месца пастаўленых размоў становіцца крыўдна за аўтара, які так збядняе духоўны свет сваіх герояў, робіць іх такімі прымітыўнымі і падобнымі адзін да другога.

Аповесць Р. Сабаленкі «Блакітнае ззянне» расказвае таксама аб знойдзеным шчасці. Адчуваецца, што твор гэты напісаны рукою вопытнага аўтара, у якога калі і няма навізны думак і багацця назіранняў, то заўсёды ёсць багацце мовы і выяўленчых сродкаў.

Сюжэт аповесці просты і мала арыгінальны.

Дзесяцікласніца Валя, расказваецца ў аповесці, не паступіла ў медыцынскі інстытут, аб якім увесь час марыла. Гэта вельмі засмуціла дзяўчыну. Яна стаіць на нейкім раздарожжы і не ведае, куды далей ісці. Чалавек старэйшага пакалення, майстар завода, вучыць дзяўчыну розуму і становіцца прыкладам для яе ў жыцці.

«Я, дзеткі мае, ніколі не каяўся і каяцца не буду, што выбраў сабе дарогу рабочага чалавека,— гаворыць ён. — От бачыце, мне гонар і павага,— і ён паказаў на штрыфель пінжака, на якім пры электрычным святле аж гарэў, пераліваўся маленькі чырвоны сцяжок — значок дэпутата Вярхоўнага Савета БССР.— А вы мазаля не бойцеся. Ён, праўда, спачатку баліць, а потым зачарствее, дык ужо і не баліць. А рука робіцца моцная-моцная. Затое ў нашай краіне рабочай руцэ слава, гонар...»

Аўтар праз усю аповесць супастаўляе двух маладых людзей — Валю, якая, не паступіўшы ў інстытут, усё ж знайшла сваё месца ў жыцці, і Казіка, які паступіў у інстытут, але гэта не выратавала яго ад маральнай спустошанасці і разбэшчанасці. Значыць, справа не ў тым, дзе чалавек працуе ці вучыцца, а ў самім чалавеку, у яго душэўнай моцы, у яго ўнутранай сутнасці. Валя вучыцца ў самога жыцця, у старога майстра, і навука гэтая сапраўдная, моцная, яна западае ў сэрца і памяць назаўсёды. Сапраўдным і шчырым з'яўляецца і Валіна каханне. З любоўю малюе аўтар вобраз сціплага, працавітага хлопца Змітрака, які бачыць многа паэзіі ў самім працэсе працы, у авалоданні прафесійным майстэрствам.

Думаецца, што ў аповесці занадта многа месца адведзена п'яным трызненням Казіка, знешнім супастаўленням і апісанням. А што датычыць раскрыцця самога працэсу духоўнага росту маладой дзяўчыны, якая пастаўлена ў цэнтры аповесці, дык тут Р. Сабаленка занадта абмежаваў сябе.

Якім бывае чалавек, адчуўшы паўнату жыцця? Што ён думае, аб чым марыць, як змяняюцца яго адносіны да людзей? Як багацее і па-новаму раскрываецца яго душа?— аб усім гэтым чытач так і не даведваецца, прачытаўшы аповесць «Блакітнае ззянне».

Навізною тэмы, адкрыццём нейкага новага канфлікту ў жыцці вызначаецца аповесць Міколы Гроднева «Бацькава віна».

Малады інжынер Павел Матыль і яго жонка Маша, аграном па спецыяльнасці, едуць на працу ў родную Паўлаву вёску. У іх многа энергіі, сіл і жадання працаваць на новым месцы. Але многа цяжкасцей і непрыемнасцей чакаюць іх там. Аказваецца, Паўлаў бацька ў час вайны стаў здраднікам, выдаваў фашыстам сумленных савецкіх людзей. Бацькава віна вялікім цяжарам легла на плечы сына. Суседзі папракаюць яго, глядзяць з недавер'ем і нянавісцю. Нават лепшы сябар Віктар цяпер яўна выказваў яму сваю непрыязнасць.

«Ды як тое сэрца будзе ляжаць да Паўла, калі праз яго бацьку Віктар страціў свайго роднага бацьку, сваё юнацтва, адукацыю, здароўе. Можа, Павел не вінаваты, але ўсёроўна таго няма, што было. Нават злосць бярэ, калі ён цяпер, будучы інжынерам з вышэйшай адукацыяй, стаіць побач і пытаецца ў яго, што рабіць». Толькі самаадданая праца можа вярнуць Паўлу давер і павагу людзей. Ён гэта ведае і стараецца з усіх сіл.

У першай частцы М. Гродневу ўдалося псіхалагічна абгрунтаваць паводзіны сваіх герояў, але пад канец ён пайшоў па лініі лёгкага вырашэння жыццёвых цяжкасцей. Маша адразу дабіваецца багатых ураджаяў. Павел праяўляе сваё высакародства і мірыцца з сябрам. Адчуваецца паспешлівае закругленне сюжэтных ліній, а гэта стварае ўражанне нейкай зададзенасці, надае ўсёй аповесці канструктыўны характар.

Павел задуманы як трагічны герой — без віны вінаваты. Але навошта ж гэтую трагедыю вырашаць так лёгка і хутка? Відаць, у жыцці не сустрэнеш такога простага вырашэння даволі складаных канфліктаў. І справа не толькі ў гэтым. Траўма, якую носіць у сабе герой, паглынула ўсе яго душэўныя сілы, неяк адгарадзіла ад свету і людзей, ад вялікіх спраў, якімі жыве калектыў МТС, уся краіна.

Маша звязана з людзьмі толькі абавязкамі службы. Няма ў яе душэўных, сардэчных сувязей з асяроддзем. І яна, і яе муж, гэтыя адукаваныя гараджане, былыя дзеці вёскі, цяпер вельмі заняты сваімі ўласнымі перажываннямі і сямейнымі справамі. Няўжо вакол у жыцці нічога не адбываецца грамадскі значнага?!

На зусім іншай сацыяльнай глебе ўзнік у А. Чарнышэвіча вобраз ціхага, маўклівага адгароджанага ад усяго свету, чалавека — Адама Ждана (апавяданне «Ждан»). Панскі парабак, ён задушаны непасільнай працай. Уяўленні аб свеце і чалавеку ў яго вельмі абмежаваныя. Нічога ён не ведаў і не хацеў ведаць, апрача працы, яды і сну. Нават жаніцьба не ўнесла ў яго жыццё ніякіх змен. Адам увесь час маўчыць, бо яму няма чаго гаварыць, бо ён абыякавы да ўсяго. Ён як бы яшчэ не абудзіўся да жыцця. А далей аўтар паказвае, як нават у такім «ціхім» чалавеку абуджаецца прага помсты да тых, хто зрабіў яго няшчасным, хто пазбавіў усіх жыццёвых радасцей.

У апавяданні А. Чарнышэвіча ёсць глыбокі псіхалагічны і сацыяльны сэнс, арганічнае спалучэнне прыватнага, асабістага з агульным, грамадскім, — якраз тое, чаго не хапае многім творам маладых аўтараў.

Пошукі цікавых, унутрана багатых герояў, арыгінальных характараў — гэта адна з састаўных частак пісьменніцкага майстэрства. У Алены Васілевіч ёсць невялікае апавяданне «Доктар Ваўковіч». Герой яго цікавы перш за ўсё тым, што пададзены ў развіцці характару. Чытач бачыць, што на самай справе ён куды лепшы, высакароднейшы, чым здаецца з першага разу. Погляд на чалавека, падкрэслівае аўтар, павінен быць больш глыбокі, праніклівы, тады і чалавек раскрые самае істотнае, самае запаветнае, што ёсць у яго душы.

Удумліва працуе над вобразам персанажам малады празаік Васіль Быкаў. Яго апавяданне «На возеры» радуе псіхалагічнымі знаходкамі, уменнем заглянуць у душу чалавека. Стары Алёкса моцна пакрыўджаны сваім сынам, які вывучыўся, паехаў у горад і забыўся на бацьку. Але стары нават сабе самому не хоча прызнацца ў гэтым. Яму патрэбна іншая праўда — чалавечая.

«— Ён у мяне добры, — казаў тым часам стары. — Бывала, маленькі быў, такі белагаловенькі, усё есці насіў на ніву. Прыдзе, сядзіць на ўзмежку ці ходзіць за канём і ўсё пытае: што гэта, што тое? А ўвечары я яго на плячах дамоў нясу, да сяла дайду, глядзь — а ён ужо спіць.

Ён і цяпер добры... Надоечы, значыць, пасылку праслаў: папяросак».

Мішка, дзедаў субяседнік, ведае, што ніякіх пасылак ад сына старому не было і не будзе. Але ён слухае і любуецца старым, які суцяшае сам сябе і верыць у сваю шчырую няпраўду. І грубаваты Мішка Бурбон, які і сам не прэч быў пакрыўдзіць дзеда, цяпер зусім іншымі вачамі паглядзеў на яго. Яму адкрылася непераможная сіла чалавечай дабраты і неразгаданая загадка чалавечых адносін.

«— Толькі ведаеце, дзядзька, — раптам сказаў Мішка. — Усё ж, калі траплю ў горад, знайду вашага Восіпа і наб'ю яму морду. Нягоднік ён, вось хто!..

Алёкса ўздрыгнуў. Ён ураз зразумеў і няўдачу сваёй хітрасці і нечаканую Мішкаву спагаду — старэчыя вочы яго хуценька заміргалі. Трэба было ісці дамоў, але ён чамусьці стаяў на беразе і ўсё моўчкі глядзеў на спрытнага юнака».

Ёсць тут і падтэкст і ўменне паказаць нечаканыя псіхалагічныя павароты тонкай думкі.

Няўдачы многіх пісьменнікаў, асабліва маладзейшых, тлумачацца малой вопытнасцю іх у галіне літаратурнай творчасці і — галоўнае — слабым веданнем жыцця, няўменнем даследаваць і бачыць яго жывыя вытокі.

Майстэрства пісьменніка, як вядома, не толькі ў багацці стылістычных прыёмаў, а ў тым, каб быць сапраўдным інжынерам чалавечых душ, мець сваё сталае і глыбокае разуменне жыцця. Больш смеласці ў шуканнях, больш увагі да жыцця, да людзей, — заклікае партыя нашу творчую інтэлігенцыю, якая павінна адлюстраваць новы, важны паварот у гісторыі нашай краіны.

У жыцці цяпер адбываюцца новыя, глыбінныя працэсы. Узяць хоць бы такі момант. На вытворчасць прыйшлі цяпер маладыя сілы, людзі, якія закончылі сярэднюю школу, атрымалі адукацыю. У сувязі з гэтым адбываюцца пэўныя змены ў самім рабочым асяроддзі. Раскрыць, паказаць гэты працэс — вельмі важна.

Штодзённа і ўважліва вывучаць жыццё, канкрэтную сферу дзейнасці будучага героя, умець бачыць яго цэласна ў грамадскім і асабістым, такім, якім ён і з'яўляецца ў жыцці, глыбей раскрываць духоўны свет чалавека-будаўніка, ствараць тыповыя і яркія характары — у гэтым і заключаецца пісьменніцкае майстэрства.

*Публікацыі*

# МАЛАДЗЁЖНЫЯ РУКАПІСНЫЯ ЧАСОПІСЫ Ў ДАРЭВАЛЮЦЫЙНАЙ БЕЛАРУСІ

Першая буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1905—1907 гг. у Расіі прывяла ў дзеянне мільённыя масы прыгнечаных народаў, узрушыла сэрцы і розумы людзей. Ідэі марксізма-ленінізма, заклікі бальшавікоў да барацьбы з царскім самаўладствам за волю і свабоду, за шчаслівую будучыню, за камуністычнае заўтра ўсё глыбей і глыбей пранікалі ў масы.

Асабліва схільнай да ўспрыняцця новых ідэй і заклікаў да барацьбы з тыраніяй і самаўладствам была моладзь. У данясенні мінскага губернатара ад 2 лістапада 1905 года ў дэпартамент паліцыі аб масавых забастоўках і дэманстрацыях у беларускім мястэчку Капылі асобна падкрэслівалася, што «22 і 23 кастрычніка капыльская моладзь у ліку да 100 чалавек некалькі разоў прабавала правесці дэманстрацыі»...

Кіруючае ядро Капыльскай сацыял-дэмакратычнай групы ў асноўным складала рабочая і сялянская моладзь: Зміцер Жылуновіч, Рыгор Шкурынскі, Радзіён Шкірыч, Хведар Станілевіч, Рыгор Чарнушэвіч і іншыя. У хаце Чарнушэвіча размяшчалася тайная бібліятэка сацыял-дэмакратаў. У 1909 годзе ў члены сацыял-дэмакратычнай групы ўступаюць Алесь Гурло і Хведар Чарнушэвіч — будучыя беларускія паэты. У сваім аўтабіяграфічным нарысе (1923 г.) А. Гурло аб гэтым перыядзе ўспамінаў: «Капыль у той час жыў нейкім асабістым ад іншых глухіх куткоў жыццём: моладзь складала розныя гурткі ў залежнасці ад сталасці, а разам з тым і патрэб душы. Былі і асветныя, існаваўшыя яўна, і тайныя палітычныя, былі і адпавядаўшыя той і другой мэце разам. Я, Чарнушэвіч (беларускі паэт) і іншыя прагнемся ўсёй душой мецъ сувязь з гэтымі гурткамі і, здаецца, у 1908 годзе (дакладна ў 1909 г. — **А. К.**) знаёмімся з выдатнымі ўдзельнікамі рэвалюцыйнага руху Капыля (Жылуновічам, Станілевічам) і ўваходзім раўнапраўнымі сябрамі ў іх гурток. Душа рвецца к дзейнасці, хочацца шырокага размаху, але рэвалюцыйны прыліў супакойваецца, мацнее сіла рэакцыі; Капыль, да 1905 года не бачыўшы настаяшчага паліцэйскага, цяпер дрыжыць ад конных і пешых стражнікаў».

Не спыніла рэвалюцыйнай работы капыльская моладзь і ў гады рэакцыі. Работа гэтая значна ажывілася з першымі крокамі новага рэвалюцыйнага ўздыму. Маладыя энтузіясты сацыял-дэмакратычнай групы ў 1910 годзе арганізоўваюць гурток пад назвай «Самаразвіццё і самаадукацыя». Члены гуртка прынялі пэўны статут, у якім было адзначана, што яны будуць абмяркоўваць «ход палітычных падзей і галоўнейшых цячэнняў у сучаснай літаратуры», што ў сваю чаргу будзе садзейнічаць выпрацоўцы ў саміх сябе «больш цэласнага светапогляду». Было вырашана выдаваць свой



рукапісны орган — літаратурна-грамадскі двухтыднёвы часопіс на рускай мове пад назвай «Заря». Нумароў часопіса «Заря» не ўдалося адшукаць. Але некаторыя звесткі аб матэрыялах часопіса захаваліся ў тагачасным перыядычным друку. З іх мы даведваемся, што рэдакцыйную калегію часопіса складала выключна рабоча-сялянская моладзь. Рэдактарам першых шасці нумароў быў Антон Хмара — муляр па спецыяльнасці. З шостага нумара часопіс рэдагаваў беззямельны малады селянін Аляксандр Неўлін. Абавязкі сакратара выконваў С. Сцефановіч, пільшчык па прафесіі. Выдаўцом часопіса быў В. Зорка, кравец, які радаваўся таму, што можа «як-небудзь напісаць пра гора мужыка ды пра ідэі сацыялізма».

Асноўнымі аддзеламі ў часопісе лічыліся тры — белетрыстыкі, літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі.

У аддзеле белетрыстыкі змяшчаліся першыя спробы пяра гурткоўцаў. У іх яны расказвалі аб тым, што самі перажылі і з чым сутыкаліся ў штодзённым жыцці. Характэрна, што героямі твораў часцей за ўсё былі маладыя рабочыя і сяляне.

Заслугоўваюць увагі артыкулы, змешчаныя ў аддзеле літаратурнай крытыкі. Аўтары артыкулаў перш за ўсё правільна вызначалі ролю пісьменніка, мастака ў жыцці народа. Пісьменнікі, сцвярджалі яны, мацней за ўсё павінны быць звязаны з народам. С. Сцефановіч у артыкуле «Рабочий и интеллигент» востра і з'едліва крытыкаваў дэкадэнтаў і мадэрністаў, якія ў гады сталыпінскай рэакцыі аплёўвалі рэвалюцыю.

У другой палове 1910 года часопіс «Заря» спыніў сваю дзейнасць. На гэта было многа прычын. Для выпуску рукапіснага часопіса патрабавалася шмат часу, энергіі, у той час як матэрыяльнае становішча супрацоўнікаў рэдакцыі было надзвычай цяжкім. Зарабіць на пражыццё ў Капылі не было дзе. Таму многія з юнакоў пачалі думаць аб горадзе. Сабіраліся ў дарогу А. Гурло і Хв. Станілевіч, З. Жылуновіч у пошуках работы вандраваў па Беларусі і Украіне, Латвіі і Літве. Ён аб'ездзіў найбольш буйныя прамысловыя цэнтры, пазнаёміўся з працай многіх сацыял-дэмакратычных арганізацый, значна пашырыўшы свой кругагляд.

У красавіку 1911 года З. Жылуновіч прыехаў у адпачынак да сваёй маці ў Капыль. Сустрэўшыся з ранейшымі сябрамі, членамі сацыял-дэмакратычнай групы, ён дамовіўся правесці партыйны сход, на якім абмеркаваць і становішча літаратурных спраў. На сходзе было вырашана аднавіць выпуск рукапіснага часопіса, але ўжо пад назвай «Голос низа», а таксама выдаваць зборнік твораў на беларускай мове «Вольная думка».

Рэдактарам часопіса быў абраны З. Жылуновіч, выдаўцом стаў А. Гразілаў. Было вырашана першы нумар «Голоса низа» прысвяціць 1 Мая.

Нам удалося знайсці чатыры нумары (1, 2, 3 і 10) часопіса



«Голос низа». Як звычайна, першы нумар, і ў прыватнасці яго перадавы артыкул, лічацца праграмнымі, па іх вызначаюць напрамак часопіса ці газеты. На тытульным лісце часопіса стаіць дата «1-га мая 1911 года». У перадавым артыкуле пад назвай «Первое мая» (аўтар артыкула Люцьянаў) чытаем: «Товарищи! Светлый и великий день мы выбрали, чтобы выпустить в свет первый № нашего журнала и этим самым связываем мы будущую деятельность нашу незримыми узами с идеалами и стремлениями, которые олицетворяет в себе Первое мая!»

Характэрнай асаблівасцю большасці твораў часопіса з'яўляецца актыўнае ўмяшанне ў жыццё. У многіх з іх адлюстраваны імкненні народных мас да свабоды, да сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення. Паэт Шулятнік у вершы «Кто вы?» пісаў:

— Мы чёрные люди-рабы,
Мы дети родного народа,
И хочем мы вечной борьбы
За счастье людское — свободу.

Аптымізмам прасякнуты вершы аб прыродзе, з якой паэты цесна звязаны. Асабліва многа твораў аб вясне, бо вясна з'яўляецца сімвалам жыцця.

У публіцыстычных артыкулах аўтары ў агульных рысах прабавалі паказаць сацыяльна-эканамічнае і палітычнае жыццё Расіі, а на гэтым фоне і Беларусі.

Адначасова з трэцім нумарам «Голоса низа» выйшаў першы нумар часопіса «Вольная думка» на беларускай мове. Часопіс «Вольная думка» разглядаўся як дадатак да «Голоса низа» і выдаваўся тым жа рэдакцыйным складам пры ўдзеле тых жа супрацоўнікаў.

Л. Н. Клейнбарт, які ў свой час меў магчымасць чытаць «Вольную думку», сцвярджаў, што зборнік гэты па зместу і агульнаму напрамку нічым не адрозніваўся ад часопіса «Голос низа», за выключэннем таго, што выдаваўся на беларускай мове.

Пасля выезду з Капыля З. Жылуновіча, а пазней Алеся Гурло і Станілевіча, выпуск «Голоса низа» і «Вольнай думкі» быў спынены і іх выданне больш не аднаўлялася.

З мэтай канспірацыі кожны супрацоўнік часопіса не падпісваў твор ці артыкул сапраўдным прозвішчам, а меў свой псеўданім. Рэдактар першых нумароў часопіса «Голос низа» паэт, празаік і публіцыст З. Жылуновіч (Цішка Гартны) выступаў пад псеўданімам Шулятнік і Капылянін. Пад псеўданімам Л. Эха змяшчаў свае творы Алесь Гурло. Хведар Чарнушэвіч вядомы як Н. Буржэнін, а Зміцер Чарнушэвіч як Д. Жураўлёў і інш. Гэта былі «пісьменнікі-самавукі», тыя маладыя людзі, якія, гаворачы словамі А. М. Горкага, падніміліся ад зямлі насустрач культуры з «працягнутымі да творчай работы рукамі». Іх творы прасякнуты вялікай любоўю да чалавека, жаданнем бачыць яго гаспадаром жыцця.

Сам факт выдання рукапісных літаратурна-публіцыстычных часопісаў у Беларусі групай сацыял-дэмакратычнай моладзі пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг. заслугоўвае быць адзначаным у гісторыі развіцця дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры, тым больш, што гэтыя часопісы былі своеасаблівай школай, з якой вышлі вядомыя беларускія пісьменнікі Цішка Гартны, Алесь Гурло, Хведар Чарнушэвіч і др.

Рукапісныя часопісы паказваюць тыя сцежкі, па якіх думка абуджанага рэвалюцыяй беларускага рабочага і селяніна шукала сабе выйсця на шырокую дарогу друкаванага слова.

**А. КЛАЧКО.**

# Бібліяграфія

## РОЗДУМ ПАЭТА

Наіўна было б шукаць у лірычных вершах паэта канкрэтныя факты яго біяграфіі. Наўрад ці возьме хто-небудзь на сябе смеласць, прачытаўшы зборнік вершаў, дакладна ўстанавіць жыццёвы шлях аўтара. Гэта бясспрэчна. Але бясспрэчна і другое. Па тым, што выклікае ў паэта замілаванне, па самой тэме яго роздуму, нават па вобразнаму ладу вершаў заўсёды можна вызначыць вытокі эмацыянальнай накіраванасці яго творчасці.

У маленькай біяграфічнай даведцы да зборніка вершаў Янкі Непачаловіча «Мера любві» * мы чытаем: «У час Айчыннай вайны быў сувязным партызанскай брыгады імя Кірава». Куды больш за прадмову расказваюць пра паэта яго вершы. Яны паказваюць, які глыбокі след у яго душы пакінула вайна, гавораць пра нянавісць да тых, хто прынёс на родную зямлю пакуты і разбурэнне, пра савецкага чалавека, які ў кожную хвіліну гатовы быў выступіць на абарону Радзімы, свабоды і шчасця савецкіх людзей.

... Вярнуўся салдат з вайны. Няма ў яго іншага падарунка дзецям, апрача чэрствага салдацкага хлеба. І дзеці ўвесь да крошкі з'елі гэты хлеб. А бацька:

Гатоў быў рушыць зноў дарогай,
Дзе кроў праліў, пазнаў шпіталі,
Каб дзеці хлеба больш такога
У жыцці сваім павек не зналі.
(«Калі з вайны вярнуўся бацька»).

Усяго тры страфы ў гэтым вершы, а як многа сказана! І гора, і мужнасць, і пяшчота, і рашучасць нарадзіліся ў душы салдата-бацькі. Гэтымі пачуццямі ўзрушана і душа чытача.

Яшчэ больш хвалюючы верш «Калючыя драты». У ім аж кіпіць гнеўны пратэст супраць зверстваў фашыстаў, супраць няволі—калючага дроту, якім «спавіты край быў родны», за якім «жывых закопвалі зямлёй».

Ідэйная накіраванасць зборніка вызначаецца ўжо яго назвай. Невымерная сыноўняя любоў да Радзімы—асноўная тэма кнігі. У вершы, які даў назву зборніку, паэт гаворыць:

Даўно усё вымераць змаглі мы, —
Ніхто ж дагэтуль не знайшоў,
Чым вымераць нам да Радзімы
Сваю нязмерную любоў.

Любоўю да Радзімы выкліканы і вершы пра вайну, і вершы пра прыроду, і паэтычны роздум аўтара над жыццём.

Роздум пра тое, што бачана і перажыта — улюбёная форма размовы паэта з чытачом. Янка Непачаловіч умее знайсці якраз тое слова, якое патрэбна, каб расказаць пра свае жыццёвыя назіранні, пра свае адчуванні. Паэт любіць падумаць аб прычынах радасці і смутку, аб дружбе і абавязку. І ў большасці выпадкаў роздум гэты паэтычны, вобразны, пададзены праз прызму мастацкага светаўспрымання.

Па-рознаму ацэньваюцца з'явы жыцця ў маладосці і ў перыяд сталасці. Многім давялося гэта адчуць па сабе. Задумаўся пра гэта і паэт, і расказаў пра свае думкі цікава і праўдзіва ў вершы «Сталасць».

Свежыя думкі знойдзе чытач і ў такіх вершах, як: «Мой гадзіннік», «Зрываючы лісток календара», дзе простыя, будзённыя з'явы асэнсаваны паэтычна; у вершах, якія прасякнуты народнай мудрасцю і закранаюць маральныя тэмы: «Пра сэрца», «Моцныя рукі».

Янка Непачаловіч умее глядзець і слухаць, умее і назіраць. Ён імкнецца паглыбіцца ў прыроду з'яў, па-філасофску асэнсаваць іх, паказаць іх праз вобраз, часам сімвалічны. Праўда, на гэтым шляху паэта часам падсцерагаюць няўдачы. Не кожная жыццёвая з'ява патрабуе абагульнення, не заўсёды ёсць падставы для філасофскіх высноў. А паэту абавязкова хочацца «нацягнуць» усё ўбачанае да памераў сімвала. Вось чаму

* Янка Непачаловіч. «Мера любві». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1958.

ў яго вершах часам сімвал узнікае дзеля сімвала, глыбокадумнасць робіцца наўмыснай. Такія вершы «Вятрак», «Даведкі», «Шавец», «Плады». Ніводзін з іх не вызначаецца асаблівай глыбінёю думкі, а прэтэнзія на глыбокадумнасць у іх ёсць і, нажаль, толькі прэтэнзія.

Паэт часам забывае, што рыфмаванне прапісных ісцін, прасталінейнасць, напышлівасць проціпаказаны для паэзіі. Што новае, напрыклад, сказаў ён у вершы «Вясна і маладосць», зноў параўноўваючы гэтых паэтычных «сясцёр»? Навошта спатрэбіўся залішне прыўзняты тон у вершы «Новая кватэра»? Лірычны герой гэтага верша дае ўрачыстае абяцанне горы перавярнуць у адказ на тое, што атрымаў новую кватэру. Што ж, новая кватэра — гэта вельмі добра, вядома. Але ці ж гэта падстава для такіх узнёслых прысяг? Аўтару тут яўна здрадзіла пачуццё меры і паэтычны густ.

«Па чым чалавек пазнаецца» і «Слова краўца», на першы погляд, вершы зусім розныя. У першым раскрываецца маральны воблік чалавека, у другім гаворыцца пра стыль адзення, пра моду. Але агульнае ў іх — паведамленне чытачу прапісной ісціны: «разумны — разумнае скажа», «сумленны — сумленнасць пакажа», «скромны — скромна і адзеты»...

Часам, вядома, бывае, што даўно вядомая ісціна раптам раскрываецца пісьменнікам зусім з іншага боку, пераасэнсоўваецца. У прыведзеных вершах гэтага, нажаль, не адбылося.

Цікава, дасціпна, у лёгкім, натуральным тоне напісаны вершы «Стары халасцяк» і асабліва — «Этнограф на рынку». За рознымі пакупкамі ідуць людзі на рынак, а этнограф шукае тут тое, што народ не прадае за чырвонцы:

З базару людзі валяць валам,
Хто мёд нясе, а хто — касу...
А я — не многа і не мала —
Сто новых прыказак нясу.

І тэма, і яе вырашэнне, і настрой верша — усё заслугоўвае ўвагі. Тут знойдзена незвычайнае і цікавае.

Янка Непачаловіч многа і ўсхвалявана піша пра каханне. Вершы на гэтую тэму напісаны не ўсе роўна. Адны ўспрымаюцца без агаворак. Наконт іншых хочацца паспрачацца. Найбольш удалыя з іх, мусіць, «Вернасць», прасякнуты вялікім пачуццём, з ноткай смутку, і «У ролях закаханых» — натуральны, жыццерадасны. Верш «Здрадзіла», напісаны ў выглядзе страснага маналогу, некалькі залішне рытарычнага. Дэкларатыўныя, прасталінейныя радкі:

«Рашано! Над нашым я каханнем
Раз і назаўсёды стаўлю крыж»...—

урываюцца дысанансам у агульны строй верша сваёй рацыяналістычнасцю і традыцыйнасцю.

Прыкметна недапрацаванасць і ў добрым вершы «Пераношу я цябе праз лужы». З чатырох строф ў першых трох цалкам выражана думка. Чацвёртая страфа не дадае нічога новага, і яе выключэнне з верша прынесла б толькі карысць, бо разам з ёю знікла б і надакучлівая метафара «ключы ад сэрца».

Гаворачы пра першую кнігу аўтара,— пачатак яго сапраўднага паэтычнага шляху,— хацелася больш падрабязна спыніцца на недахопах і недакладнасцях у яго вершах з тым, каб наступныя творы былі сапраўды бездакорнымі.

У вершы «Я павінен з ёй сустрэцца» паэт піша:

Не заўважыў той часінай,
Чым яна прываражыла:
Мо' сваёю блузкай сіняй...

Лірычны герой усхваляваны, ён зачараваны выпадкова сустрэтай дзяўчынай. Ён шукае яе ўсюды. Прычым жа тут блузка? Ці тая гэта адзіная, патрэбная дэталь? Здаецца, не.

У вершы «З табою» таксама не ўсё да канца прадумана. Паэт расказвае, як дружна, душа ў душу, жывуць ён і яна. І вось радкі:

Прыду з работы — бачу я,
Працуеш за дваіх...

Паэту трэба больш працаваць і над выразнасцю гучання паэтычнага радка, над слоўнай тканінаю верша, а часам і над граматычнай правільнасцю сказа. У вершах не павінна быць такіх цяжкіх радкоў, як:

З дрэў калі б дасталі мін
асколкі —
Іх цягнік, напэўна б, не павёз...
(«Ляснік».)

Зусім недаравальная граматычная непісьменнасць, накшталт:

Адчуўшы радасці прыліў,
Яму здалося ўсё прыгожым.
(«Права на радасць».)

Добра, што такія агрэхі не частыя ў Янкі Непачаловіча.



Разнастайная рытміка вершаў, цікавыя параўнанні, дакладныя, яркія вобразы ў большасці вершаў сведчаць аб тым, што паэт імкнецца да ўдасканалення свайго майстэрства.

Першая кніга — вялікая падзея ў жыцці паэта. Упершыню раскрывае ён сваю душу перад велізарнай арміяй чытачоў, упершыню атрымлівае магчымасць на ўвесь голас падзяліцца тым, што яго захапляе, хвалюе, радуе. Аўтар зборніка «Мера любві» добра сам сказаў пра гэта ў вершы «Права на радасць»:

Калі ж упершыню паэт
Пачуе песні сваёй словы,
Тады і ён, як Архімед,
Пра адкрыццё крычаць гатовы.
На гэта права мае ён,
Бо верш яго людзьмі пяецца:
Адкрыты, значыць, ім закон,
Якім жывуць людскія сэрцы.

Так, першая кніга — гэта, бясспрэчна, радасць, і паэт мае на яе права. Але першая кніга—гэта яшчэ і вялікая адказнасць перад чытачом, гэта заяўка на будучыню, гэта абяцанне новых сустрэч, новых адкрыццяў. Хочацца верыць, што Янка Непачаловіч будзе яшчэ шмат і ўпарта працаваць, каб прапаноўваць чытачу багатыя па зместу і дасканалыя па форме вершы.

**Р. ПІАТУХОЎСКАЯ.**

# ПЕРШАЯ КНІГА

Мінулы год быў ураджайны на маладую паэзію. Сярод выдадзеных кніг мы рады бачыць зборнік вершаў нашага земляка з вёскі Рахавічы Уладзіслава Нядзведскага.

«Вясновыя барозны»—першая кніга маладога аўтара, па якой можна меркаваць аб своеасаблівасці яго паэтычнага голасу. А гэты голас у Нядзведскага—малады, шчыры, свежы. Крыніцу свайго натхнення малады паэт бачыць у жыцці. У вершы «Спадчына», якім адкрываецца зборнік, ён гаворыць:

Пра бязмежжа калгасных палёў
Помню песню шчаслівую матчыну.
З песняй той да Радзімы любоў
Назаўжды дасталася мне ў
спадчыну.
Адыходзіў мой бацька ў паход,—
Слёзы ўцёр мне далоняй гарачаю.
Мне да ворагаў з часу таго
Засталася нянавісць у спадчыну.
Помню брата—у няроўным баі
Ім апошні патрон быў патрачаны.
Назаўжды я пакляўся над ім
Мір адстойваць—нашчадкам
у спадчыну.

Лірычны герой паэта — чалавек, чыё жыццё напоўнена светлымі імкненнямі, чалавек, які сваю працу дорыць народу і ў гэтым знаходзіць сваё сапраўднае шчасце. Аб радасці жыцця і працы гаворыцца ў вершах «Кінамеханік», «Адказ» і інш. Усяго дванаццаць радкоў мае верш «Ты з намі не ехаў»., аднак ён хвалюе, прымушае задумацца.

Уладзіслаў Нядзведскі—ураджэнец Ленінскага раёна Брэсцкай вобласці. Там прайшло яго дзяцінства, там у Айчынную вайну загінулі яго бацькі. Жыццё ў гэтым былым партызанскім краі паклала на творчасць Нядзведскага значны адбітак. Партызанская тэма з'яўляецца адной з вядучых у творах паэта. Вершы «На партызанскім аэрадроме», «На Слуцкай шашы», «Дружба» апавядаюць аб незабыўных старонках з жыцця беларускага народа. Дарэчы, не толькі па назвах, але і па скупых малюнках пейзажу ў творах паэта мы пазнаем родную Беларусь, прыгажосць яе прыроды.

Зразумела, у першай кніжцы ёсць і некаторыя недахопы, як, напрыклад, паэтычная невыразнасць, прыземленасць радка:

Патрэбна ісці і ў час
Урокі правесці ў школе,
А потым сабраць свой клас
І бульбу садзіць у полі.
Увечары ў клубе сход—
Чакаюць мяне з дакладам...

Тое ж можна сказаць і пра верш «Радзіма». Канцоўка верша «Над Гайнай» (дзяўчаты «сэрцы хлапечыя бралі ў палон») не з'яўляецца творчай знаходкай аўтара.

І ўсё ж, нягледзячы на гэтыя недахопы, надрукаваныя ў зборніку вершы чытаюцца з цікавасцю.

**А. ГАРДЗІЦКІ.**

# У свеце мастацтва

## НЕЎМІРУЧЫ ВОБРАЗ ПРАВАДЫРА

У савецкай драматургіі няма больш папулярных твораў, чым трылогія М. Пагодзіна аб Уладзіміру Ільічу, удастоеная Ленінскай прэміі. Калі ў першых двух частках трылогіі — «Чалавек з ружжом» і «Крамлёўскія куранты» — мы бачым вялікага правадыра кіраўніком, натхніцелем, арганізатарам падзей Вялікага Кастрычніка і перамог грамадзянскай вайны, дык апошняя частка — «Трэцяя патэтычная» — узнаўляе старонкі з жыцця Уладзіміра Ільіча ў суровыя для краіны гады, калі прыйшлося аднаўляць разбураную пасля вайны гаспадарку.

«Трэцяя патэтычная» ў пастаноўцы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы—гэта рамантычна ўзнёслы і разам з тым глыбока рэалістычны паказ таго, як сцвярджалася неўміручасць ленінскіх ідэй. Спектакль гэты з'яўляецца вялікім дасягненнем не толькі калектыву купалаўцаў, але і ўсяго тэатральнага мастацтва Беларусі. Незабыўнае ўражанне пакідае народны артыст СССР Б. Платонаў у ролі У. І. Леніна (глядзі ўкладку ў нашым часопісе). Гледачу часам здаецца, што ён бачыць перад сабою жывога Ільіча. Глыбока раскрыў аблічча капіталіста Гваздзіліна народны артыст БССР Л. Рахленка. Гэты вораг рэвалюцыі магутны, валявы і злы. Заслужаны артыст БССР Б. Кудраўцаў стварыў прывабны вобраз былога рабочага, чэкіста Фёдара Дзятлава.

Прыемна адзначыць вялікі творчы рост маладых артыстаў, выхаванцаў Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута: В. Тарасава (Валерык, брат інжынера-камуніста Іпаліта Сестрарэцкага), Г. Аўсянікава (малады рабочы Проня), маладога акцёра Ю. Шумакова (мастак-фармаліст Лаўруха Кумакін). Добра вядуць свае ролі Е. Рынковіч (Насця), М. Кін-Камінскі (Іпаліт Сестрарэцкі), заслужаныя артысты БССР П. Пекур (Сухажылаў) і А. Бараноўскі (дворнік Абдзільда).

Пастаноўшчык «Трэцяй патэтычнай» рэжысёр Б. Эрын прадумаў спектакль ва ўсіх падрабязнасцях, знайшоў для яго цікавую сцэнічную форму, шмат добрых дэталей, як, напрыклад, выкарыстанне саліруючага рояля.

Хвалюючую музыку да спектакля напісаў народны артыст СССР Я. Цікоцкі, выразныя дэкарацыі зроблены заслужаным дзеячом мастацтваў БССР А. Грыгар'янцам.

Цудоўны спектакль аб вялікім Леніне на сцэне нашага акадэмічнага тэатра з'яўляецца выдатным падарункам купалаўцаў сваім гледачам.

**В. БАРХАТАВА.**

## ОПЕРА НА САМАДЗЕЙНАЙ СЦЭНЕ

Некалькі месяцаў назад у Віцебску паявілася афіша, якая зацікавіла многіх: Палац культуры аблпрамсавета рыхтуе да пастаноўкі оперу Гулак-Арцямоўскага «Запарожац за Дунаем». Опера на самадзейнай сцэне... Гэта сапраўды нешта новае ў культурным жыцці горада.

...Думка аб пастаноўцы оперы нарадзілася ў мастацкіх кіраўнікоў Палаца не адразу. Спачатку ішла размова толькі аб дуэце Адаркі і Карася.





**Сцэна з оперы «Запарожац за Дунаем», пастаўленай самадзейным калектывам Палаца культуры Віцебскага аблпрамсавета.**

Фота С. Капелькі (БЕЛТА).

І вось калі гэты дуэт быў паспяхова выкананы самадзейнымі спевакамі Аркадзем Шалкам і Асяй Мінаевай, у кіраўніка хору Азарыя Давыдавіча Батштэйна ўзнікла думка: а чаму б не паспрабаваць паставіць усю оперу?

Пачалася напружаная праца. За справу ўзяліся ўсе: і хор, і драматычны калектыў, і танцавальная група.

Ужо на самым пачатку ўзнікла шмат цяжкасцей. Трэба было падабраць выканаўцаў з добрымі галасамі.

«Хто будзе Аксанай?», — гэтае пытанне не давала спакою кіраўніку вакальнай часткі Батштэйну.

— І вось на абласной дэкадзе, — расказвае ён, — мы раптам заўважылі «сапраўдную» Аксану. У мастацкай самадзейнасці выступала маладая здольная дзяўчына, афіцыянтка з санаторыя «Лётцы» В. Мезіт. Потым пачаліся пошукі выканаўцы партыі Андрэя. Хутка знайшлі і яго. Для гэтай ролі добра падышоў ваеннаслужачы Валодзя Емельяненка, які валодае лірычным тэнарам. У ролі турэцкага султана выступіў электраманцёр Валодзя Шутураў.

Самадзейныя акцёры не ведалі нот. Гэта ўскладняла работу — прыходзілася развучваць мелодыі на слых. Сустракаліся і іншыя замінкі: цяжка было сабрацца ў вызначаны час 85 чалавекам разам — у каго праца, у каго вучоба ў вячэрняй школе або хатнія справы. Трэба было неяк прыстасоўвацца да кожнага выканаўцы асобна.



**У ролі Аксаны камсамолка Веранікa Мезіт.**

Хапала работы ўсім: і дырыжору Рабунскаму, і пастаноўшчыку танцаў Мухартаву, і рэжысёру Броўкіну.

Шмат папрацаваў над афармленнем оперы заслужаны дзеяч мастацтваў БССР мастак Нікалаеў.

Ужо каторы раз збіраліся на рэпетыцыі самадзейныя артысты. Аднак справа рухалася марудна. Паасобку ва ўсіх атрымоўвалася нядрэнна: прыгожа спявалі салісты, хораша танцавалі ўдзельнікі масавых сцэн... Аднак самадзейныя артысты доўга не маглі дасягнуць зладжанасці, ансамблю, а без гэтага не можа быць сапраўднага спектакля. Нарэшце прыйшло і гэта: напружаная праца ўзяла сваё.

І вось надышоў вечар прэм'еры. Хваляваліся гледачы, а яшчэ больш — артысты.

... Узнімаецца заслона. На сцэну выходзіць Аркадзь Шалк, начальнік пажарнай аховы Палаца культуры. Ён іграе адну з вядучых роляў — Івана Карася. Манера свабодна трымацца на сцэне, прыемны голас, выразная дыкцыя выклікаюць сімпатыю ў гледачоў.

Ігра Асі Мінаевай — работніцы Палаца культуры, якая выступіла ў ролі Адаркі, пакінула яшчэ большае ўражанне. Зачараваў слухачоў яе прыгожы голас, здольнасць глыбока адчуваць і перадаваць драматызм сітуацый, натуральнасць кожнага руху.

Пасняхова справіліся са сваімі ролямі і іншыя выканаўцы. Віцябляне ад душы апладыравалі самадзейным артыстам за іх высокае майстэрства.

Пастаноўка оперы Гулак-Арцямоўскага «Запарожац за Дунаем» — яркае сведчанне таго, якая багатая талентамі наша моладзь: ёй пад сілу любая творчая задача.

**Л. ЖУРАЎЛЁВА.**



Адарка — Ася Мінаева і Карась — Аркадзь Шалк.

# У МІНСКІМ ЦЫРКУ

У новым, зімовым цырку адбыўся паказ двух першых праграм.

... Прасторны светлы будынак з вялізным жалезабетонным купалам і стройнай каланадай, як толькі вызваліўся ад рыштаванняў, адразу прыцягнуў увагу мінчан. Ён вырас на цэнтральнай магістралі горада, на беразе Свіслачы, і ўпрыгожыў сабою яшчэ адзін куток беларускай сталіцы.

А ў той вечар, калі адбылося адкрыццё, цырк здаваўся яшчэ больш урачыстым. Па прыступках уваходзім у памяшканне і, апынуўшыся ў паўкругу галоўнага файэ, адразу ж адзначаем прастату архітэктурнай задумы. Тут няма мармуру і бронзы, але добры густ аздаблення спадарожнічае вам на кожным кроку.

Пакінуўшы паліто ў зручна размешчаных гардэробах, ідзём у глядзельную залу. У ёй няма ні калон, ні арак, і 1700 гледачоў, што размясціліся ў амфітэатры, добра чуюць усё, цудоўна бачаць манеж і тое, што там адбываецца. Вельмі прасторна. Шмат паветра. Гэтае ўражанне ўзмацняецца высокай столлю, абліцаванай алюмініевымі пласцінкамі.

Загучала ўрачыстая музыка. Зала асвяцілася чырвоным, зялёным, сінім, фіялетавым, жоўтым — усімі колерамі вясёлкі. Пасля гэтай музычна-светавой уверцюры, пасля параднага шэсця ўпершыню створанага калектыву артыстаў беларускага нацыянальнага цырку пачалося прадстаўленне.

Яно адкрылася выступленнем паветраных гімнастаў Ржэцкіх. Пры дапамозе складанага апарата, які нагадвае нябеснае цела, гімнасты падымаюцца пад купал і на вялікай вышыні выконваюць смелыя практыкаванні. Паветраных гімнастаў змяняюць акрабаты-скакуны пад кіраўніцтвам М. Разумоўскага. Рытмічна, у добрым тэмпе яны паказваюць серыю прыгожых і складаных прыжкоў пры дапамозе трамплінаў...

У двух аддзяленнях вялікага цыркавога прадстаўлення з поспехам выступалі таксама рэкардсмены-балансёры пад кіраўніцтвам заслужанага артыста БССР і РСФСР Е. Мілаева, паветраныя гімнасты Левандоўскія, коні дрэсіроўшчыка Б. Манжэлі, акрабаты на шарах Газаран, трыё жанглёраў на чале з заслужаным артыстам РСФСР І. Хромавым, артысты Н. Сталяроў, А. Савіч, В. Мозаль, А. Данілава, П. Мартынаў і іншыя. Паявіўся на арэне цырка вясёлы і дасціпны Несцерка ў выкананні артыста Каваленкі. У заключэнне быў паказаны атракцыён «Марскія ільвы і купальшчыцы», які вядзе І. Сідоркіна.

Прыемнае ўражанне пакінуў аркестр цырка, якім дырыжыруе Б. Райскі.

Мінчане аднесліся да першай праграмы з вялікай цікавасцю. На ўсіх прадстаўленнях цырк быў перапоўнены. Кожны дзень, ля пад'езда можна было бачыць аўтобусы, на якіх прыязджалі гледачы з другіх гарадоў.

Не паспелі ўсе жадаючыя прагледзець першую праграму, як настаў час замяніць яе наступнай. Па горадзе застракацелі афішы з адлюстраваннем маленькага вясёлага чалавека з сабачкам. Цэнтральнае месца ў новых прадстаўленнях заняў сусветна-вядомы комік і парадыст Каранадаш. Ён паказаў шэраг інтэрмедый — «Бутэлька-талерка», «Тэлевізар», «Выпадак у парку» і іншыя.

Бурнымі апладысментамі адзначылася бясстрашная работа пад купалам Людмілы Праваторавай. Смелыя і дужыя гімнасты, якія працавалі пад кіраўніцтвам А. Вязава, П. Кузняцоў і В. Сямёнаў, акрабаты Ірына і Юры Аверыны, музычны эксцэнтрык А. Ірманаў, кітайская артыстка Інза Сун і іншыя ўдзельнікі двух вялікіх прадстаўленняў даставілі аматарам цыркавога мастацтва шмат прыемнага.



Паветраныя гімнасты Левандоўскія.
Фота А. Дзітлава.

Слава аб Мінскім цырку выйшла за межы рэспублікі. У яго цудоўнай зале правялі вечары ўжо многія госці з Літвы.

У заключэнне хочацца сказаць некалькі слоў аб тым, як зручна размешчаны пакоі для артыстаў, вытворчыя і іншыя дапаможныя памяшканні. Артысты з пахвалой гаварылі аб новым цырку, які яны лічаць самым лепшым у краіне. І з імі нельга не пагадзіцца.

**В. ДЗМІТРЫЕЎ.**

*Спорт*

**В. ЛІВЕНЦАЎ,**
**старшыня Савета саюза спартыўных таварыстваў і арганізацый БССР**

# ПЕРАД СУР'ЁЗНЫМ ЭКЗАМЕНАМ

Ажыццяўленне велічных планаў, намечаных Камуністычнай партыяй на цяперашняе сямігоддзе, прывядзе да новага, яшчэ больш магутнага росквіту эканомікі і культуры нашай краіны. Павысіцца дабрабыт савецкіх людзей, скароціцца працоўны дзень і працоўны тыдзень. У людзей паявіцца яшчэ больш вольнага часу, які яны змогуць выкарыстоўваць для культурнага адпачынку. Савецкі ўрад пашырыць сетку спартыўных збудаванняў і фізкультурных навучальных устаноў. Усё гэта будзе садзейнічаць таму, каб фізкультура і спорт у нашай краіне сталі сапраўды масавым і агульнанародным рухам.

Наша першачарговая задача — павялічыць колькасць фізкультурнікаў к 1965 г. да 2 млн. чалавек, яшчэ вышэй узняць майстэрства савецкіх спартсменаў, дамагчыся, каб фізкультура і спорт трывала ўвайшлі ў жыццё кожнага чалавека.

Для паспяховага вырашэння гэтых задач патрэбна аб'яднаць намаганні ўсіх: і камітэтаў фізкультуры, і камсамола, і прафсаюзаў. Настаў час, калі спартыўныя арганізацыі не абыйдуцца аднымі платнымі трэнерамі. Нам патрэбна велізарная армія фізкультурных кадраў, а яе можна стварыць з дапамогай шырокай грамадскасці.

Цяпер, калі ў вырашэнні дзяржаўных пытанняў усё большае значэнне набываюць масавыя арганізацыі працоўных, наспела неабходнасць правесці мерапрыемствы, якія б забяспечылі шырокую дэмакратызацыю кіраўніцтва фізкультурным рухам. У адпаведнасці з пастановамі ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР, ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР створаны Саюз спартыўных таварыстваў і арганізацый БССР, які працуе пад кіраўніцтвам партыйных органаў, пры што-



**Майстар спорту Аляксей Балтоўскі кідае молат.**
Фота Д. Церахава.





**Чэмпіён рэспублікі ў бегу на 100 метраў Сяргей Сонцаў.**

дзённым і актыўным удзеле прафсаюзаў і камсамола, на аснове творчай ініцыятывы і самадзейнасці шырокіх мас фізкультурнікаў.

Былыя камітэты фізкультуры і спорту ліквідаваны.

Рэарганізацыя фізкультурных органаў — не простая замена аднаго кіруючага органа другім. Гэта — карэнная перабудова ўсіх форм і метадаў фізкультурна-спартыўнай работы. Яна дазволіць умацаваць сувязі фізкультурных органаў з шырокімі масамі працоўных і моладзі, палепшыць работу з актывам, цяснейшую наладзіць сувязь у рабоце паміж фізкультурнымі, камсамольскімі, прафсаюзнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі. Першыя зрухі ў рабоце па фізічнаму выхаванню відавочныя. Але нам належыць шмат зрабіць, каб выканаць задачы, пастаўленыя перад новым Саюзам. Трэба значна павялічыць лік фізкультурнікаў, вырасціць новых спартсменаў, якія абнавілі б існуючыя рэкорды і давялі іх па большасці відаў спорту да ўзроўню лепшых сусветных дасягненняў.

Рэкорды па некаторых відах спорту ў нас устаноўлены пяць-дзесяць год назад і застаюцца недасягальнымі. Мы яшчэ не здолелі добра арганізаваць работу ў калектывах фізкультуры, і таму ў нас так мала майстроў спорту і спартсменаў-разраднікаў. У раённых, гарадскіх, абласных і нават рэспубліканскіх спаборніцтвах удзельнічае мала спартсменаў, невысокі іх спартыўны ўзровень.

Слаба пастаўлена выхаванне спартыўнага майстэрства ў ВНУ і ў спартыўных школах. Як ні дзіўна, але студэнцтва яшчэ не з'яўляецца застрэльшчыкам спорту.

Цяпер сур'ёзная ўвага аддаецца фізічнаму выхаванню школьнікаў, паляпшэнню работы дзіцячых спартыўных школ і ўсямернаму развіццю разнастайных форм самадзейнасці школьнікаў у галіне фізкультуры, спорту і турызму. Фізкультурная грамадскасць павінна будзе больш аказваць дапамогі школам у правядзенні вучнёўскіх спартыўных спаборніцтваў, аддаваць у распараджэнне школьнікаў бясплатна стадыёны, спартыўныя залы, водныя і лыжныя станцыі. Пры кіруючых органах Саюза ствараюцца пастаянныя камісіі па спартыўнай рабоце ў вёсцы. Яны многае зробяць для развіцця спорту сярод сельскай моладзі і возьмуць пад свой кантроль будаўніцтва ў гарадах і вёсках новых стадыёнаў і спартыўных пляцовак.



**Чэмпіён рэспублікі па гімнастыцы майстар спорту Лена Валчэцкая (Гродна).**

Сумесна з камсамольскімі, прафсаюзнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі нам прадстаіць вялікая работа па шырокаму укараненню вытворчай гімнастыкі на прадпрыемствах, развіццю сярод моладзі і працоўных масавага турызму.

Работа па перабудове фізкультурных органаў супала з самым напружаным перыядам у жыцці фізкультурных і спартыўных арганізацый — з падрыхтоўкай да 2-й Спартакіяды народаў СССР.

За гады, якія прайшлі з часу 1-й Спартакіяды, у фізкультурных арганізацыях рэспублікі зроблена нямала. Беларускія спартсмены павысілі сваё майстэрства: узраслі і арганізацыйна ўмацаваліся калектывы фізкультуры.

Але ў нас ёсць сур'ёзнае адставанне па некаторых відах спорту, асабліва па лёгкай атлетыцы, плаванню, валейболу, баскетболу, тэнісу, коннаму і матацыклетнаму спорту.

На раённых, абласных і рэспубліканскіх канферэнцыях, якія прайшлі пад знакам узмацнення ўсёй фізкультурна-спартыўнай работы, ішла шчырая гаворка пра тое, каб выправіць недахопы і выйсці на старт 2-й Усесаюзнай спартакіяды падрыхтавана, лепш, чым гэта было ў 1956 годзе.

Прааналізаваны вынікі Усебеларускай спартакіяды, праведзенай у мінулым годзе для лепшых фізкультурных калектываў па тых відах спорту, па якіх каманды павінны выступіць на фінальных спаборніцтвах у Маскве. Выявілася, што асабліва нізкія вынікі ў лёгкаатлетаў і гімнастаў. Не радуюць паказчыкі і веласіпедыстаў, плыўцоў і штангістаў.

Задача заключаецца ў тым, каб ужо на фінальных спаборніцтвах у Мінску спартсмены паказалі такія вынікі, якія патрабуюцца для ўдзельніка Спартакіяды, — гэта значыць, не ніжэй першага разраду. Пытанні падрыхтоўкі зборных каманд рэспублікі павінны стаяць у цэнтры ўвагі Саюза, спартыўных таварыстваў, прафсаюзных і камсамольскіх органаў. Трэба карэнным чынам палепшыць работу па лёгкай атлетыцы ў абласцях, асабліва ў Маладзечанскай, Мінскай, Гродзенскай і Магілёўскай, дзе секцыі і трэнерскія саветы бяздзейнічаюць, не аказваюць свайго ўплыву на нізавыя фізкультурныя калектывы.

Сур'ёзнага папроку заслугоўвае кафедра лёгкай атлетыкі нашага інстытута фізічнай культуры, якая не абагульняе станоўчы вопыт, не аказвае належнай дапамогі фізкультурным арганізацыям.

Наша рэспубліка мае шмат рэк, азёр, вадаёмаў, але развіццё воднага спорту адстае. Гэта ж недаравальна, што ў зборнай камандзе Беларусі няма ні аднаго плыўца з перыферыі. Ды і ў Мінску, дзе ёсць два закрытыя басейны і шмат платных трэнераў, за мінулы год падрыхтавана ўсяго дзевяць першаразраднікаў і 58 плыўцоў другога разраду. Нядаўняя таварыская міжнародная сустрэча плыўцоў Мінска і Варшавы паказала, што нашы спартсмены недастаткова валодаюць тэхнікай старту і павароту.

З дапамогай камсамольскіх арганізацый нам прадстаіць у бліжэйшы час дамагчыся павышэння спартыўнага майстэрства беларускіх плыўцоў, шырока разгарнуць будаўніцтва прасцейшых спартыўных збудаванняў на вадзе, шырэй выкарыстаць такія формы масавага ўцягнення ў секцыі плавання, як адкрытыя старты-эстафеты, масавыя спаборніцтвы, водныя святы і г. д.

Некалькі слоў аб валейболе. Гэта масавы від спорту, якім у рэспубліцы займаецца звыш 150 тысяч фізкультурнікаў. У іх распараджэнні ёсць больш як дзесяць тысяч валейбольных пляцовак. Аднак майстэрства нашых валейбалістаў расце марудна. На мінулай спартакіядзе нашы каманды мужчын занялі дзевятае месца, а жанчыны — сёмае.

З гэтага, бясспрэчна, зроблены слушныя вывады. Перш за ўсё абноўлены склад каманд, па-новаму спланаваны іх вучоба і спаборніцтвы, запрошаны вопытны трэнер па валейболу.



**На дыване майстар спорту Міналай Аксёнаў і Віктар Макланоў.**



Таварыскія сустрэчы з вядучымі валейбольнымі камандамі краіны паказалі, што нашы спартсмены палепшылі майстэрства. Спадзяемся, што нашы валейбалісты выступяць на спартакіядзе лепш, чым у мінулым годзе.

У праграму 2-й Спартакіяды ўключаны новыя віды спорту: настольны тэніс, шахматы і матацыклетны спорт. У дні, што засталіся да выступлення, неабходна ўзмацніць трэніроўкі і спаборніцтвы, каб нашы тэнісісты, шахматысты і матацыклісты занялі добрыя месцы.

На мінулай спартакіядзе ад Беларусі не было каманды па коннаму спорту; нашы спартсмены слаба выступілі па сучаснаму пяцібор'ю. Цяпер у Гомелі працуе конна-спартыўная школа. Упарта трэніруючыся, нашы спартсмены-коннікі, на чале з трэнерам Глазуновым, змогуць паказаць свае дасягненні на спартакіядзе.

2-я Спартакіяда народаў краіны, якая адбудзецца летам у сталіцы нашай Радзімы, — адказны, сур'ёзны экзамен для беларускіх фізкультурнікаў і спартсменаў. І яго трэба вытрымаць дастойна, па-спартыўнаму. Гэта наш абавязак перад партыяй, перад беларускім народам, які стварыў фізкультурнікам усе ўмовы для плённай работы, для павышэння свайго майстэрства.

# ІНЖЫНЕР РЫХТУЕЦЦА ДА СПАРТАКІЯДЫ

На Мінскім стадыёне «Дынама» ў трэніровачнай зале, дзе займаюцца штангісты, ішла размова аб падрыхтоўцы да 2-й Спартакіяды народаў СССР. Гаварылі аб усім, што звычайна хвалюе цяжкаатлетаў — аб рэжыме трэніровак, аб апошніх дасягненнях славутых майстроў штангі і аб сваіх уласных выніках.

Увайшоў яшчэ адзін спартсмен — каржакаваты здаравяк са смуглявым тварам. Вітаючыся адразу з усімі, ён сарамліва ўсміхнуўся і, звяртаючыся да трэнера, папрасіў прабачэння за спазненне:

— Якраз сёння закончыліся ўсе выпрабаванні станка...



**С. Канапацкі ў канструктарскім бюро завода.**

Можна было падумаць, што гутарка зараз пойдзе аб новым прыстасаванні, якое дапамагае ў трэніроўках, аб нейкім «станку для штангістаў». Але мы пачулі зусім іншае. Штангіст Сулейман Канапацкі расказваў пра створаны ім станок для апрацоўкі падшыпнікаў.

— У яго гідраўлічнае кіраванне. У выніку значна павялічыцца прадукцыйнасць, рэзка знізіцца брак...

Канапацкі расказваў пра свой станок з такім захапленнем, з якім можна гаварыць толькі пра самую любімую справу.

— А штанга? — памаўчаўшы, спытаў трэнер. — Што ты думаеш рабіць са сваім рэкордам?

Спартсмен усміхнуўся.

— Думаю за час падрыхтоўкі да спартакіяды ўзняць яго на наступную ступеньку.

— Правільна, Сулейман!.. Малайчына!.. Правільна! — зашумелі навокал.

Трэнер пляснуў у далоні:

— Пачнем размінку!

Заняткі пачаліся.

Канапацкі, хутка распрануўшыся, падышоў да шведскай сценкі і пачаў практыкаванні...

Хто ж ён, гэты спартсмен, які стварае новыя станкі, асілак, які валодае рэкордам рэспублікі?

Ураджэнец Мінска і выхаванец адной з школ горада Чэрвеня, Сулейман Канапацкі з ранніх год праявіў схільнасць да матэматыкі. Ён вырашыў стаць інжынерам і працаваць у галіне канструявання машын. У 1950 годзе Канапацкі паступіў у політэхнічны інстытут, а на наступны год, нечакана для сябе, аказаўся ў ліку заўзятых аматараў аднаго з найцяжэйшых відаў спорту.

Знаёмячыся са сваімі студэнтамі, выкладчык фізкультуры «апрабаваў» іх у розных відах спорту. Калі справа дайшла да штангі, аказалася, што Канапацкі — мацнейшы ў групе. Ён без асаблівай цяжкасці выжаў семдзесят кілаграмаў. Гэта і вырашыла яго далейшы спартыўны лёс.

Паглядзіце на фота на ўкладцы гэтага нумара часопіса. Вось ён, вядомы цяпер і за межамі краіны, цяжкаатлет Сулейман Канапацкі.

Бліскуча абараніўшы дыплом інжынера, ён паступіў працаваць на Мінскі шарыкападшыпнікавы завод. Інжынер-канструктар, старшы канструктар, начальнік канструктарскага сектара,— такі заслужана хуткі рост маладога таленавітага спецыяліста. У той жа час таксама хутка расце і спартыўнае майстэрства Сулеймана. Але на заводзе пра гэта ведаюць мала: Сулейман вельмі сціплы і ніколі не хваліцца сваімі поспехамі.

Але вось у 1958 годзе на адным са спаборніцтваў Канапацкі выжымае штангу вагою 130 кілаграмаў, а ў суме трох рухаў набірае 415 кілаграмаў і становіцца майстрам спорту, рэкардсменам і чэмпіёнам рэспублікі ў сярэдняй вазе.

Праз месяц на міжнародным матчы «Фінляндыя — Польшча — Беларусь» ён павялічвае свой вынік, падняўшы ў трох рухах 420 кілаграмаў. Новы рэкорд БССР!

Крыху больш года існуе на шарыкападшыпнікавым заводзе каманда штангістаў. Але ў вобласці яна заняла ўжо другое месца. Трэніруе яе начальнік канструктарскага сектара, майстар спорту Сулейман Канапацкі. Тры разы на тыдні ён займаецца з камандай і тры разы трэніруецца сам. Так напружана рыхтуецца ён да 2-й Спартакіяды.

Цяпер яго лепшыя вынікі такія: жым—132,5 кілаграма, штуршок — 162, 5 кілаграма і рывок—130 кілаграмаў. У 1951 годзе, калі Сулейман выжаў свае першыя 70 кілаграмаў, такога выніку не мог дасягнуць нават мацнейшы спартсмен цяжкай вагі.

Многія маладыя рабочыя імкнуцца пайсці па шляху свайго трэнера. З асаблівай увагай Канапацкі сочыць за развіццём васемнаццацігадовага токара Міхаіла Цыбуса, які да захаплення штангай вольны час праводзіў у бязмэтным бадзянні па вуліцах. Пазаймаўшыся месяц у секцыі, Цыбус (таксама, як і ў свой час Канапацкі) паказаў ужо вынік трэцяга разраду і ўвайшоў у зборную каманду завода.

А як выконвае на заводзе свае непасрэдныя абавязкі інжынер Сулейман Канапацкі?

Разам з канструктарамі свайго сектара Мікалаем Лаўрынчуком ён працуе цяпер над мадэрнізацыяй яшчэ аднаго станка. Новы станок прызначаны для шліфоўкі ўнутраных кольцаў шарыкавых падшыпнікаў.

**А. ДЗІТЛАЎ.**

## У БЕЛАРУСКІХ ШАХМАТЫСТАЎ

Неўзабаве адбудзецца 2-я Спартакіяда народаў СССР. На гэты раз у абавязковую праграму заліку ўключаны і шахматы. Таму рэспубліканскія шахматныя арганізацыі павінны вельмі сур'ёзна рыхтавацца да гэтага адказнага спаборніцтва. У маі — чэрвені 1959 года ў Маскве, Ленінградзе, Кішынёве, Вільнюсе, Кустанаі і Фрунзе будуць праведзены турніры з нормай на званне майстра спорту СССР. Мацнейшыя шахматысты саюзных рэспублік атрымаюць магчымасць змагацца за запаветнае для кожнага спартсмена званне майстра.

Вялікае значэнне надаецца ў нашай краіне падрыхтоўцы юнага пакалення савецкіх шахматыстаў. У многіх саюзных рэспубліках адкрываюцца спецыяльныя шахматныя школы. Для работы з юнымі шахматыстамі вылучаюцца лепшыя педагогі, высокакваліфікаваныя шахматныя сілы — гросмайстры і майстры.

Савецкая шахматная арганізацыя павінна штодзённа клапаціцца аб пашырэнні сваіх радоў, надзейна ўмацоўваць «подступы» да сусветных шахматных вышыняў, дасягнутых у пасляваенныя гады.

Нельга забываць таго, што капіталістычны Захад мае нямала шахматных спецыялістаў, якія марацЬ пра ліквідацыю, як там любяць гаварыць, гегемоніі савецкіх шахматыстаў.



У апошнія гады за мяжою з'явілася нямала моцных маладых шахматыстаў. Датчанін Бендт Ларсен і ісландзец Фрыдэрык Аладхона заваявалі званне гросмайстра ў 20—22-гадовым узросце.

Шмат гавораць у замежным шахматным асяроддзі пра 15-гадовага «цуда-шахматыста», гросмайстра і двухразовага чэмпіёна ЗША Боба Фішара. Некаторыя бачаць яго ўжо чэмпіёнам свету. Але вядома і тое, што ўсякі сапраўдны шахматыст павінен быць яшчэ і сціплым. А гэтая рыса характару адсутнічае ў Фішара. Улетку мінулага года ён упершыню прыехаў на гастролі ў Еўропу. Яшчэ задоўга да гэтага ён паслаў у многія краіны Еўропы свае «ўмовы». У іх, напрыклад, быў параграф «Падарункі», у якім пералічвалася, што Фішар будзе браць у падарунак ювелірныя вырабы, гадзіннікі, фотаапараты, але не будзе — пасуду, антыкварныя рэчы, карціны, віды гарадоў і іншыя «нязручныя» рэчы.

Аднак Фішар, несумнена, таленавіты шахматыст, як і шэраг другіх. Тым адказнейшая задача перамагчы іх за шахматнай дошкай. Гэтай мэце служаць шахматныя школы, якія арганізуюцца ў саюзных рэспубліках.

Так, шахматная школа ў Рызе, разлічаная на дзесяцігадовы курс навучання, налічвае звыш двухсот пяцідзесяці навучэнцаў. Заняткі праводзяць вядомыя шахматысты — міжнародны гросмайстар М. Таль, майстры — заслужаны трэнер СССР А. Кобленц, А. Гіпсліс, Я. Клявіньш і другія.

Мне нядаўна давялося быць у сталіцы Грузінскай ССР Тбілісі. Вось дзе сапраўды паказальная шахматная школа! У ёй займаецца звыш васьмісот навучэнцаў, шахматнае майстэрства якім выкладаюць васемнаццаць высокакваліфікаваных шахматыстаў. Планы заняткаў добра прадуманы, канспекты лекцый цікавыя і змястоўныя, наладжана сувязь з агульнаадукацыйнай школай. У грузінскіх сяброў ёсць чаму павучыцца іншым шахматным школам.

Не выпадкова за апошнія гады ў Грузіі вырас шэраг добрых маладых шахматыстаў і шахматыстак, такіх, як Нона Гапрындашвілі, самая юная шахматыстка — майстар спорту.

Нажаль, у Беларусі, і нават у самім Мінску, да гэтага часу маладыя шахматысты не карыстаюцца належнай увагай. У нас, праўда, таксама адкрылася юнацкая шахматная школа, але займаюцца ў ёй пакуль што толькі адзінкі. Няма для гэтай школы і належнага памяшкання.

Востра паўстае пытанне: як палепшыць работу з юнымі шахматыстамі? Умовы для гэтага ў рэспубліцы спрыяльныя: у Мінску ёсць вопытныя выкладчыцкія кадры шахматыстаў — гросмайстар Балеслаўскі, майстар Сакольскі. Яны дапамогуць арганізаваць як след заняткі.

Патрэбна дапамога і школам, размешчаным на перыферыі, у іншых гарадах рэспублікі. Так, у Магілёве ў Палацы піянераў працаваў добры выхавацель і педагог Райкаў. Аднак умовы работы ў магілёўскім Палацы піянераў не дазвалялі па-сапраўднаму разгарнуць шахматную адукацыю. Неўзабаве тав. Райкаў пакінуў работу, і выхаванне юных шахматыстаў зусім спынілася.

Не лепшае становішча і ў іншых гарадах рэспублікі. Калі яно не зменіцца ў бліжэйшы час, дык рэспубліка і надалей не зможа павялічваць рады шахматыстаў. А гэта прывядзе да паражэння ў саюзных спартыўных спаборніцтвах.

Да 2-й Спартакіяды народаў СССР застаецца мала часу, і яго трэба выкарыстаць як мага лепш для падрыхтоўкі добрых маладых кадраў шахматыстаў.

**А. СУЭЦІН,**
**майстар спорту.**

# Так яны жывуць

### НЕ ДАСЯГНУЎ МАЙСТЭРСТВА

Сярод амерыканскіх драматургаў усё большую папулярнасць набывае імя Самюэля Бекста. Не ўваходзячы ў падрабязнасці яго творчасці, прывядзем вытрымку з газеты «Нью-Йорк геральд трыбюн»: «П'есы Самюэля Бекста прымушаюць гледача адчуваць халодныя дрыжыкі на спіне, адубенне канечнасцей і спыняюць функцыі дыхальнай сістэмы. Усё гэта, аднак, не дае падставы заявіць, што ён — буйнейшы драматург нашай неспакойнай эпохі».

Як бачым, да «дасканаласці» Бексту яшчэ далёка. На прадстаўленнях яго п'ес яшчэ ніхто не памёр ад разрыву сэрца.

### БІЗНЕС НА ЦІШЫНІ

На чым толькі ні стараюцца зарабіць амерыканскія бізнесмены... Не так даўно мясцовыя ўлады г. Колінза ў штаце Тэнесі прынялі рашэнне, якое забараніла ў горадзе ўсякі шум. Былі забаронены радыё і тэлевізійныя перадачы, тэлефон, кіно і аўтатранспарт. Хутка выявілася, што гэта не столькі дабрачынная справа, колькі прыбытковая. Разлік дзялкоў быў пэўны і просты. Прагныя да сенсацый багатыя абібокі-турысты сталі масамі з'язджацца ў Колінз, каб «нацешыцца цішынёй». Долары з іх кішэняў пацяклі ў касы мясцовых атэляў, рэстаранаў і г. д.

### АРЫГІНАЛЬНАЯ КАЛЕКЦЫЯ

Жыхар г. Рыо-дэ-Жанейра Беньяміна Рыверта на працягу многіх год збірае кнігі. Аднак ён вельмі пераборлівы ў выбары экспанатаў для сваёй калекцыі. Справа ў тым, што Рыверта калекцыяніруе толькі... самыя сумныя кнігі.

У яго бібліятэцы 700 тамоў.

Не так даўно ён выступаў па радыё з расказам аб сваёй арыгінальнай калекцыі. Пералічваючы кнігі, ён назваў твор аднаго бразільскага пісьменніка. Абураны літаратар неадкладна ўзбудзіў супраць Рыверта судовую справу.

### 10 000 ПАЦАЛУНКАЎ

У г. Сан-Францыска (ЗША) на вачах у соцень тысяч гледачоў адбылася трагікамічная падзея. Адны маладыя муж і жонка прайгралі спрэчку, па якой павінны былі дзесяць тысяч разоў пацалавацца перад тэлевізійнымі камерамі на працягу 10 гадзін.

За першую гадзіну яны абмяняліся дзвюма тысячамі пацалункаў. На працягу другой гадзіны тэмп значна знізіўся: гледачы налічылі толькі тысячу пацалункаў. А хутка прадстаўленне нечакана абарвалася: малады чалавек страціў прытомнасць.

### КАНЦЭРТ У ТУРМЕ

Вядомая шведская піяністка Эма Толук больш не баіцца, што яе кватэру могуць абакрасці. Нядаўна ёй прыйшла ў галаву філантрапічная думка — даць канцэрт для вязняў стакгольмскай турмы. Пасля заканчэння канцэрта расчуленыя злачынцы вырашылі аддзякаваць артыстцы і выдалі ёй... ахоўную грамату на маёмасць.

«Павесьце яе дома на відным месцы,— сказалі піяністцы, — і можаце быць спакойныя. Нашы хлопцы, што гуляюць на волі, нічога ў вас не крануць».

### САНАТА «ПЕДЫКЮР»

Апекуны мастацтваў з г. Сазен Бііч (ЗША) правялі конкурс на лепшае выкананне класічнай фартэпіяннай музыкі... нагамі. Пасля шэрагу «бліскучых» выступленняў, пераможцам быў прызнаны нейкі Эльмар Уітлок, які сыграў нагамі творы Шапена і ўласныя кампазіцыі. На «біс» Эльмар выканаў сваю «санату», якая мела вельмі падыходзячую назву — «Педыкюр».

Нельга забываць, што ўсё гэта адбывалася ў краіне, якая padаравала свету Ван Кліберна.

# Крылатыя выразы

### «Бочка арыштантаў»

Людзі розныя бываюць: гаваркія і маўклівыя, дакучлівыя і спакойныя. Адзін можа гаварыць без упынку, а другога не зачапі—дык ён не вымавіць і слова.

Іншы «гаварун» пачне табе пра адно, пераскочыць на другое, перамяшае, як кажуць, гарох з капустай, і нарэшце сам забудзецца, пра што гаворыць. Пра такога кажуць: «**Нагаварыў бочку арыштантаў**. А што да чаго—не разбярэш».

Вось гэтак жа і ў той «бочцы арыштантаў» (арыштанцкай бочцы): усяго многа і... няма нічога. Калісьці гэтая бочка служыла для турэмнікаў месцам, куды скідалася ўсё, што трапляла ў камеру—смецце, розныя адкіды і іншае. Стаяла яна ў кутку камеры.

«Бочка арыштантаў» — сховішча ўсяго без разбору. У такім сэнсе дадзены выраз і перайшоў у наш ужытак з дзеясловам «нагаварыць».

### «Заварыць кашу»

Так кажуць пра неразумна распачатую справу, складаную па свайму вырашэнню, і наогул пра ўсякую блытаную задуму.

Няхай сабе і «заварыць»... Але чаму «кашу», а не «суп» ці, скажам, «боршч»?

Аказваецца, у старажытнасці слова «каша» мела яшчэ адно значэнне.

Дзмітры Данскі ў гонар вяселля рашыў наладзіць пір. Толькі ехаць у Ноўгарад да цесця ён не хацеў, а той да зяця ў Маскву не вельмі ірваўся. Пасля доўгіх спрэчак пагадзіліся справіць гулянне не ў Ноўгарадзе, і не ў Маскве, а пасярэдзіне—у Каломне. Гэта прынесла многа клопатаў і віноўнікам урачыстасці, і ўсім вясельнікам. «Задумаў князь кашу на галаву нашу»,—гаварылі пра Дзмітрыя ўдзельнікі гуляння.

Слова «каша» азначала ў той час і вясельны пір, банкет. Пазней да гэтага слова прымкнуў дзеяслоў «заварыць».

У такім выглядзе спалучэнне захоўваецца і да сённяшняга дня.

### «Мець зуб»

Дзе толькі не сустракаюцца «зубы»! Калі моцна змерзнеш, тады **зуб на зуб не пападае**. Часта прыходзіцца **трымаць язык за зубамі**. Некаторыя асобы любяць **прадаваць зубы**. Іншым пагражаюць **палічыць зубы**.

А «зуб за зуб»! Адкуль паходзіць гэты выраз? Вытокі яго трэба шукаць у далёкім мінулым, калі яшчэ існавала кроўная помста («вока за вока, зуб за зуб»). Выбіў табе хто зуб, выбі ты яму. Цяпер гэтага няма. Аднак у нас часам таксама «заходзіць зуб за зуб» з кім-небудзь. Бывае гэта тады, калі мы з кім паспрачаемся.

Мы ўжо «**маем зуб**» на яго (крыўдзімся, злуемся).

Пераасэнсаванне гэтага словазлучэння такое: спачатку аддаваўся «зуб за зуб», потым стаў «заходзіць зуб за зуб», пасля працаўнікі пачалі адзін на другога «мець зуб» і больш таго—«вастрыць зуб».

### «На шырокую нагу»

Пачалі так жыць калісьці ў Францыі. У XVI стагоддзі там лічылася модным насіць доўгі, да паўметра абутак, які абыходзіўся надзвычай дорага. Насіць яго маглі толькі багатыя людзі.

З таго часу і бытуе ў мове гэты выраз.

**І. КУРБЕКА.**

*Гумар і сатыра*

Уладзімір КОРБАН

## КАЗЁЛ І МУХА



Аднойчы між Казлом і Мухай сіняй
Размова гэткая ў хляве зайшла:
«Заўжды,—сказала Муха,—я была
І буду—вось клянуся!—гераіняй!»
«А што зрабіла ты, спытаць дазволь?»
«Зірні ўгару. Што бачыш?—Столь.
Дык паспрабуй па ёй над намі
Прайсціся дагары нагамі.
Не ўдасца? То та ж!» — Сіняя ўзнялася
І паказала нумар свой:
Па столі сапраўды ўніз галавой
Прайшлася.
Казёл ажно прысеў. Мякеча: «Вось і на!
А я ў геройстве мухі сумняваўся,
Такая ж спрытная яна!
А што каб я...» І тут жа разагнаўся,
Падскочыў угару, дзівак,
Ды грымнуў на падлогу так,
Што свет яму з аўчыну здаўся.
А Муха падбадзёрвае: «Вышэй бяры!
Да столі капытамі дакраніся!»
Казлу ж не да таго, ён ледзь жывы і ўнізе,
Здаецца, што сканае без пары.
«Ты ніву лепей узары,
Дык можа хто й палічыць за героя,—
Заўважыў збоку Вараны, —
А то бярэшся за пустое...
Дурны ты, браце мой, дурны!»

Любому юнаку запомніць не зашкодзіць:
Герой
Не той,
Хто дагары нагамі ходзіць.



## СУЧКА І ЧАРНАБУРКА



Убачыўшы ў вальеры Чарнабурку, —
А тая сапраўды прыгожая была,—
За сэрца Сучку зайздрасць узяла:
«Вось модніца! Паказвае фігурку!
А што ў ёй асаблівага?! І поўсць
Такая ж, як мая, але нібыта
Марознай шэранню пакрыта.
Дык хіба ў гэтым прыгажосць?
Вось толькі захачу, зляўчуся
І лепей чым яна пасерабруся,
Зазнайцы гэтай, модніцы на злосць!»
І тут жа на мароз пад плотам села.
Дрыжэла, бедная, ўсю ноч, калела,
Затое раніцой у шэрані была яна.
І да лісіцы: «Выкусі вось, на!—
Як ты, я чарнабуркай стаць сумела.
Зайздросціш мне цяпер? Аж дыхаць заняло?»
Ды раптам, сонейка ўзышло,
Прыгрэла
І шэрані,—як не было.
Агідная, мокрая Сучка стала,
Бо прыгажосць часовая растала.

Ці варта пераймаць чужую прыгажосць,
Таму, хто ўласнай у душы не мае?
Будзь лепей у жыцці такім, які ты ёсць,
Бо прыгажосць чужая, напускная,
Не вечная, як шэрань тая.

## ЗМЕСТ



### На атэістычныя тэмы



### Навука і тэхніка



### Размовы аб майстэрстве



### Публікацыі



### Бібліяграфія



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак: «Зрабі сам!»**





**Пад веснавым подыхам абудзіўся і сад...**
**Фота А. Дзітлава.**